16+

# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны — 74957
ведамасны — 749572
льготны — 00731
льготны
для настаўнікаў — 00592

ISSN 0131 2308
11/2017

11

Маладосць 11/2017

Таму, хто думае

у нумары:

**З любові і зорнага пылу ствараецца чалавек**
Стэрэатыпы на шчасце

**Па месцах Якуба Коласа**
Нататнік вандроўніка

**Да яснасці белага дня**
Будні раённай прэсы

**Вёска з пункту гледжання навукі**
Самадастатковая структура

**«Podlaski Kwartalnik Kulturalny» прадстаўляе**
Да пяцігоддзя сяброўства






# Бясконцая разнастайнасць несуразмерна малога

Што ні кажы, а жыццё ўжо само па сабе ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. Ёсць важныя дзве часткі, з якіх складаецца жыццё і яго глыбокі сэнс і хараство, — чалавек і прырода. Бо ніколі не страціць для нас цікавасці чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежнае, бо дарогі яго не вызначаны, бо формы яго жыцця і яго адносін да іншых людзей бясконца разнастайныя, канчаткова нявыяўленыя і ніколі не могуць стаць канчатковымі. А прырода! Колькі вялікага задавальнення дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, разгорнутая перад вачыма кожнага з нас. Чытаць гэтую кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя надпісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце? Адно толькі шкада, што наша жыццё несуразмерна малое для таго, каб начытацца гэтай кнігай.

Што ні кажы, а жыццё — гэта незразумелы цуд. Бо як зразумець тое, што нясецца са стосамі, мяхамі, валізкамі гісторыі на плячах у будучыню? У вечную выяву ілюзорнай будучыні. Кожнае імгненне — гэта бурная плынь, калі «ёсць» ператвараецца ў «было», калі «будзе» ўсё бліжэй да «ёсць».

Вечны рух жыцця ў часе. У яго няма ні пачатку, ні канца. Ёсць толькі пэўныя кропкі-вытокі, адкуль пачынаюць свой бег новыя ручайкі. Колькі такіх кропак у нашай Беларусі ля звычайных вясковых хат? Колькі ручайкоў нясмела крок за крокам цягнулася да бурнай ракі і рабілася яе часткай? Фарбавалі гісторыю сваімі імёнамі. Стваралі наша заўтра, якое ўжо ўчора. Наша заўтра, якое пакуль сёння. Наша заўтра, якое яшчэ заўтра.

Дзесьці ў палескай глушы праз акенца на свет пазіраюць разумныя вочы. Чалавек працягвае граць на незвычайным музычным інструменце свае тры акорды (учора, сёння, заўтра) — бясконцую разнастайнасць несуразмерна малога жыцця.

*«М»ы*

Хата Якуба Коласа ў Смольні. Фота Уладзіміра Цвіркі.




11

16+

**Штомесячны літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(768) ЛІСТАПАД, 2017**

**Выдаецца з 1953 года**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ**

Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013,
Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005,
Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.
maladost@zviazda.by

**http://zviazda.by/be/edition/maladosc**
**Група VK: https://vk.com/club75787481**

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ**

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец:

рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 14.11.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$.
Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк.16,02. Тыраж 1351 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск,
Рэспубліка Беларусь

Змест




**Канстанцін Касяк**

## Пра вандроўкі і местачковасць

Ёсць у мяне адна цалкам рэальная гісторыя, з якой калі-небудзь паўстане сапраўдны літаратурны твор. Рукі цяпер не даходзяць, але ў перспектыве трэба будзе абавязкова напісаць пра тое падарожжа. Пакуль толькі пабегам распавяду асноўныя моманты.

Гадоў пяць таму выбраліся мы, тры выпускнікі гістарычнага факультэта БДУ, у вандроўку. На той момант толькі адзін я не меў ніякага дачынення ні да навукі, ні нават да спецыяльнасці, якой прысвяціў пяць гадоў свайго жыцця. Такі сабе вольны мастак: пішу што думаю, без асаблівай прывязкі да таго, які дыплом маю ў шуфлядзе.

З'агітаваў мяне ехаць мой даўні таварыш. Яшчэ са студэнцкіх часоў ён мяне ўвесь час тузаў: «Ты павінен добра паглядзець Беларусь!» А мне тады падавалася куды больш цікавым замежжа. «Ну што я яшчэ не бачыў?» — думалася мне, калі я чуў яго чарговую натацыю. Гэта ж думаў і калі збіраўся ў дарогу. Краіна роўная, аднастайная: лясы, палі, балоты, вёскі, дарогі. Ніякіх табе мораў і гор. Адно і тое ж! Але тая паездка ўсё ж кардынальна перавярнула мае ўяўленні пра краіну, дзе я жыву.

Калі я быў студэнтам, то не вельмі імкнуўся некуды ездзіць са сваімі аднакурснікамі. Хоць мажлівасць была: на першым курсе ў студэнтаў пачынаецца археалагічная практыка, або этнаграфічная. З археалогіяй у мяне не склалася ад пачатку, таму і жадання корпацца ў зямлі не было. Тым больш не хацелася ездзіць па вёсках ды збіраць песні. Нягледзячы на тое, што я сам распытваў старых і запісваў іх словы, успаміны, назіранні, думкі, — калектыўна рабіць гэта я не хацеў. Трэба было «касіць» усімі мажлівымі спосабамі, каб застацца ў горадзе. Што я і зрабіў. Праўда, цяпер аб гэтым моцна шкадую…

Мне наогул падаецца, што гісторыю і ўсё, звязанае з ёй, я насамрэч палюбіў ужо пасля таго, як пакінуў alma mater. Па-сапраўднаму, без прымусу, але з надрывам. І адбылося гэта ў тым ліку і праз тую вандроўку. Але аб усім па парадку.

Выбраліся мы ўтрох на Ашмяншчыну. Тры — самая ідэальная колькасць, што датычыцца мяне, бо заўжды трымаешся разам і не губляеш цікавасці. Калі людзей болей, то група пачынае драбіцца на кампаніі-гурткі па інтарэсах.

Таварышы ішлі ў вандроўку, археалагічную выведку, а я за кампанію, «у нагрузку». Інтарэс да гэтага рэгіёна ў мяне меўся даўно, бо адзін з маіх прадзедаў даволі працяглы час працаваў і жыў у гэтых мясцінах. І мне было сапраўды цікава зірнуць.

Асабіста для мяне інтрыгі дадаваў яшчэ і той факт, што Ашмянчына ўваходзіла у той арэал, дзе калісьці адбывалася фарміраванне асновы будучага Вялікага Княства Літоўскага. Гэта адно з тых месцаў, якое можна смела назваць сэрцам летапіснай Літвы. Той самай! Тут і цяпер багата ўласна літоўскіх назваў, захаваных да нашага часу: усемажлівыя

> На зваротным шляху заблукалі. Пераблыталі паварот і, звярнуўшы не туды, апынуліся ў краі закінутых хутароў. Самым сапраўдным! Па ўсім відаць, некалі іх тут было багата. Бадзяліся па гэтых мясцінах да ночы

Доргішкі, Сурвілішкі ды іншыя Біюцішкі сустракаюцца даволі часта. І адна справа — чытаць пра ўсё гэта ў кнігах, вучыць перад іспытам, ды зусім іншая — бачыць на ўласныя вочы.

З Мінска выехалі на аўтобусе, далей, праз колькі гадзін, пайшлі пешкі. На шляху сустракаліся вялікія і не вельмі вёсачкі, неістотна адрозныя ад тых, што я бачыў у іншых частках краіны.

Па крыжах-абярэгах на ўездзе ў вёскі можна даведацца, насельніцтва якой канфесійнай прыналежнасці тут пражывае. Сустракаюцца, бывае, і праваслаўныя, і каталіцкія крыжы разам. Сапраўдныя паўночныя Балканы! Здзівіла адсутнасць рушнікоў на крыжах. Да гэтага часу ўсе крыжы, што мне даводзілася бачыць, былі перавязаны рушнікамі.

Насельніцтва ставілася да нас прыязна. Адна бабулька, у якой бралі ваду, дала яшчэ свае бутэлькі, каб больш змаглі ўзяць. Шкада, не засталіся на начную дыскатэку ў адным з аграгарадкоў: не хацелася выбівацца з плану. Былі б цяпер каларытныя ўспаміны. Начавалі ў полі, ля лесу. Расклалі вогнішча, паставілі намёт, прыгатавалі ежу.

На зваротным шляху заблукалі. Пераблыталі паварот і, звярнуўшы не туды, апынуліся ў краі закінутых хутароў. Самым сапраўдным! Па ўсім відаць, некалі іх тут было багата. Бадзяліся па гэтых мясцінах да ночы. Другой, якую не планавалі. Выйшлі на чыгуначную станцыю, заначавалі на ёй, раніцай з'ехалі першым жа цягніком.

Ужо пасля, у Мінску, праз сэрвіс Google Maps я праклаў прыкладны маршрут, які мы прайшлі. Насамрэч ён быў не такі вялікі — кіламетраў дваццаць, не болей. Нам жа тады здавалася, што гэтым блуканням няма канца-краю.

Раней закінутыя вёскі я бачыў хіба што ў хроніцы пра Чарнобыльскую АЭС. А тут давялося пабачыць жыўцом! Па мясцінах было відаць, што тут даўным-даўно ніхто не жыве.

Першы раз у жыцці я бачыў пасярод лесу бруканку. Хутчэй за ўсё, тут быў хутар, які насялялі заможныя людзі. Альбо нават маёнтак. Ад самога хутара застаўся толькі сад, дзе расла нават экзотыка. Цяпер не характэрныя для нашага краю дрэвы стаяць сухія, нагадваючы пра былую веліч і раскошу, у якой некалі жылі гаспадары.

Пасля гэтай вандроўкі я ўрэшце зразумеў, што такое сапраўдная местачковасць. Цяпер гэтаму слову надалі негатыўны сэнс, зрабіўшы з яго такую элегантную абразу. З якой ніхто, здаецца, і не павінен спрачацца

Пасля гэтай вандроўкі я ўрэшце зразумеў, што такое сапраўдная местачковасць. Цяпер гэтаму слову надалі негатыўны сэнс, зрабіўшы з яго такую элегантную абразу. З якой ніхто, здаецца, і не павінен спрачацца. Местачковы ўзровень, местачковы густ, местачковыя завядзёнкі — такія фармулёўкі не раз даводзілася чуць.

Па праўдзе ж кажучы, у местачковасці няма нічога дрэннага. Хутарская сістэма якраз і ўкараняе сапраўдны, але не абстрактны патрыятызм. Не толькі адна яна, канешне, але сярод іншага. Чалавек, які добра ведае свой край, любіць кавалак зямлі, на якім жыве, шануе і традыцыі. Хіба не пра гэта пісалі класікі ў пачатку мінулага стагоддзя? Людзям з такім светапоглядам ёсць для чаго жыць.

Пакуль ёсць час, трэба як мага болей вандраваць! Каб бачыць уласную краіну не толькі ў кнізе. Гэта не проста пашырае кругагляд, а і мяняе яго! Як ні круці, але чалавек заўжды кіруецца ўласным досведам больш, чым чужымі аповедамі.

Калі блукалі па лесе, я страшэнна стаміўся і злаваў на ўвесь свет. Мне хацелася есці і спаць. А мой таварыш сказаў тады так: «Гэта табе цяпер не падабаецца, а пройдзе час, будзеш згадваць з удзячнасцю гэтыя прыгоды!» Так у выніку і адбылося…

Пакуль ёсць час, трэба як мага болей вандраваць! Каб бачыць уласную краіну не толькі ў кнізе. Гэта не проста пашырае кругагляд, а і мяняе яго! Як ні круці, але чалавек заўжды кіруецца ўласным досведам больш, чым чужымі аповедамі



**Дзмітрый Шулюк**

## Нараканне на наканаванне

Джон Ленан нарадзіўся ў ноч, калі над Ліверпулем лёталі нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Яго бацькі хутка разышліся, і выхаваннем будучага музыкі займалася цётка са сваім мужам. Толькі падлеткам Джон пачаў стасавацца з маці. Яны зблізіліся. Калі Ленану было сямнаццаць, маці памерла. Яе збіла машына. Пол Макартні таксама рана згубіў маці. Тая памерла ад раку. Гэтыя абставіны сталі дадатковымі вузламі, якімі лёс звязаў два таленты. Так ім было наканавана: страціць, каб атрымаць. Страціць, каб мы атрымалі найлепшы аўтарскі саюз у гісторыі сучаснай музыкі. Лёс.

Вы наракаеце на лёс. Кожны з вас. Не раз і не два. Усё жыццё. Чытаючы біяграфіі знакамітасцей (у лепшым выпадку), вы заўважаеце, што ў іх усё так склалася. Вы адзначаеце гэтыя «складкі» тлустымі чырвонымі крыжыкамі. Вось… Вось гэтая ноч… Вось гэта ўжо доказ. Гэта доказ з неба, што нарадзіўся не абы-хто. Што гэты чалавек стане Чалавекам. Лёс!

Лёс вызначаецца датай нараджэння, імем, рыскамі на руках. Умоўнай зоркай, якую нейкі запальвальнік зорак прысвяціў табе.

Хлопчык нарадзіўся быццам здаровым, але быццам. Хутка ён трапіў у бальніцу. Там дактары паважна паціскалі плячыма, міргалі вачыма. Хлопчыку рабілася ўсё горш і горш. Хлопчык трапіў у рэанімацыю. Адкуль яго выцягнуў лёс. Выпадковы ўрач выпадкова не ў сваё дзяжурства зазірнуў у выпадковую картку не свайго хворага, і выпадкова гэты ўрач пабачыў тое, што да яго чамусьці не бачылі. Ён быў раз'юшаны, ён узяўся лячыць хлопчыка сам — і я выжыў. Лёс? Лёс — гэта сума дзіўных выпадковасцей, нечаканасцей, супадзенняў? Так? Быццам. А што лічыць выпадковасцю? Тое, што кваліфікаваныя ўрачы не могуць правільна паставіць дыягназ? А што лічыць супадзеннем? Тое, што прыкладна ў гэты час на другім канцы Беларусі памылка ўрача забіла жанчыну, дачка якой праз колькі гадоў стала маім лепшым сябрам?

Паважаныя людзі. Мае чытачы. Я спадзяюся, вы разумееце, што ў кожнага з нас ёсць штосьці агульнае. Першая кніга, першы фільм, імя першай дзяўчыны, песня, пад якую танцавалі першы танец, узоры на дыване, традыцыйныя рэплікі настаўніцы/выкладчыцы. Вы ж разумееце гэта? Вы разумееце, што на Зямлі жывуць мільярды людзей. Вы разумееце, што пры такой колькасці шукаць супадзенні лягчэй за ўсё. Гэтым займаюцца розныя псеўданавукоўцы, якія праводзяць паралелі паміж біяграфіямі вядомых людзей. Знаходзяць тры-чатыры кропкі перасячэння двух жыццяў і «адкрываюць Амерыку». Адкрываюць так упэўнена, што вы ківаеце і я ківаў, бо гэта ж сапраўды Амерыка. Джон Ленан. Пол Макартні. У юнацкім узросце засталіся без маці. Што гэта? Лёс? Кіўніце.

Рынга Стар быў вельмі хваравітым у дзяцінстве. Скончыў пачатковую школу, а далей вучыцца не атрымалася. Год з адной хваробай, два з другой. Пра якую адукацыю тут весці гаворку? Прыйшлося ў пятнаццаць гадоў забыцца на наяўнасць розных ВНУ, ці што там у іх у Брытаніі, і ісці працаваць сцюардам на паром. Але лёс мацнейшы за абставіны. Калі чалавеку прапісана дзесьці там у невядомасці стаць знакамітасцю, велічынёй, імем, то ён стане.

Вы наракаеце на лёс. Вы паўтараеце пра «врождённые таланты», пра «повезло». Вы зноўку шкадуеце сябе са сваімі залатымі медалямі і чырвонымі дыпломамі альбо без медалёў і

дыпломаў. Камусьці дадзена ад нараджэння — паўтараеце вы. Паўтараеце і паўтараеце. Нам не пашанцавала. Ленану пашанцавала? Макартні? Стару? Пашанцавала. Яны ж такія таленавітыя!

Калі мяне называюць таленавітым, я ўспрымаю гэта як абразу. Мне хочацца задушыць гэтага разумнага чалавека. Гэтую лянівую істоту, якая ўмее толькі разяўляць рот і шкадаваць сябе. Таленавіты? Я жыву літаратурай дзесьці ўжо пятнаццаць гадоў. Кожную хвіліну, кожнае імгненне. Я думаю. Я сінтэзую/аналізую. Я смакую словы, мацаю словы, слухаю словы, разглядаю словы, іду па словах. Кожнае імгненне! Гэта не талент. Гэта праца. Я працую. Працую. Працую. Як працаваў Джон, Пол, Рынга. Няспынна. Літаратура — гэта частка мяне. Інакш мне не стаць часткай літаратуры. Я іду-іду-іду і яшчэ дзясяткі гадоў, да самай сваёй смерці, я буду ісці. І, магчыма, маю біяграфію хтосьці напіша, а хтосьці прачытае. Прачытае пра рэанімацыю. І пазначыць падарунак лёсу тлустым чырвоным крыжыкам. А пасля яшчэ паставіць крыжык, і яшчэ адзін. Чытачы будуць чытаць гэтыя крыжыкі і ківаць. Вось як жа яму пашанцавала! Як яму «повеЗЛО»!

Лёс вызначаецца датай нараджэння, імем, рыскамі на руках. Умоўнай зоркай, якую нейкі запальвальнік зорак прысвяціў табе.

Паважаныя людзі. Мае чытачы. Я спадзяюся, што вы разумееце адну дробязь. Вы моцныя. У вас ёсць сілы на ўсё. У вас ёсць сілы. Вы можаце ўстаць і ісці. Гэтага дастаткова, каб прыйсці. Ісці. Проста ісці. Ёсць ці няма сцяжынкі пад нагамі — не мае значэння. Ісці праз прорву, у прорву, па прорве. Ісці. Крок за крокам. Кропля за кропляй. Атам за атамам. Ісці. Ёсць лёс ці няма лёсу — не мае значэння. Бо вы ўсё роўна яго суствбральнікі. Вы большасць таго, што з вамі адбываецца. Вы большасць таго, што з вамі адбудзецца. Вы кожны дзень перапісваеце сваё мінулае, а абавязаны перапісаць будучыню. Узяць сёння, у гэты вось самы момант, пэндзаль свайго жыцця і маляваць самі. Самі маляваць сваё жыццё. Не наракаць на Бога, які даў аднаму, а другому не даў. Што ён даў? Што? Каму? Як? Можа, трэба браць самому? Можа, трэба жыць самому, калі хочаш жыць?

29 лістапада 2001 года памёр Джордж Харысан. Звычайны чалавек. Яго бацькі былі звычайнымі людзьмі. Бацька — кіроўца аўтобуса. Маці — прадаўшчыца. Адна сястра. Два браты. Звычайная школа, дзе вышэй на два класы вучыўся звычайны хлопчык Джон Ленан, з якім у Джорджа атрымалася пазнаёміцца праз свайго сябра Пола. Гэты звычайны чалавек памёр ад звычайнага раку звычайнага мозга. Яго звычайныя сябры Пол і Рынга былі з ім у яго звычайныя апошнія дні. У дачкі звычайнага Рынга ў гэты час быў рак гартані, і Джордж хоць сам не мог нават устаць, падрадзіўся з'ездзіць з сябрам — маральна падтрымаць. Звычайны Пол пагадзіўся, каб у яго звычайным доме на Бэверлі-Хілз прайшлі звычайныя апошнія дні Джорджа.

А вы такія ўсе незвычайныя. Вы выключныя. Вы неверагодныя. Вы фенаменальныя. Але ж такі лёс, што вам даводзіцца жыць у шэрасці. Шэрым жыццём. Такім шэрым. Такі лёс. Лёс такі. Што ж вы можаце зрабіць? Сярод вас няма Джона Ленана. Над вамі не праляталі нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Сярод вас няма Пола Макартні. Вы карыстаецеся правай рукой у большасці выпадкаў. Сярод вас няма Рынга Стара… Сярод вас няма Джорджа Харысана… Сярод вас нікога няма. Вы незвычайныя. Вы стогны зайздрасці і дыханне вечнай пустэчы. Вечнае нараканне на наканаванне.

Я звычайны чалавек. Жыву ў звычайным горадзе Мінску. Са сваім звычайным шчасцем. Чытаю звычайныя кнігі. «Шум і ярасць» Фолкнера, «Бляшаны барабан» Граса. Слухаю звычайную музыку. «Nine eleven», «God is an astronaut». Кармлю галак. Кідаю дроцікі. Звычайным ранкам на звычайным трамваі еду на звычайную працу. Усё звычайна. Але гэтую звычайнасць я напаўняю фарбамі. Усё напаўняю фарбамі. Самымі цёплымі яркімі фарбамі. А ў вольны час я ствараю свой лёс.

Лёс вызначаецца датай нараджэння, імем, рыскамі на руках. Умоўнай зоркай, якую нейкі запальвальнік зорак прысвяціў табе. Мне. І яна належыць мне, а не я — ёй. ■

The Beatles — …Ты сапраўды не ведаеш The Beatles? Напэўна, такі ў цябе лёс.



**Анхела Эспіноса Руіз**

## Пад іншай зоркай

Абяцаю: не буду наракаць, але як жа цяжка жывецца на свеце нетыповым людзям! А наракаць не буду, бо не маю права. Зрэшты, «сваё» я магу хаваць. І з гэтым я атрымліваю і адказнасць, і пэўнае пачуццё віны, ад якога пазбавіцца ўжо немагчыма. Праўда, я не зусім хаваюся: тыя з вас, хто мяне бачыў ужывую... Вы, мабыць, заўважылі коску з кропкай у мяне на шыі? Але я і не выстаўляюся напаказ. А часткова, прызнаюся, гэта з-за страху. Страху асуджэння, страху стэрэатыпаў. Але сёння не пра мяне, а пра сацыяльнае мысленне, пра чалавечую любоў і пра капрызы лёсу; пра тое, што кожны чалавек нараджаецца пад сваёй зоркай, але не кожны бяжыць услед за іншымі нябеснымі целамі.

Нават хворая душа разумее, што любы чалавек створаны з любові і зорнага пылу. І хлопчык, які ціха запісвае лекцыі на апошнім радзе, і дзяўчынка, якая сябруе абсалютна з усімі, і Марына з музычнай школы, якая страціла зрок праз дэгенератыўную хваробу і пісала іспыты на спецыяльнай машынцы, прывезенай чыноўнікам у касцюме. З музычнай натацыяй, менавіта для музычнай (дадатковай) адукацыі. Усе яе любілі, усе ёй дапамагалі, калі трэба было; ніхто нават не думаў, што рэчаіснасць можа выглядаць інакш. У яе быў фантастычны гаворачы гадзіннік і не менш цудоўнае пачуццё гумару. «Да пабачэння!» — развітвалася яна кожны дзень. Крутая Марына. І нават так, да нас прыйшлі з Нацыянальнай арганізацыі сляпых Іспаніі (не, я не прыдумала назву, гэта літаральны пераклад) і патлумачылі тое, што стала відавочным з часам: Марына будзе вучыцца з намі, і яна — адна з нас.

Потым я пачала вандраваць — як у прасторы, так і ў часе. І сутыкнулася з абсалютна адрознымі прынцыпамі і страшнай праўдай жыцця: відавочнага няма. Не існуе. Аднойчы мой знаёмы, народжаны ў іншай краіне, у іншую эпоху, распавядаў пра свайго знаёмага, чыё нямецкае інваліднае крэсла не праходзіла праз савецкія дзверы, і таму выходзіць з кватэры (на дзясятым паверсе) ён мог толькі прыкладна раз у год, калі прыязджаў мацнейшы за яго стрыечны брат, які, у простым сэнсе гэтага слова, насіў яго на руках, каб ён падыхаў свежым паветрам. На пытанне пра існаванне якой-небудзь дзяржаўнай арганізацыі (а-ля НАСІ), мой знаёмы засмяяўся. Засмяяўся, разумееце. Быццам я дзікая, а сітуацыя звычайная. І мой свет крыху больш рухнуў. Наракаць не буду і драматызму не шукаю, але... Будзеце з мяне кпіць, калі прызнаюся, што плакала?

Такім чынам, я пачала прыслухоўвацца, заўважаць. Як і вы, я разумею несправядлівасць і дыскрымінацыю. Як і большасць з вас, я таксама была ахвярай у такіх сітуацыях: адчувала сексізм з пункту гледжання жанчыны; расізм з пункту гледжання чалавека, што лічыцца «белым» ва ўласнай краіне, але не ва ўсіх, дзе жыў; калі стала, так ці інакш, беларускамоўнай, — моўная дыскрымінацыя афіцыйна перастала быць чужой праблемай. І, канешне, ёсць мая галоўная, ціхая, справа — скажам, адлегласць ад нейратыповасці. Сёння не пра гэта. Сёння пра тое, як асаблівых дзяцей часам вучаць не да свайго патэнцыялу. Пра тое, як стэрэатыпы даводзяць да нянавісці ў адносінах да тых, хто атрымлівае пенсію, без разумення таго, што гэта значыць — быць не-

Нават хворая душа разумее, што любы чалавек створаны з любові і зорнага пылу. І хлопчык, які ціха запісвае лекцыі на апошнім радзе, і дзяўчынка, якая сябруе абсалютна з усімі, і Марына з музычнай школы, якая страціла зрок праз дэгенератыўную хваробу і пісала іспыты на спецыяльнай машынцы, прывезенай чыноўнікам у касцюме

працаздольным. Пра сацыяльны дыстанс, пра поўную ізаляцыю (акадэмічную, прафесійную, сексуальную). Пра тое, як бацькі могуць аддаць сына ці дачку ў дзіцячы дом толькі таму, што ніхто не патлумачыў ім сапраўдныя перспектывы дзіцяці. Пра тое, як сама сям'я можа хаваць цудоўнага чалавека ад супольнасці з прычыны страху, асуджэння іншымі і ўласнага мыслення. Пра тое, як лекар можа паставіць памылковы дыягназ, бо «гэта ўсё ад тваёй хваробы». Пра тое, як лепшы чалавек на свеце можа лічыць сябе н...

Ведаеце, сябры (я амаль год пішу для «Маладосці», таму дазволю сабе назваць вас сябрамі), некаторыя праблемы я разумею лепш, чым іншыя. Напрыклад, мы, жанчыны, часта чуем у лякарнях сказ: «Гэта ўсё ад тваёй менструацыі, нармальныя жаночыя праблемы». Псіхалагічныя хваробы, фізічны боль і нават пэўныя віды рака не атрымліваюць патрэбны дыягназ. Расізм — падобная з'ява: «Вы ўсе лянівыя і дурныя, не хочаце працаваць, як нармальныя людзі». А стэрэатыпы... Яны датычацца нас усіх, на вялікі жаль. Альбо на шчасце. Зараз паспрабую патлумачыць, чаму — на шчасце.

Пытанне простае: ці калі-небудзь вы адчувалі дыскрымінацыю адносна сябе? Тады, магчыма (натуральна, нават), вы не ўсё зразумееце, але зразумееце дастаткова. Той, хто бачыць, не можа не бачыць, як і немагчыма (ну, прынамсі, з маёй фантазіяй) прыдумаць цалкам новы колер і патлумачыць сябрам яго нюансы і цені, так? А той, у каго цела дзейнічае ідэальна, не зразумее таго, хто не змог навучыцца хадзіць (хаця бываюць часовыя хваробы, дзякуючы якім мы можам дарасці да разумення, хай і забываем занадта часта). Затое мы ўсе ведаем дзве галоўныя рэчы:

1. Мы баімся таго, чаго не ведаем. Гэта так — і з гэтым варта змагацца. Пазнавайце, пытайцеся, набліжайцеся. І не бойцеся паказваць сябе. Я таксама буду старацца.

2. Мы не любім, калі нас дыскрымінуюць, і можам трэніраваць эмпатыю. Гэта варта, клянуся.

Распавяду ўсё ж нешта пра сябе. Нядаўна бачыліся з адной сяброўкай. Яна добрая душа, займаецца, паміж іншым, валанцёрскай працай на дзіцячым паверсе адной лякарні. Мы размаўлялі за кубкам кавы, а яна задала мне пытанне, якое мяне моцна здзівіла: «Слухай, як ты здолела такой стаць? Такой, без забабонаў? Адкажы мне, а?» Праўда, я адказала не адразу. Па-першае, я не думала пра сябе як пра «чалавека без забабонаў™». Па-другое, пытанне больш складанае, чым здаецца. Так, вандроўкі, досвед, нават, не ведаю, характар? Гэта фактары, не? Але мне здалося, што ў маім адказе чагосьці не хапала, і папрасіла сяброўку даць мне болей часу.

Вярнулася дадому з пытаннем у галаве і дзіўным адчуваннем у сэрцы. Ці сапраўды я не маю забабонаў? Калі так, ці ёсць рацыянальная прычына, чаму? І ці гэта можа быць добрым і карысным? Пару дзён я абдумвала вось-гэта-вось-усё™, а потым адказала сяброўцы: трэба падысці да чалавека, як да чалавека. Да сэрца. Да душы. Калі ты зразумееш, што чалавек перад табой — альбо за камп'ютарам, альбо недасяжна далёка — адзіны, унікальны і варты павагі, усё іншае прыйдзе само сабой. Тады сяброўка была задаволена. Спадзяюся, і вы зразумелі сутнасць праблемы. Калі не — напішыце скаргу ў рэдакцыю «Маладосці», і тады мяне прымусяць патлумачыць свае думкі лепей. На сёння хай будзе так:

Кожны чалавек нараджаецца пад сваёй уласнай асаблівай зоркай. Вы гэта ведаеце, дарагія чытачы. Сябры. Таму будзьце добрымі: не давайце светлай зорцы стаць цяжкім крыжам. ■

Ведаеце, сябры (я амаль год пішу для «Маладосці», таму дазволю сабе назваць вас сябрамі), некаторыя праблемы я разумею лепш, чым іншыя

# Покі неба будзе…

Зоркі-зоркі ціха-ціха свецяць-свецяць. Зоркі. Месяц. Зоркі. Зоркі. Але ж табе так мала святла. Але ж табе так мала гуку. Але ж табе так мала руху. Ты сядаеш у металёвую скрынку і дадаеш гучання, рычання, свісту, енку. Які ты зверху маленькі! Са сваімі скрынкамі-машынкамі. У-у-у-у. У-у-у-у. Сядаеш у скрынку і едзеш. А скрынка не драўляная і з вокнамі. І з фарамі. І з фанфарамі. Мала святла. Мала гуку. Мала руху. Ты хапаеш гэты горад за шкірку: увесь яго трэба запіхнуць у вялізную скрынку з вялізнымі фарамі-фанфарамі. І паехаць, каб іскры. Замест зорак. Выбухамі разрывалі неба на аблокі. Пасярод ціхай ночы. Ночы, якая магла быць ціхай. Ночы, якая раней засцілала вочы. Усім, акрамя рамантыкаў. Тыя ішлі ў руцэ рука. Па разлітым шляху малака. Нагамі па мядзведзіцах малых і вялікіх. Спявалі песні. Спявалі вершы. Ён быў у яе першым. Яна для яго — лепшай. Яна для яго — першай. Ён для яе — лепшым. У руцэ рука. Па нябесным шляху малака.

Зоркі-зоркі ціха-ціха схаваліся. За дымам, туманам. За туманам дыму. За дымам туману. Што было першым: страх ці крыніца страху? Хмары ці адсутнасць чыстага неба? Зоркі схаваліся ад гуку, ці гук прыйшоў, бо зоркі схаваліся? Машынымашынкі, імклівыя скрынкі, там хлопчыкі і дзяўчынкі нясуцца, бы куры. Дзед біў — не разбіў. Баба біла — не разбіла. Тата любіў. Маці любіла. І выгадавалі тое, што выгадавалі. Хуткасць металу. Разрывае гукам мае цені. Разрывае святлом мае кроплі цішы. Разрывае маю ноч на кавалачкі абясколеранай тканіны. Цьмяныя зоркі губляюцца, як звеы з заапарка. Калі на іх налятаюць з усіх бакоў крыклівыя двухногія. Зоркі хаваюцца-хаваюцца. І месяц хаваецца. І мне б схавацца. Ад разгулу металу па плошчах асфальтавых. Рука трымаецца за стырно. Ногі на педалях. Яна побач. Ён побач. Па асфальце. Па песнях матора. Па вершах тармазоў. Праз святло сваіх фар, чужых фар.

Трамвай стаіць на сваіх рэйках. Справа не ў батарэйках. Энергіі ў ім хапае, каб звінець-звінець-звінець. Бы царкоўны звон па зорках. Па кім звініць звон так звонка? Звон звініць па зорках. Быццам так спрытна хвалямі гуку, быццам рукамі, расцягне хмары машыннага бруду, які накрыў горад шумам. Шумам і сумам. Мне сумна.

Пад шэрым небам. Шукаю сцяжынкі. Бы трамвай на сваіх рэйках. Перад якім застыла машына. Бы айсберг застыла. Кіроўца трамвая не можа сказаць свайму коніку: «Но-о…» Людзі глядзяць у акно. Трамвай звініць. Звініць, як кроў гэтай ночы. Чорная-чорная кроў гэтай ночы. Некалі засцілала вочы. Усім, акрамя рамантыкаў. У руцэ рука па шляху малака. Па вялікіх і малых мядзведзіцах.

Звон-звон. Гучна-гучна. Фары-фары. Трамвай стаў на рэйках. Зоркі схаваліся пад рваную коўдру. Месяц забыўся на свае службовыя абавязкі. Шум. Сум. Рука на стырне. Ногі на педалях. Зорка Венера ўзышла над Марсам. Бо там яе відаць. Там цішыня, праз якую даносяцца песні ў рытме вальса. Там ёсць пакой для спакою часу. Час супакоіцца часу. Не згаснуць зоркі ў небе. Покі неба будзе…

У неба лятуць выбухі. Выбух-выбух-выбух. Феерверк. Зоркі знікаюць сярод штучнасці фар і фанфар. Можа, зляцець з гэтага горада ў цёмны лес? Можа, там яшчэ ёсць месца для цмокаў і прынцэс. Месца для месцаў. Час для часу. Для Яго і Яе. Для рукі ў руцэ. Для дыяментавага Млечнага шляху. Для таго, каб бачыць штосьці, акрамя яркага святла, чуць штосьці, акрамя шуму. Туды, дзе неба запоўнена небам.



Артур Камароўскі

**нарадзіўся 22 сакавіка 1991 года ў Міры. Скончыў філфак ГрДУ імя Янкі Купалы (беларуская філалогія), магістратуру (літаратуразнаўства). Піша паэзію і прозу. Цікавіцца журналістыкай, лінгвістыкай, правамі чалавека. Любіць літаратуру, кіно, музыку, восень, лес у час лістападу, масты, Гародню і Піцер. Марыць жыць на маяку.**






## Сны каштанавых алей

### Бясконцая калыханка для маёй дачушкі

І горад будзе ціха засынаць.
Машынкі пахаваюцца ў намётах.
Бабуля-ноч пачне табе спяваць,
што тры сняжынкі спяць даўно ля плота.
Закрылі вочкі гмахі-дзівакі —
ім вецер бае казкі пра нябёсы.
Што там для кожнай зоркі — гамакі,
і зорны пыл пад ногі сцеле плёсы.
Што аблачынкі там — як дзве рукі —
ім папраўляе месяц узгалоўкі.
Яшчэ вышэй — планеты, бы жукі,
і мудры Бог — чырвоная багоўка.

**1**
Ім вецер бае казкі пра ваду,
Што сонца спіць, канешне, у акіяне.
Бывае, ён так дзьме ў сваю дуду,
ажно ідуць у пляс сяброўкі-хвалі.
Калі дажджыць — то плачуць па зямлі
нябачныя курчавыя анёлкі.
Іх да стварэння свету узнялі,
за спінаю зляпілі крылы з пёркаў.
Ім вецер бае казкі пра лясы,
дзе на асінах спеюць апельсіны,
дзе падаю́ць жывёлы галасы,
вавёрка грае там на клавесіне.
І ў лесе тым жыве дзядок стары:
Ён птушак гушкае ў сваёй кашулі.
Для падарожных там агмень гарыць,
і зеляніну рукі не кранулі.

**2**
Ім вецер бае казкі пра зямлю,
што недзе ёсць адна яна, без межаў.
Там шчодра зерне сеюць у раллю,
там ураджай нікому не належыць.
Яна ляжыць на спінцы павука:
Ён смешна так у сне цярэбіць лапкі,
што сыпле снег, бы сеецца мука,
з-пад сіта-неба нашай любай бабкі.
Ім вецер бае казкі пра людзей:
Яны жывуць у гнёздах над ракою.
Там забаўляюць хвалі іх дзяцей,
Кладуць у люльку жмуцік зверабою.
І кожны брату — брат, сястры — сястра.
Там тры разы на дзень ядуць цукеркі.
А неяк раз мясцовыя майстры
зрабілі з мёду лыжкі і талеркі.
Так горад будзе спаць і бачыць сны,
Драмаць сняжынкі будуць на дахоўках.
Ш-ш-ш, ш-ш-ш, дачушка, разам з імі спі і ты.
Давай палічым кропкі на багоўках.

**3**

Бабуля-ноч сыходзіць за парог —
і горад спіць, і спіць мая дачушка.
Нясуць вятры мяне з усіх дарог,
каб казкі баяў я табе на вушка.
Я буду баяць казку пра агмень —
дзівоснае святло, што лечыць душы.
Ён там гарыць, і ноч гарыць, і дзень.
Нішто яго не згасіць, не патушыць.
І на святло прыходзіць цэлы свет,
Дзіцёнкі прылятаюць на аблоках.
Каб праз цяпло прайсці, пакінуць след —
пунсовы след на сэрцы і на шчоках.
Я буду баяць казку пра любоў.
Яна сядзіць на троне ў дзіўнай залі,
і кожны, хто ўваходзіць, той гатовы
маліцца прыгажосці гэтай пані.
Любоў прымае ўсіх, а ўсе — яе.
Паветра там напоўнена пяшчотай.
Сусвет дзеля яе адно жыве
і дорыць на світанне кветкі ўпотай.
Так горад спіць, а разам з ім і ты.
І котка спіць, у сне гуляе з мышай.
Высока свеціць месяц залаты
і на рагу мяне з табой калыша.

**4**

Чуваць, як птушкі чысцяць галасы,
І ўжо світанак гладзіць нас за вушка.
Бабуля-ноч сыходзіць за лясы.
Пара ўставаць, любімая дачушка.

*

Калі мне засталася толькі восень
І святло пунсовага акна,
Скрозь туманы — нёмнаўская просінь,
Сцежка між дварамі, цёплы парк.
Чуеш, як спявае джаз рабіна,
Дождж зрывае яблыкі ў садах?
Восень — гэта лепшая часіна,
Каб сыходзіць і вяртацца ў снах.

*

Сустрэнемся на вуліцы каштанаў,
дзе спяць снягі пад вартай ліхтароў,
дзе я табою буду апантаны,
дзе сніць сабор малітвы святароў.
Закружыць снежань срэбранай завеяй,
замовай прагучыць чарговы верш.
Ты адляціш каштанавай алеяй
у свет, куды мяне не пазавеш.

## Аленцы

памятай: час прамільгне
невядомым прыпынкам за акном цягніка.
да якога нікому, апроч машыніста,
ніякай справы няма.
і ў далёкіх гада́х, у садах,
парослых высокай травой, быльнягом,
у веццi дзічкі-ігрушы, у небе,
дзе спіць на аблоках-падушках гром,
у пералівах крыла страказы,
над зжаўцелым чаротам рачным,
у маўчанні бясснежнай зімы,
што чакае свавольнай вясны,
ва ўсмешцы матулі, снах,
што надзейна хаваюць свет,
у промнях вечнага сонца,
што нам усім пакідаюць след,
ты пазнаеш мяне —
я заўжды быў ва ўсім, што ты
закранала сабой і
любіла. цсс! бачыш — з дрэваў лісты?
на кожным паміж хрыбтоў
палымнеюць салюты мае.
а восень шкрабецца ў дах,
і цябе, як заўжды, не стае.

### калі падаюць каштаны

калі падаюць каштаны — гэта не рамантычна.
яны не зоркі.
хоць насамрэч і зоркі не падаюць.
калі падаюць каштаны — гэта небяспечна.
аднойчы адзін зваліўся на голаў дзядзьку Рыгору,
дык той пачаў выдумляць розныя глупствы.
калі падаюць каштаны — гэта не назаўсёды.
бо хтосьці разумны прыдумаў пачатак і канец усяму:
і каштану, і каштанавай бамбардзіроўцы.
калі падаюць каштаны — гэта не зусім легальна.
але ўсё роўна іх ніхто не збіраецца зрываць
і рабіць пладова-ягаднае віно «Палёт».
калі падаюць каштаны — гэта не так эксцэнтрычна,
як жоўта-чырвона-барвовы лістапад.
толькі й таго — секундны палёт да зямлі.
калі падаюць каштаны — гэта не проста так.
то бабка Марыя сваволіць ў дрыготкім вецці,
сумуе без нас,
цярэбіць у кішэні драбкі гваздзікі,
шэпча лясное, сунічнае:
«першую ягадку ў раток, каб не балеў жыватток»,
захінаецца ў любімае бэзавае паліто,
зрывае каштаны,
і яны падаюць,
і яны падаюць,
і яны падаюць.

### К.

І вось людзі саскокваюць з нязручных прыступак вагона
на цьмяны перон, сонныя.
Выкрыкваюць у марозную шэрань іх імёны,
Не падобныя да твайго.
Я буду шукаць цябе,
апазнаваць па курчавых валасах пад шапкаю
скрозь мандарынавае святло ліхтароў.
Буду шукаць твой твар, сонны,
на якім хутка і без болю паміраюць сняжынкі
ад нечаканасці.
Калі знайду, буду глядзець, як ты папраўляеш акуляры
указальным пальцам за пераноссе,
як развітваешся з суседкай па плацкарце,
рука якой звісала з верхняй паліцы
і нагадвала матуліну, —
усміхаешся ёй і ведаеш, што ніколі не ўбачыш.
Ускінеш на плячо заплечнік з падарункамі,
з надкусаным яблыкам і, чамусьці, слівамі,
уздрыгнеш ад сцюдзёнага подыху раніцы
і накіруешся да мяне, але пройдзеш міма.
Праз мяне, і нават не кранеш.
А я не змагу зразумець,
каго з нас ніколі не існавала.
Вось праваднiца, дакладна, была і ёсць:
узбіраецца па слізкіх прыступках,
адкідае іх убок і зачыняе дзверы.
«Цягнік нумар 646 (уставіць патрэбнае) — Гродна
адпраўляецца з першага пуці ад першай платформы.
Нумары вагона пачынаюцца з хваста цягніка».
І цягнік адпраўляецца, як і абяцалі.
Дае сігнал і пакідае кагосьці з нас на пероне.

### Няхай будзе той дзень

Няхай будзе той дзень, калі ноччу збягу за парог.
Азірнуся на ўсё, што пакіну табе аднаму.
Абяцай, напішы, што паедзеш яшчэ дадому,
што твой дом ад бяды і вайны Усявышні збярог.
Калі будзе той дзень, я хачу, каб квітнелі каштаны
і ў святле дзіўнай поўні каб гарэлі сабора крыжы.
І так стане балюча, што захочацца далей жыць.
І так стане няёмка, што сыходзіць вясною — рана.
Калі прыйдзе той дзень, што сканае ў вясновай цішы, —
вятры разнясуць яго боль над мастамі ля Нёмна.
Я запомню сябе ў 25, разам з горадам гэтым запомню.
Толькі ты абяцай, што напішаш. Ты проста пішы…

Марыя Свіст









**нарадзілася 3 мая 1997 года ў Мінску. Тут і жыве, тут і вучыцца, тут і піша. Не бачыць сэнсу шмат распавядаць пра сябе, давяраючы словам Ралана Барта пра смерць аўтара. З гэтай прычыны падрабязнасці біяграфіі вялікага значэння не маюць — значныя і знакавыя толькі тэксты.**

## Зноў пра курэнне

У Насты двое дзяцей. Па ёй і не скажаш — паўтара метра росту, худая і шэрая, са светлымі кароткімі валасамі, звыкла прыбранымі ў нямодны хвост. Не ведаў бы — падумаў, што гэта страшненькая вучаніца выпускнога класа. Але ў Насты двое дзяцей, старэйшай гадоў дзесяць. Малодшаму меней, гадоў шэсць ці сем, але не болей за тое. Абодва тонкія і нязграбныя, з крыху доўгімі сумнымі тварамі. Як і сама Наста.

Наста паліць, гэта нічога. Кажа, пачала так даўно, што кідаць проста сэнсу не мае, і зрэшты яна мае рацыю. Наста не перапынялася, нават калі была цяжарная другі раз. Тады да будынка дайшло вялікае шчасце ўрбанізацыі — капрэмонт. «Абнаўленне камунальных сістэм» гучыць цудоўна — да таго моманту, калі падчас абнаўлення раскідваецца пад'езд і паступова перастае працаваць усё. Ліфт, напрыклад, не працаваў з самага пачатку і амаль паўгода пасля: яго таксама мадэрнізавалі.

Наста жыла на шостым паверсе, была цяжарная другі раз і рэгулярна выходзіла ў пад'езд паліць, прыладжвалася на прыступках або прыхілалася да сцяны, як яшчэ адна дэталь навакольнай разрухі. Суседзі з верхніх паверхаў, якія штодзень змагаліся з лесвіцай у спробе трапіць дадому, спачатку віталіся з ёй, калі распазнавалі ў паўцемры. Потым кінулі — які сэнс, калі Наста ніяк не рэагуе на вітанні, толькі паліць і глядзіць з выразам незразумелай перавагі?

Ад Насты заўсёды пахне моцным танным тытунём, ад яе дзяцей — таксама. Мабыць, гэты пах наскрозь прамачыў усе іх рэчы і ўсю іх кватэру, і быў ужо невынішчальны.

Капрэмонт скончыўся, ліфт адрамантавалі, а ў пад'ездзе болей не паляць. На лесвічнай клетцы паміж пятым і шостым паверхамі з'явілася вялікая пачварная пакаёвая расліна. Наста ўладкавалася касірам у маленькую крамку побач.

Крамка звычайная для невялікіх гарадоў, з тых, у якіх на прылаўках акрамя звязка сасісак і ўчарашняга хлеба нічога няма, затое з віна-водачным аддзелам у асобным памяшканні. Такіх крамак досыць у невялікіх гарадах, у сталіцы ж глядзіш на іх са здзіўленнем. Сталіцу праглынаюць карпарацыі, а яна і не супраць: зручней і прасцей, ды і выбар большы.

Прыватныя крамкі — перажытак мінулага, але наўрад ці Насту гэта хвалюе. Яна сядзіць за касай, апранутая ў чырвоную форменную куртку з чужога пляча, валасы прыбраны ў хвост; і, прабіваючы чужыя дарагія цыгарэты, яна ўсё так жа глядзіць з выразам незразумелай переваті.

А што ёй яшчэ застаецца?

## Механічныя ваганні

На гадзінніку была без чвэрці гадзіна, калі Дзіяна нарэшце села за канспекты. Нягледзячы на тое, што адчувала яна сябе цалкам бадзёрай, засяродзіцца на тэзісах не атрымлівалася.

*«Поўная механічная энергія ў становішчы раўнавагі і ў крайніх кропках роўная альбо максімальнай патэнцыйнай энергіі, альбо максімальнай кінетычнай энергіі».*

За сцяной суседзі — адносна маладыя в'етнамскія студэнты — ужо дастаткова доўга высвятлялі адносіны. Нудна і ўпарта, досыць эмацыйна для іх, нешта абмяркоўвалі на сваёй дзіўнай маўкаючай мове і перасоўвалі крэслы. Дзіяна прыслухалася: за паўгода яна паспела вывучыць пару фраз і зацвердзіцца ў думцы, што в'етнамцы лічаць яе нечым накшталт персанальнай



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

палачкі-выручалачкі. Настроеныя досыць добразычліва да яе, яны прыязна сюсюкаюць з малым, але не перастаюць дапякаць яе просьбамі пра дапамогу з усімі іх бытавымі праблемамі — ад незразумелых разетак да якіхсьці дамоў з пасольствам і іншага.

Дзіяне ў цэлым было пляваць на в'етнамцаў — не чапляюцца, хоць і зыркаюць хітра, калі ёй даводзіцца ісці адсюль на змену, і хай іх. Часам пад настрой і вольны час яна нават і дапамагала ім, але часцей — не. Што абсалютна не перашкаджала ім далей прыходзіць і выслухоўваць адмовы рознай ступені ветлівасці.

Колькі часу яна цікавала: ці заўважаць яны, што ў яе яшчэ гарыць святло, ці палезуць шкрабціся ў дзверы, не зважаючы на позні час, і, хітра-вінавата ўсміхаючыся, ці папросяць вырашыць чарговыя праблемы? За сцяной раптам змоўклі. Дзіяна здрыганулася, скідаючы соннае насланнё, і зноў паглыбілася ў канспект.

*«Рэзкае ўзрастанне амплітуды ваганняў пры супадзенні частаты змены знешняй сілы, якая ўздзейнічае на сістэму, з частатой свабодных ваганняў называецца рэзанансам».*

«Рэ-за-нанс», — паўтарае сама сабе Дзіяна і чмыхае. Была калісьці ў яе такая звычка: раскладваць новае слова па складах, пракотваючы іх па языку, каб лепш запомніць. Але ёй даўно не дзевяць, і слова «рэ-за-нанс» для яе не новае. Яна ведае, што гэта такое, ведае, як яно працуе і як выкарыстоўваецца, ведае, як знайсці частату свабодных ваганняў, і ўсё астатняе з гэтага канспекта яна таксама ведае.

Але не памятае.

Таму гартае старонкі назад, злуючыся на ўласную тупасць.

Дваццаць хвілін на другую. Дзіяна каторы раз прабягае позіркам па формулах і пачынае разумець сэнс выразу «гляджу ў кнігу — бачу фігу». Дзіяна з уздыхам пацягваецца, звыкла кідае погляд на малога і ідзе па ваду. Праходзіць паўз пакой в'етнамцаў — нешта яны заціхлі — і заходзіць у кухню, не ўключаючы святло. Як яна і думала, хто-небудзь з суседзяў-паўночнікаў пакінуў трохі вады, стан якой яшчэ можна акрэсліць словам «кіпень», калі ёсць трохі фантазіі, вядома. Трохі падумаўшы, Дзіяна забірае чайнік з сабой у пакой, дзе нарэшце гатуе сабе каву.

Растваральная кава без цукру — бурда агідная, затое бадзёрыць нядрэнна.

*«Умовы ўзнікнення свабодных ваганняў: 1) падчас вывядзення цела са становішча раўнавагі ў сістэме павінна ўзнікнуць сіла, якая будзе імкнуцца вярнуць яго ў становішча раўнавагі».*

Малы кашляе і крэкча. Дзіяна падымае галаву, слухае, як ён варочаецца ў сваім ложачку, гатовая ўскочыць адразу ж, калі ён заплача. Але малы не прачынаецца. Дзіяна думае, ці не праверыць тэмпературу, але вырашае, што гэта можа пачакаць да раніцы.

Малы так недарэчна зноў захварэў пасярод вясны. Давялося кідаць з цяжкасцю знойдзеную падпрацоўку, і купляць лекі, і сядзець з ім больш за тыдзень. Ужо на другі дзень в'етнамцы зрабіліся нахабнымі настолькі, што шкрэбліся да іх амаль кожную гадзіну, ветліва ўсміхаліся і жудасна перашкаджалі. Ажно да таго часу, пакуль Дзіяна не вылаяся на іх і не бразнула дзвярыма.

Ды чорт з імі, з в'етнамцамі, а вось падпрацоўкі шкада, добрае месца трапілася. Цікава, ці дазволяць ёй вярнуцца.

У рэшце рэшт, на асноўнай працы ёй скакаць толькі да канца траўня. А там да экзаменаў яшчэ месяц.

Дзіяна бярэ ў рукі кубачак і некаторы час глядзіць у цёмную жыжку. Рокі абяцаў зазірнуць на тыдні, каб дапамагчы з малым, але так і не зрабіў гэтага. Дзіяна магла зразумець: залікова тыдзень усё ж, курсавыя і іншыя радасці ўнівера. Але звычайна ён папярэджвае, ведае ж, як яна ненавідзіць неабавязковасць. І нявызначанасць: цяпер вось думай, забыўся ён ці не, а калі не, то калі яму стукне ў галаву прыехаць, напэўна, у самы нязручны момант... Дзіяна не можа не вяртацца да гэтага. Не тое, каб яна непакоілася... але ці мала што.

Дзіяна сапраўды ненавідзіць тое, што ператварае яе жыццё ў хаос. Нават у такім агідным становішчы, у якім яна жыве апошнія гадоў пяць, павінен быць парадак і логіка. Усё па дакладным графіку: пакуль яна спрабуе зарабіць, малы знаходзіцца пад наглядам. Да таго ж Рокі ведае яе расклад, Рокі павінен разумець, што калі ён не прыйдзе, ёй зноў давядзецца цягнуць малога з сабой, а гэта...

Дзіяна трасе галавой, робіць вялікі глыток кавы. Нічога Рокі нікому не павінен. Хоць, магчыма, яна даруе яму занадта многа. Вось ужо сапраўды галоўная прычына хаосу ў яе жыцці.

Не, не так. Галоўная прычына хаосу ў жыцці Дзіяны — гэта яе ўласная дурасць і неразважлівасць, яе ўласныя ганарыстыя памылкі, якія прывялі да таго, да чаго прывялі. Валіць усё на Рокі безадказна, яна ведае: хочаш нешта выправіць, не шукай вінаватых, а дзейнічай. Таму цяпер ёй варта спыніць разважанні пра абстрактныя рэчы і засяродзіцца на фізіцы.

*«Згасальныя ваганні робіць сістэма пад уздзеяннем ўнутраных сіл і сіл супраціву. Вымушаныя ваганні — ваганні цел пад уздзеяннем знешніх перыядычна зменлівых сіл».*

Дзіяне здаецца, усё было б прасцей, калі б яна была закаханая ў Рокі. Але яна да гэтага часу лічыла яго сваім сябрам, што ў іх сітуацыі было раўназначным смяротнаму прысуду.

Гісторыя, увогуле, дужа банальная. Два галоўныя батанікі паралелі не маглі не аб'яднацца. Бледная ціхая дзяўчынка, заглыбленая у свет матэматыкі, дзяўчынка, якая аднойчы ледзь не выбіла аднакласніку вока лінейкай. І нязграбны худзенькі хлопчык, гатовы ўвесь дзень балбатаць пра генетыку, хлопчык, падобны да героя Сталоне крыху менш, чым ніяк, таму і мянушка прычапілася надзейна. Акрамя агульнага дзівацтва, у іх знайшліся агульныя інтарэсы, і ўсё быццам было добра.

У іх былі нейкія планы. Мары стаць вялікім інжынерам і не менш вялікім біёлагам, каб потым стварыць разам «сапраўднага жывога кібарга, амаль як тэрмінатар, крута, так?» Мары скончыліся ў выпускным класе, скончыліся п'яным сексам у дзень нараджэння аднакласніка, а затым і заканамерным з'яўленнем малога.

Зноў жа, Дзіяна лічыла, што не мае сэнсу звальваць усю віну на Рокі. Яна дакладна памятала: тады ў яе штосьці там здарылася, а п'янаму мозгу (і ўслед за ім і целу) пажадалася суцяшэння. А да каго ісці за суцяшэннем, калі не да лепшага сябра?

Строга кажучы, яна атрымала тое, што хацела, вось і ўсё.

Іншая справа, што ад аборту яе адгаварыў менавіта Рокі. Яна проста дазволіла яму пераканаць сябе, а далей... а што — далей? Рокі паспяхова выпусціўся і паступіў, а ў Дзіяны з'явіліся іншыя клопаты.

*«Маятнік — цвёрдае цела, якое пад уздзеяннем прыкладзеных сіл робіць ваганні каля нерухомай кропкі ці вакол восі (спружынныя і ніцяныя)».*

У пяці хвілінах на чацвёртую гэта азначэнне ўжо не мела для Дзіяны ніякага сэнсу.

З адчуваннем глыбокай незадаволенасці яна адклала канспект і залезла ў ложак. Нягледзячы на відавочную стомленасць і галаўны боль, сон не ішоў.

Падумаць толькі, яна не ў стане адалець самыя простыя паняцці і ўсё яшчэ самазадаволена разлічвае, што зможа рэалізаваць дзіцячыя мары. Для ўступных экзаменаў патрабаваліся матэрыялы больш сур'ёзныя.

Але Дзіяна ўсё распланавала: да саміх экзаменаў яна пачне рыхтавацца ў чэрвені. А да гэтага трэба проста ўспомніць базавы школьны курс, на што няма часу. Зусім няма часу.

Дзіяна ведае: калі ў яе не атрымаецца паступіць, ёй давядзецца вярнуцца да шаста.



Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі прадстаўляе:

## Бажэна Мацюк



**нарадзілася 8 чэрвеня 1991 года ў Вілейцы. Скончыла філфак БДУ, працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, вядучым рэдактарам у Мінскім абласным цэнтры народнай творчасці, сёння — намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар зборніка вершаў і паэтычных перакладаў «Я яго адпускаю з Табой» і кнігі «Самасць». Раней пісала толькі ў час адчаю, а цяпер вучыцца быць паэтэсай радасці і надзеі.**

### Нам

Без спыну, без паўз, без сумненняў —
Наперад! Не зрушым з дарог
Шчасліва-ўрачыстых імгненняў
Вяртання на родны парог!

У коле жыцця мітусіцца
Давайце! Ды памяць няхай
Натоліць натхнення крыніца —
Адзіны бацькоўскі наш край!

Бо кожны найлепшы пачатак —
З асновы. І будзе куцця —
Бясспрэчна, такі ёсць парадак! —
За сімвал святога жыцця.

***

Гэта ўсё, што ёсць у чалавека:
Гонар, стрыжань, пошук, боль.
У адчаі кожны з нас — калека:
Прыгук, недахоп і золь,
Паўабрыс, забыты на эскізе,
Цень, прывід, клішэ, няўрод,
Прахалода, толькі коска ў кнізе,
След, нішчымнасць і сыход.

***

Навучы мяне не плакаць, мама,
Не баяцца ні жыцця, ні смерці,
Раскажы мне, што любая драма —
Толькі тэкст, які так лёгка сцерці,
Пакажы, прашу, шляхі да Бога
І паслухай без дакораў споведзь:
Я памылкамі знішчала многа —
Мне б іх выправіць аднойчы здолець…
Ты пакліч мяне дадому, мама,
Ціха латку мне прышый на сэрца.
Я такою быць хачу таксама,
Толькі крышку хай мой боль мінецца…

***

Адрадзіцца свабоднай і чыстай
Між грузінскіх прываблівых гор,
Быць мастачкай, танцоркай, артысткай…
У крыві — толькі шал і кагор…
У балгарскія хвалі вярнуцца,
Размаўляць на гаворках надзей…
І калісьці зусім не прачнуцца —
Гэта лёс так яднае людзей.
Быць сусветам, але беларускай —
Прагна самасць да рэшты дапіць.
Па дарозе шурпатай і вузкай
Хай жыццё несупынна ляціць.

***

Я рэдка пішу пра каханне,
Сяброўства, Радзіму, бацькоў,
Бо гэта не проста прызнанне —
Маленне, што спета наноў.
За кожным найменнем — асоба,
За словам — і радасць, і боль,
А вершы — яны толькі спроба
У заўтра складаць бандэроль.
З кахання не зробіш пакунак,
Сяброўства не ўкруціш з бакоў,
Не створыш Радзімы рахунак,
За шкло не схаваеш бацькоў,
Каб нехта не змог іх параніць,
Не знішчыў бы ветразь надзей —
Сурочыць, ламаць і паганіць
Ёсць звычка, на жаль, у людзей.
Таму я маўчу пра каханне,
Сяброўства, Радзіму, бацькоў,
Бо гэта — не проста прызнанне…
Маленне, што спета наноў…

***

Засынае неба. Засынае.
Тчэцца нітка самых шчырых слоў.
Я — бязвольная, бязродная, чужая —
Успамін далёкіх светлых сноў.

Прамільгнула думка. Патанула
У сінечы памятных вачэй.
Між лістоў старых твая цыдула
Дагарае ці гарыць ярчэй?

Усміхнуцца вусны. А на сэрцы
Застанецца горыч і смуга.
Ён пайшоў навек. Не азірнецца.
Зноў над багнай вырасце куга…

Я гляджу на неба, чую думкі
І на вуснах хмельны мёд лаўлю.
Гэты вечар — плён маёй прыдумкі.
Я кахаю Вас. Ці ўсё ж люблю?

Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі прадстаўляе:

# Аксана Ярашонак



**нарадзілася 11 ліпеня 1982 года ў Маладзечне. Лаўрэат міжнароднага конкурсу «В единстве наша сила» (Магілёў, 2012), міжнароднай літаратурнай прэміі «Пяць хлябоў» імя У. Нарбута (2015). Член міжнароднага саюза пісьменнікаў і майстроў мастацтва. Аўтар зборніка паэзіі «Звычайнае шчасце» (Мінск, 2015).**

***

Захочацца больш пяшчоты
І жарсці ў тваім паглядзе,
І думак — больш не самотных,
І песню — у мажорным ладзе.

Чырвоную ўзяць памаду,
Зрабіць макіяж ярчэйшы,
І, можа, прынесці радасць
Камусьці чарговым вершам.

І сыпле неспадзявана
Залева жаданняў новых.
Што гэта? Капрыз звычайны
Ці нейкі сіндром вясновы?

## Зорка

Восеньскім вечарам шэрым
Зорка сядзела на даху.
Звесіла ножкі у цемру,
Не адчуваючы страху.

Непаслухмянай малечы
Кідала сны на карнізы,
Ды і дарослым, дарэчы,
Шмат рыхтавала сюрпрызаў.

А занялося світанне
Дзесьці за дахам замшэлым —
Зоркі адразу не стала.
Можа, у комін зляцела?

## На станцыі метро «Плошча Якуба Коласа»

У Мінску на станцыі класіка
У слоіках кроп з агарода,
І льецца музычная класіка
Між тлумных муроў перахода.

Суніцы тут водарам дражняцца,
Валошкамі не надзівіцца!..
Вясковы пейзаж прыгадаецца
У сэрцы бетоннай сталіцы.

Няхай жа на станцыі класіка
Сталічным валошкавым летам
Ствараюць сучасную класіку
Натхнёныя Мінскам паэты!

***

Сёння ў трэндзе — барва,
Чырвань, пазалота,
Шмат цікавых фарбаў,
І ў вачах — самота.
Пацеркі з дажджынак,
Шалікі з туману,
Гляньце — у дзяўчынак
Вельмі актуальныя.
Срэбра ранкаў шэрых
Маладзіцы носяць…
Кажуць мадэльеры:
— Сёння ў трэндзе восень.



Маргарыта Латышкевіч

**нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Закончыла філалагічны факультэт БДУ, магістратуру і аспірантуру там жа. Філолаг-фалькларыст. Піша вершы і прозу, фантастыку — і не фантастыку. Зрэшты, самыя звыклыя рэчы могуць быць досыць фантастычнымі, асабліва калі прыгледзецца. У 2012 годзе выдала кніжку вершаў «Пульс навальніц», у 2016-м — кніжку апавяданняў «Яблыкі». За апошнюю сёлета атрымала прыз Нацыянальнай літаратурнай прэміі ў намінацыі «Дэбют».**



## Дом

Дом быў стары і нейкі недарэчны, дзівацкі, скошаны на адзін бок. Калі глядзець з вуліцы, атрымаецца: злева ў два паверхі — вокны-ліхтары, і паедзеныя слотай карнізы з сярдзітымі тварамі амураў, і далікатныя, на адзін крок, балкончыкі. Справа — цагляная сцяна, пацямнелая ад сырасці, не ўкрытая ні фарбай, ні атынкоўкай, безабаронная. Калісьці — бабуля расказвала — яшчэ «за польскім часам» быў тут яшчэ адзін дом, такі самы, сцяна да сцяны. Але той, другі, знеслі. Гэты — застаўся.

У доме жылі людзі. Чатыры кватэры зверху, чатыры — знізу. Ціхія людзі, збольшага старыя, пенсіянеры. Нахабныя півоні ў кветніку лезлі ў вокны, буялі самі па сабе, без догляду. За півонямі і расхістаным плотам быў парк, сыры, цемнаваты, з пракладзенымі праз нетры пахмурнага бэзу сцяжынкамі і зялёнай ад водарасцей сажалкай. За сажалкай пачыналася сякая-такая цывілізацыя: атракцыён-цягнічок, арэлі, маленькая кавярня з тэрасай, зацененай плюшчам. Па выходных, асабліва ў сезон, шум і гоман дакотваўся нават сюды, прадзіраўся праз зараснікі. Галасы і музыка гучалі глуха, быццам з-пад вады.

Бабуліна кватэра знаходзілася на другім паверсе. Па гулкай, скупа асветленай лесвіцы ўверх, а пасля да канца па калідоры, забітым знявечанымі роварамі, скрынямі з бульбай, старымі каляскамі і іншым хламам. Вузкае, бы замковая байніца, акенца прапускала мала святла, выхопліваючы то пагнутыя спіцы ў колах, то зарослыя пылам збаночкі, то палінялы тварык старой лялькі. Мясцовыя да гэтых лабірынтаў звыклі, хадзілі ў паўзмроку ўпэўнена, а вось госці рызыкавалі набіць з паўтузіна гузакоў. Зрэшты, гасцей тут было няманога.

У кватэры мелася два пакойчыкі — маленькія, затое з высокай столлю. Вокны ў драўляных рамах глядзелі на свет мутнавата, дробна дрыжалі кожны раз, калі паўз дом з боку вуліцы праязджалі аўтамабілі. Ратавала тое, што вуліца была маленькая, ціхая, і з транспарту на ёй з'яўлялася адно сіняя машынка паштовага аддзялення. Для надзейнасці бабуля закладвала між рамамі вату, але дапамагала не надта: зімою і восенню па двух пакоях блукалі адчувальныя скразнячкі.

Па пажоўклых шпалерах караскаліся фотаздымкі — цэлая армія, у рамках, без рамак, чорна-белыя і каляровыя, за шклом і «так». У пакоі-гасцёўні, адначасова адназначна «бабуліным», амаль заўжды невыразна балбатаў тэлевізар пад вязанай сурвэткай і пужліва дзынкалі ад крокаў крыштальныя вазоны ў шафах. Шкляныя дзверкі шафаў і дзве лупатыя люстры адбівалі бабулю — вечна заклапочаную, вечна з падціснутымі вуснамі, з лапінкамі зморшчынак ля вачэй і ля вуглоў рота, з сівымі пасмамі ў стрыжаных валасах. Бабуля сядзела на канапе, падкурчыўшы пад сябе ногі ў тоўстых вязаных шкарпэтках, і пад балбатанне тэлевізара абавязкова штосьці рабіла: ці то чысціла бульбу ў эмаліраваную місу, ці то вязала чарговую пару шкарпэтак. Ля яе, але, вядома, не на чырвонай канапе, а на падлозе месціўся Туз — калматае падступнае стварэнне, аддалена падобнае да сабакі. Па сабачых гадах Туз быў за бабулю нават старэйшы, а таму дазваляў сабе бурчаць, і скардзіцца, і капрызіць, асабліва калі нёс сваё тоўстае цельца на прагулку ці з прагулкі.

Бурчаў і скардзіўся, праўда, ён не бабулі: з тою не паблазнуеш асабліва. Усе Тузавы выбрыкі даставаліся Цімуру, які з Тузам гуляў. Адно аднаму яны не надта падабаліся — тоўсты стары сабака з крывымі ножкамі і пухлы сур'ёзны хлопчык. Але, паяднаныя шворкай, хадзілі тым самым маршрутам два разы на дзень, раніцай і вечарам. Іржавыя вароты парку, неўтаймаваны бэз, забытыя турнікі, трапяткі асіннік, зялёная сажалка з бетонным парапетам. І назад.

Другі пакой у бабулінай кватэры належаў Цімуру. Належаў, аднак, моцна сказана: пакой быў мамы Дашы, з савецкай шафай, усё яшчэ забітай яе школьнымі рэчамі, з паўсцёртымі пазнакамі алоўкам на сцяне — «Даша, 9 гадоў», «Даша, 14 гадоў». Цімур часам крадком, каб не заўважала бабуля, з цікаўнасцю прымерваў сябе да гэтых метак. Вымяраў маміна сталенне — сабой, і на душы цяплела.

У пакоі меліся яе старыя сшыткі, яе кнігі з неахайнымі плямінкамі ад гарбаты, яе дзіцячыя цацкі, збольшага, вядома, лупатыя лялькі. Цімур навучыўся сяк-так існаваць сярод гэтага лабірынта чужых рэчаў — гэтаксама, як навучыўся арыентавацца ў захламленых калідорах дома ля парку.

Госці з'яўляліся нячаста. І мама Даша, калі ўсё-такі прыходзіла, была госцяй: бездапаможна натыркалася на вуглы і рогі на шляху да кватэры, няўпэўнена ціснула на гузік званка. Уваходзіла ў вітальню і падавалася Цімуру вінаватай школьніцай — можа, таму, што была такая маладая і худзенькая, можа, таму, што так змушана ўсміхалася і не ведала, як з Цімурам трымацца, як размаўляць і ці ўвогуле можна яму паціскаць руку.

— Добры дзень, — з парога выпальвала яна, настолькі яўна спрабуючы здавацца бадзёрай, што ад гэтага ў яе голасе ўзнікалі ноткі адчаю. — Які ты стаў вялікі! Як школа? Як бабуля? Як настрой?

— Добра, — адказваў Цімур на ўсе пытанні адразу і ішоў на кухню ставіць чайнік. Мама Даша за яго спінай выдыхала з палёгкай і ішла размаўляць пра сваё з бабуляй.

У кухні Цімур доўга сядзеў на табурэце, слухаючы, як бурчыць, закіпаючы, вада і як храпіць пад сталом стары Туз. Да ўсіх знаёмых і звыклых гукаў кватэры дамешваўся тонкі мамін голас, які перакрываў вуркатанне тэлевізара, і гэта чамусьці трывожыла і збівала з думак. Цімур ведаў: бабуля зараз адчытае маму, як звычайна, і загадае ісці ў кухню, каб паразмаўляць з ім. І мама Даша, як вінаватая школьніца, паслухаецца і пойдзе, але размаўляць не зможа. Будзе проста моўчкі сядзець тут жа, паклаўшы маленькія далоні з заточанымі пазногцямі на калені, і ад яе прысутнасці ўсё цела будзе налівацца невыносным свінцовым цяжарам, так што ні рукі падняць, ні галаву павярнуць.

Маленькая Цімурава мама, падобная да кволай птушачкі, знаходзілася ў пошуках шчасця, напэўна, усё жыццё. Ёй, тады яшчэ школьніцы, было гадоў шаснаццаць, калі, як падавалася, сапраўднае шчасце ўсё-такі знайшлося.

— Але твой бацька аказаўся нягоднікам, — заўважала бабуля. З-пад нажа ў яе руках цягнулася непарыўная стужка бульбяных ачыстак. І размова з ёю цягнулася гэтаксама, такая ж непарыўная і бясконцая. Зрабі перапынак на дзень-два — і ўсё роўна можна будзе падхапіць з любога месца. Можа быць, таму, што бабуля бясконца прагаворвала гэта ўсё пра сябе — адно і тое ж, адно і тое ж.

Маміна шчасце пасля таго знаходзілася, пазначала сябе яшчэ колькі разоў, але шторазь знікала, няўмольна вырывалася з кволых маміных рук. І мама Даша вярталася да бабулі, скардзілася шэптам на свае беды, плакала ў беленькую насоўку. Часам, калі шчасце разбівалася на асабліва вострыя аскепкі, мама на колькі дзён перабіралася ў дом ля парку, ва ўласны стары пакой, поўны старых рэчаў. Цімур выцягваў з кладоўкі гарбатую раскладушку, ставіў у кухні і начаваў там разам з незадаволеным Тузам. Прачынаўся ўночы ад сабачага храпу з-пад стала — і з добрую хвіліну не мог зразумець, дзе ён і чаму. Пасля згадваў: няшчасная мама Даша спіць, падклаўшы пад шчаку маленькі кулачок, за сценкай. Ад гэтага ўсведамлення чамусьці рабілася неяк няёмка, ніякавата, так што Цімур звычайна доўга варочаўся без сну.

Пасля мама Даша з'язджала на пошукі шчасця — і раскладушка вярталася на сваё месца, і ўсё зноў было па-ранейшаму. Бабуля пякла адмысловыя аладкі, грукатала слоікамі з вішнёвым варэннем. Аладкі ў яе атрымліваліся пухлымі, залацістымі, і нават стары Туз аблізваўся з зайздрасцю.

У школе ўсе даўно звыклі, што на бацькоўскі сход прыходзіць Цімурава бабуля. Для такіх выпадкаў яна апраналася доўга і старанна, прыхоплівала з сабою не звычайную вязаную торбу, з якою хадзіла на рынак, а невялікі саквояж з рыжай скуры — «для прэстыжнасці». Бабуліна прэстыжнасць абыходзілася Цімуру дарагавата: аднакласнікі спачатку хіхікалі, а пасля пачалі дражніць яго «бабчыным сакам». Гэта чамаданная мянушка прыстала намёртва, можа, яшчэ і таму, што прозвішча ў бабулі, мамы Дашы і Цімура, было — Саковічы. Цімур злаваў і не раз спрабаваў біцца, але перавага і ў колькасці, і ва ўменні была зусім не на яго баку. Таму ў выніку давялося змірыцца — як з тым хламам у калідоры.

Аднакласнікам, як і Тузу, Цімур не вельмі падабаўся. Пухлы, з круглым тварам і прыўзнятымі, быццам ад вечнага здзіўлення, густымі бровамі, з маленькімі цёмнымі вачыма, што глядзелі з суровай уважлівасцю, са скошаным на адзін бок незадаволеным ротам, з растрапанымі русымі валасамі, ён не выклікаў сімпатыі адным сваім выглядам. А звязаны бабуляй пярэсты світар і выпэцканыя ў чарніле рукі, якія Цімур старанна хаваў у кішэнях пінжака, даваршалі ўражанне. Гаварыў ён мала, глядзеў, размаўляючы, убок, а таму на перапынках сядзеў адзін — натапыраны, сутулы, бяздумна возячы асадкай па шматочках паперы, падпёршы рукою адну круглую шчаку.

Здзекавацца і кпіць з яго асабліва не атрымлівалася: тоўсты Сак намайстрыўся рабіць настолькі адсутны, «нетутэйшы» выгляд, што ўся асалода ад кпінаў знікала. У рэшце рэшт жыццё ў класе проста пайшло міма яго, бы ручаіна, якая абыходзіць упарты камень. Іншыя дзеці ў класе згадвалі пра яго толькі тады, калі настаўнік, праводзячы алоўкам па спісе ў класным журнале, голасна прагаворваў:

— А! Саковіч!

І Цімур з грукатам адстаўляў крэсла, нязграбна падымаўся і, уцягнуўшы галаву ў плечы, ішоў да дошкі.

Кнігі, старыя, утульныя, з пажоўклымі старонкамі, з плямінкамі і пазнакамі алоўкам, з загнутымі вугламі старонак, былі яго заўсёдным выратаваннем, прытулкам, асабістым супрацьядзерным бункерам. Ён чытаў пад балбатанне бабулінага тэлевізара, пад свіст чайніка і шэпты скразнякоў у цёмных вуглах кватэры. Лямпачка таргалася з боку ў бок пад столлю, рассыпала вакол тлустае жоўтае святло. Цімур, скурчыўшыся, заўжды ў нейкай надта нязручнай позе — ці то спінаю да хрыбта радыятара, ці то зашыўшыся ў куток між старым фатэлем і сцяной — чытаў. Бабулі часам даводзілася разоў з трыццаць гукнуць яго, каб вывесці са здранцвення, каб выцягнуць з палону падслепаватых чорных літарак.

— Зрок пасадзіш, — казала бабуля сярдзіта. Сама яна, вывучаючы квітанцыі ці надпісы дробным шрыфтам на дамовах, мусіла ўздзяваць на нос вялікія акуляры або прымушаць Цімура чытаць уголас.

Цімур слухмяна кідаў чытанне і ішоў у іншую сваю схованку — толькі для таго, каб там праваліцца ў іншую кнігу. Чыталася ўсё, што можна было знайсці дома, без асаблівага разбору, што трапіцца пад руку, — ад савецкага падручніка па хіміі для дзясятага класа да зборніка дзіцячых вершыкаў. Цімур усё чытаў удумліва, ледзь варушачы тоўстымі вуснамі, зрэдку міргаючы, ашчадна перагортваючы старонкі. Чытаючы, часам натыркаўся на пазнакі чужой рукой — і тады некалькі разоў перачытваў фразы, спрабуючы здагадацца, чаму вось тут папярэдні чытач вырашыў падкрэсліць, а тут — паставіць птушачку. Атрымлівалася нешта накшталт размовы. Бібліятэчныя кнігі, якія прайшлі праз сотні рук, чытаць было цікавей: суразмоўцаў большала.

Адным вераснем, калі восень яшчэ толькі-толькі пачала рассыпаць золата ў лісце, а дні стаялі па-летняму цёплыя, мама Даша ў чарговы раз вярнулася з пошукаў шчасця. Гэтым разам, праўда, больш вясёлая, чым звычайна, хоць і, як звыкла, не ведала, пра што размаўляць. Пакуль на кухні пасвістваў чайнік, Цімур чуў мамін голас — тоненькі сярэбраны званочак. Мама расчулена звінела пра шчасце, пра «нарэшце» і «можа быць, першы раз у жыцці». Бабуля маўчала — доўга і змрочна. За яе незадаволена мармытаў тэлевізар.

Цімур то паглядаў на чайнік, чырвоны ў белы гарошак, то зазіраў у бібліятэчную кніжку. Кніжка, заслужаная, залюбленая пакаленнямі чытачоў, прыемна пахла кніжным пылам і колерам старонак нагадвала — так, прынамсі, Цімуру падабалася думаць — пергамент, зусім як у старажытных фаліянтах. Чытаць было прыемна, і таму чытаць даводзілася патроху, смакуючы кожны сказ, кожны абзац і са шкадаваннем разумеючы, што дзеянне набліжаецца да фіналу. Параўнальна шчаслівага, вядома, але ўсё роўна — фіналу.

Мама Даша зайшла амаль бязгучна, таму Цімур заўважыў яе толькі тады, калі яна села побач і забарабаніла пальцамі па стале.

— Які ты стаў вялікі, — сказала мама жаласным голасам, і заўважна было: кажа зусім не тое, што хоча сказаць. — Чытаеш вось. Цікава?

Цімур паківаў і са смачным храбусценнем перагарнуў старонку. Мама разгладзіла спадніцу на вострых каленках, заклала за вушы стрыжаныя бялявыя пасмы, пакруцілася на табурэце.

— А я, — прагаварыла тоненькім голасам. — Я выходжу замуж. Так.

Прагучала неяк вінавата, але і з адценнем раздражнення, нібы Цімур быў у нечым вінаваты. Мама зноў нервова пакруцілася на месцы, уважліва вывучаючы Цімураў твар.

— Ага, — сказаў Цімур. Па напружанай постаці мамы Дашы было ясна, што яна нечага чакае, можа, нейкіх слоў ці дзеянняў. Можа, трэба парадавацца, што яна нарэшце адшукала сваё шчасце, за якім так доўга ганялася? Ці мо павіншаваць з вяселлем? Цімур задуменна пачасаў адну нагу другой праз тоўстую бабуліну шкарпэтку.

Мама Даша не выглядала асабліва радаснай, глядзела круглымі вачыма з прытоенай бояззю. Быццам чалавек, які ўсім распавёў, што выйграў у латарэю, а цяпер адумаўся і баіцца, што прыз адбяруць ці скрадуць.

— Ага, — тупа паўтарыў Цімур. Мама часта заміргала, то сплятаючы, то расплятаючы пальцы.

— М-мужчына, — прагаварыла яна, пастукваючы па стале. — Мой… мужчына. Ён вельмі харошы чалавек. Удавец з дзіцём. Хлопчыкам двух гадоў. Вельмі станоўчы чалавек. І заможны.

Патрывожаны Туз пад сталом глуха забурчаў. Мама прыкусіла вусны. На твары яе чамусьці праявілася скруха, быццам адна думка пра заможнасць будучага мужа была для яе невыносная.

— І вось, — з тым жа выразам скрухі працягвала мама Даша, кашлянуўшы. — Паколькі… паколькі я… у мяне… словам, твая бабуля лічыць, што ты цяпер павінен жыць са мной. З… ну, *з намі.*

Мама зноў мазнула па твары Цімура таропкім жаласным позіркам і тут жа адвяла вочы. Чайнік загрукацеў крышачкай, прыцягваючы да сябе ўвагу, і Цімур, быццам спружына развілася, падскочыў на месцы, так што кніга зрынулася на падлогу, пачаў завіхацца ля пліты. Наліваў кіпень у імбрычак — і адчуваў трывожны позірк мамы Дашы ў сябе на спіне.

У тым шчасці, што мама адшукала для сябе, месца для кагосьці яшчэ, апроч яе самой, не было. Ад гэтай здагадкі Цімура быццам скразняком прашыла — і ўсё-такі не хацелася верыць.

Ён, хмурачыся, дастаў з паліцы любімыя бабуліны кубачкі — «для гасцей», з залатой хвалістай лініяй, з блакітнымі кветачкамі на баках.

— Можа, — гаварыла мама далей, прыцішыўшы голас. — Можа, ты б і не хацеў… я маю на ўвазе, падлеткам так цяжка ўсё мяняць… школа, сябры… праўда, Цімачка? Ну, скажы?

Цімур зрабіў выгляд, быццам занадта засяродзіўся, насыпаючы цукар у цукарніцу. Палез па лыжачкі ў вісклівую шуфляду — і са здзіўленнем зразумеў, што ў яго дробненька дрыжаць рукі. Вусны таксама дрыжалі, і камяк у горле замінаў гаварыць, а павекі калола знутры, і ніяк не атрымлівалася праміргацца.

— Цімачка, — вельмі ласкавым голасам мовіла мама Даша. — Ты скажы, ну. Скажы, што табе… нязручна будзе так, каб з намі. Ну?

Яна прыйшла прасіць у яго дазволу на шчасце. Як школьніца, што прыйшла адпрасіцца з урокаў.

— Нязручна, — пацвердзіў Цімур, не паварочваючыся да яе, і злосна пацёр кулаком вока. — Я тут буду жыць. Дома.

Мама радасна падхапілася.

— Ну вось, — сказала з радасцю трыумфатара. — Ну вось, я так і думала. Мама! Мама, ты паслухай, што Цімачка кажа!..

Бабуля, цяжка пераступаючы ацёклымі нагамі ў тоўстых вязаных шкарпэтках, выплыла са свайго пакоя. Стаяла, змрочна ўзяўшыся ў бокі, маўклівая і дакорлівая, глядзела пранізлівымі блакітнымі вачыма.

— Я дома буду жыць, — паўтарыў Цімур. — Дома.

— Бо Цімачку з намі будзе нязручна, — паспешліва сказала мама Даша і густа зачырванелася, бы засаромелася. — Ён сам сказаў. Усё-такі чужыя абставіны… школу, зноў жа, мяняць, а тут сябры ў яго. І… ўсё такое. Сама разумееш, як на падлеткаў усё гэта ўплывае…

Цімур праціснуўся паўз яе ў дзверы — асцярожна, каб не зачапіць, зусім так, як праціскваўся праз нетры хламу ў цёмным калідорчыку ці праз шэрагі кплівых аднакласнікаў. З кнігаю пад пахай і кубкам гарбаты сышоў у свой пакойчык і ціхутка прычыніў дзверы. Скоса зірнуў на меткі алоўкам на шпалерах, але прымервацца, адлічваючы свае гады ад маміных, болей не хацелася.

У куточку за старым фатэлем было зацішна, спакойна і ўтульна ад святла крывога таршэра. Цімур сяк-так уладкаваўся, ашчадна разгарнуў кнігу — і патануў з галавою ў прыгодах адважных рыцараў.

Таму і не пачуў, як радасна пляснулі за мамай Дашай дзверы кватэры.

Ён быў — дома.

## Латарэя

Жылі яны ўдвух у маленькай аднапакаёўцы — Андрэй Сямёнавіч і яго жонка. Жылі, як усе, — гэта значыць, не лепш за іншых. Напэўна, і не горш.

Андрэй Сямёнавіч, вечарам вяртаючыся з працы, еў боршч, а пасля хаваўся ад жонкі за штотыднёвікам з красвордам і судоку. Жонка, заўсёды ў тым самым пярэстым халаціку, не міргаючы, узіралася ў тэлевізар падведзенымі з самага ранку вачыма.

У тэлевізары людзі смяяліся, гаварылі, і так прывабна мільгацела рэклама. Тут — маўчалі. Маўчанне лучыла гэтых дваіх нябачнай ніткай, паяднoўвала лепей, чым самая вострая інтэлектуальная размова. Уздыхалі сінхронна, звыкла. І жыццё прамінала таксама па звычцы — у завучаным рытме, у адзіным тэмпе.

У такім самым аднойчы зададзеным тэмпе — раз на месяц — жонка нязменна распачынала скандал. Нязмушана, быццам праводзіла запалкаю па каробачцы, кідала ў мужа рэзкай фразай, заўсёды адной і той жа. Муж распальваўся адразу, успыхваў, крычаў, тупаў нагамі, наступаючы на жонку, размахваючы рукамі, нібы хацеў ухапіць за халацік. Жонка хавалася ў кухні і голасна выкрыквала абразы ўжо адтуль.

Яны ведалі адно аднаго досыць даўно, а таму былі ў курсе, дзе баліць, дзе ўсё яшчэ смыляць душэўныя раны. І не шкадавалі солі. І абыякава наракалі адно на аднаго — нібы і без асаблівай ахвоты, а па абрыдлай звычцы. «Каб усё было, як у людзей».

І — было. Як у людзей.

Аднаго разу Андрэй Сямёнавіч прыйшоў нейкі дзіўнавата разгублены. Нязвыклы. Сеў, падсунуўшы чорную скураную торбу пад табурэт, і нават не зірнуў на адвечны боршч. Жонка, звузіўшы вочы, паспела падумаць: «П'яны!..» Пасля думкі яе зачапіліся за «тую паскудзіну», суперніцу, з якой даводзілася за Андрэя Сямёнавіча, не шкадуючы сябе, змагацца. І яна сцялася ўнутры, і ў паветры адчувальна запахла навальніцаю.

Але муж загаварыў раней.

— Юлечка, — сказаў, аціраючы пот правай рукой. — Мне тут на працы… таго… гэтага. Далі. Вось.

І левай няўпэўнена працягнуў Юлечцы нешта, бы індульгенцыю. Жонка тарганула вуснамі і пакруціла ў пальцах кавалак навошчанай паперы. Паднесла да твару, прымружылася.

— Дай акуляры, — працадзіла скрозь зубы. І, ужо ўмацаваўшы на носе дадатковую пару вачэй, прачытала ўслых: — Латарэя? Пфуй!

— Сказалі, — пачаў жыва распавядаць Андрэй Сямёнавіч. — Сказалі: купі. Ну, я і купіў. Кажуць, выігрываюць. Кватэры там. І ўвогуле.

— Лухта, — з веданнем справы адрэзала Юлечка. Адкінула паперчыну ад сябе, нават з грэблівасцю, і пляснула ў талерку боршч.

На другі дзень, пакуль Андрэй Сямёнавіч быў на працы, яна знайшла каляровую паперку ля люстра ў вітальні — мабыць, муж падняў з падлогі і прыладзіў пад гіпсавай фігуркай сабачкі.

— Ёлуп, — мовіла Юлечка, пахітаўшы галавой. Муж часцяком здаваўся ёй дзіцёнкам — гадоў гэтак пяці, не болей. Лупаў круглымі вачыма, нібы баранчык, на любыя пытанні любіў адказваць «Н-не ве-едаю…», абы не вырашаць самастойна. Дзіцёнка трэба было, быццам ляльку, апранаць, карміць ды ў належны час класці спаць. Часам дазваляць гуляць ці даваць нейкія даручэнні па гаспадарцы, каб выхоўваць, але не болей за тое. На гэтым караблі капітанам піратаў заўжды была Юлечка, а Андрэй Сямёнавіч, нягледзячы на немалы жывот, шырокія плечы ды пасівелыя вусы, — юнгам.

Яна пацягнулася, каб скамячыць білет ды кінуць у смецце, але раптам стрымалася. Успомніла каляровую рэкламу, дзе тэлевізійныя сірэны соладка спявалі пра навюткія кватэры ў вялікіх дамах, пра агромністыя машыны — кожная ледзь не з іх гасцёўную памерам. І чамусьці падалося, што сірэны хлусіць не могуць, што ў новай кватэры ўсё можа пайсці па-новаму, што нават юнга Андрэй Сямёнавіч там будзе таксама нейкім іншым. Новым.

І калі муж прыйшоў вечарам з працы, яна сустрэла яго не халодным паклічам з кухні («Хадзі есці!..»), як звычайна, нават не пагрозлівым «Дзе бадзяўся?!», а пытаннем — са свайго звычайнага месца перад тэлевізарам:

— А… колькі ж гэта ў вас чалавек білеты ўзялі?

Андрэй Сямёнавіч, здатны адрозніваць да паўсотні розных адценняў у голасе жонкі, адчуў за спінаю крылы і пачаў са смакам распавядаць, як загадчык аддзела прыйшоў да іх, як паказаў стосік білетаў, што скінулі «на рэалізацыю», як Пятровіч адмовіўся і як ён, Андрэй Сямёнавіч, білет для сябе вельмі-вельмі ўважліва выбіраў.

— Тут шаснаццаць, — тыцкаў ён тоўстым пальцам ў шэрыя лічбы на паперы. — Гэта ж мы з табою шаснаццатага пабраліся. І пяцьдзясят восем, то ж нумар кватэры. І…

Юлечка слухала яго, паблажліва ківаючы. З экрана пелі, спавіваючы размову чарамі, сірэны. На кухні разгублена стыў боршч.

Дні пабеглі шпарчэй. Андрэй Сямёнавіч спяшаўся з працы, кідаў торбу ў вітальні і, таропка сцягнуўшы боты і куртку, сядаў побач з жонкай. Паміж імі на канапе ляжаў білет, таямніча адліваў у святле трох бутонаў пад столлю глянцавым жоўтым. На гэтым жоўтым роўнымі шэрагамі цягнуліся лічбы — спрэс знакавыя, спрэс чароўныя. Шаснаццатага чэрвеня малады Андрэй Сямёнавіч упершыню пабачыў Юлечку ў парку — з моднай амерыканскай фрызурай, у польскай сукенцы, з італьянскай торбачкай і мілым беларускім носікам-бульбінкай. А Юлечка пабачыла кашчаватага студэнта ў агромністых акулярах і бацькавым строгім касцюме — якраз з іспыту вяртаўся. Трыццаць чатыры гады разам, тут, у пяцьдзясят восьмай кватэры. Восемдзесят шэсць прыступак ад ганка да іх дзвярэй. Трэці трамвай возіць Андрэя Сямёнавіча на працу ў сваім металічным чэраве.

Адным словам, усё знакі, усё сэнсы, усё — прывязкі да іх жыцця. Прагаворваючы кожную лічбу ўголас, паўтараючы між сабою, яны нібы прычароўвалі ўдачу да свайго білета. Звязвалі заяўлены на ільснянай паперцы выйгрыш з сабой.

— А вось памятаеш…

— А ты памятаеш…

Як выявілася, яны шмат чаго памяталі разам — палову адзін і палову другі. І цяпер склейвалі ўспаміны, як ашчадныя гаспадыні склейваюць паловы кубачка з любімага кітайскага сервіза.

Тыдзень прамінуў незаўважна. Сядзелі ўтраіх (з білетам) на канапе, пад спевы сірэн будавалі каляровыя мары.

— А вось калі ўсё-такі кватэра, гэтую можна будзе здаць, а самім…

— А калі машына, дык я таксама на правы вывучуся…

Запаветная нядзеля надышла хутка, нават занадта хутка. Радасныя, святочныя — Юлечка з завіўкай, Андрэй Сямёнавіч пры гальштуку — селі. Глядзелі і слухалі, амаль не дыхаючы, толькі тоўстыя пальцы Андрэя Сямёнавіча з намёртва ўплаўленым у безыменны пярсцёнкам нервова стукалі па канапе. Адна з сірэн, вусцішна ўсміхаючыся, цягнула лічбы з вялікага меха і, быццам назнарок, быццам здзекваючыся, увесь час то недадавала, то перабольшвала:

— Трыццаць тры! Восемдзесят сем! Чатыры!..

Юлечка хмурылася, Андрэй Сямёнавіч увабраў галаву ў плечы. І зусім не здзівіўся, калі пасля апошняй лічбы («Пятнаццаць!») жонка рэзка падскочыла, карцінна рванула білет напалам і збегла ў кухню. І ўжо адтуль, шумна перасоўваючы посуд, загаварыла, устаючы на звыклыя рэйкі:

— …жыццё паламаў! Білеты ён купляе… Ды хто ж табе тую кватэру дасць, ды ты ж паглядзі на сябе ў люстра, ёлуп ты стары! Ды табе б…

Яна толькі-толькі пачала раз'юшвацца, але пачула, як бразнулі дзверы, і спынілася. Высунула галаву з развітымі кудзерамі з кухні, упэўнілася: сышоў.

— Да паскудзіны, — вырашыла Юлечка. І ўпала на табурэт, і галасна заплакала, аціраючы з твару пацёкі фарбы. Калі муж не цэніць усе яе клопаты пра яго, усе яе ахвяры, калі ад жончынага баршчу ён вось так проста сыходзіць да праклятай разлучніцы, — што ж гэта такое атрымліваецца?

— Што… такое? — знясілена вымавіла Юлечка. Дрыготкія вусны крывіліся ад плачу, які скаланаў яе ўсю, і зусім не слухаліся.

Яна думала: вось, калі б тады, у тым сваім дзівосным строі яна прамінула нязграбнага студэнціка і ўсміхнулася таму плячыстаму лейтэнанту. О! Як бы ўсё было інакш! Лейтэнант кахаў бы яе. Пакорліва еў бы боршч. Не купляў дурныя латарэі. Не хлусіў бы, не хаміў ёй. Даслужыўся б, як прыстойны чалавек, да генерала. Не хадзіў бы да паскудзіны.

Юлечка з добрую гадзіну патанала ў жаласці да самой сябе, таму не пачула, як асцярожна адчыніліся дзверы кватэры. І Андрэй Сямёнавіч, што вырас на парозе кухні, — тоўсты, аблезлы, лысы, з крывенькай усмешкай, з дурнымі сваімі вусамі і агромністымі акулярамі — стаў для яе нечаканасцю.

— Лапачка, рыбанька, зайка, — прагаварыў сівавусы юнга, няўмела спрабуючы ўзбудзіць у жонцы любасць жывёльнымі мянушкамі.

Юлечка звяла падмаляваныя бровы. Ад патаптанага сямейнага ачага пахла баршчом, а ў гасцёўні, прыглушаная сцяною, голасна і раздражняльна спявала рэклама.

— Ну? Чаго яшчэ? Мала ты маёй крыві выпіў, монстр?

Вусны ў яе зноў здрадліва задрыжалі, скалануліся плечы. Вельмі шкада стала сябе — не цяперашняй нават, а — той, маладой, у пекнай сукенцы, з моднай торбачкай.

— Зайка, — паўтарыў монстр зніякавела. — Ты… не таго. Не гэтага. А?

На крутыя калені Юлечкі ўпаў, быццам сухі лісток, жоўты глянцавы білет.

За сцяною пелі сірэны.

## Кайданы Гіменея

З год ад Тасіка не было ані званкоў, ані лістоў, і таму стасункі з ім у Бруцкага заставаліся самымі прыязнымі, паводле прынцыпу: «Чым меней кантактаў, тым лепшыя адносіны».

Як вядома, гэтае няхітрае правіла спрацоўвае амаль на ўсіх родных сувязях. Асабліва на тых, калі абое не дужа ўпэўненыя: ці то яго маці даводзіцца вам стрыечнай цёткай, ці то муж яго сястры — пляменнік вашай бабулі. Бруцкі нюансы свайго сваяцтва з Тасікам уяўляў дужа смутна, хаця сам Тасік, пухлы, слязлівы і заўсёды нечым захоплены да прыступаў удушша, меў непрыемную манеру называць Бруцкага «брацікам».

Прыязні, праўда, паменшала, калі адным душным чэрвеньскім вечарам радасны Тасік патэлефанаваў свайму «брацiку», каб ў сціслай саракахвіліннай прамове паведаміць: ажаніўся. Прычым, як кожны бязмерна шчаслівы чалавек, Тасік абавязкова хацеў падзяліцца сваім шчасцем, і проста выслухаць сагу пра выключную ва ўсіх адносінах Люду было недастаткова. Тасік жадаў Люду прадэманстраваць — вывесці на шворцы перад журы, прымусіць скочыць цераз кольцы і даць лапку за драбочак цукру.

З гэтай прычыны Тасік нязмушана запрасіў сам сябе ў госці да Бруцкага, вядома, разам з Людай, і весела развітаўся.

Бруцкі, нахмурыўшыся, слухаў кароткія гудкі ў слухаўцы і напружана спрабаваў знайсці на заўтра нейкую неадкладную справу. Справа на другім тыдні адпачынку ўпарта не знаходзілася, таму спаў Бруцкі дужа кепска, часта прачынаўся, ішоў на кухню піць ваду.

«З'еду з самай раніцы, і сам чорт мне не брат!» — змрочна думаў Бруцкі, ікаючы. Ад адной думкі пра чорта ў Тасіка пакутліва ламіла зубы. Сон, гэты адвечны суцяшальнік усіх няшчасных і хворых душою, зліtаваўся над ім і даў, нарэшце, спачын. Бруцкі спаў, як бервяно, і не сніў нічога.

Абудзіў яго званок у дзверы. Бруцкі падскочыў — калматы, з заспанымі вачыма, з пусткаю ў галаве. Пазяхаючы, пайшоў адчыняць, нават не зірнуўшы ў вочка. Адчыніўшы — павольна адступіў у кватэру. У горле ў яго ссохла, і бліскавічна пранеслася думка: ці не дурны сон?..

Тасік, цалкам рэальны і, як звычайна, слязлівы і пухлы, стаяў перад ім чыста паголены, у строгім чорным строі, з шырокім жоўтым гальштукам, які аніяк не хацеў спакойна легчы і стаяў тарчма.

— Брацік! — расчулена крыкнуў Тасік, патыхаючы некалькімі літрамі адэкалону, і раскрыў абдымкі. Бруцкі баязліва зірнуў за госця, але болей на лесвічнай пляцоўцы нікога не было.

— У цырульню пайшла, — патлумачыў госць, зразумеўшы насцярожаны позірк без слоў. І тут жа пачаў шматслоўна распавядаць, якая прычоска ў Люды была раней, якую яна робіць звычайна, калі ходзіць у госці, і якую вырашыла зрабіць зараз.

— Такая яна ў мяне, — Тасік замілавана ўздыхнуў. За гэтыя дваццаць хвілін, калі ён, не прыпыняючыся, гаварыў, яны з Бруцкім паспелі зайсці ў пакой, прычым далікатны Тасік, перш чым сесці на раскладзеную канапу, вуглом падвярнуў прасціну.

— Значыць, жаніўся, — сказаў Бруцкі, проста каб сказаць хоць што-небудзь, пакуль улазіў у джынсы. Джынсы былі да ўтульнасці зацяганыя, змятыя, з неахайнымі махрамі на калашынах, і на фоне навюткага Тасікава строя глядзеліся ледзь не лахманамі. «Хай бачыць, што ніякіх гасцей я не чакаў», — помсліва думаў Бруцкі і злосна часаў зарослую шчаку.

— Жаніўся, значыць, — рэхам адазваўся Тасік, кашлянуў і шумна пацягнуў носам. — Людачка мая — яна ведаеш, якая?

— Якая? — кісла спытаў Бруцкі, блытаючыся ў кашулі, таксама не асабліва свежай. Тасік, рамантычна ўздыхаючы, завёў вочы на столь.

— Така-а-ая, — адказаў нараспеў. — З ёю, брат, так: тое, тое і тое, без усякіх там. Сёння вось з раніцы мэблю глядзелі, ложак там, столік туалетны. Тады посуд: Люда любіць, каб посуд быў якасны і каб без, значыцца, малюнкаў.

Тасік скасіў вочы ўніз і, крывячы рот, зрабіў некалькі бездапаможных спроб вярнуць гальштук на належнае месца. Але ўпарты прадмет туалету вытыркаў па-ранейшаму, перамагаючы гравітацыю і здаровы сэнс.

— Гальштукаў мне купіла, — сказаў Тасік, кінуўшы свае намаганні. — Бач, які? Яркі, праўда?

Бруцкі паківаў. Гальштук сапраўды быў яркі — настолькі, што сляпіў вочы. Адвядзеш позірк — а перад вачыма ўсё яшчэ скачуць кіслотныя колы.

— А касцюм! — голасна захапляўся Тасік далей. — Бачыш, які касцюм? Яна выбірала, сама. Уласнымі ручкамі.

— Бачу, — пакарыўся Бруцкі. — Сапраўды, касцюм. У палосачку, здаецца.

— У палосачку, брат, — Тасік падскочыў, быццам мячык, пакруціўся, як мадэль на подыуме, што трохі не клеілася з яго габарытамі. — Бачыш, які крой? Вузкавата месцамі, канечне, і ў паху рэжа, затое выгляд прыстойны.

— Вядома, — пагадзіўся Бруцкі. — І выгляд.

Тасік уздыхнуў і пакруціў ззяйкі гузік на пінжаку. Паглядзеў на гадзіннік на руцэ, наморшчыў лоб, робячы нейкія патаемныя разлікі. Пасля зірнуў спадылба на Бруцкага, пажаваў вусны.

— А што? — запытаў Тасік нясмела. — У вас тут… кавярня на першым паверсе яшчэ… маецца?

Бруцкі падняў бровы.

— Хадзем вып’ем, — мовіў Тасік. І пасля паўзы змушана дадаў, зноў пакруціўшы гузік: — …чаю. Люда мяне цяпер увесь час поіць зялёным чаем. Вельмі хараша для здароўя. Вельмі.

У кавярні, аддзеленай ад прадуктовай крамы сімвалічнай перагародкай, было пуставата. Трое заўзятараў (усе — з характэрным трэмарам рук) голасна абмяркоўвалі праблему глабальнага пацяплення. Час ад часу хтосьці з іх, зладзеявата страляючы вачыма, нагінаўся пад стол, «храбусцеў» пластыкавым пакетам — і, прыкрываючы рот тыльным бокам далоні, таропка вяртаўся да таварышаў. Дыскусія пасля гэтага накалялася, нягледзячы на некаторую бязладнасць маўлення.

Бруцкі, які не паспеў паснедаць, узяў сабе чорнай кавы і бутэрброд з вяндлінай. Тасік, горка ўсміхаючыся, з драматычным надрывам папрасіў зялёнага чаю і ўжо за сталом, падціснуўшы вусны, меланхалічна сузіраў, як патанае ў кіпені пакецік.

— …яна ж пра мяне клапоціцца, — загаварыў Тасік. — Разумееш, брат? Пра мяне. Чай вось такі падбадзёрвае лепш за каву. А, скажам, вегетарыянства — гэта натуральны лад жыцця для разумнага чалавека.

На гэтых словах у Тасіка вельмі натуральна падаў голас страўнік. Бутэрброд засеў у Бруцкага ў горле.

— Я спачатку быў супраць, — казаў Тасік далей. — Думаў, не маё гэта ўсё. Ты ж ведаеш, як я сала люблю. І шынку. Але Люда — яна такая. У яе тое, тое і тое, без усякіх там… розных. Ага.

— Угу, — азваўся Бруцкі, спрабуючы прапхнуць бутэрброд далей хоць каўтком кавы.

— Алкаголь — атрута, — Тасік засяроджана тапіў чайны пакецік пластыкавай лыжачкай. — Соль, цукар там... Глютэны… ведаеш, колькі ў хлебе гэтых розных глютэнаў?

Бруцкі пахітаў галавой. Тасік саркастычна ўсміхнуўся.

А Люда — ведала. Таму што Люда — клапоціцца. І не толькі пра харчаванне ды адзенне, але і пра патрэбы духоўныя.

— На ёгу мяне запісала, — распавядаў Тасік. — Такое шчасце. Такая лёгкасць. Ходзім туды тры разы на тыдзень. Два вечары — на сальсу. Адзін раз, па пятніцах, — на лева… правапаўшарнае маляванне.

Бруцкі толькі прысвіснуў. Тасік, якога ён ведаў (у асноўным — па вяселлях ці хаўтурах сваякоў) больш, чым танцы, ненавідзеў толькі салацікі без мяса і сямейныя сустрэчы без выпіўкі. І быў абсалютна няздатны маляваць — ні левым, ні правым паўшар'ем.

— А па суб-б-ботах, — пахмурна працягваў Тасік, сціскаючы бязвінную лыжачку ў кулаку. — Па суботах мы… на веласіпедах… ездзім… за горадам!..

Храбусь! Гэта не вытрымала патэтыкі, трэснуўшы напалам, няшчасная лыжачка.

— Такое шчасце, — коратка і злосна падсумаваў Тасік. Закасаў рукаў, агаліўшы круглую руку, густа зарослую рудаватым валоссем, да локця, паказаў Бруцкаму. На светлай скуры вылучаліся кепска замазаныя зялёнкай глыбокія драпіны.

— Люда? — уразіўся Бруцкі.

— Кот, — суха выправіў Тасік. — Кот у яе, я табе скажу… Брытанец. Морда — шырэйшая за маю. Мяса жарэ, скаціна. Сядзім на канапе, я — Людку абняць, а ён як…

Тасік пачасаў вуха і з нянавісцю паглядзеў на белы пластыкавы кубачак з зялёным чаем. Паспрабаваў паправіць неўтаймаваны гальштук, зноў нічога не дамогся і раптам, сціснуўшы зубы, рвануў гальштук з шыі — ажно затрашчаў штучны шоўк.

Сонная прадаўшчыца, уладарка ўсіх даброт кавярні пры краме, прадала ім пляшку каньяку. Тасік, набычыўшыся, крыкліва папрасіў яшчэ і бутэрбродаў з вяндлінай. Еў прагна, захлынаючыся слінай, пэцкаючы маслам твар і рукі, і вочы таксама зрабіліся масленымі.

— За каханне? — спытаў Бруцкі, падсоўваючы Тасіку шклянку. Падумаў і няўпэўнена прапанаваў: — За… Людмілу?

Словы замерлі ў Бруцкага на вуснах ад Тасікава сталёвага позірку.

— За свабоду! — выгукнуў Тасік і выпіў залпам.

Не чокаючыся.

насьць



**нарадзілася 21 студзеня 1995 года ў вёсцы Страдубка Лоеўскага раёна. Скончыла філфак ГДУ імя Ф. Скарыны. Навучаецца ў магістратуры БДУ і жыве ў Мінску. Аматарка сапраўднай літаратуры, атмасфернага фота, чароўнай музыкі, жывых людзей і рыжых катоў.**

## Калодзеж сэрца

***

На свет які стварaеш у сэрцы
Абавязкова трэба аформіць патэнт

На 20 гадоў калі твой свет — вынаходніцтва
На 10 — калі прамысловы ўзор
На 5 — калі карысная мадэль (але гэта наўрад ці)

Патэнт каб чужакі не разабралі
Твой свет на кавалкі
Каб не раструшчылі твае пункціры горы і акіяны

Пасля таго як памрэ сэрца
Яшчэ цэлых 50 гадоў
Ты можаш лічыць сябе стваральнікам свайго свету
Бо потым яго
Разгрызуць чужакі
Разнясуць
Як «общественное достояние»

***

Заплюшчы вочы
Глядзі на чужы боль
Ён даўно ўнутры
Ён даўно не просіць літасці
Займайся калекцыяніраваннем
чужых пакут —
Ты ўсё гэта бачыў
Ты ўсё гэта бачыла
Толькі не тут
Не ў гэтай рэчаіснасці
Не ў гэтай «сапраўднасці»

### Невыносна

Глядзі як пад столлю збіраюцца страхі
Летуценна забіваюцца ў павуцінне і скуголяць
Выкручваюцца вырываюцца выкрываюцца
Усё што ты можаш — заплюшчыць вочы
І застацца

## Не шніткай

«— Хто ж тады ў вас тут роў?
*— Не ведаю. Хаця здагадваюся. Можа, Шнітке?*
<…>
*— Ну, ладна, пайду. А ты не шніткай тут больш, добра?»*
***А. Бахарэвіч «Дзеці Аліндаркі»***

«Не шніткай!»
Крычала бабуля — суседка злева
«Не шніткай — грошай не будзе!»
Ляцела зверху
«Не шніткай! Разумная ж дзеўка!
Свякроўцы пашчасціць!»
«Не шніткай!
Куды ты пайшла?
Там такооооое нянасце…
Не шніткай — памрэш!
Палысееш!
Схуднееш!
Дзіця не народзіш!
Пасля акалееш!
Загнешся пад плотам!
На рак захварэеш!
Не шніткай!
Калі ты ўжо пасталееш?»

А снег
Усё падае падае падае
Падае снег
Схавай мяне снег
Зачаруй сваім харастволм
Не шніткай
Не шніткай
Яны не палюбяць цябе
А я
Усё падаю падаю падаю ў столь
Да Шнітке да сонца
Туды дзе мая любоў
Да снегу да дотыкаў неба
У прывідны штыль
Не шніткай не шніткай
А то ўпадзеш і ты

***

Сёння
Злавіла сябе на думцы
Якім будзе наш дом
Сэрца ў грудзі
Бам
Бом

Гэта не жарты
Калі я сяджу ля акна
І лаўлю снег
Гэта не жарты
Калі я баюся
Што прыйдзе смерць

Не мая
Але бокам кране
Так нібы наўздагон
Мама і тата
Руды кот
Дом

А пасля руіны
Пасля уварвецца канец
Сэрца спыняе аднойчы
Шалёны працэс
Выйду пад снег
Упаду у яго з галавой
Думкі збялелі

Што будзе
Са мной і табой

***

Сабакі брахалі што косткі мае нясмачныя
Галіны на поўню закідвалі маю скуру
Вачамі давілася сонца нават не бачыла
Адценняў сусвету бо промні змянілі фактуру
Пра смерць не пішы пра забойства таксама не варта
Адрэж сабе рукі але не па лініях вен
Мы любім прыгожае добрае светлае і няўпартае
Пазбаў нас крыві мы не любім крывавых сцэн
Сабакі брахалі што чэрап мой быў расколаты
Галіны на восень прыдбалі мышцы мае
Мне сонца прагрызла грудзі сваім золатам
З тых пор адтуль выцякае радкоў аер

***

у дзяцінстве
я бачыла іх
яны былі
маладыя
галінка да галінкі
лісток да лістка
плот
страха
птушкі
блакіт неба
яны маглі даскокнуць
да кучаравага воблака
і не памыліцца
ў сваім выбары
бо ім не бракавала
гнуткасці
ценю
празрысты выдых
калодзеж сэрца

кожнае лета
я станаўлюся маленькай
травінкай
і вагаюся
ў іх руках

***

рэбры
што зноўку знутры
агортваюць
цені лёгкіх
рэбры
што доўгімі пальцамі
мацаюць сэрца
рэбры
здаецца
мне больш анічога
не засталося
апроч як схавацца
у вашых дарогах
пагорках

рэбры
штораніцы промні
выпростваюць
рэбры
штоночы сціскаюць
вантробы
ахвяры
рэбры
што сніліся мне
што
рэбры далёка
што скажаце вы
пакуль вы на
месцы

***

Я намацваю пальцамі грукат зорак
Паглядзі як яны ўсміхаюцца
Да таго як згаснуць
Вецце згорбленых дрэў
Лезе ў маё сэрца
Шамаціць
Доўга і непрыстойна
Хіба дзеля гэтага мы былі народжаны
Мой маленькі прынц
Маё несумненнае шчасце
Гэта ты

**Марына**

Марскія хвалі марна паміраюць,
дарма хмары марынуюць свае мары.

Марына — гучыць смачна.
Асабліва калі маніць марка ці марыхуана.
Тады камары — марыянеткі на арэне,
тады манка нібы маліна.
Тады Мара рызыкуе параніцца.

Гары, гары, гары, Марына!
Ніякі мароз не замарудзіць лямант сэрца.

Ніякіх арыштаў і падманаў у Сан-Марына.
Марак застанецца на субмарыне.
Нарывы яго стануць нарысам.
Рыба рынецца ў марш.
Але працягне маўчаць.

Мандарыны — малюнкі маякоў.
Марына — святло неардынарных гарызонтаў.
І ніякія фарбы не замаскіруюць
маланку ў цемры.

***

разам з промнямі
з майго мора крыві
вынырвае бог
азіраецца па вуглах
маёй камеры
у яго вачах чытаецца
прорва вечнасці
якую абрынулі
на лёгкасць імгнення

мне падабаецца
маўчаць і лавіць сполахі
свайго сэрца

працягваю далоні
{мора ўсё глыбей і глыбей}
прыліў

**экспрэсія №0**

тое што важней за словы
захрасла недзе на прамежку паміж лёгкімі
крыху збочыўшы з трасы сэрца
калі ласка трымайся за поручні
калі чарговы цягнік
расстаўляе кропкі над расстаннем і вечнасцю
калі вецер шапоча на вуха
«апранайся цяплей
табе будзе бракаваць цеплыні гэтых рук
наступныя бяздонныя дні
наступныя бязважкія ночы»
і памятай
тое што важней за словы
пільнуе цябе
прарастаючы новым жыццёваабавязковым органам
назаўжды
аддаючы сябе
тваёй існасці

***

маўклівасць адбіваецца ад сцен
і ляціць у восень
я — прывід што на некаторы час
атрымаў у падарунак цялеснасць

толькі тады калі рукі адчуваюць рукі
магчыма дыхаць
толькі тады калі прыпаўзае цемра
магчыма адчуваць

унутраныя дэманы кажуць
трэба вяртацца да творчасці
унутраныя дэманы
якія сядзяць па той бок шкла

згусткі сонца разляцеліся па зімах
згусткі цеплыні засталіся ў іншым свеце



Алёна Беланожка

# Зорка Ракхігархі

*Аповесць*

(Працяг. Пачатак у № 10 за 2017 г.)

*Любыя супадзенні з рэальнымі падзеямі і персанажамі — выпадковыя.*

Многія тысячагоддзі таму назад на поўначы Індастана квітнела вялікая, шумная, рознагалосая цывілізацыя. Дзясяткі гарадоў і мястэчак у зялёных далінах рэк гулі, як пчаліныя вуллі. Іх жыхары вырошчвалі рыс на палях і фрукты ў пышных садах, выраблялі посуд і яркія тканіны, гандлявалі, маліліся сваім шматлікім багам, радаваліся сонцу і шырока адзначалі святы.

На ўсход ад Харапы і Ганверывалы, на беразе паўнаводнай ракі Сарасваці непрыступнай крэпасцю ўзвышаўся вялікі і моцны горад Ракхігархі. Веліччу сваёй ён пераўзыходзіў славутую Харапу, а прыгажосцю — пекную Ганверывалу, і не было яму роўных паміж іншымі ў стойкасці і воінскай славе. У фантанах Ракхігархі біла празрыстая вада, галіны дрэў нізка хіліліся пад цяжарам спелых персікаў, гнуткія вінаградныя лозы абдымалі беласнежныя сцены дамоў, па брукаваных вуліцах са смехам бегалі дзеці. На вялікім кірмашы ішоў бойкі гандаль — зерне, футры, мёд, прыправы, тонкі шоўк, срэбра і золата — усяго было ў дастатку: жыхары ні ў чым не мелі патрэбы! Яны вучыліся, працавалі, ладзілі вяселлі, практыкаваліся ў воінскай справе, шанавалі продкаў і любілі жыццё!

Ніхто не мог узяць Ракхігархі прыступам, ні перад кім не станавіліся на калені яго гордыя і мужныя жыхары. Іх аберагалі богі і магутны талісман — сэрца горада, моцная энергія, непераадольная сіла, перад якой схіляліся нават самыя неўтаймаваныя ворагі. Цягам тысячагоддзяў ні адзін каменьчык не ўпаў з гарадскіх сцен Ракхігархі, а таямнічыя веды пра ахоўны талісман перадаваліся жыхарамі з пакалення ў пакаленне як самы цэнны скарб. Толькі самым адважным, шчырым і справядлівым воінам талісман даваў уладу над сабой.

Аднак аднойчы здарылася бяда: на паўвостраве пачалася страшная, кровапралітная вайна. Цемра прыйшла з боку акіяна, навісла, як чорная хмара, праглынула сонца, з громам пайшла па зямлі. Людзям ніколі не сустракалі раней такога магутнага ворага. Зброя неверагоднай моцы разбурала горы, высушвала рэкі, адным подыхам сцірала з зямлі велічныя гарады.

Не адзін год змагаліся жыхары зямлі і нябёсаў. Назаўсёды зніклі Балакот і Дхалавіра, вогненны смерч знішчыў Наўшару, загінула ў смяротным полымі Харапа, ператварылася ў попел квітнеючая Ганверывала… На апошнім рубяжы перад Ракхігархі палі Банавалі і Калібанган.

Ракхігархі змагаўся, пакуль яго абаронцы маглі трымаць зброю. Калі загінуў апошні воін, жыхары надзейна схавалі самае каштоўнае, што ў іх было — сэрца горада, і мужна сустрэлі сваю смерць.

Захопнікі ішлі шчыльнымі радамі па гарачых руінах горада. Яны шукалі скарб не адзін дзень, але знайсці яго так і не змаглі. Раз'ятраныя ворагі змалолі рэшткі горада ў пыл — і вярнуліся туды, адкуль прыйшлі.

Мінуў час. Руіны гарадоў занясло пяском, не засталося нават успамінаў пра іх былую прыгажосць і веліч. Квітнелі і гінулі магутныя цывілізацыі — Старажытны Егіпет, Старажытная Грэцыя, Вялікая Рымская імперыя…

І вось нарэшце з'явіўся той, каму было наканавана застацца ў памяці людзей адным з самых вялікіх воінаў і бязлітасных захопнікаў — Тамерлан.

Яшчэ хлопчыкам ён пачуў старадаўнюю легенду пра непакорны горад і яго моцны талісман і вырашыў любой цаной знайсці яго. Не ведаючы назву горада, але ведаючы, што знаходзіцца ён на поўдні ад Гіндукуша, Тамерлан узяўся за ажыццяўленне сваёй мары.

Адзін за адным яму скараліся гарады, але Тамерлан упарта ішоў на поўдзень. Ён шукаў той легендарны талісман, што некалі абараняў горад Ракхігархі. І знайшоў яго — глыбока пад пяскамі, у старажытных падземных катакомбах, куды многія тысячагоддзі не ступала нага чалавека.

Тамерлан добра ведаў, чым завалодаў. Гэта быў не проста талісман, а магутная зброя непераможнай сілы, якая магла паставіць на калені ўсё чалавецтва!

Усе вялікія людзі маюць ворагаў. Былі яны і ў Тамерлана. Аднак самым небяспечным ворагам вялікага воіна стаў той, хто быў абавязаны яму тронам, — хан Залатой Арды Тахтамыш. Былы таварыш, паплечнік у бітвах выступіў супраць свайго сябра. Тахтамыш не мог адолець Тамерлана, ды і не гэтага ён жадаў. Адзінае, чаго ён прагнуў, — здабыць той самы каштоўны трафей, што Тамерлан знайшоў падчас Індыйскага паходу.

Людзям Тахтамыша ўдалося ўсыпіць пільнасць ахоўнікаў Тамерлана. Талісман старажытнага горада апынуўся ў руках Тахтамыша, але што з ім рабіць, хан не ведаў.

Тамерлан даведаўся пра кражу. Ён пакляўся забіць Тахтамыша і вярнуць сабе каштоўнасць і кінуўся за Тахтамышам наўздагон.

І тады Тахтамыш папрасіў прытулку ў свайго даўняга знаёмцы — Вялікага князя Літоўскага, Рускага і Жамойцкага адважнага Вітаўта. Вітаўт не адмовіў хану і адчыніў для яго і межы княства, і дзверы замка.

Людзі Тамерлана некалькі разоў прарываліся ў замак Вітаўта, але знаходзілі там толькі сваю смерць. Талісман быў надзейна схаваны ад чужых вачэй, а ўсе, хто ведаў, дзе ён знаходзіцца, загінулі.

Тамерлан так і не змог вярнуць сваю бясцэнную знаходку. Неўзабаве ён памёр, а следам смерць забрала і Тахтамыша. Вітаўт жа нават і не здагадваўся, што за скарб схаваны ў таямніцы яго замка.

Аднак ні Тахтамыш, ні Тамерлан не ведалі галоўнага: магутная зброя, якую яны трымалі ў руках, не мае ніякай сілы без таго самага «сэрца», што напаўняла яе энергіяй і прымушала ворагаў дрыжаць. Гэтым сэрцам быў вялікі ружовы дыямент неверагоднай чысціні, празрысты і прамяністы — легендарная Зорка Ракхігархі. Паданні пра яе перадаваліся праз пакаленні. Пра прыгажосць гэтага дыямента хадзілі казачныя гісторыі, яго шукалі даследчыкі з усіх канцоў свету.

І вось аднойчы, зусім выпадкова, Зорка была знойдзена вясковымі хлопчыкамі, якія гулялі ў катакомбах Ракхігархі. Звесткі пра гэта хутка даляцелі да Новага Дэлі.

Але першымі ў вёску прыехалі не археолагі і не даследчыкі. Грузавік з цэлым узводам салдат спыніўся каля дома, дзе жылі бацькі хлопчыкаў. З кабіны выйшаў генерал Шандар Сінгх і загадаў аддаць знаходку яму, каб пад узброенай аховай даставіць яе ў сталіцу. Спалоханыя вяскоўцы паспяшаліся выканаць загад.

Да сталіцы дыямент не даехаў.

Генерал Сінгх афіцыйна заявіў, што камень адпраўлены на экспертызу, і пасля таго як яго ўнікальнасць будзе пацверджана, ён сам перадасць Зорку навукоўцам для далейшага вывучэння.

Праўдай гэта было толькі напалову. Камень быў адпраўлены на экспертызу — толькі вось аддаваць яго вучоным генерал Сінгх не збіраўся.

Шандар Сінгх даўно і ўпарта паляваў на Зорку Ракхігархі. Ён пільна сачыў за ўсімі археалагічнымі знаходкамі, зробленымі вучонымі на руінах старажытных індыйскіх гарадоў. Генерал не адзін год жыцця патраціў на вывучэнне даўніх манускрыптаў, меў стасункі з самымі вядомымі вучонымі-гісторыкамі і лінгвістамі, збіраў старадаўнія карты і артэфакты. Пасля доўгага расследавання ён вынайшаў усё ж, дзе губляюцца сляды магутнай зброі. Адзінае, чаго яму не хапала, — легендарнага дыямента. І цяпер камень патрапіў да яго ў рукі! Заставалася толькі атрымаць саму зброю.

Генерал хутка спакаваў чамаданы, купіў турыстычную пуцёўку і на пачатку зімы паляцеў туды, дзе сыходзіліся ўсе «нітачкі» яго расследавання.

Генерал Сінгх не ведаў, што за ім па слядах ідзе Арджуна Раджарам — малады даследчык, унук знакамітага вучонага Наваратны Шрынівасы Раджарама. Шандар Сінгх неаднойчы звяртаўся да яго дзеда за дапамогай у сваіх пошуках. Спадар Раджарам з радасцю адгукаўся на просьбы аб дапамозе, перакладаў даўнія тэксты, расшыфроўваў знакі… Ён шчыра хацеў, каб чалавецтва зноў атрымала гэты неверагодны артэфакт і скарыстала яго сабе на дабро. Ён і падумаць не мог, якія чорныя думкі выношваў генерал Сінгх!

Між тым Арджуна адразу западозрыў нядобрае. І вось, калі стала вядома, што Зорка Ракхігархі знойдзена, малады Раджарам вырашыў рушыць за генералам і спыніць яго, як бы складана гэта ні было! А заадно, само сабой, атрымаць дыямент. Арджуна жадаў стварыць міжнародны экспертны савет па вывучэнні старажытных артэфактаў. Магутная зброя даўніх продкаў стала б першым і самым галоўным доказам найвышэйшага развіцця старадаўняй цывілізацыі даліны Інда. Магчыма, знаходка адкрыла б для чалавецтва раней невядомыя тэхналогіі і далягляды! О не, такія каштоўнасці не могуць належаць камусьці аднаму!

Таму Арджуна Раджарам таксама купіў білет у далёкую заснежаную краіну і разам з генералам прыляцеў у яе сталіцу. Шандар Сінгх, цалкам паглыблены ў захапляльныя мары аб хуткім заканчэнні пошукаў, нават не заўважыў, што за ім сочаць.

Гэткая неасцярожнасць дорага яму абышлася.

Прыляцеўшы на месца, Арджуна падпільнаваў генерала Сінгха. Ён вылучыў момант, калі той спакойна піў каву ў буфеце, схапіў яго кракадзілавы чамадан і пабег з усіх ног у выпадковым напрамку. Што рабіць далей, ён не ведаў. Першым, што ўзнікла на яго шляху, была аўтастаянка. Ра-джарам падбег да вялікай чорнай машыны — і яна аказалася незачыненай. Арджуна кінуў чамадан у салон, сам схаваўся за плотам, а калі выглянуў, машыны на стаянцы не было. Праўда, ў Арджуны атрымалася запомніць нумар аўтамабіля. Яшчэ некалькі дзён ён правёў у пошуках і потым выпадкова ўбачыў гэтую ж машыну, ноччу палез у багажнік у надзеі знайсці там чамадан. Міма праходзілі людзі, ён ад страху залез унутр і заснуў… Там яго праз тыдзень і знайшла Аліна.

Арджуна скончыў свой расказ і ўважліва паглядзеў на Аліну з Мікітам.

— Ты нічога не прыдумаў, Шахразад? — спытаўся Мікіта.

Арджуна паматляў галавою.

— Ну што ты, Мікіта, такое на цвярозую галаву прыдумаць немагчыма! — сказала Аліна.

— А ты зноўку забылася закрыць «Буцэфала»? — звярнуўся Мікіта да сяброўкі.

— Відаць, — адказала Аліна.

— Ты малайчына, канечне. Аднак і Арджуна малайчына! Які неверагодна складаны і прадуманы план: схапіць чужы чамадан і кінуцца наўцёкі! У чужой краіне! Сярод незнаёмых людзей! — саркастычна прамовіў Мікіта, паглядзеўшы на Арджуну.

Той нешта сумна сказаў.

— Ён гаварыль, што раньш ніколі не краль, — пераклаў Кумар. — Ён не ведаль, што рабіць далей.

— Ну, з гэтым ясна. Ты вось што скажы, Арджунчык, што гэта за зброя такая неверагодная, якую шукае гэты генерал… як яго… Сінгх? — спыталася Аліна.

— Ваджра! — адказаў Арджуна.

— Ваджра. Цікава. Не чула раней.

Мікіта крыху пакорпаўся ў сваім тэлефоне, а затым абвясціў:

— Знайшоў! Значыць… Ваджра ў санскрыце мае некалькі значэнняў: «удар маланкі» і «дыямент». У Тыбеце яе завуць «дорджэ», у Японіі — «конгасё», у Кітаі — «дзіньгансі», у Манголіі —

«ачыр». У індыйскай міфалогіі ваджра — магутная зброя бога Індры, якая можа забіваць без промаху. Пры гэтым яна, як дыямент, заўсёды застаецца цэлай і непашкоджанай, разбурае ўсё, а саму яе нельга знішчыць.

— А гэты… Індра — ён што за бог? — пацікавілася Наташа.

— О, бхагаван Індра! — усклікнуў Кумар. — Ён галоўны, старшы над усімі багамі, бог грому і маланкі, Валадар Сусвету! Ён разбурае крэпасці, наводзіць на неба хмары, дасылае навальніцы, смерчы і буры і спыняе іх, калі захоча! Ён вельмі магутны, непераможны!

Мікіта паглыбіўся ў тэлефон і праз некаторы час зачытаў:

— Індра. Бог бітваў і перамог, зямных і нябесных. Самай вялікай яго бітвай, якая вырашыла лёс Зямлі і Сусвету, з'яўляецца схватка з горным дэманам, магутным гіганцкім цмокам — Урытрам!

Спачатку Урытра скруціўся ў дзевяноста дзевяць колаў на вяршынях гор і перакрыў шлях рэкам, затым праглынуў усю ваду з іх! Пасля ён стаў імкліва расці, адціскаючы сабою Заходні і Усходні акіяны. Урытра ніяк не мог нажэрціся, з'ядаў усё, што было ядомым, і за дзень вырастаў у кожны бок на даўжыню палёту стралы! Ён пагражаў, што праглыне Сусвет, багоў і ўсё жывое!

Нават богі забаяліся гэтага магутнага дэмана і звярнуліся да Індры. Яны малілі Індру ўзначаліць нябеснае воінства і павесці яго на цмока. Сам Брахма заклікаў Індру ўступіць у барацьбу з Урытрам, а Шыва падарыў яму для бою непрабівальныя даспехі.

Перад тым як выйсці на бітву, Індра паставіў перад багамі ўмову: прызнаць яго царом. Богі пагадзіліся. Бог-рамеснік Тваштар выкаваў для Індры «грамавое кап'ё» — ваджру, а Вішну надзяліў гэтую зброю неверагоднай сілай!

— Так! — ускрыкнуў Кумар. — Індра перамог Урытру і зрабіўся Валадаром нябёсаў!

— Дзякуючы ваджры, — заўважыла Аліна. — Цікава, што гэта за зброя такая? Як яна працуе? Як меч джэдая або як бомба?

Мікіта чытаў далей:

— Прынцып дзеяння ваджры заснаваны на фарміраванні тарсіённых палёў, пераўтварэнні розных відаў энергіі навакольнага асяроддзя і факусіраванні іх на спіне.

— Што? — перапыталася Аліна.

— Спіне. Тут цэлая спасылка на падручнік па фізіцы!

— Не трэба фізікі, я гуманітарый! Давай далей.

— Ваджра вырабляецца з электраправодзячага матэрыялу. Металы ўтрымліваюць дастатковую колькасць свабодных электронаў, якімі лёгка ўпраўляць. А ў тарсіённых тэхналогіях гэтыя электроны працей за ўсё паддаюцца пераарыенціроўцы і выкарыстанню іх круцільнага — спінавага — моманту для рэалізацыі мэт, зададзеных аператарам. Падумаць толькі: «аператар ваджры»!

— Ясна. Ваджру вырабляюць з металу! — сказала Аліна.

— Колькасць пялёсткаў у ваджры звычайна ад двух да шасці, а колькасць вібратараў-выпраменьвальнікаў — ад аднаго да бесканечнасці! Дзясяткі ваджраў, запушчаныя адначасова, могуць разарваць і разрэзаць велізарныя масівы рэчываў!

— Пакажы-ка, як ваджры выглядаюць! — папрасіла Аліна сябра.

Мікіта разгарнуў перад ёй выявы ваджраў розных памераў і фасонаў:

— Глядзі, колькі іх! Вось у гэтай — пялёсткі разведзеныя ў розныя бакі, а ў гэтай — замкнутыя, каб утварыць тонкі прамень. Вось гэта, напісана, са званочкам для імітацыі аўдыёвібрацыі мантр запуску. Ёсць з галовамі і тварамі ваджрасатваў — імі ствараюць асобы і розумы! А во, глядзі: ваджра з ручкай, каб чалавек мог на ёй лётаць. А калі ў ваджры ёсць стрыжань у накірунку прамня, то такой ваджрай можна рэзаць цвёрдую пароду ва ўсіх напрамках і спапяляць лішкі пароды адразу на месцы.

— Нічога сабе! Тут і маленькія, і памерам з цэлы дом! А нашто іх столькі розных?

— Старажытныя крыніцы сцвярджаюць, што ваджрамі богі карысталіся і як інструментам: рэзалі камяні, выраблялі блокі для будаўніцтва гарадоў і храмаў. «Будаўнічая машына» лятала ў паветры і абточвала горы. Увогуле, прызначэнне ваджры вельмі шырокае: анігіляцыя матэрыі — напрыклад, метэарытаў, якія пагражаюць зямлі, або ворагаў разам са зброяй… Рэзка пароды ў будаўнічых мэтах. Тэлепартацыя людзей, рэсурсаў, перадача энергіі, тэлекінэз — перамяшчэнне рэчаў у прасторы, тэлепатыя — чытанне думак любых істот, падключэнне да розуму Сусвету, перадача думак на вялікія адлегласці. Яшчэ лячэнне. Паліроўка энергетыкі тонкіх цел, адсячэнне каналаў, з якіх уцякае энергія… Падрабязна гэтая зброя апісана ў «Махабхараце».

— Усё зразумела! — ускрыкнула Аліна.

— Што табе зразумела?

— У бітве пры Курукшэтры, па падліках, загінула не меней як шэсцьсот мільёнаў чалавек, а іх рэшткі не знойдзены! Усё зразумела: яны анігіліравалі!

Мікіта закаціў вочы:

— Па-мойму, гэта чыстая бязглуздзіца і фантастыка!

— Вось і праверым. Толькі я не зразумела — іх столькі відаў! А наша як выглядае?

Кумар пагаварыў з Арджунам і паведаміў:

— Ваджра, якая абараняла Ракхігархі, — унікальная, зробленая па асаблівай тэхналогіі з выкарыстаннем Зоркі. Пра саму зброю амаль няма згадак, акрамя таго, што дыямент надзяляе ваджру незвычайнымі, проста магічнымі ўласцівасцямі! Гэтая ваджра ўмее ўсё, трансфарміруецца ва ўсіх напрамках у залежнасці ад мэты ўладальніка. Зорка Ракхігархі здольна зрабіць чалавека богам! Генерал Сінгх прыехаў сюды, каб знайсці ваджру і разбудзіць яе! Ён хоча стаць, як Індра, і ўсім гэта толькі нашкодзіць!

— І цяпер генерал Сінгх, хутчэй за ўсё, шукае свой чамаданчык. Крута! — сказаў Мікіта.

— А скажы-тка мне, Арджуна, ці бачыў цябе спадар Сінгх? — спыталася Аліна.

Арджуна паматляў галавой і нешта сказаў.

— Не, — пераклаў Кумар. — Арджуна мяркуе, што генерал не ведае, хто скраў чамаданчык. А яшчэ ён пытаецца, дзе дыямент знаходзіцца цяпер.

— Не турбуйцеся: Зорка ў надзейным месцы, у небяспецы. А што будзе, калі генерал усё-такі выйдзе на нас? — пацікавілася Аліна.

— О-о-о, генерал — вельмі жорсткі чалавек! — адказаў Арджуна па-англійску. — Ён вас заб’е. І вас, і мяне, і Кумара…

Пачуўшы гэта, жыццярадасны Кумар зрабіўся сумным.

А вось Аліна, наадварот, вельмі абрадавалася, напоўнілася проста неверагодным энтузіязмам.

— Клёва! Мы выведзем гэтага генерала на чыстую ваду! Мы яго апярэдзім! Ён у мяне пабачыць! — ускрыкнула яна і кінулася абувацца.

— Ты куды зноў? — насцярожыўся Мікіта.

— Як куды? Ратаваць свет! Хто са мной?

— Не-не-не! Я не хачу! — спалохаўся Кумар. — Можна, я забяру цімбаль і пайду?

— Нельга. У вас практыка. Вы падпісалі паперы, — нагадала Наташа.

Кумар засумаваў яшчэ больш.

— Арджуна, я так думаю, вы таксама са мной, бо ў вас няма выбару. Мікіта, а ты? — Аліна паглядзела на сябра.

— Я не згодны! — ускрыкнуў Мікіта. — Нас усіх заб’юць! А ў мяне яшчэ маюцца справы на гэтым свеце!

— Гэта якія ж, цікава?

— Розныя! Напрыклад, я не пакінуў пасля сябе нашчадкаў!

— Чалавецтва з-за гэтага не скончыць сваё існаванне! Карацей кажучы, ты таксама едзеш з намі.

— Але куды?

— О, у мяне ёсць ідэальны план!

— То паведамі, калі ласка, нам яго дэталі!

Аліна абматала шалік вакол шыі і сказала:

— Трэба знайсці ваджру першымі.

Мікіта пачасаў лоб.

— Ну і дзе ты сабралася яе шукаць? Куды едзем? У Самарканд? Ісламабад? Можа, у Кішынёў?

— Не ўпэўнена, што Тахтамышу даводзілася бываць у Кішынёве. Лепей скажы мне, аміга, дзе знаходзілася рэзідэнцыя князя Вітаўта?

— Э-э… Ты маеш на ўвазе — самая любімая? У Старым Замку ў Гродне.

— Ну вось, ты сам адказаў на сваё пытанне. Дарэчы, я тут праглядала прэсу і вось што вычытала: з год таму назад у гэтым замку ўсё заварушылася, былі арганізаваны раскопкі, студэнты-практыканты шмат чаго пазнаходзілі…

— Ага. Вось вам і выстава «Спадчына Вітаўта»! — сказаў Мікіта.

Аліна павярнулася да сакратаркі:

— Наташа, ці захавалася ў нас запрашэнне на баль у Гародні?

— Так, Аліна Мікалаеўна!

— Значыць, адкрывай свой нататнічак і запісвай: купіць бальныя сукенкі для дзяўчат і фракі для хлопцаў…

— Які ўзрост дзяўчат? — удакладніла Наташа.

— Дваццаць пяць гадоў! Табе і мне, Наташа, купіць сукенкі, а фракі — цымбалісту, маладому навукоўцу і нашаму ўпартаму рэжысёру — усіх апрануць як след, каб мы не выглядалі, як гоп-кампанія з-пад крамы! Баль праз некалькі дзён, пастарайся паспець!

— Ура! Мы едзем на баль! — ускрыкнула радасна дзяўчына.

— І на адкрыццё выставы. Кумар падрыхтуе прыгожы нумар у якасці творчага навагодняга падарунка. Так, Кумар? Будзеш граць і спяваць на балі?

— Я пра каханне магу! — адказаў Кумар.

— Добра, Кумар, няхай будзе пра каханне! Але перш чым ехаць на баль, я хачу зрабіць адзін важны візіт…

У дзверы пастукалі. Хударлявы хлопец зазірнуў у кабінет і спытаўся, цяжка дыхаючы і папраўляючы запацелыя акуляры:

— Паштовая дастаўка, хто прыме і распішацца?

— А што там у вас? — пацікавілася Наташа.

— Э-э-э… — хлопец працёр акуляры і прачытаў надпіс на этыкетцы. — Бог Крышна бронзавы, адна штука.

— О, гэта для мяне! — абрадавалася Аліна. — Давайце-ка, давайце яго сюды хутчэй!

Аліна паставіла свой подпіс на бланку, развіталася з кур’ерам і ўцягнула ў цэнтр кабінета аб’ёмістую драўляную скрыню.

— Шаноўнае спадарства, я купіла нам Крышну! — абвясціла дырэктарка.

Узброіўшыся нажом і відэльцам, яна ўскрыла скрыню, а затым пачала крышыць пенапласт: Крышна быў запакаваны вельмі добрасумленна. Хутка персідскі дыван на падлозе пакрыўся белымі скрыпучымі крошкамі, а перад вачамі прысутных, і праўда, паўстала бронзавая выява індыйскага бога.

Арджуна і Кумар склалі рукі і пачалі маліцца.

Мікіта пацікавіўся:

— А нашто гэты Крышна нам патрэбны?

— Хай будзе! — адказала яму сяброўка. — Беражэ ад сурокаў, і ведаеце што, у мяне ёсць некалькі інтымных просьб, з якімі я да нашага праваслаўнага Божанькі звярнуцца не магу, — сорамна.

— Ух, ты! Гэта што ж за просьбы такія?

— Больш за ўсё яны датычацца атрымання фізічнай асалоды. Наташа!

— Так, Аліна Мікалаеўна?

— А дзе гэта наш бюст Уга Чавеса?

— Той, што нам прэзентавала венесуэльская дэлегацыя? Бюст мы падарылі паслу ЗША, а мармуровы пастамент з-пад яго на складзе стаіць. Моцны, якасны, цалёханькі.

— Бяры Арджуну і Кумара ды цягніце гэты пастамент сюды. Будзем усталёўваць Крышну.

Праз дзесяць хвілін чырвоныя і мокрыя індыйскія сябры ўцягнулі ў кабінет той самы мармуровы пастамент.

— Цяпер Крышну! — скамандавала Наташа.

Арджуна і Кумар паднатужыліся, адарвалі Крышну ад падлогі і ўсталявалі яго на пачэснае месца.

— Божухна! Як быццам так і было задумана! — Аліна прыхіліла да Крышны іконку з бабулінай хаты. — Во. Каб быў падвоены эфект!

— Трэба кветкі і лямпу, і салодкі дым, — сказаў Кумар.

— Гэтым зоймецца Наташа, — сказала Аліна. — Мілая, пагуглі там, як правільна абставіць бажаство! А нам трэба ехаць!

— Пачакайце! — крыкнула Наташа.

Яна выбегла ў прыёмную і прынесла шапку-вушанку, валёнкі, цёплую куртку і рукавіцы.

— Гэта я ў касцюмернай знайшла, — сказала яна. — Хай Арджуна апранецца, а то здубее пры нашым надвор'і!

Сакратарка дапамагла Раджараму апрануцца і завязала на яго шыі свой ружовы шалік.

— Якая ты харошая! — з захапленнем сказаў Кумар.

— Вяртайцеся хутчэй! — адказала Наташа і расчырванелася.

Стары Замак дыхаў даўнінай. Больш як дзесяць стагоддзяў стаяў ён над Нёманам — маўклівы сведка вялікіх перамог, непазбежнай змены эпох і незваротнай імклівасці часу.

Самы першы замак быў пабудаваны ў вусці ракі Гараднічанкі. Ён быў цалкам драўляны, пах смалой і лесам. Светлавалосыя яснавокія хлопчыкі і дзяўчынкі прыбягалі да яго сцен, каб паглядзець, як воіны востраць зброю, збіраючыся ў паходы. Баявыя коні пілі празрыстую рачную ваду, фыркалі, трэслі шаўковымі грывамі, білі капытамі, і ва ўсе бакі разляталіся зіхатлівыя, нібы самацветы, халодныя пырскі!

Крэпасць стаяла на заходнім рубяжы краю. Суровыя ваяўнічыя чужынцы неаднойчы намагаліся ўзяць горад сілай, абрабаваць яго жыхароў. Стары замак выгараў дашчэнту, але зноў вырастаў — высокі, светлы, непакорны! Ён цягнуўся вежамі да неба, а сонца пяшчотна цалавала яго цёплыя смалістыя сцены!

Час ляцеў. Горад рос, мацнеў і хутка ўвайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. На захадзе ўзнікла новая пагроза — крыжаносцы. Цёмнай хмарай, лязгаючы зброяй і даспехамі, прарываліся яны на ўсход, пакідаючы за сабой рэкі крыві. Не адзін і не два разы замак адбіваў іх набегі. Абаронцы горада збудавалі для гэтага магутную каменную вежу.

І вось уладаром замка стаў князь Вітаўт. Ён зрабіў крэпасць сваёй галоўнай рэзідэнцыяй. Падчас аблогі замка вялікім Ягайлам замак зноў амаль цалкам загінуў у агні. Вітаўт не стаў сумаваць і

адбудаваў на высокім беразе Нёмана магутны каменны палац з пяццю вежамі. Новыя моцныя сцены былі не па зубах ні крыжаносцам, ні рускім князям.

Час бег. Памёр Вітаўт. Уладары замка змяняліся, і з кожным новым уладаром ён набываў новае аблічча. Побач са старым замкам вырас новы. А потым скончылася эпоха самаўладдзя — і замкавы комплекс ператварыўся ў музей.

Леапольд Францавіч, дырэктар музейнага комплексу, сядзеў за сталом і трымаў у руках асадку. Ён мусіў паставіць подпіс пад перспектыўным планам работы музея на год, але рука ніяк не паднімалася гэта зрабіць.

У плане чорным па белым значыліся пункты: «Колькасць запланаваных экскурсій» і «Колькасць наведвальнікаў, па месяцах». Леапольда Францавіча бянтэжылі два факты: першы — тое, што запланаваць дакладную колькасць будучых наведвальнікаў на год наперад не змаглі б нават Джон Кейсі з бабай Вангай. А напісаць у плане, напрыклад, «каля дзесяці тысяч» не дазвалялі суровыя правілы справаздачы. Да таго ж лічба павінна была быць мінімум на пяць адсоткаў большай, чым мінулагодняя, інакш установа не адзначыцца ростам паказальнікаў, што само па сабе крымінальна і недапушчальна. Кожны год Леапольд Францавіч і яго намеснікі ламалі галовы, дзе знайсці гэтыя пяць адсоткаў наведвальнікаў зверху, бо вядома: хто на выставы ходзіць, той ні адной не прапусціць, а хто не ходзіць, таго ніяк не спакусіш, хоць ты голым танцуй. Голымі танцаваць музейныя работнікі катэгарычна адмаўляліся.

Прыцягнуць наведвальнікаў дапамагла б змена экспазіцыі. Леапольд Францавіч меў вялікія надзеі на тыя знаходкі, што зрабілі студэнты падчас раскопак. Музейная калекцыя ўжо ўзбагацілася дзясяткам-другім бронзавых гузікаў, рэшткамі керамікі, скуранай збруяй са срэбнымі званочкамі і двухзубым відэльцам. Дырэктар спадзяваўся, што самыя каштоўныя знаходкі яшчэ толькі наперадзе, і, можа, недзе там, пад тоўшчай гліны і пяску, чакае свайго часу карона Вітаўта, след якой згубіўся ў тумане даўніны.

Другі факт, які не даваў спакою Леапольду Францавічу, — наведвальнікі. Гэта часцей за ўсё былі спецыяльна арганізаваныя школьнікі. Тут раз на раз не прыходзілася. Часам яны зусім не разумелі розніцы паміж музеем і забаўляльным цэнтрам: шумелі, смяяліся, бегалі па залах, калупалі пальцамі габелены — здавалася, што іх падаслалі ворагі, каб сапсаваць усе экспанаты ды зруйнаваць музей. Пасля кожнай гэткай экскурсіі Леапольд Францавіч піў валідол, а экскурсаводы плакалі ў прыбіральнях.

Кожны год такіх наведвальнікаў павінна было станавіцца на пяць адсоткаў больш. Невыкананне плана пагражала дэпрэміраваннем або нават звальненнем.

Леапольд Францавіч уздыхнуў і кінуў асадку на стол. У яго не было ніякага жадання падпісваць гэты дакумент.

Дырэктар музея паглядзеў на шафу са шклянымі дзверкамі. Там, у шафе, стаяў калекцыйны каньяк у бутэльцы ручнога вырабу, аздобленай скуранымі карункамі.

У Леапольда Францавіча заказытала ў горле. Піць каньяк на працоўным месцы было недапушчальна. Асабліва ў адзіноце. Леапольд Францавіч цяжка ўздыхнуў.

У дзверы пагрукалі.

«Нікога не чакаю. Можа, праверка? — насцярожыўся дырэктар і пачаў успамінаць, у якім напрамку ў гэтым месяцы музей яшчэ не быў правераны. — Пажарныя былі ўчора, санстанцыя — заўчора, спецыялісты па ахове працы прыйдуць заўтра… Інтрыга!»

— Уваходзьце! — гучна прамовіў дырэктар і зрабіў сур’ёзны твар.

У кабінет увайшоў худзенькі немалады чалавек вельмі інтэлігентнага выгляду, у шэрым пінжаку, джынсах і доўгім паласатым шарфе, абмотаным вакол шыі некалькі разоў. Скрозь сівыя валасы на яго галаве прасвечваў акуратны, таксама вельмі інтэлігентны, плешык.

— Прывітанне! — заклапочана сказаў ён.

— Прывітанне, Сцяпан Апалонавіч, — павітаўся дырэктар. — Мы дамаўляліся на адзінаццаць гадзін раніцы, зараз — чатыры гадзіны вечара.

— Так, але ж дзень яшчэ не скончыўся! Я вам так скажу: вам вельмі пашчасціла, што я пагадзіўся ладзіць ваш баль! Мы зробім такі шэдэўр, што вам пазайздросціць і Вялікі тэатр, і Мір, і Нясвіж! — узрушана сказаў Сцяпан Апалонавіч. — Гэта вам не ранішнікі ды елачкі! Гэта маштаб! Феерверк! Нонсэнс!

Сцяпан Апалонавіч працаваў рэжысёрам у адным з раённых культурных цэнтраў. Леапольд Францавіч, магчыма, ніколі б і не пазнаёміўся з ім, і нават не даведаўся б пра яго існаванне, але тыдзень таму назад здарылася сапраўдная катастрофа. Аказалася, што калядны баль у Замку рабіць няма каму: усе лепшыя рэжысёры горада або ўжо заняты ў вялікіх святочных мерапрыемствах, або з'ехалі на міжнародныя фестывалі за мяжу. На дапамогу Леапольду Францавічу, як заўсёды, прыйшло кіраўніцтва: па сваіх каналах яно выйшла на Сцяпана Апалонавіча, які, на шчасце, знаходзіўся ў творчым крызісе і шукаў праект, адпаведны свайму таленту, энергічнасці, светапогляду і статусу. За плячыма Сцяпана Апалонавіча былі сем ранішнікаў, тры канцэрты-рэквіемы, адзін жалобны мітынг, прысвечаны ахвярам Халакоста, а таксама арыгінальная пастаноўка «Гамлет. Почырк генія» з удзелам ансамбля народнай песні «Трашчотачкі». Сцяпан Апалонавіч крыху павагаўся, ці варта яму брацца за такі «сумніўны праект», як баль у гродзенскім замкавым комплексе, аднак, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», усё-такі даў сваю згоду.

Сцяпан Апалонавіч дастаў з унутранай кішэні пінжака некалькі скамечаных аркушаў паперы, паклаў іх на стол і разгладзіў рукавом.

— Значыць, так, — важна пачаў ён і зрабіў тэатральную паўзу, каб Леапольд Францавіч змог ацаніць усю глыбіню і гістарычную значнасць моманту. — Пачнём. Публіка ўваходзіць у залу. На сцэне ўжо стаіць народны хор і сядзіць ансамбль балалаечнікаў.

— Балалаечнікаў? — насцярожыўся Леапольд Францавіч.

— Так! Дзевяць цудоўных хлопцаў, чырвоныя кашулі, чырвоныя боты, балалайкі ад вось такусенькай да во-ось такеннай! — рэжысёр раскінуў рукі ўбок, як птушка Рух. — І вось гучаць фанфары! І тут балалаечнікі нечакана граюць «Русскую плясовую». Затым, калі яны заканчваюць граць, хор спявае «Мно-огая ле-ета!». Выходзяць тэатралізаваныя персанажы: Кацярына II і Іосіф II.

— Хто выходзіць? — не паверыў сваім вушам Леапольд Францавіч.

— Вы што, не ведаеце вялікую імператрыцу Кацярыну II? — жахнуўся Сцяпан Апалонавіч.

— Ведаю, але даруйце, навошта яны з Іосіфам тут выходзяць?

— Каб урачыста адкрыць Рускі Баль! — бескампрамісна абвясціў рэжысёр.

— Рускі. Баль. Сцяпан Апалонавіч… а вы адкуль родам? — Леапольд Францавіч вырашыў зайсці з другога боку.

— Я нарадзіўся ў Бранску, вучыўся ў Смаленску! — горда адказаў рэжысёр.

Дырэктар задуменна пачасаў падбародак.

— А якім ветрам вас на Гродзеншчыну занесла? — спытаўся ён.

— Эх… Закахаўся, кінуў усё — і як у цёмны вір! Эх, ведалі б вы, якія ў мяне ў Бранскім тэатры былі «Тры парсючкі»! Засталіся яны там — Ніначка, Волечка, Таццяна Пятроўна, парсючочкі мае саладзенькія… І ваўчок Эдзік. Ну, карацей кажучы, так і асеў я тут, на Гродзеншчыне. А з жонкай развёўся, на шчасце. Нічога яна ў мастацтве не разумела. Праўда, такія дранікі гатавала — м-м-м… Сумую па яе draniках. Што ўмела, тое ўмела!

— Спачуваю. Аднак вернемся да нашага балю. Зачытайце, калі ласка, што ў вас яшчэ плануецца ў праграме? Паланезы, полькі? Можа, бранль? — паспрабаваў дапамагчы рэжысёру Леапольд Францавіч. З кіраўніцтвам яму сварыцца не хацелася.

— Ну што вы, што вы! Якія полькі? Які бранль? Увогуле, што такое гэты бранль? Вы мяне здзіўляеце! — запярэчыў Сцяпан Апалонавіч. — Чайкоўскі, Рахманінаў, Мусаргскі, два рамансы — пра ямшчыка і туманную раніцу, лыжачнікі, гарманісты і скамарохі — гэта ў першым аддзяленні, а ў другім — лацінаамерыканская праграма, гарачыя мулаткі і карнавал!

У кабінеце павісла паўза. Сцяпан Апалонавіч чакаў захапленняў і кампліментаў. Леапольд Францавіч моўчкі разважаў, як бы падалікатней сфармуляваць свае пажаданні да сцэнарнага плана, у якім не было нават намёку на Вітаўта і яго спадчыну, больш за тое — не мелася згадак і пра культурна-гістарычную спадчыну ўсяго рэгіёна. Дырэктар ажно намок ад старанняў, але ў яго не атрымлівалася аформіць свае думкі ў дыпламатычны тэкст.

Пакуль дырэктар думаў, Сцяпан Апалонавіч засумаваў і пачаў аглядаць памяшканне. Амаль адразу яму на вочы трапілася прыцягальная бутэлька, аздобленая скуранымі карункамі, якая стаяла ў шафе з празрыстымі дзверкамі.

— А гэта ў вас каньячок? — ажывіўся рэжысёр.

— Так, — кіўнуў дырэктар.

— Армянскі?

— Так. Калекцыйны, — адказаў Леапольд Францавіч і канчаткова згубіў ход думак.

— А можна…

— Можна. Я выйду на хвілінку, — дырэктар падняўся і шпарка выйшаў з кабінета, і ў прыёмнай лоб у лоб сутыкнуўся з Алінай, якая бадзёрай хадой накіроўвалася роўна ў супрацьлеглым напрамку, — у кабінет, да Леапольда Францавіча на аўдыенцыю.

— Ой, Леапольд Францавіч, добры дзень, добры дзянёк! — павіталася Аліна і кінулася да дырэктара ў абдымкі.

Леапольд Францавіч ухапіўся за Аліну, як за выратавальны круг.

— Прывітанне, Аліначка, прывітанне! Як жа я рад вас бачыць! — ускрыкнуў ён, і ад празмернасці пачуццяў на яго вачах праступілі слёзы.

— Што з вамі, Леапольд Францавіч? — здзівілася Аліна.

— Ой, не звяртайце ўвагі: алергія на пыл, у нас жа рамонт! Мітусня, грукат, вэрхал! Давайце пройдзем у канферэнц-залу, там мы зможам спакойна паразмаўляць.

Леапольд Францавіч, рашуча ўхапіўшы госцю за стан, павёў яе ў канферэнц-залу.

У зале было прыглушана святло, з-за чаго вакол панавала надзвычай містычная атмасфера. Здавалася, што зараз адусюль пачнуць з'яўляцца і ажываць цені старадаўніх замкавых жыхароў.

У Аліны па спіне прабег халадок. Яна зняла з таліі руку Леапольда Францавіча і ўладкавалася за вялікім сталом у крэсле, што стаяла бліжэй да выхаду. Дырэктар сеў побач.

— Што прывяло вас у нашы мясціны? — са шчырай зацікаўленасцю спытаўся ён. — Ізноў здымкі, фотасесія, выдатная рыцарская атмасфера? Мінулы раз вашы рыцары…

— Праламілі падлогу і выбілі кавалак сцяны! — кіўнула Аліна. — Але ж я ўсё кампенсавала!

— Так, так. І фотавыстава атрымалася проста фантастычнай!

— І коні вашых музейных шляхцянак не пакусалі! Вы дарэмна баяліся.

— Усё роўна без страт не абышлося, — з жалем сказаў дырэктар. — Адна з нашых, як вы кажаце, шляхцянак сышла ў дэкрэтны водпуск. Чакае рыцаронка.

— А-вой! — пляснула ў далоні Аліна. — Якая ж гэта страта, Леапольд Францавіч! Гэта набытак! Хай расце здаравенькім, у рыцарскай арміі будзе папаўненне! У нас цяпер, ведаеце, які ўздым рыцарскага руху?

Аліна ведала, пра што казала. Апошнім часам яна з асаблівай увагай і стараннем вывучала развіццё фестывальнага руху ў родным краі ды бліжэйшым замежжы — у прафесійных, гэтак мовіць, мэтах. Некаторыя тэндэнцыі яе, мякка кажучы, здзіўлялі. Напрыклад, той факт, што

ў краіне пачалі масава з'яўляцца фестывалі рэгіянальнай кухні. Святы бульбы, сыру, сала, агуркоў, яблыкаў, піва, дранікаў, цукерак і іншых прысмакаў множыліся, як апёнкі пасля дажджу, і з кожным разам павялічвалася колькасць наведвальнікаў. Асабліва шмат публікі было там, дзе арганізатары прадугледжвалі маштабныя і, што немалаважна, бясплатныя дэгустацыі прадукцыі. Туды народ ішоў валам і стаяў у даўжэзных чэргах — здавалася, што людзі добра агаладалі, калі у іх ёсць столькі вольнага часу, а галоўнае, цярпення, каб выстойваць па некалькі гадзін дзеля бясплатнага кавалка кілбасы або кубка газіроўкі. Аднак, хто добра знаёмы з беларусам, той разумее, дзе схаваны карані яго спартанскай вытрымкі, абыякавасці да рэзкіх перападаў тэмпературы і надвор'я, а яшчэ — зверскага апетыту ды смагі, якая бывае хіба што ў нявольнікаў пустыні. Чароўнае слова «Халява!» прабуджае ў кожным беларусе проста неверагодную стойкасць.

— Ніякіх бясплатных дэгустацый! Нічога бясплатнага! Хопіць разбэшчваць публіку! — абуралася яна, калі ад каго-небудзь з супрацоўнікаў паступала, здавалася б, самая простая ідэя наконт прыцягнення людзей на мерапрыемства. — Сёння мы ім дадзім бясплатна адно, а заўтра яны ад нас будуць патрабаваць зрабіць бясплатным усё, што ім хочацца атрымаць! Хто сябе паважае, той за бясплатна не працуе! Хоць па тры капейкі, а няхай заплоцяць — хай ведаюць цану, якой даецца шчасце!

На другое месца сярод фестываляў па сваёй колькасці і маштабах правядзення нечакана вырвалася цёмная каняка, на якую ніхто не ставіў, — рыцарскія фэсты. Паўсюль, дзе захаваліся старажытныя замчышчы, нават калі гэта быў адзін падмурак без сцен, пачалі актыўна ладзіцца маштабныя рэканструкцыі сярэднявечных пабоішч. Вядома ж: сытна і бясплатна падсілкаваўшыся на адмысловых фестывалях ежы, можна было смела апранаць рыцарскія даспехі і адпраўляцца ў новы крыжовы паход!

Пакуль для ўдзелу ў рыцарскіх аб'яднаннях не патрабавалася плаціць падатак і мець пры сабе пасведчанне рыцара з фотаздымкам, заверанае ў раённым аддзеле культуры, народ тэрмінова падаваўся ў рыцарства. Юнакі і маладыя мужчыны выраблялі кальчугі з цвікоў, гартавалі мячы і наканечнікі для дзід, упрыгожвалі шлемы пер'ем, а шчыты і харугві — мудрагелістымі эмблемамі. Некаторыя асабліва апантаныя маладзёны вучыліся граць на лютнях або мандалінах. Неарыцары аб'ядноўваліся ў рыцарскія клубы. За імі падцягваліся і пекныя беларускія панны, што даўно знудзіліся па прыгожых мужчынах. Паненкі шылі сабе шляхетныя сукенкі, а сваім высакародным рыцарам — парткі і сарочкі. Усе разам яны ездзілі на фестывалі, дзе можна было скакаць на конях, удзельнічаць у рыцарскіх паядынках, браць штурмам крэпасці і смажыць шашлыкі.

Адны і тыя ж гурты рыцараў здымаліся з месца і, як цыганскія табары, з усімі сваімі пажыткамі — харугвямі, парткамі, паннамі ды мандалінамі — перапаўзалі з адных руін на другія, разбівалі там «палаткавы гарадок», раскладвалі кастрышчы, развешвалі бялізну на вяроўках і шлемы на дзідах.

Сярэднявечныя рыцары здабывалі сабе ў паходах не толькі баявую славу, але і вялікае багацце. Рыцары дваццаць першага стагоддзя зараблялі толькі траўмы і хваробы. Грошай з удзелу ў фестывалях рыцары не мелі, а зараблялі тым, што выступалі на вяселлях і карпаратывах.

Аліна не займалася арганізацыяй рыцарскіх свят і рэканструкцый: у гэтым бізнесе, як і ў пахавальным, усё даўно было падзелена, таму што замчышчаў, вакол якіх была нармальна развіта інфраструктура, у краіне было не дужа багата. Інвесціраваць у руіны дзе-небудзь у лесе, куды тры дні конньмі, тыдзень пехам і ні гатэля, ні нармальнай рэстарацыі, Аліна не жадала. «Мне, каб правесці фэст у цёмным лесе або ў чыстым полі, трэба вакол цэлы горад будаваць! — гаварыла яна, калі Мікіта пачынаў пра гэта размову, а пасля дадавала: — Я на адных біяпрыбіральнях дайду да галечы».

Але калі-нікалі Аліне патрабаваліся рыцары і неперадавальная атмасфера сярэднявечнага замка для разнастайных фота- і відэапраектаў, і тады яна ехала туды, дзе гэтая атмасфера захавалася

лепш за ўсё — у Гродна. На шчасце, Стары замак не быў адрэстаўрыраваны пры дапамозе чырвонай цэглы і шэрага цэменту, не меў неонавай падсветкі і квадратнай кафельнай пліткі ў калідорах і ўвогуле выглядаў так, як мусіць выглядаць сапраўдны замак, а не пернікавы церамок з надпісам «Білеты» справа ад брамы і туалетам — па левую руку ад яе.

— Дзе вы спыніліся, Аліначка? — клапатліва спытаўся Леапольд Францавіч.
— У гатэлі, тут непадалёк, — адказала Аліна.
— Жадаеце кавы або гарбаты?
— Так, не адмоўлюся!

Леапольд Францавіч папрасіў сакратарку згатаваць каву, а сам сеў насупраць Аліны і замаўчаў, не ведаючы, з якога боку прыступіць да размовы.

Аліна пачала першай.

— Прыехала ў Гродна выключна да вас! Атрымала ваша запрашэнне на баль і адкрыццё выставы — і адразу ж прыляцела! Ведаеце, захапляюся слаўнай мінуўшчынай нашай краіны, бліскучай эпохай Вялікага Княства Літоўскага і асабіста князем Вітаўтам… Ён мой кумір! Хачу даведацца, што цікавенькага вы падрыхтавалі для гледачоў…

Леапольд Францавіч пачасаў лоб і сказаў:

— Аліначка, тут такая справа… Я якраз хацеў сам з вамі звязацца. Справа ў тым, што ў праграме балю намячаюцца некаторыя… м-м-м… карэкціроўкі, і ў мяне да вас пытанне: можа, у вас на прыкмеце маюцца цікавыя творчыя калектывы, выканаўцы… нумары! Рыцары, канечне ж… карацей кажучы, тое, што можа стаць упрыгожваннем нашага мерапрыемства. Нешта гэткае, з разыначкай!

— Вой, Леапольд Францавіч! — абрадавалася Аліна. — Калектываў поўна, выканаўцаў багата! Дуды, валынкі, калектывы сярэднявечных танцаў з майстар-класамі, музычныя гурты, і рыцараў вам прывяду якіх пажадаеце, і фаер-шоу, і акрабатаў з факірамі — чакайце…

Аліна набрала нумар на мабільным і ціха сказала ў трубку:

— Наташа, калі ласка, дашлі папку дакументаў «Сярэднявечча» на адрас Замкавага комплексу ў Гродна. Так, прэзентацыйная папка, там жа ёсць і райдары, і фотачкі. — А скончыўшы размову, звярнулася да дырэктара: — Мы вам выслалі дакументы, вы паглядзіце: хто вам падабаецца — той у вас будзе, і заўважце, з вельмі вялікай зніжкай — гэта мой вам навагодні падарунак! Толькі не зацягвайце з выбарам, Каляды — хлебны час нават для рыцараў!

Леапольд Францавіч расплыўся ва ўсмешцы і з палёгкай уздыхнуў:

— Як жа добра, што вы прыехалі! Як мы можам вам аддзячыць?

Леапольд Францавіч кіраваў установай не першы год і добра ведаў, што падарунак нават на капейку цягне за сабой паслугі на мільён. Але цяпер дырэктар быў гатовы амаль на ўсё, каб толькі выратаваць публіку, якая завітае на баль, ад лыжачнікаў ды балалаечнікаў. Аліна задумалася, а падумаўшы, сказала:

— Я б не адмовілася ад індывідуальнай экскурсіі па замку ў вашым выкананні. Згодны?
— Канечне, няма пытанняў! Хоць зараз! І Новы замак пакажу, і Стары, і раскопачкі нашы — усё пабачыце!

Дырэктар ускочыў з крэсла і падаў Аліне руку.

Такой зацікаўленай наведвальніцы і ўдзячнай слухачкі даўно не бачылі сцены Замкавага комплексу! Аліна засыпáла Леапольда Францавіча пытаннямі, совала свой нос у кожную дзірачку, шчылінку і закуточак, з павелічальным шклом разглядала кожны экспанат і музейных работнікаў.

Праз дзве гадзіны зморany і асіплы Леапольд Францавіч прывёў госцю ў галерэю, што знаходзілася на трэцім паверсе Старога замка. Ён абаперся на падаконнік аднаго з вокнаў і ціха сказаў:

— Адсюль адкрываецца добры від на Нёман і яго другі бераг. Дарэчы, там знаходзіцца францысканскі касцёл.

— Клёва! — захапілася Аліна і падышла да акна, але нічога не ўбачыла акрамя сініх снежаньскіх прыцемкаў, праз якія дзе-нідзе праступалі рознакаляровыя зорачкі ліхтароў. — А ў тыя старадаўнія часы можна было патрапіць з замка на той бераг? Тут быў мост або паром?

— Пра мост не магу сказаць дакладна. Плыты, лодкі… — сказаў Леапольд Францавіч.

— Дарэчы! Я чула, што ад Старога замка вядзе на другі бераг Нёмана падземны ход! — як бы мімаходам згадала Аліна.

— О, так! — пацвердзіў Леапольд Францавіч. — Разумееце, Аліначка, аблога замкаў магла доўжыцца не адзін месяц. А воінам трэба было есці, піць, лекаваць раненых, карміць коней, рамантаваць зброю... У тыя часы падземны ход ад замка да ракі, возера або калодзежа быў звычайнай справай.

— Ну і… куды вядзе ход ад замка? — вочы Аліны загарэліся, і ўвогуле ўвесь яе выгляд выказваў шчыры, непадробны інтарэс да такой насычанай экскурсіі.

— Ход вядзе ў касцёл францысканцаў, — адказаў Леапольд Францавіч.

— У касцёл? Як цікава!

— Такое вось… нечаканае супадзенне.

Раптам з вуліцы пачуліся громкія спевы, якія пераходзілі ў крык.

Леапольд Францавіч прыслухаўся, і яго тонкі слых разабраў наступную фразу:

— О-ой, маро-оз, маро-оз, не маро-о-зь мяне-е-е-е! — а следам за ёй нешта зусім непрадказальнае: — Ай, да-ну, да-ну, да-най, дра-да-ну, да-най!

Леапольд Францавіч схапіўся за галаву:

— Забыўся! Я зусім пра яго забыўся!

— Пра каго? — спужалася Аліна.

— Пра Сцяпана Апалонавіча! Я пакінуў яго адзін на адзін з бутэлькай каньяку!

Дырэктар кінуўся ўніз, у двор. Аліна пабегла за ім.

На двары перад уваходам у замак спяваў на ўсё горла і скакаў, не адчуваючы марозу, расхрыстаны Сцяпан Апалонавіч. Заўважыўшы дырэктара і яго спадарожніцу, ён насупіў бровы і сурова крыкнуў:

— А вось і валадар замка! Абараняйцеся, Ваша Вялікасць, і абараняйце вашу княгіню: мы з маім адважным і непераможным мнагатысячным войскам будзем браць вашу крэпасць штурмам! У атаку!

Крыкнуўшы гэта, Сцяпан Апалонавіч падняў з зямлі жардзіну і з ёй наперавес пабег наперад, але каньяк і мокры снег зрабілі сваю справу: адважна-непераможны захопнік пакаўзнуўся, упаў і, не вытрымаўшы гэткай ганьбы, заснуў.

— Леапольд Францавіч, міленькі, а хто ж гэта такі? — спыталася Аліна.

— Рэжысёр балю, — гаротна адказаў Леапольд Францавіч, схапіў Сцяпана Апалонавіча за рукі і пацягнуў унутр, у замак.

Аліна развіталася ды пабегла ў гатэль, дзе яе чакала інтэрнацыянальная каманда спадзвіжнікаў у справе выратавання свету.

У гасцінічным нумары Аліны праходзіла тэрміновая нарада. Удзельнікі нарады — Аліна, Мікіта і іх індыйскія сябры — сядзелі на канапе, пілі масалу, звараную Кумарам у электрычнай каструльцы, і лушчылі фісташкі. Мікіта павольна пракручваў інтэрнэт-старонкі на экране свайго планшэта.

— Ну, не муч, абвясці, што ты вычытаў! — нарэшце не вытрымала Аліна.

Мікіта прапаласкаў горла масалай і зачытаў:

— Францысканскі ордэн быў заснаваны ў пачатку трынаццатага стагоддзя, а стваральнікам яго быў Святы Францыск Асізскі. Манахі прапаведавалі аскетызм, жыццё ў беднасці, любоў і міласэрнасць да бліжняга. У Гародню францысканскіх манахаў запрасіў упіцкі стараста Яўстахій Курч, які захапляўся ідэямі ахвярнасці. У 1635 годзе Яўстахій і Сюзана Курч заснавалі драўляны касцёл і манастыр францысканцаў, і ўсяго праз чатыры гады польскі кароль і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV Ваза пацвердзіў заснаванне святыні. Падчас польска-шведскай вайны храм быў зруйнаваны.

Праз год пачалося будаўніцтва каменнага касцёла і манастыра. У 1637 годзе пры кляштары віленскім епіскапам быў створаны прыход. Манастыр ажыццяўляў актыўную выдавецкую дзейнасць. Менавіта гродзенскія францысканцы выдалі першыя экзэмпляры Канстытуцыі Гродзенскага сейма…

— Ага. Ну і што там яшчэ ёсць цікавага? — спыталася Аліна.

— Напрыклад, арганны комплекс! — дзелавіта адказаў Мікіта. — У францысканскім касцёле знаходзіцца самы стары арган на Беларусі. Ён з'явіўся тут у сярэдзіне XVII стагоддзя, а набыць яго дапамагла Міхаліна Лазавая. Так… гэта апусцім. А вось, важна: манастырскі комплекс складаецца з касцёла, жылога корпуса — сёння гэта адзін з корпусаў гарадской бальніцы — а таксама варот з агароджай, і ўсё гэта ўяўляе сабой закрыты ўнутраны двор.

Мікіта паклаў планшэт побач з сабой і шчоўкнуў зубамі фісташку.

— Засталася драбяза! — сказаў ён. — Трэба даведацца, дзе там дзверы, за якімі пачынаецца падземны ход. Можа, за арганам? Або пад кабінетам галоўнага ўрача бальніцы?

— Ой, божачкі, гэта ж зусім не праблема. Увага! — Аліна дастала з заплечніка, што ляжаў на падлозе, скручаны ў трубачку аркуш паперы і акуратна разгарнула яго. — Вось, калі ласачка! Схема манастырскага комплексу. Падземны ход пазначаны ружовенькай рысачкай.

— Хто ж гэта для цябе так расстараўся? — спытаўся Мікіта.

— А я добрая! Таму ў мяне паўсюль ёсць свае людзі! — сказала Аліна, але, злавіўшы на сабе суровы позірк Мікіты, дадала: — Ну, добра, добра. Адзін гісторык-архітэктар зрабіў мне паслугу.

— Ён францысканец?

— Ён ходзіць у сінагогу.

Каманда аднадумцаў моўчкі схілілася над планам комплексу.

— Як быццам усё зразумела. За калону, уніз па лесвіцы, прама, направа, зноў уніз… і адамкнуць дзверы.

— І ключ у цябе ёсць? — падняў бровы Мікіта.

— Анягож! — сказала Аліна. — Я аказала добрую дапамогу сінагозе, таму ключ ішоў са схемай у камплекце. Ну што ж, мы з Арджунам і Кумарам адпраўляемся на вячэрнюю службу! Глядзіце, што ў мяне ёсць!

Аліна дастала з-пад ложка тры шахцёрскія каскі з ліхтарыкамі, адну начапіла на сябе, дзве другія — на Арджуну з Кумарам. Мікіта пільна пагледзеў на іх і асцярожна зазначыў:

— Даруйце, але вы не выглядаеце, як францысканцы.

— Мікіта, не будзь ханжой! — узвілася Аліна. — Можа, мы францысканцы ў душы! А там, пад Старым замкам, і раскопкі, і будоўля, мала ці якая спадчына Вітаўта зверху ўпадзе, а мне мая галава вельмі дарагая: на ёй густыя шаўкавістыя валасы, а яшчэ яна дапамагае мне зарабляць грошы!

— Ну, вы тады… хаця б падчас службы каскі не надзявайце, — параіў Мікіта.

— Добра, не будзем, — адказала Аліна. — А ты чакай нас і не думай засынаць!

— Дык ты скажы, ці ёсць ваджра сярод экспанатаў?

— Няма. Але калі чагосьці няма на зямлі, то гэта не значыць, што гэтага няма пад зямлёй. Вось пабачыш, мы здабудзем гэтую ваджру!

Аліна, Арджуна і Кумар у шахцёрскіх касках з ліхтарыкамі прабіраліся па вузкім і цёмным падземным ходзе. У іх атрымалася патрапіць у францысканскі касцёл і незаўважанымі пратачыцца ў падзямелле, і цяпер усе трое з заміраннем сэрца рухаліся наперад — дзесьці там, у цемры, можа, у якой-небудзь сотні-другой крокаў, іх чакала самае вялікае археалагічнае адкрыццё — такое, якое перапіша нанова ўсю гісторыю цывілізацыі!

Каманда была да зубоў узброена разнастайнымі прыладамі і прыборамі: Аліна несла рулетку, маленькую кірку і дазіметр; Арджуна ўзяў з сабой набор мяккіх шчотачак для ачышчэння цэнных артэфактаў ад шматгадовага пылу і свой любімы металашукальнік з тэлескапічнай складной ручкай, зроблены па індывідуальным заказе. Пахла сярэдняевечнай цвіллю і смажанымі баклажанамі, якія Кумар прыхапіў «для перакусу». Яшчэ Кумар захапіў у дарогу вялікі тэрмас са сваёй фірменнай масалай, дваццаціметровы кавалак вяроўкі, аптэчку, кіслародную падушку і тры пары цёплых пухнатых шкарпэтак — на той выпадак, калі ва ўдзельнікаў экспедыцыі пачнуць мерзнуць ногі.

Аліна і Арджуна ўважліва абследавалі кожны сантыметр падземнага хода, каб не прапусціць ніводнай важнай дэталі і не прайсці міма грандыёзнага адкрыцця. Кумар паслухмяна тупаў следам і напяваў бадзёрыя індыйскія песенькі, каб не засумаваць у дарозе.

— Калі не памыляюся, мы ўжо на другім беразе, амаль што пад Старым замкам… — сказала Аліна і паглядзела на наручны гадзіннік. — Апоўначы.

Раптам наперадзе паказалася святло ліхтара.

— Хто гэта можа быць? — здзівілася Аліна. — Каму не спіцца ў ноч глухую? Так, вы двое — маўчаць!

Святло павольна наблізілася да кампаніі археолагаў-аматараў — і згасла: той, хто падышоў, выключыў ліхтар.

Арджуна збялеў, як жалобны саван.

— Спадар Сінгх! — прамовіў хлопец, выпусціўшы з рук металашукальнік.

Кумар перастаў спяваць. Ён прыціснуў да сэрца тэрмас, зажмурыўся і падрыхтаваўся да хуткай смерці.

Аліна пахіснулася, схапілася за сцяну і вохнула... але зусім не ад страху!

Генерал Сінгх выглядаў так, нібыта сышоў з экрана індыйскай стужкі пра каханне — малады, прыгожы, шыракаплечы і чарнабровы, з пранізлівымі карымі вачыма, залатымі кольчыкамі ў вушах і трохдзённым шчаціннем, якое, між іншым, дужа яму пасавала і рабіла генерала неверагодна прыцягальным.

«Чаму?! — падумала Аліна. — Чаму самыя вырашальныя сустрэчы ў жыцці жанчыны адбываюцца не тады, калі яна ў вячэрняй сукенцы і дыяментавым калье ідзе па чырвонай дарожцы, а тады, калі ў адной яе руцэ — дазіметр, у другой — кайло, на спіне — заплечнік, а на галаве — каска? Што за горкая несправядлівасць?»

Генерал усміхнуўся і правёў рукой па сваіх чорных густых валасах. У памяці Аліны за секунду прамільгнулі ўсе дзвесце дваццаць пяць серый «Махабхараты»: сотня прыгожых індыйскіх акцёраў з голымі торсамі, але сярод гэтых акцёраў не было ніводнага, хто б мог параўнацца з генералам.

— Божачкі, які прыгажун! — прашаптала Аліна. — Яму б у Балівудзе здымацца!

І так ёй стала прыкра, што яна стаіць перад гэтым богападобным мужчынай — хай сабе ён і самы страшны злодзей на свеце! — уся ў пыле і павуціне, што на яе вочы нагарнуліся слёзы. Каб не расплакацца, Аліна выхапіла ў Кумара тэрмас з масалай, шчоўкнула крышачкай і зрабіла вялікі глыток.

— Арджуна! — радасна ўскрыкнуў генерал і моцна абняў старога знаёмага. У Арджуны канчаткова адняло мову.

Невядома, колькі б магло доўжыцца няёмкае маўчанне, але адмысловая гарбата Кумара прывяла ўсё ж Аліну ў нармальны стан: яна ўзяла сябе ў рукі, усміхнулася і гучна сказала:

— Якая нечаканая сустрэча! Спадар Сінгх? Арджуна так многа расказваў пра вас!

— Праўда? — спытаўся генерал — па-англійску.

Колер твару Арджуны памяняўся з белага на шэра-зялёны. Раджарам ўявіў сабе, што Аліна зараз раскажа генералу ўсё, што пачула пра яго ад маладога навукоўца. У хлопца падкасіліся калені, і ён прыхіліўся да сцяны.

На шчасце, Аліна добра размаўляла па-англійску.

— О, так! — заверыла яна. — Спадар Сінгх! Арджуна распавёў нам, што вы — самы мужны, адважны і справядлівы чалавек, з якім яму даводзілася сустракацца! Дарэчы, мяне завуць Аліна, а гэта — Кумар, і мы тут… праводзім раскопкі. У начную змену! У нас спецыяльная доследная група. Так, спадар Раджарам?

Арджуна дрыжачымі рукамі паказаў генералу Сінгху шчотачкі.

— Як цікава! — сказаў генерал. — Я заблукаў… пасля экскурсіі і шукаў выхад!

Аліна зірнула на гадзіннік.

— Ого, спадар Сінгх! — усклікнула яна. — Музей зачыніўся а сёмай гадзіне вечара! Вы тут, пад зямлёй, блукаеце ўжо пяць гадзін! Напэўна, вы прагаладаліся? Хочаце наверх?

Кумар працягнуў генералу тэрмас. Спадар Сінгх наліў сабе масалы.

— Дзякуй. Якая асалода! — сказаў ён. — О, так, я хачу нарэшце адсюль выбрацца, але цяпер мне яшчэ больш хочацца далучыцца да вашай кампаніі! Вельмі люблю прымаць удзел у археалагічных экспедыцыях!

— Шчыра кажучы, мы ўжо скончылі і бяром кірунак наверх, — сказала Аліна.

— Шкада… Можа, прадэманструеце мне свае знаходкі — га, Арджуна? — спадар Сінгх паклаў руку на плячо Раджарамы. — Мне вельмі цікава!

— Ды так, пара гузікаў, нічога цікавага, — спешна адказала дзяўчына і працягнула генералу два зялёныя ад цвілі круглякі, якія ўчора ў знак удзячнасці прэзентаваў ёй Леапольд Францавіч.

Генерал пакруціў гузікі ў руках, а затым расчаравана мовіў:

— І варта было дзеля гэтага цэлую ноч не спаць?

— Раскопкі — гэта латарэя: сёння — два гузікі, а заўтра мо і залаты посуд патрапіцца! Удача ўсміхаецца настойлівым! Праўда, Арджуна? — Аліна штурхнула Арджуну ў бок, і той кіўнуў.

— Значыць, наверх? — пацiснуў плячыма спадар Сінгх.

— Так!

Аліна зрабіла крок назад і спатыкнулася — літаральна на роўным месцы! Каб не ўпасці, яна ўхапілася за круглы камень, які выступаў са сцяны… і з грукатам правалілася пад зямлю. Калі рассеяўся пыл, мужчыны ўбачылі на месцы, дзе толькі што стаяла Аліна, акуратную прамавугольную дзірку ў каменнай кладцы.

— Аліна! Куды вы! Не пакідайце нас! — закрычаў Кумар. Ён кінуўся да адтуліны, дзе знік кіраўнік іх міжнароднага доследнага калектыву, у адчаі ўпаў на калені і зазірнуў унутр.

З хвіліну доўжылася маўчанне, а потым знізу пачуўся кашаль.

— Я ў парадку! У парадку! Тут неглыбока! Магчыма, зарабіла гузак, а так — цэлая! Скіньце мне каску, бо мая трэснула ды ліхтар пагас! — адказала Аліна з-пад зямлі.

— Чакайце тут! Я выратую вашага кіраўніка! — сказаў генерал, зняў з Кумара каску і гераічна скокнуў у бездань, якая паглынула Аліну.

Калі спадар Сінгх апынуўся ўнізе і накіраваў святло ліхтара ўглыб памяшкання, то ўбачыў новую знаёмую, якая засяроджана вадзіла перад сабой рукамі; у адной руцэ яна трымала дазіметр, а ў другой — рулетку.

— Дапамажыце мне, калі ласка, я хачу абмераць пакой! Вазьміце стужку вось тут, за хвосцік… ага! Вось так стойце і не варушыцеся! — загадала Аліна збянтэжанаму генералу, надзела каску і пачала маршыраваць з кута ў кут, спярша па перыметры, а пасля — наўскасяк, па дыяганалі. — Ну вось. Замеры зроблены. Тры на чатыры метры, фон у норме!

Генерал абвёў промнем ліхтара пакойчык, у якім яны з Алінай знаходзіліся. У пакоі было суха і чыста. Тут не мелася ніякай мэблі і посуду, не назіралася прылад для катаванняў, не было ні саркафагаў, ні шкілетаў, ні цяжкіх ланцугоў — словам, нічога такога, што звычайна бывае ў падзямеллях замкаў. Затое ў адным з кутоў стаяў вялікі драўляны куфар, на якім вісеў вялізны ржавы жалезны замок.

Спадар Сінгх падышоў да куфра. Дзяўчына пабегла следам за генералам.

— Цікава, што там, унутры? — сказала яна і схапіла генерала за руку, каб накіраваць прамень святла ў шчыліну пад крышкай. Генерал ашалела паглядзеў на Аліну: на яго Радзіме жанчына б ніколі сабе не дазволіла дакрануцца да мужчыны, каб не наклікаць на сябе і сваю сям'ю вялікую ганьбу.

Аліна ж без усялякага індыйскага сораму павадзіла генеральскай рукой з ліхтаром туды-сюды, патузала замок, пашкрабла куфар пазногцямі і расчаравана сказала:

— Нічога не бачна. Эх, вось бы зазірнуць, даведацца, што там схавана!

— Зараз даведаемся. Дайце мне гэта! — генерал пацягнуўся да кіркі, якую Аліна засунула сабе за пояс, каб тая не перашкаджала рабіць замеры. Аднак дзяўчына зрабіла крок назад і бескампрамісна заявіла:

— Даруйце, але мы не можам яго адкрыць — згодна з законам. З намі няма дырэктара Замкавага комплексу, няма прадстаўнікоў улады, няма прэсы… што ж мы тут будзем, як чорныя капальнікі, псаваць гістарычныя артэфакты?

— І што вы прапануеце?

— Мы проста пакінем усё, як было, і паднімемся наверх, а заўтра я пазваню Леапольду Францавічу, каб ён арганізаваў урачыстае адкрыццё гэтага куфра паводле ўсіх правіл! Гэта адзіны варыянт, магчымы ў дадзеных абставінах. Давайце адсюль выбірацца!

Генерал уздыхнуў. Ён падышоў да адтуліны і крыкнуў:

— Арджуна, Кумар! Спусціце нам вяроўку!

Аліна, а за ёй і генерал, з дапамогай хлопцаў вярнуліся наверх, у падземны ход. Аліна крыху падумала, у якім напрамку рушыць далей, і скамандавала:

— За мной! Выйдзем наверх праз музей, каб не бянтэжыць французсканцаў!

Даволі хутка ўся чацвёрка была на свежым паветры: Аліна, скарыстаўшыся дзе добрай памяццю, а дзе інтуіцыяй і шчаслівым супадзеннем, правяла індыйскіх таварышаў па залах Старога замка, якія знаходзіліся на стадыі рамонту, і вывела на волю праз тыя дзверы, што яшчэ ўвечары, падчас індывідуальнай экскурсіі, незаўважна для Леапольда Францавіча адамкнула знутры ды так і пакінула.

— Ну што ж, генерал. Наша змена скончылася, мы вяртаемся ў свой гатэль, — з жалем сказала Аліна.

— А вы ў якім гатэлі спыніліся? — пацікавіўся спадар Сінгх.

— А вунь у тым — бачыце, агні свецяцца? — выпаліў Кумар. Арджуна з сумам зірнуў на свайго шчырага таварыша.

— О, і я таксама! Вось дык супадзенне! — абрадаваўся генерал.

— Выдатна! Значыць, нам па дарозе! Не адставайце, а то змерзнеце! — сказала Аліна і бадзёра прыпусціла па заснежанай вуліцы ў бок гатэля.

Калі Аліна ўвайшла ў свой нумар, Мікіта ўжо бачыў сёмы сон. Яна скінула боцікі, падбегла да сябра і пачала тармасіць яго:

— Уставай, дружа, прасынайся! Няма калі спаць, у нас такія навіны!

— Што здарылася? — Мікіта сеў на ложку і пазяхнуў. — На вас напалі браканьеры? Вы ўбачылі прывід Вітаўта? Вы ўступілі ў Ордэн францысканцаў? З чаго такі пярэпалах?

— Горш! Мікіта, мы сустрэлі ў падзямеллі генерала Сінгха! А потым я праваліліся пад зямлю, ён кінуўся мяне ратаваць — і мы ўбачылі там вялікі куфар з замком!

— Пачакай, не спяшайся. Ты праваліліся пад зямлю, ужо знаходзячыся пад зямлёй?

— Ну, так.

— А Сінгх там адкуль узяўся?

— Пракраўся са Старога замка. Хутчэй за ўсё, ён таксама шукаў ваджру!

— А што ў тым куфры?

— Калі б я была адна, то мы б ужо ведалі. Але ж са мной быў Сінгх, і таму зрываць замок я не стала. Мала ці што — а раптам ваджра там? Мы б тады ад генерала не адбіліся.

— І вы так і пакінулі куфар там?

— Так.

— Гэта… нядобра.

Мікіта ўстаў і націснуў на кнопку электрычнага чайніка.

— Гэты Сінгх абавязкова вернецца туды, каб адкрыць куфар і зазірнуць унутр, — сказаў ён.

— О, так, зразумела, ён захоча гэта зрабіць! Таму я сказала, што раніцай пайду да Леапольда Францавіча і арганізую ўрачыстае адкрыццё куфра, з прэсай ды іншымі прыбамбасамі. Але…

— Але — што? — спытаўся Мікіта.

— Мы пранікли туды нелегальна. Незаконна! Таму трэба нешта прыдумаць… Каб у наступны раз знайсці куфар па ўсіх правілах.

— Пакуль мы будзем думаць, Сінгх дабярэцца да яго першым! — сказаў Мікіта, кінуў у кубкі пакецікі з чаем і заліў іх кіпенем.

— Генерала я бяру на сябе! — заявіла Аліна. — Да таго ж, на шчасце, ён жыве ў гэтым гатэлі, паверхам вышэй. Я правяла яго да самага нумара і выклікала яму масажыстку.

— Масажыстку?

— Ага. Марыю Сямёнаўну з ваеннага прафілакторыя, памятаеш?

— А, тую самую Марыю Сямёнаўну, што можа адным дотыкам да шыі прывесці моцнага мужчыну ў стан непрабуднага сну на дванаццаць гадзін?

— Так! — кіўнула Аліна. — Толькі я папрасіла не на дванаццаць гадзін, а да наступнага вечара. Каб мы жалезна ўсё паспелі. Бо наступным вечарам у мяне рамантычная сустрэча.

— З кім? — здзівіўся Мікіта.

— З генералам, — весела адказала Аліна.

— А ён пра гэта ведае?

— Яшчэ не.

— Я так і думаў.

Мікіта задумліва перамяшаў цукар у чаі. Аліна прысела на ложак.

— Расшпілі мне ланцужок, калі ласка, хачу схадзіць у душ, — папрасіла яна сябра.

Мікіта падышоў да Аліны і ўзяўся за тоненькі срэбны ланцужок, які ахопліваў яе шыю. На ланцужку вісела хамса.

— Адкуль гэта ў цябе? — здзівіўся Мікіта.

— Сяброўка падарыла. Анечка. Прыносіць удачу і фінансавую стабільнасць. Ну і… некаторую лаяльнасць пэўных людзей. Можа, дзякуючы гэтай хамсе мы і атрымалі схему манастырскага комплексу, а я сустрэла генерала…

— Паслухай, ты сур'ёзна наконт яго? — Мікіта расшпіліў ланцужок і паклаў яго Аліне ў далонь.
— Абсалютна! — сказала Аліна.
— А-а-а! — Мікіта прыжмурыўся і хітра паглядзеў на сяброўку. — Гэта новы план?
— Не. Ён проста спадабаўся мне як мужчына!
Мікіта падышоў да акна, памаўчаў і сказаў:
— Патлумач мне, чаму ты заўсёды выбіраеш мужчын, якія табе не пасуюць?
— Чаму ж гэта, па-твойму, генерал мне не пасуе? Ты яго і не бачыў ніколі.
— Ён — ваенны індус!
— Ён… О Божа, ён лепшы з індусаў! І лепшы з ваенных! — Аліна ўскінула рукі ўгару, але, заўважыўшы на сабе цяжкі позірк сябра, апусціла іх і дадала: — Так, Мікіта, я ведаю, што ён наш… як гэта называецца па-твойму, па-рэжысёрску?
— Антаганіст.
— Вось-вось. Антаганіст. Але ж, калі добра падумаць, ён не зрабіў асабіста мне нічога дрэннага. За што мне яго ненавідзець? Ён прыгожы, высокі, моцны, адважны і — прашу зазначыць — не дурны, разбіраецца ў ваеннай справе і ў гісторыі: усю дарогу нам распавядаў пра Мату Хары. Ты ведаеш, як яна загінула?
— Не ведаю.
— А я ведаю. Яе застрэлілі!
— Вось. Генерал застрэліць цябе.
— Чаму адразу — застрэліць? Тое, што ён ваенны, зусім не азначае, што ён страляе ва ўсіх без разбору. Але, Мікіта, калі такі неверагодны мужчына пройдзе міма мяне, я ніколі сабе гэтага не дарую!
— Арджуна з Кумарам будуць лічыць цябе здрадніцай.
— А што Арджуна з Кумарам? Я ж не збіраюся аддаваць спадару Сінгху наш чароўны каменьчык.
— Нешта мне падказвае, што спадар Сінгх яго ў цябе забярэ і нават не спытаецца. Або падсмажыць твае пекныя пятачкі — і ты ўсё яму сама раскажаш.
— Ён не даведаецца, што камень у нас, пакуль хто-небудзь не плясне языком.
— Ну-у… Ты мяне ведаеш. Я — крэмень!
— Ведаю, і я ў табе не сумняваюся.
Аліна расплікнула джынсы. Мікіта адвярнуўся і сказаў:
— Калі хочаш, то кідайся ў гэтую авантуру, але памятай: я не супергерой, і ратаваць цябе ў мяне няма ніякага жадання!
Аліна накінула халат, уключыла святло ў ваннай і горда заявіла:
— Пф! Я выратую і цябе, і сябе, і цэлы свет! Ты, галоўнае, вер у мяне. Калі лепшы сябар згубіць веру ў мяне — то ў мяне нічога не атрымаецца.
— Добра. Буду ў цябе верыць, пакуль верылка не зламаецца. Ты вялікая спецыялістка ў галіне спакушэнняў. З чаго плануеш пачаць?
— З выпадковай сустрэчы! — крыкнула Аліна з ваннай і замкнулася. Калі ж яна вярнулася, Мікіта спаў.

Раніцай Аліна, Мікіта, Арджуна і Кумар сустрэліся ў рэстаране пры гатэлі. Хлопцы набралі поўныя талеркі халяўнай ежы і з вялікім апетытам снедалі. Аліна зрабіла сабе каву з вяршкамі і акуратна прысела за столік.
— Які план? — пацікавіўся Мікіта.
— Зараз я схаджу да Леапольда Францавіча. Трэба вырашыць пытанне з куфрам.
— А дзе генерал Сінгх? — спытаўся Кумар. Арджуна падавіўся коржыкам.

— Генерал спіць, — спакойна адказала Аліна, пастукаўшы Арджуну па спіне. — Паслухайце, вось якое пытанне не дае мне спакою. Уявім сабе на хвіліначку, што мы знайшлі ваджру і камень у нашых руках. Даруйце, а ці ёсць інструкцыя па зборцы і выкарыстанні гэтай штуковіны? Гэта ж не фен і не мясарубка, тут трэба вельмі далікатна…

Кумар пераклаў пытанне Аліны Арджуну, і, выслухаўшы адказ, сказаў:

— Рыгведы кажуць: «Твая ваджра праявіць сябе, калі ты возьмеш яе ў рукі».

— А дакладней? Мікіта, загуглі!

Мікіта без энтузіязму пашукаў інфармацыю ў тэлефоне і зачытаў:

— Ваджра запускаецца вібрацыямі — кручэннем у руцэ, чытаннем мантр, вобразам неабходнай дзеі, сфарміраваным у думках аператара, і выпраменьваннем энергіі праз цэнтр далоні ў цэнтр ваджры. Каб актывіраваць ваджру, трэба трымаць яе, прыціснуўшы шар вялікім пальцам да цэнтра далоні, а дула пры гэтым адвесці ў прастору. Падумаць толькі! Дзе ж у той ваджры дула? А што за мантры?

— Ну… вось, напрыклад, самая простая: «Ом ваджрасатва хум!»

Аліна схапіла сурвэтку, перапісала мантру на яе і схавала сурвэтку ў сумачку. Арджуна пакруціў галавой.

— Усё не так проста! — сказаў Кумар. — Тая ваджра, што мы шукаем, мае асаблівую інструкцыю. Генерал носіць яе з сабой. На руцэ.

— На руцэ? — здзівілася Аліна.

— Так! — кіўнуў Кумар. — Такі срэбны бранзалет. Шырокі, з надпісамі, узорамі, гравіроўкамі. Гэта і ёсць інструкцыя — са спецыяльным шыфрам. Генерал ніколі гэты бранзалет не здымае. Спіць з ім, мыецца, ходзіць у храм… Арджуна даўно марыць здабыць яго і расшыфраваць.

— Вось яно што! А я ўчора не заўважыла: пад рукавамі ён і нябачны!

— Індыйскія мужчыны так любяць сябе ўпрыгожваць, што нават патаемныя веды пішуць на бранзалетах? — пацікавіўся Мікіта.

— Мы ўпрыгожваем сябе не проста так. Мы носім амулеты. Вось напрыклад! — Кумар падняў рукаў кашулі і прадэманстраваў прыгожую featuring рознакаляровую «фенечку» са срэбнымі і драўлянымі бусінамі на сваім запясці.

— Што гэта? — Аліна ўзяла Кумара за руку, каб лепш разглядзець упрыгожванне.

— О! — усклікнуў Кумар. — Гэта ракха! Мая сястра мне павязала яе на свята Ракхібандхан! Мы адзначаем Ракхібандхан у дзень поўні месяца шраван. Гэта па-вашаму ў ліпені або ў жніўні, калі як выпадзе. У гэты дзень сёстры надзяваюць сваім братам на руку такія свяшчэнныя павязкі — ракхі. Яны абараняюць мужчын ад злых сіл. А брат дорыць сваёй сястры падарунак і абавязваецца да канца жыцця ахоўваць яе, падтрымліваць ва ўсіх пачынаннях. А пасля брат і сястра дораць адно аднаму яшчэ салодкія падарункі.

— Рытуал праводзіцца толькі паміж братамі і сёстрамі? — спыталася Аліна.

— Неабавязкова. Дзяўчына, якая завязвае ракху на запясці хлопца, можа папрасіць зрабіцца яго прыёмнай сястрой. Здаралася, жанчыны так прасілі ахову і заступніцтва ў мужчын, якія не былі іх братамі, а некаторыя — нават не былі індуістамі. Вядомыя нават выпадкі, калі правіцелі дзеля абароны жанчыны, якая некалі павязала ім ракху, уступалі ў вайну.

— Ракхібандхан. Ёсць у гэтым нешта… — сказала Аліна і паглыбілася ў думкі.

— Тут побач ёсць сувенірная крама народных майстроў, — далікатна прамовіў Мікіта праз некалькі хвілін. — Вяжуць, плятуць, вышываюць…

— О, клёва! — Аліна выйшла з медытацыі і абвяла хлопцаў вачыма. — Зазірну ў тую краму па дарозе, вазьму падарункі для ўсіх! А ў вас вольны час. Можаце пагуляць па горадзе. Гродна — прыгожы горад! Мікіта, арганізуеш культурную праграму для нашых індыйскіх сяброў?

— Добра, — пагадзіўся Мікіта.

Аліна паглядзела на гадзіннік, падхапілася і пабегла ў музей.

Калі яна ўвайшла да Леапольда Францавіча, то ўбачыла цудоўную сцэну: у вялікім крэсле паўляжаў Сцяпан Апалонавіч, а над ім, прыклаўшы да лба рэжысёра графін з вадой, стаяў дырэктар Замкавага комплексу.

— Пс! Леапольд Францавіч! — паклікала Аліна.

Дырэктар павярнуўся да яе, прыклаў палец да вуснаў і асцярожна, на дыбачках, адышоў ад рэжысёра.

— Мгм-м-м-м… — прастагнаў Сцяпан Апалонавіч, але сіл на тое, каб вымавіць нешта больш асэнсаванае, у яго не было.

Леапольд Францавіч вывеў Аліну з кабінета, сеў на стульчык ля стала сакратаркі, прыклаў графін да сваёй галавы і ўздыхнуў.

— Што гэта з вашым рэжысёрам? — пацікавілася Аліна.

— Ой, і не пытайцеся, Аліна Мікалаеўна. Сцяпан Апалонавіч правёў ноч у музеі. Дзяжурная сказала, што ён прачнуўся сярод ночы, ваяваў з нашымі манекенамі ў інсталяцыі, а потым яму нешта прымроілася з пахмелкі… Я прыйшоў, а ён мне цэлую гадзіну талдычыў, што ў Старым замку жывуць прывіды і ён бачыў іх на ўласныя вочы!

— Ого! А што за прывіды? — з захапленнем спыталася Аліна. — Вітаўт, тэўтонцы, хто?

— А каб жа! — прамовіў Леапольд Францавіч голасам, поўным адчаю. — Не Вітаўт, а… шахцёры! Тры… як жа ён сказаў? А! «Тры нерусі чарнавокія і дзяўчына, у касках». Уявіце сабе, Аліна Мікалаеўна: у такім гістарычным месцы жывуць такія негістарычныя прывіды!

Аліна ўзяла ў Леапольда Францавіча графін і наліла сабе вады ў адзін са стаканаў на стале.

— Напэўна, добры быў каньяк, калі ў Сцяпана Апалонавіча ад яго з'явіліся шахцёры. А металургі да яго не прыходзілі? — спыталася яна.

— Ой, не ведаю! Ён зараз ачуняе, дык яшчэ і не тое распавядзе, — сказаў дырэктар.

— Можа, там у вас, пад Нёманам, і праўда шахцёры траншэі рыюць, нафту шукаюць па высокім загадзе, а вы і не ведаеце! — усміхнулася Аліна. — Дарэчы, Леапольд Францавіч, я не проста так вярнулася. Вы ўчора мне паказалі ўсе куточкі вашага комплексу, а вось пад зямлю я так і не патрапіла. У падземны ход. Я хацела прасіць вас хоць на пятнаццаць хвілінак апусціцца ўніз.

— Добра. Я і сам хачу паглядзець, у якім ён стане! — сказаў дырэктар.

Леапольд Францавіч і Аліна спусціліся пад зямлю. Аліна ахала ад захаплення і вохала, як быццам бы ад страху, і ўвогуле паводзіла сябе так, нібыта апынулася тут упершыню. Леапольд Францавіч бадзёрыўся і пачуваў сябе не меней як агент нуль-нуль-сем. Ён смела вёў госцю наперад, пакуль не ўбачыў перад сабой дзірку ў кладцы.

Дырэктар прысеў на кукішкі і пасвяціў ліхтаром у дзірку.

— Ой, ямачка! — Аліна пляснула ў ладкі і прысела побач.

— Раней гэтай, як вы кажаце, ямачкі тут не было… — задуменна сказаў Леапольд Францавіч.

— Ой, як цікава! Давайце туды спусцімся! — прапанавала дзяўчына.

— А выбірацца як будзем? — слушна заўважыў Леапольд Францавіч.

— Так, без драбін нам не абысціся, — пагадзілася Аліна. — Трэба каму-небудзь вярнуцца за імі!

— Я схаджу. Вы тут пачакаеце?

— Канечне. Я ўжо прывыкла і не баюся! — заверыла Леапольда Францавіча Аліна.

Як толькі Леапольд Францавіч адышоўся на пачэсную адлегласць, Аліна скокнула ў дзірку. Яна падбегла да куфра і раптам зразумела, што ў яе няма ні кіркі, ні фомкі — словам, ніякага прыстасавання, каб зняць замок. Аліна пасвяціла на куфар, агледзела яго ў пошуках надпісаў, нават

зазірнула пад яго і за яго, але нічога новага так і не вынайшла. Яна села на куфар і пачала чакаць Леапольда Францавіча.

Даволі хутка дырэктар вярнуўся ў суправаджэнні двух рабочых, якія цягнулі драбіны, загадчыцы гаспадаркай, інжынера-будаўніка з планам комплексу і метадысткі з фотаапаратам.

Леапольд Францавіч спусціўся ўніз і падышоў да Аліны.

— Глядзіце, тут куфар! — сказала яна.

— Так-так-так! — з хваляваннем прашаптаў дырэктар. — Я і не ведаў, што ў нас маецца патаемнае памяшканне!

— У плане яго няма! — крыкнуў зверху інжынер.

— Куфар на балансе не лічыцца! — дадала загадчыца гаспадаркай.

— Спускайцеся, хто там з фотаапаратам, трэба засняць гэты гістарычны момант! — загадаў дырэктар.

Загадчыца гаспадаркай падштурхнула метадыстку да адтуліны. Метадыстка перахрысцілася і асцярожненька, каб не зваліцца, спусцілася па драбінах уніз.

— Здымайце з усіх бакоў. І вось што, трэба здабыць такую пілу, па метале, і адчыніць гэты куфар! — распарадзіўся Леапольд Францавіч.

Пачуўшы гэта, Аліна замахала рукамі і ўскрыкнула:

— Пачакайце! Нашто ж пілой, тут, у цемры, пад зямлёй? У мяне ёсць прапанова! Як вы глядзіце на тое, каб адкрыць гэты куфар ва ўрачыстых абставінах падчас балю? Гэта стала б сапраўднай разынкай мерапрыемства, прыцягнула б дадатковую ўвагу прэсы, гісторыкаў, навукоўцаў, і што б там ні было ўнутры, усё роўна гэта будзе значная падзея!

Леапольд Францавіч паглядзеў на метадыстку. Яна паціснула плячыма:

— А што? Добрая думка, я лічу. Усім будзе цікава.

— А я пра што? — узрушана сказала Аліна. — Уявіце сабе: музыкі граюць, танцоры танчаць, гучаць фанфары, вы ўрачыста адкрываеце куфар, усе ў чаканні… Барабанны дробат… А можа, там каштоўны скарб? Золата, самацветы? Або цэнны старадаўні летапіс, кніга, даспех? Вось гэта будзе феерычна!

Леапольд Францавіч пачасаў падбародак, крыху падумаў і сказаў:

— Думаю, вы маеце рацыю!

— Не сумнявайцеся! — абрадавалася Аліна. — Але я не раю вам пакідаць гэты куфар тут. Бачыце: кладка пачала абсыпацца? А ну, як яно ўсё абваліцца і назаўсёды пахавае гэткую цэнную знаходку?

— Праўда ваша! — пагадзіўся дырэктар. — Гэй, мужыкі, нясіце хутчэй сюды вяроўкі, будзем паднімаць куфар наверх!

*Працяг у наступным нумары.*



**Яўген Папакуль**

# Інгіерд Гюннашдоттэр — забытае імя шведскай літаратуры

На вялікі жаль, часта з розных прычын імёны таленавітых людзей губляюцца ў стагоддзях, і сучасныя даследчыкі зрэдку зважаюць на іх. У шведскай літаратуры такой амаль забытай асобай з'яўляецца таленавітая сялянка Інгіерд Гюннашдоттэр. Да нас дайшло вобмаль звестак з яе біяграфіі. Яна нарадзілася ў самым пачатку XVII стагоддзя (у 1601 ці 1602 годзе) у правінцыі Вестэргётланд. Яе талент праяўляўся ў тым, што яна ведала вялізную колькасць балад (не меней за 300 твораў). Гэта зацікавіла збіральнікаў шведскіх балад, і ў 1678 годзе да Інгіерд Гюннашдоттэр прыехаў даследчык Эрых Спарман. Але на той час кабеце было ўжо амаль 80 гадоў, і з-за стану здароўя, а таксама нежадання супрацоўнічаць Спарману ўдалося запісаць з яе слоў толькі 57 балад. І можна было б сказаць, што яна з'ўлялася толькі выканаўцай народных твораў, каб не адно «але». Сюжэты балад Гюннашдоттэр унікальныя і болей нідзе ў Швецыі не сустракаліся. Зразумела, яна не ўсведамляла сябе аўтарам сваіх твораў, але гэтым самым аўтарам была. А ўлічваючы сучасныя падыходы да вызначэння балады як твора не фальклорнага жанру, а літаратурнага (з удакладненнем, што балада — жанр не проста літаратуры, а вуснай літаратуры), мы маем рэдкі выпадак, калі «народная» творчасць мае канкрэтнага аўтара. Памерла ж Інгіерд Гюннашдоттэр у 1686 годзе.

Увазе чытачоў прапанаваны пераклады дзвюх балад Інгіерд Гюннашдоттэр. Шведскамоўныя тэксты датуюцца 1678 годам. Яны адмыслова неадаптаваныя, каб чытачы маглі ўбачыць, што ўяўляла з сябе шведская мова ў XVII стагоддзі. Беларускамоўны пераклад суправаджаецца неабходнымі каментарамі культуралагічнага і гістарычнага кшталту.

## Гэр Пэдэр і дачка цверга

Быў гэта гэр Пэдэр. Ён смела
У ружавы гай паскакаў,
Ды там на бяду сваю сцежак
У час ён нядобры шукаў.
Ён здольны на ўсё за каханне.

Ды выбраў юнак той дарогу,
Што з ніткай ядвабнай была.
Быў гэта гэр Пэдэр, і нітка
Яго да гары прывяла.

Тут выйшла з гары дачка цверга,
І крэсла падставілі ёй.
Бы золата чырвань на сонцы —
Так ззяла дзяўчына красой.

«Спаткання з каханай нявестай
Я болей не ў моцы чакаць.
Калі з ёй не ўбачуся сёння,
Дык лепей мне смерці спазнаць».

«Спаткання з нявестай чакаеш?
Дык можаш наведаць яе.
Усё, што дарыў ёй, ты возьмеш
І прыйдзеш назад да мяне».

Быў гэта гэр Пэдэр, і злосна
Угору ён меч свой узняў,
Адсёк галаву ён пачвары,
Затым ёй дзясніцу адцяў.
Ён здольны на ўсё за каханне.

***Каментар***. Унікальнасць балады «Гэр Пэдэр і дачка цверга» заключаецца ў тым, што гэта адзіная шведская балада, якая апавядае пра цвергаў (гномаў). Пры перакладзе мэтай было захаваць не толькі змест твора, але і структурныя асаблівасці (у баладзе тройчы паўтараецца радок *Däth war herren Peder* 'Быў гэта гэр Пэдэр').

## Зачараваны рыцар

Да пеўняў быў ноччу народжаны я
— Так далёка мой шлях пралягае.
Да золку памерла матуля мая
— Саму яе гора чакае.

Мой бацька краіну тады абышоў
І горшую мачыху мне ён знайшоў.

Іголкай мяне зрабіла,
Каб жыць мне было няміла.

У ножык ператварыла,
Каб гора мяне зламіла.

Нажніцамі абярнула,
Каб сталасць мяне мінула.

Зрабіла мяне шэрым воўкам пасля,
Каб зверам самотным у лесе жыў я.

Сказала, што мне не вярнуцца дамоў,
Аж покуль не вып'ю я братаву кроў.

Ля сцежкі я вырашыў легчы,
Дзе мачыхі конь меў прабегчы.

Пад мостам затым я стаіўся,
Дзе мачыхі конь прыпыніўся.

Я ўсю сваю моц абрынуў
І мачыху з коня скінуў.

З адчаем прыйшлося дастаці
Мне з ейнага цела дзіцяці.

Адразу, як выпіў я братаву кроў.
— Так далёка мой шлях пралягае.
Стаў рыцарам слаўным і гожым я зноў. —
Саму яе гора чакае.

***Каментар***. Вельмі складаная рытмічна балада. Твор напісаны амфібрахіем, але розніцца колькасць складоў у радку (ад 8 да 11). З гэтай прычыны пяць двухрадкоўяў заканчваюцца націскным складам, сем — ненаціскным. Карацейшыя двухрадкоўі паскараюць рытміку твора, што дапамагае паказаць, з якой хуткасцю адбываліся ператварэнні галоўнага героя, а таксама тую рашучасць, з якой ён вырашыў вярнуць сабе чалавечае аблічча. Падчас перакладу ўсе гэтыя асаблівасці захаваліся.



Ілюстрацыя Маргарыты Латышкевіч

Сучаснаму чытачу балада можа падацца надзвычай жорсткай, але для шведаў XVII стагоддзя ў творы няма нічога незвычайнага. У Швецыі з яе бязмежнымі лясамі, дзе галоўным драпежнікам заўжды быў воўк, мелі шырокае распаўсюджанне легенды пра ваўкалакаў.

Даследчыца Элла Устэдт вылучае ў шведскай традыцыі тры тыпы ваўкалакаў. Першы тып — людзі, якія ператварылі сябе ў пярэваратняў самастойна пры дапамозе вядзьмарства. Другі тып — людзі, ператвораныя ў пярэваратняў не па ўласным жаданні, а чалавекам, дасведчаным у вядзьмарстве. Гэты тып ваўкалакаў захоўвае свой нораў і небяспечны для людзей. Трэці тып — чалавек, ператвораны ў пярэваратня праз тое, што маці да яго нараджэння пры дапамозе вядзьмарства хацела забяспечыць сабе лёгкія роды. Гэты тып ваўкалака пераўвасабляецца толькі ў пэўны час, як правіла, па начах, і надзвычай небяспечны для людзей, у першую чаргу для жанчын, і асабліва цяжарных. Лічылася, што пярэваратні гэтага тыпу могуць пазбавіцца праклёну, калі з'ядуць ненароджанае дзіця. Такім чынам, у дадзенай баладзе гаворка ідзе менавіта пра ваўкалака трэцяга тыпу, што і тлумачыць яго ўчынак у завяршальных радках твора.

«Podlaski Kwartalnik Kulturalny» прадстаўляе:

*Пятую восень запар на łamach czasopista «Маладосць» гасцюе «Podlaski Kwartalnik Kulturalny» («ПКК»), прадстаўляючы маладую польскую прозу, паэзію і выяўленчае мастацтва. Вялікая заслуга ў гэтай справе належыць галоўнаму рэдактару квартальніка Гжэгажу Міхалоўскаму, дзякуючы намаганням якога наш часопіс вядомы ў Польшчы, а яго чытачы знаёмяцца з новымі культурнымі набыткамі рэгіёна Падляшша. Няхай такое сяброўства працягваецца!*

## Вераніка Іванюк



* * *

*Гжэгажу М. за выдатную*
*працу і далікатныя магчымасці*

нашто абуджаць новы дзень
калі ён не адрозніваецца ад папярэдняга

нашто ўставаць
калі ведаеш што нідзе не дойдзем
пытаць сябе чаму (?)
і не ведаць адказу

як знайсці сэнс у нечым
што яго не мае
а можа ёсць толькі не хоча быць з табой

нашто мыць твар салёнай вадой
слёзы не дапамогуць забыць
сябе

«быць або не быць»
калі быць то для каго (?)

* * *

не паддавайся малітвам
казаў ён
вер у іх ціхенька
слоў не возьмеш назад
толькі цішыня іх змесціць

не паддавайся маім просьбам
ты так доўга мяне ведаеш
ты ж разумееш як лёгка
я саступаю малітвам

* * *

шалёны танец дрэваў
у рытм ветру і дажджу
свішча барабаніць уздыхае
свет без сораму голы бандыт
закранае пачуцці песціць
сваім ганаровым вершам
здзяйсняе шаленства
сціх
на хвіліну змоўк
знікнуў недзе за хмарай рыфмы
каб зноўку ўзнікнуць
з падвоенай сілай
надзвычайнасці
увесь лес задрыжаў ад здзіўлення
вецер заплакаў вада паднялася
і выліла з рэчышча ракі ўсе слёзы

адкуль гучыць гэтая музыка (?)
хто грае гэты канцэрт (?)
нейкі талент плача (?)
не шукаю адказу
пэўных рэчаў нельга патлумачыць
куды ж мне йсці далей
калі вецер

* * *
жанчына губляе прытомнасць
толькі на момант
а паколькі не хоча сябе турбаваць
устае нібы нічога не сталася

адно толькі можа здарыцца
тым часам
паміж уставаннем і небыццём
падраныя панчохі на калене

жанчына губляе прытомнасць
калі мае такую ахвоту
тады агаляе сантыметр шыі
або мо крыху больш
расхіляе вусны як рыба
і ўсё зразумела
няхай нават слова з вуснаў не выпала

жанчына калі губляе прытомнасць
не любіць нічога тлумачыць
тады не мусіць
ніхто не пытае
не можа

толькі яна
ледзьве кранаецца явы
і маўчыць што кахае

* * *
калі ты лавіў мае слёзы
упарта
сушыў сваім шчырым адданнем
нахабна
і сціраў з твару смутак

здаралася што
пад уплывам тых ціхіх абяцанняў
уздымалася новая ўсмешка

ты збіраў кожную кроплю
часам падымаў яе з зямлі
сквапна пераліваў ва ўсё
большыя судзіны

і гэтак мора стала салёным

* * *
жанчына з цыяністымі вачмі
якая шторанку крадзеш
расу з-пад майго люстра вады
жанчына з распушчанымі
крумкачынымі валасамі ў якіх гнёзды
уюць мае птушкі
жанчына шныпар
гэта я твой цень
перагрызаю лінію жыцця
дазваляю табе адысці

* * *
пакідаю цені продкаў
не ствараю аніякай гісторыі

я ўжо і не пачатак і не канец
я не звяно тваіх успамінаў
я ўжо не вусень
і перастала быць матыльком
толькі ўсяго на хвілінку

я была шрамам на тваёй губе
прыкметным толькі тады
калі ты з’едліва яе прачыняў
каб маліцца да іншай

крылы перасталі быць практычнымі

а зараз я глядач
узіраюся як ты шукаеш мае далоні
слухаю як тужыш па слове ў лістах
як прыгожа губляеш цела ў пасцелі
чакаю

чакаю ажно ты зноўку дарасцеш
да маіх плячэй

*Пераклад з польскай Кацярыны Канчэўскай*



# Катажына Саўчук

## невясельная песня

нашы целы з аднаго цеста
з жытняй мукі на заквасцы
калі мы спяваем нашы ўкраінскія песні

нашы душы па вобразе і падабенстве
нашых хахляцкіх продкаў
выстаўленыя на выпрабаванне часам

мы маем уласную мову
і скуль мы знаем патаемныя намеры
нам абаім вядомыя

але ж ты выпіў віна з жанчынай
якая не разумее нашых звычаяў
блытае іх са сваімі

цяпер вы ў адзіным целе
а палова гэтага цела мела быць мне
а палова гэтага цела мелася быць маёй

хлебам скрадзеным накармі мяне
віном салодкім напаі мяне
бо не змагу танчыць на вяселлі тваім
калі заспяваюць не нашы песні

* * *

пярун ударыў уранку

ўвесь век яна ўставала на дасвецці
трэба было распаліць вогнішча
падаіць карову
зварыць кашу

увесну чакалі Пасху
лета пахла пакосам
увосень капалі бульбу
узімку ткалі дываны на кроснах

хапала работы
жыў чалавек
у вёсцы людзей было многа
спявалі
хадзілі ў царкву
хавалі дзяцей
зараблялі капейчыну
спаць не было калі
чалавек усяго дасягнуў
сваімі рукамі
з Божай помаччу

а цяпер старасць
самота бясконцая
дзеці правялі тэлефон
але не званяць
цела не слухаецца
вочы не бачаць
ногі не ходзяць
дый няма куды
хіба што на могілкі
маладыя не зразумеюць
сядзіш дома
устанеш уранку каб агонь распаліць
зварыш кашу
заспяваеш Госпадзі, памілуй
а смерці няма

пярун ударыў уранку
распаліў агонь
у маёй хаце

*ныне отпущаюши раба Твоего, Владыко*
цяпер дазволь адысці служцы тваёй, Божа

## аб наканаванні

*памяці Надзеі і Пятра*

мы пазнаёміліся на тыдзень раней
чым былі наканаваныя адно аднаму
давялося хутка мяняць планы

уцякаць ад сябе

не цяпер яшчэ не цяпер

мы шмат падарожнічалі
але ж чаму са стольківх гарадоў свету
ты выбраў той што і я
і мы зноў сустрэліся раней
чым планавалася

*
некалі я ведала пажылую пáру
яны ажаніліся на тыдзень раней
і гэта іх уратавала ад расстання
калі прыйшоў загад аб высяленні
у іх ужо быў агульны дарожны клунак

каханне бывае практычным

гэта вельмі старая гісторыя
дзякуючы якой я не веру ў наканаванне

## час збіраць камяні

здараецца выходжу з цягніка
на прамежнай станцыі
каб аддыхацца

пакідаю рэчы ў вагоне
прашу кагосьці прыглядзець за імі
цягнік ад'язджае

і мне лягчэй
на хвілю я не павінна задумвацца
хто я

*
стагоддзе таму цягнікі везлі іх на ўсход
за Ўрал, на Каўказ, на Байкал
пасля вайны цягнікі везлі іх на захад
у Вармію, Мазуры, Сілезію, на Памор'е,
а яны ў клунках везлі шкарлупіны свайго свету
якія насамрэч не скончыўся
калі яны ехалі ў невядомасць

у вышытае песняй і малітвай льняное палатно
закручвалі кавалак сухога жытняга хлеба
а пасля не засталося й хлеба
хавалі загінулых у чужой зямлі
а дзеці іхнія не ведалі спадчыны

але ж я ёсць, бо яны вярнуліся
вярнуліся, але ўсё было іншым

*
шчаслівыя тыя, якія могуць не бачыць
хто яны ёсць

## воўк і авечка

у слове тваім — сіла закляцця
можаш узвесці касцёл
можаш яго зруйнаваць
і ніколі не аднавіць

у руках тваіх — сіла прарока
можаш ацаляць нямоглых
можаш ідучы па вадзе патапіць карабель
а потым на беразе хлеб раздаваць жабракам

наколькі моцная твая малітва?

твае ка́зані ўжо мала што значаць для мяне.

ты згубіў сваю авечку, ойча,
і не шукаеш мяне

згода?
ты не падае́ш рукі

я згодна з гэтым

*Пераклад з польскай*
*Алеся Емяльянава-Шыловіча*



## Яанна Савіцка

* * *

кабета гэтага стагоддзя
абувае васьмісантыметровыя шпількі
грацыёзна дэфілюе па вальеры
яе закідваюць
прыгаршчамі кампліментаў
прыгаршчамі мацюкоў
прыгаршчамі добрых парадаў

кабета гэтага стагоддзя
самотная дома здымае
абутак з высокім абцасам
вешае маску на вешалку
паліто кладзе побач са шпількамі

кабета плача
самотна цэдзіць каву
(абавязкова з двума лыжкамі лёду)
пад гучную калатнечу палітыкаў па ТВ
а перад сном
шукае ў інтэрнэце
чуласць
дотык
вуснаў смак

кабета гэтага стагоддзя
прымае снатворнае
і захінаецца ў коўдру
каб
не
скалець

* * *

калі ты шчаслівы
вершы не пішуцца
у дваццаць першым стагоддзі
пісаць пра хмары і асалоды
забараняецца

хто сумуе па шчасці
развітваецца са славай
застаецца ў куце падраны
і пашкуматаны
як у вулічных бойках
пабіты сабака

пануе ў маім свеце
благастан
тут ёсць і дрэва і сонца
і ўсмешка
ў каштанавай
шафе
з дрэва?
а можа пластыку?

мяне не хвалююць:
сваркі па тэлебачанні
недаконченыя фільмы
нявысветленыя размовы
і бясконцыя стагнанні

ёсць я
і хвіля рэлаксу

**прафанацыя**

дрэвы ў квецені атулілі брыдкую кабету
чорныя ніжэй плячэй валасы
захінулі твар

калі Ісус памёр не дакрануўся
ейнай шчакі далонню
яна засталася адна сярод людзей
каля крыжа

Пілат паціраў рукі


Пётр Кавескі. «Баршчэўнік».

*

хто без граху
хай першы кіне камень

усе паглядалі на яе левую смочку
якая вызірнула з сукенкі
яна была вялікай
мужчыны кінулі жанок
узбудзіліся
маўчалі

Ісус выняў пластыкавую місу
яна абмыла ягоныя ногі

відаць яна разважала колькі народзіць яму дзяцей
а ён самотна памёр на крыжы

* * *

шчасце — гэта матылёк
з ягоных крылцаў асыпаецца пылок
матылёк ледзь бачны
затуманенымі вачыма
шчасце? імгненне
якое можа падарыць усё
і яшчэ хутчэй зробіць жывой
усмешку
шчасце — няўлоўнае
стракатае і прыўкраснейшае зверанятка
але шчасце адлятае вельмі рана
шчасце вельмі рана ўцякае

…бо шчасце
ўсяго толькі шчасце
імгненне жыцця

*Пераклад з польскай*
*Алеся Емяльянава-Шыловіча*

# Вальдэмар Міхальскі

## Ліст да брата Альберта

Ва ўсёй кнізе — адна думка:
«быць добрым, як хлеб» — хапае,
каб жыццё прайшло не марна.

Час для гадзіннікаў роўны:
учора, цяпер — белы стол і бохан,
як сонца, падзелім на лусты.

Што маю — Тваё.
Уздасца мне — бо даваў.
Клічу: «Ойча!», нехта ў адказ мне: «Тут я».

Мы ходзім той самай сцежкай,
адчыняем тую ж знаёмую браму.
Шукаем ежу?

Браце Альберце з паштовай маркі,
не цурайся драўляных парогаў
нашых сэрцаў.

## Найвялікшая нічыя ў гэтым свеце

*прафесару Уладзіміру Седлакову*

Ля хаты зноўку паявіліся птахі,
якіх заўсёды праганялі нават
з біблейскіх спеваў.

Вунь той залюляў сухую амаль што
таполю і жыў аднавокі
ў гняздзе, спаленым вапнай.

І вось чалавек з'явіўся апоўдні,
вуду меў, проса ў кішэні,
не прагнуў падтрымкі, быў проста цярплівым.

Найвялікшая нічыя ў гэтым свеце —
пачуўся голас знанага прафесара.
Не паспеў азірнуцца — за акном няма птаха.




## На байдарцы па Днястру

Россып бляклых фотаздымкаў,
на стале рака віруе.

Гладзь вады ўзаралі вёслы
і крыла два белай чайкі.

Неба супраць, але з Богам!
З чуйным сэрцам, зоркім вокам.

Дзівіць часу напісанне
ў белых цэрквах чорных земляў.

З дрэва стол, сцяны чатыры,
а Святая Тройца — пятай.

Плынь рачная ў даль панесла.
На вадзе сляды застылі.

## Пілігрымка ў Пачаеў

Адсюль Пачаеў
быццам на далоні.
Удыхаеш дым кадзільны,
мацыёлу і расходнік.
Вежа сягае неба.
Толькі неба
без дыхання,
без пачатку,
з перакрэсленым крыжам
на векі вечныя.
А ў торбе —
засуха.

## Белая чайка

*Памяці сына Януша —*
*аўтара кнігі «Воднымі шляхамі*
*Польшчы, Літвы, Украіны»*[1]

Чайка белая, адкуль ты
за маім акном, красуня?
Спакаваныя палаткі.
Плынь шалее — рве з рук вёслы.

Хто на беразе застаўся —
той чужак, не бачыць злева
Найсвяцейшай Тройцы вежу,
срэбнай рэчкі браму ў доле.

Чайка белая, адкуль ты
ў кожным слове так чаканым?
Знак даеш у шлях збірацца
ці для сэрца весціш раны?

На стале чарговы адрас,
дзён разбіўка на этапы,
мера рэчаў — белы аркуш,
зноў спісаны ўвесь дарэшты.

Чайка белая, адкуль ты —
з Прыпяці, з Днястра? Раскрый мне
словаў сэнс, што мне прынесла,
зноў вярнуўшыся, як хваля.


Пётр Кавескі. «Чартапалох лекавы».

## Primavera[2]

Галерэя Баргезэ сніцца кожнай ноччу:
удваіх абягаем Рыма фантаны.
Не бойся мяне. Я — як сабака,
утароплены ў бурбалку з мыла.
Хлушу, нібыта да гэтага часу кахаю.

Будзімся ранкам галодныя. Праз драўляныя жалюзі
прабіваецца сонца — прамяністае, адпачыўшае,
як заўжды, як ні ў чым не бывала.
Боскім каўчэгам плывуць твае плечы,
сэрца ўнутры — з алебастру.

Што шчасце толькі ўдваіх здабываюць,
нат дурні чулі — абраныя знаюць.

## Усё ўнутры нас

Шлях, дзе сосны з глогам змяшаліся разам
і бягуць да пракосаў свежай травы,
што лашчыцца да ног,
а сабака вядзе да крынічнай вады —
гэта моцная, пададзеная з надзеяй далонь
і заселыя ў горле на паўслове пытанні:
Што ёсць праўда і ці ёсць каханне?

Войны ўсе — блазнаванне, а ўсе заклінанні,
быццам проба агнём альбо камень на шыі.
Хто не любіць, той страху не мае,
хто не плакаў, радасць таго ніколі не ўзрушыць:
чарнее каляндар на ростані дарог.
Толькі зоры над намі,
толькі вера ўнутры нас.

*Пераклад з польскай Анатоля Брусевіча*

[1] Маецца на ўвазе кніга Януша Міхальскага (1962—2006) «Wodami Polski, Litwy i Ukrainy: reportaże i wspomnienia.» — Lublin: Związek Literatów Polskich, Wydawnictwo Bestprint, 2007. — 232 s.
[2] Primavera (італ.) — вясна.



## Аляксандр Юркевіч

### Малітва

Прашу аб сіле,
каб мог бараніць слабейшых.
Прашу аб мудрасці,
каб слова маё
было справядлівым.
Прашу аб мужнасці,
каб супрацьстаяць усякім
нягодам.
Прашу аб нязломнасці,
каб трываць тое,
дзеля чаго створаны.
Прашу аб светлым розуме,
каб не быць зноў ашуканым.
Пане, усё, што раблю,
раблю для Цябе.
Не пакіну Цябе ніколі,
бо ў Табе мая моц.
Скіроўвай ногі мае, каб крочылі
Табой абранымі сцежкамі.
Скіроўвай рукі мае,
каб служылі дабру і справядлівасці.

In nomine Patris
et Filii et Spiritus Sancti[3]

### Хвароба

Пульс у норме,
ціск таксама,
рытм працы сэрца рэгулярны,
ніякіх тромбаў,
клапаны функцыянуюць нармальна —
дык у чым праблема?

адказ вядомы — жанчына.

### Крывое люстэрка

Усміхаюся,
назіраючы прагу свету
да самазнішчэння,
усміхаюся,
калі ўсюды пануе зло,
усміхаюся,
бо педафілы і забойцы
сноўдаюць па зямлі.
Смутна мне,
калі няма жаднай вайны,
калі людзі не гінуць тысячамі,
смутна мне,
калі птушкі спяваюць,
калі ўсюды толькі любоў,
воля, свабода.
Ды, заўважце, я дагары нагамі
стаю, як і цэлы свет…

### Выклік

Не заслужыў я,
не заслужыў я на лёс,
падрыхтаваны Богам.
Можа быць, гэта слабасць?

К чорту коціцца свет:
здрада, падман, пагарда
людзей да іншых людзей...

[3] У імя Айца, і Сына, і Святога Духа (лац.).

Творцу не патрэбны авечкі
з іх паслухмянай пакорай,
яму патрэбна ваўкоў
цэлая зграя,
што навядзе парадак
там, дзе неабходна.

Толькі дзе іх знайсці,
калі ўсюды аслы і авечкі?

Ці ведаеш, чый голас
гаворыць пра адсутнасць шанцаў
і ў адначассе раіць не здавацца,
кажа, што загінеш,
а праз хвіліну, што ты бессмяротны?

Ён твой.
Бо ты ствараеш межы і бязмежжа.
Усё залежыць ад цябе.
Дык стань ваўком,
ратуй гэты свет!

## Сізіфава змаганне

Найбольш моцнае пачуццё —
нянавісць.

Думаў заўсёды, што каханне,
але не, гэта няпраўда.
Столькі ж мае моцы, калі можа прывесці да вайны,
смерці мільёнаў,
скрэсліць кожны маральны прынцып!

Некаторым здаецца, нянавісць можна зацугляць,
асядлаць
і стрыножыць.

Усё брахня!
Калі гэтая гніль засядзе ў табе, то хутка
пачне знішчаць,
выядаць знутры —
не справішся з ёй.

Павер мне, я спрабаваў.
Дагэтуль спрабую...

## *яшчэ адзін урок*

Маска...
Ненавіджу маску...
Зрэшты, чуюся ў ёй лепей, чым ва ўласным «я».
Усё радзей яе здымаю,
без яе мне цяжка,
ды часовая палёгка выйсцем быць не можа.
Бо жыццё такое — жыцца мусіць цяжка.
Цяжкасці фармуюць нас і наш характар,
чэрпаем з іх досвед,
і ад нас залежыць,
што мы з гэтым зробім.

задзяўбалі штампы...

## Крызіс веры

Дзе ты?
Тата б’е маму,
крычыць на яе, штурхае.
Дзеці глядзяць.

Дзе ты?
Трое мужчын гвалцяць
дзяўчынку-падлетка.
Людзі глядзяць.

Дзе ты?
Катуюць тваіх паслядоўцаў,
увекавечваюць гэты здзек.
Ты глядзіш.

Дзе ты?
Вакол нас? Недзе побач? На небе?

Цікава,
спецыяльна так робіш,
што крызіс веры тады надыходзіць,
калі найбольш яе патрабуем?

А ты, і праўда, каварны.
Усё часцей забываю,
што мераеш справядліва,
хоць часта твае прысуды
мне зразумець немагчыма.

І таму ты з’яўляешся Богам,
а не я ...

*Пераклад з польскай Анатоля Брусевіча*



## Марцін Даніэль Кавальчык

* * *
блукаць па дзікім садзе
з каліўцам сонца ў сэрцы

з белым круком на плячы

ванну прымаць у возеры нектару
меданосных траў

першыя пацалункі дарыць
закаханым

закружыцца ў містычным танцы
з каралевай ночы

заўсёды мець над галавой
акрайчык аксамітнага блакіту

не губляць сябе…

### прэлюдыя кахання

ад яго не вылечыць
лыжка мікстуры

гэта не прастуда

калі захопіць хвалюючымі акордамі
заглушыць рэальнасць

завядзе ў райскі сад
пачастуе сочнымі пацалункамі

разгушкае арэлі асалоды

раптоўна парве
гаручую струну сэрца
напружаную гукамі захаплення

пырсне жар любоўнай Аркадыі

засквірчыць у прыску
патыхаючы слязою смутку

а гэта толькі прэлюдыя

перш чым нявінныя вочы дзіцяці
прымружаць стомленыя павекі

### партрэт у люстры

у люстэрку перад якім
ты ў задуменні расчэсвала
свае залатыя валасы
бачу скрозь
адбітак анёльскай прыгажосці…

у ім застаўся
развітальны след
кармінавых вуснаў…

залатыя валасы
распушчаныя на плячах
ззяюць як німб…

## кіруюся…

з вераю

сціскаю ў пальцах
боскую ніць любові

калі на хвілю выпускаю яе
з голасам сэрца знітоўваю думкі

не дазволю сумненню
падрэзаць мне
крылы

плыву з павевам
душэўнага ветру…

у неба

## паляванне каханкаў

сустрэнемся над рэчкай
вячыстых адчуванняў

як толькі начны паляўнічы
спусціць з прывязі
галоднае святло рамантызму

пусцім па шырокай плыні
у доўгачаканае плаванне
карабельчыкі з лістоў
напісаных шалёным каханнем

злучым назаўсёды
ссумаваныя берагі
нашых сэрцаў

дамо захінуць сябе вэлюмам
страшнай таямніцы
сястры начнога паляўнічага

ад холаду жыцця
нас абароніць
пяшчотнае цяпло
нашых позіркаў…

Пётр Кавескі. «Вятрак».

*Пераклад з польскай Алеся Емяльянава-Шыловіча*



Вераніка Лапацка



**нарадзілася ў 2004 годзе ў Міжрэччы Падляскім. Лаўрэат агульнапольскага літаратурнага конкурсу для дзяцей і юнацтва імя Марыі Канапніцкай (2017). Трынаццацігадовая аўтарка захапляецца гісторыяй Другой сусветнай вайны, літаратурай і верхавой яздой. Дэбютуе адначасова ў двух выданнях — «Падляскім квартальніку культурным» і «Маладосці».**

# Пах крыві

## *лета 1939*

Цёплыя промні сонца разагравалі Варшаву — і яна абуджалася да жыцця. На вуліцах можна было заўважыць усмешлівыя тварыкі дзяцей і матуль, якія выходзілі разам з крам са школьнымі прыладамі. Неўзабаве пачынаўся новы навучальны год. Духмянасць цёплых булак з пякарні і павольнае перасоўванне мінакоў сведчыла, як тут усім павінна быць хораша. Толькі адна дзяўчына з доўгай светлай касой на плячы ляцела на злом галавы, чапляючы мінакоў. Яна не глядзела, на каго трапляе, бо ўжо моцна спазнялася. Урэшце дабралася да вялікай будыніны. Калі наблізілася, сабакі ў клетках нібы абудзіліся да жыцця і віталі яе характэрным брэхам. Яна адчыніла дзверы, не звярнуўшы ўвагі на тое, што ледзь не прыціснула нос аднаму з валанцёраў прытулку. Дзяўчына заляцела ў гардэроб і накінула на сябе цёмна-сіні фартух з вышытай на грудзях выявай сабакі. Бегма выскачыла адтуль і апынулася ў памяшканні, дзе адбываўся сход валанцёраў. Яна ўселася ў канец вялікага стала, за якім сабралася каля сарака чалавек.

— Як я і казаў, мы хочам падрыхтаваць дадатковыя клеткі на тэрыторыі прытулку, — дырэктар глядзеў з дакорам на спозненую Малгажату. — Акрамя таго, будзе ўладкаваны дадатковы пакой адпачынку для шчанюкоў — дзесьці на пачатку верасня. Той, хто спазніўся, будзе мець праблемы з інфармацыяй. На гэтым усё, бывайце, — мужчына кінуў зялёную папку перад Госяй і выйшаў, мармычучы сабе пад нос штосьці пра пашырэнне прытулку.

Дзяўчына разгарнула папку з адпаведнымі дакументамі. Але адразу ж адсунула яе і падышла да акна. Яна заўважыла кабету, якая забірала шчанюка. Малгажата ўсміхнулася думцы пра тое, што чакае яе праз тры дні. Было дваццаць восьмае жніўня, а яна яшчэ не мела ўяўлення, як будзе выглядаць далей яе праца ў дабрачыннай арганізацыі. Дзяўчына збегла па сходах уніз, зняла фартух і ўціснула яго ў шафку паміж кніжкамі. Выйшла з будынка і падышла да свайго любімчыка. Штурхнула металічныя краты і ўвайшла ў «дом» мяшанца — каўказскай аўчаркі. Села на мокрую, цвёрдую зямлю і пагладзіла сабаку, які адразу ж паклаў галаву ёй на калені. Хоць ён і быў яе любімчыкам, але яна душы не чула і ва ўсіх астатніх ста пяцідзесяці сабаках, у тым ліку і чатырох з пароды дынга. Ніхто не высвятляў, з якога заапарка тыя ўцяклі, але адно было вядома дакладна: гэта былі адзіныя такія сабакі ў варшаўскім прытулку.

З задумення Малгажату вывеў ліпкі язык сабакі, які выкручваў кругі на чуллівай скуры шаснаццацігадовай дзяўчыны. Яна апрытомнела і пакінула клетку, замкнуўшы яе так, як рабіла гэта штодня.

Дзяўчына выйшла праз браму і накіравалася дадому. Сёння ў яе ўжо не было аніякай працы; яна ведала, што пасля такога выпадку не варта вяртацца. Некалькі спазненняў было для дырэктара таварыства сігналам: *ты больш тут не працуеш*. Малгажата сама не ведала, ці плакаць ёй, ці радавацца. На твары мужчыны было напісана, што яна часова пазбаўлена службовых паўнамоцтваў і абавязкаў. Ён кожнаму так тлумачыў перад звальненнем, а яна як-ніяк перабрала меру.

Дзяўчына нават не заўважыла, як хутка апынулася ля дома. Адамкнула нязменна рыпучыя дзверы. Падалася да пакоя, у якім перад выхадам яшчэ струменіла аптымістычны погляд на свет. Грузная сучка прывітала дзяўчыну, лізнуўшы ў твар, і адразу ж за ёй у пакой прыклыпала пяцёрка пяцімесячных шчанюкоў. Малгажата паклала ўсіх на тапчан і пачала чухаць за вушкамі. Яна дасканала ведала іх звычкі. Мела «бзік» на аўчарках, асабліва падгалянскіх. Белыя шарыкі качаліся па мяккай паверхні, абнюхваючы адно аднаго і дзяўчыну. Яны грызлі яе пальцы і кусалі за шыю. Такія забавы каштавалі дзяўчыне мноства шнараў, струпаў і рубцоў. Але гэта прыносіла ёй уцеху. Можна сказаць, што жывёлы яе выхавалі. Дзякуючы гэтаму Гося і ведала так добра іх звычкі.

Наступныя тры дні праляцелі маланкай. Малгажата не паспела і вокам міргнуць, як ужо трэба было прыдумляць перад люстэркам якую-небудзь прычоску. Урэшце яна вырашыла, што запляце дзве касы. Задаволеная, схапіла кнігу і адправілася на пачатак школьнага года. Штосьці ўнутры аднак падказвала ёй, што не трэба ісці, што яна мусіць дзесьці схавацца. Дзяўчына нават сварылася на сябе ў думках.

Малгажата выйшла на вуліцу, якая пульсавала жыццём. Тут жа перад крамай агародніны яна павінна была сустрэцца з братам. Ён чакаў, як заўсёды, ужо пяць хвілін. Гося адшукала брата вачыма і рушыла наўпрост да яго. Але тут зірнула на тратуар, з якога раптоўна знік яе цень. У адно імгненне зрабілася цёмна, а неба пакрылі дзясяткі крылатых машын. Першыя выбухі выклікалі вялікую мітусню. Напалоханыя людзі ў паніцы ўцякалі. Чарговыя снарады падалі з неба, як кроплі дажджу. Себасцьян (брат Малгажаты) схапіў яе за руку, і яны хутка пабеглі дадому. Забеглі ў кватэру і пачалі пакаваць у чамаданы самыя небходныя рэчы.

— Дзеці, гэта бамбардыроўка! — перапалоханая маці таксама складвала тое, што магло спатрэбіцца. Праз дзве хвіліны яны закрылі свае чамаданы. Малгося паклала ў кошык і шчанюкоў, якія трэсліся ад страху. Прывязала да іх маці павадок — і яны пакінулі дом. Разам падаліся на чыгуначную станцыю: там панаваў тлум; людзі праціскаліся наперад і душылі адно аднаго. Праз свіст кандуктараў можна было разабраць, што ўсе рэйсы адменены. Нягледзячы на гэта, людзі станавіліся ў даўжэзныя чэргі да білетных кас.

— Мама! Што мы робім? — пытанне Госі перарваў чарговы выбух. Жанчына не здолела адказаць. Гэты раз снарад прызямліўся на станцыю. Ашаломленыя людзі спатыкаліся аб целы забітых і яшчэ жывых. Малгажата схапіла кошык са шчанюкамі і дапамагла маці падняцца.

— Дзе Себасцьян? — жанчына спрабавала перакрычаць чарговыя выбухі. Дзяўчына пачала аглядацца ў пошуках брата. Перад яе вачыма прамільгнуў яго гранатавы пінжак, які нехта ў яго забраў. На кучы друзу і паваленых слупоў ляжаў ужо нежывы Себасцьян.

— Себасцьян! — залямантавала Малгажата і падбегла да яго. Прыўзняла яго галаву.

— Сынку! Прачніся, не пакідай нас, калі ласка, — маці туліла акрываўленае цела да грудзей і цалавала яго ў лоб.

— Себасцьяне, малю цябе! — прытуляючы і калыхаючы сына, крычала ўсё яна. Смерць свайго дзіцяці горшая за ўласную смерць. Хто не прайшоў праз такое, не ведае, што гэта значыць.

— Гэта маё дзіця! — крычала жанчына ў роспачы. Яе любы сын, якога яна столькі чакала, быў жорстка забіты ў першы дзень вайны.

Яны вярталіся разам, ледзь перастаўляючы ногі, — да дома, ад якога нешта яшчэ засталося. На вуліцах панавала пустэча, хаця акурат цяпер павінны былі вяртацца са школы дзеці — у форме, з ранцамі. Паловы Варшавы ўжо не існавала. Цяпер пачыналася іншае жыццё — жыццё ў пастаяннай няпэўнасці і страху. Раптоўна, ні з таго ні з сяго, Малгося ўспомніла пра прытулак. Напэўна, ад яго ўжо нічога не засталося! Яна аддала свой чамадан маці, вырвала з яе рук падгалянскую аўчарку і пабегла ў кірунку разбітай снарадамі варшаўскага «прыстанку» для жывёл. Дарога была кароткая. Галоўнай алеяй можна было дабрацца як найхутчэй; потым збочыць направа — і ты ўжо фактычна на месцы. Гося не ішла, яна імчалася.

Прытулак не нагадваў былы «прыстанак». Будынак быў разбіты. Адзінкавыя жывёлкі бегалі агаломшаныя. Большасць сабачых цел бязвольна ляжала ў клетках альбо па-за імі. Са ста пяцідзесяці выжылі толькі дваццаць. Унутры будынка, які цудам яшчэ стаяў, ляжалі дзесяць мёртвых валанцёраў. Малгажата падышла да клеткі, дзе знаходзіўся яе любімчык Бамба (каўказская аўчарка). Ён яшчэ жыў. І быў у шоку. Яна выпусціла сабаку з клеткі і тое ж зрабіла з іншымі. Усе паслухмяна накіраваліся за ёю. Яны ўвайшлі ў падвал, дзе стаялі досыць вялікія старыя клеткі. Іх было каля трыццаці. У кожную з іх дзяўчына запусціла аднаго сабаку. Шчанюкі адправіліся ў клетку з маткай. Гося дастала аднаго з іх.

— Люблю вас усіх, — нахіліла яна сваю галаву да пысы шчанюка. Пацерла рукой шчаку, па якой цяклі слёзы, пацалавала мілую аўчарку і аддала яе маці. Замкнула клетку і выйшла з разваленага будынка. Яна не была ўпэўнена, што да заўтра тут штосьці яшчэ застанецца.

## *вясна 1943*

Колькі дзён добрае надвор’е не пакідала Варшаву. Сонца падпякала дзіцячыя тварыкі. Аднак выкупаныя ў красавіцкім сонцы дрэвы былі сведкамі трагедыі, якая кранула Польшчу.

Малгажата была ўжо дарослай дзяўчынай. Яна вельмі шмат страціла ў гэтай вайне: бацьку, брата, некалькі блізкіх людзей. Маці сядзела цэлымі днямі дома. Яна не ведала, ці скончыцца ўрэшце гэта пекла, ці ёй таксама наканавана памерці ў пакутах і болі. Яна мела толькі любімую дачку, за якую штодня хвалявалася. Жанчына выглядвала праз акно, праводзіла яе вачыма, калі тая выходзіла. Вось і цяпер стаяла і прыглядалася. Яна ведала, што дачка ідзе ў прытулак, як ведала і тое, што там яе можа напаткаць смерць.

— Здарова! — спыніў Малгосю на вуліцы прыяцель.

— Ты дурны! Не тут! — шапнула тая, цягнучы яго ў завулак. — Колькі атрымалася? — Гося ўвесь час мела ў галаве тысячы думак і ніяк не магла цалкам сабрацца.

— Сёння ўначы прыедзе каля дзесяці, — Янэк выпраменьваў на дзіва аптымістычнае стаўленне да жыцця.

— Добра, буду чакаць іх у прытулку, — адказала дзяўчына, пасля чаго рушыла ў напрамку «прыстанку».

Знерваваная, яна грызла пазногці. Не заўважыла, як з кончыкаў пальцаў пачала капаць кроў. Капала на тратуар, пакідаючы маленькія кропелькі чырвонай «расы». Праз хвіліну Малгажата пабачыла бляск аўтамабільных фар. Чарговы раз яна ўважліва агледзелася навокал. Вялікі грузавік прыпаркаваўся ля апусцелых клетак. На сядзенні кіроўцы знаходзіўся Янэк, а побач з ім хлопец, што дапамог яму з пропускам на ўезд і выезд з гета.

— Ну як, пуста?— Янэк яшчэ раз хацеў упэўніцца ў тым, што нікога няма.

Малгося кіўнула. Янэк стукнуў чатыры разы па грузавіку, даючы знак, што можна выходзіць. Пяцёра дарослых людзей абтрэсліся ад смецця, якое перавозіла машына, і выскачыла вонкі. Яны падбеглі да дзяўчыны — яна паказала ім далейшы напрамак. Янэк дастаў з-за сядзенняў хлопчыка, які мог мець дзесьці каля годзіка, чатырохгадовую дзяўчынку і сямігадовага хлопца. Ён узяў у свае здранцвелыя рукі малечу і правёў усіх да Малгосі. Дзяўчына завяла іх у будынак. Янэк адышоў да грузавіка і выдаў характэрны ціхі свіст. Двое яго аднагодкаў адчынілі дзверы багажніка і пабеглі за астатнімі. Янэк зачыніў з трэскам багажнік, пасля чаго пайшоў дапамагаць дзяўчыне, якая рашылася схаваць дзесяць яўрэяў, вывезеных з гета.

— Паслухайце, удзень, гадзіне а дванаццатай, немцы звычайна патрулююць нашу вуліцу. Рэдка здараецца, што яны заглядваюць сюды, таму



Малюнак Аркадыуша Саўчука

зранку сядзіце ціха. Уначы за мурам бяспечна. Штодня я выпускаю сабак пабегаць. Па іх брэху вы будзеце ведаць, ці можна выйсці наверх альбо вонкі, — акрэслівала Малгажата правілы іх новага існавання.

— Апроч таго, мы афармім вам якія-небудзь дакументы. Пажывяце тут, пакуль мы не знойдзем нейкае іншае выйсце, — дадаў Янэк.

Яўрэі моўчкі кіўнулі, беручы толькі што атрыманыя матрацы, пледы і падушкі. Яны ляглі ў вялікія клеткі. Малгажата замкнула за сабой дзверы і падалася прыступкамі ўгару.

Зірнула на старое фартэпіяна. Усміхнулася сама сабе і ўселася на табурэт. Паклала пальцы на клавішы інструмента і ціхенька зайграла песеньку «Хрызантэмы залацістыя». Гэтая мелодыя заўсёды яе супакойвала, суцішала. Парны памер, а потым — няпарны. Яна калыхалася ў рытм мелодыі.

— Малгося? — высунуўся з-за дзвярэй Янэк, пачуўшы прыгожую музыку. Дзяўчына абярнулася. Яна заклапочана зірнула на яго і перастала граць. — Ты заначуеш тут? Калі які-небудзь фрыц прыедзе сюды, то перастраляе іх, як качак, — маляваў ён ёй жахлівы канец.

— Ведаю! — Гося ўстала з табурэта і зайшла ў падвал. Яна глядзела, як корпаюцца дзеці. — Янэк, прывязі мне яшчэ дваццаць, — шапнула яна хлопцу, які стаяў на сходах.

— Ты ашалела? Хочаш схаваць тут трыццаць яўрэяў?

— Я не прашу цябе! Я табе загадваю! Заўтра чакаю транспарт, — адрэзала дзяўчына, пасля чаго вярнулася наверх. Яна лягла на кушэтку і прыкрылася коўдрай.

## *лета 1943*

Янэк ішоў жвавым крокам. Азірнуўся, ці не ідзе хто за ім. На калідоры збочыў управа і загрукаў у дзверы кабінета.

— Guten Morgen (Добры дзень), — сказаў Янэк, уваходзячы ў пакой і шчыльна зачыняючы дзверы.

— Morgen, — адказаў эсэсавец ля стала. — Hast du etwas für mich? (У цябе ёсць нешта для мяне?) — Немец падазрона глядзеў на хлопца.

— In einer verlassenen Zuflucht versteckt man Juden (У пакінутым прытулку хаваюць жыдоў), — раскрыў Янэк тайну Малгажаты.

— Also fahren wir schon (Ну, тады едзем), — эсэсавец паспешліва падняўся з крэсла і выйшаў.

Яны разам селі ў фургон і рушылі ў вызначаным Янкам напрамку. Дарога была досыць кароткая. Хлопец выдыхнуў, бо было падобна да таго, што Малгажата ў будынку. Ён правёў немца з яго таварышамі за дзверы. Малгажату ўжо папярэдзілі пра прыезд «гасцей», бо псы брахалі і вылі ў клетках, перасцерагаючы аб іх прыбыцці. Адзін удар у дзверы — і гестапаўцы апынуліся ў прытулку. Потым забег у падвал, дзе Малгажата акурат замыкала металічныя краты.

— Gehen wir los! (Хадзем!) — эсэсавец ірвануў дзяўчыну ў бок дзвярэй. Астатнія адамкнулі краты і выгналі жыдоў вонкі. Паставілі ўсіх каля сцяны. Малгажата глядзела наўпрост у вочы здрадніка. Зірнула яшчэ раз на прытулак і ўсміхнулася.

— Зараз гэта скончыцца, — упэўніла яна ціха хлопчыка-яўрэя, што трымаў яе за руку.

Найбольш ёй было шкада маці. Малгажата не мела ўяўлення, як тая зрэагуе на паведамленне пра яе смерць. Засталася толькі надзея, што маці як надаўжэй пра гэта не даведаецца. Позірк дзяўчыны застыў на твары Янкі. І ў той жа момант прагучаў блізкі свіст снарадаў. Малгажата заплюшчыла вочы. Праз хвіліну яна адчула, як па целе разыходзіцца холад. Дзяўчына бязвольна ўпала на заліты крывёй тратуар. Яе апанавала вялікая стома. Заплюшчваючы вочы, яна яшчэ адчула пах крыві.

*Пераклад з польскай Настассі Галкоўскай*

# Сільвія Каліноўска: «Раблю тое… што люблю»

**З таленавітай мастачкай Сільвіяй Каліноўскай (працы яе вядомыя чытачам «М» з ранейшых гасцяваннеяў на нашых старонках польскага часопіса «ПКК») не толькі пра яе зачараванасць мастацтвам размаўляў Іштван Грабоўскі.**

**— Маеце за плячыма добра прынятыя публікай выставы — мясцовыя і замежныя. Працы вашы падабаюцца людзям, абуджаюць у іх эмоцыі. Чым вы ганарыцеся?**

— Мая творчасць прасякнута шматлікімі натхненнямі і назіраннямі, выкарыстанымі мною раней у якасці канвы. Малявала калісьці жахлівых стракоз, быццам выцінаных з эфірнай паэзіі Баляслава Лесьмяна. Спрабавала паглыбіцца ў надбужанскія травы і назіраць ашаламляльныя фарбы і ўзнёслыя хмары з пункту гледжання жабкі. Малявала коней, якія носяцца па лузе, і партрэты пажадлівых кабет у акружэнні птахаў, стракоз і буйнай расліннасці. Усё гэта рабілася спантанна і нязмушана. З прычыны выкарыстання розных матываў мне ўдалося стварыць уласны магічны свет, у якім адлюстраваны мае ўяўленні. Мяркую, гэта можа быць нагодай для гонару.



**— Раскажыце, што для вас маляванне карцін? Гэта своеасаблівае хобі, ці слабасць, ці мо лад жыцця?**

— Я здаўна марыла, каб захапленне маляваннем, паглынуўшы мяне без астатку, зрабілася ладам жыцця, прыносіла мне радасць і задавальненне. Упарта трымалася гэтай ідэі — і мары мае дачакаліся сваёй рэалізацыі. Ёсць у мяне прадчуванне, што раблю тое, што люблю. Акрамя таго, малюючы, я адпачываю. Задавальненне, якое атрымліваю дзякуючы сваім карцінам, забяспечвае мне і спакой, і ўсмешку, і матывацыю да новых работ. Каб не трапіць у руціну, займаюся яшчэ танцамі, фатаграфую, распрацоўваю дызайн керамікі і адзення. Гэтыя заняткі таксама натхняюць.

**— Павернем час крыху назад. Калі вы адкрылі ў сабе здольнасць да эфектнага малявання?**

— Не магу сказаць дакладна, калі ўва мне прачнулася ўсвядомленая прага да малявання. Першыя спробы заштрыхоўваць прастору былі заўважаны ў дзяцінстве. Бяздумна мазала па аркушы паперы, які толькі трапляўся пад руку. Часам гэта былі цікавыя спробы. Але я ніколі не задумвалася, што гэта можа стаць маім жыццёвым прызваннем. Бацылу жывапісу падхапіла толькі на мастацкіх пленэрах. Шмат яны мне далі. Малады чалавек часта заблытваецца ў перакананні, што ўсё, да чаго ён дакранаецца, цудоўнае. Толькі з цягам часу набіраеш дыстанцыю да сябе і сваіх стараннеяў. Чым больш я малюю і ўдасканальваю сваё майстэрства, тым хутчэй прыходзіць упэўненасць, што я яшчэ не вельмі шмат умею. Таму залішнія амбіцыі ці зорная хвароба мне не пагражаюць.

**— Дзе вы мелі магчымасць удасканальваць свае навыкі? Ці быў у вас настаўнік, які б мог падказаць, падштурхнуць, ацаніць першыя работы?**



— З радасцю сцвярджаю, што на розных этапах жыцця сустракала шмат мудрых і годных людзей, якія мяне натхнялі. Шмат разоў падкрэслівала, наколькі я ім удзячная. У пачатковай школе маім правадыром у свет мастацтва быў Аркадыюш Маркевіч, бацька вядомай цяпер спявачкі Малгосі. Ён навучыў мяне ствараць калажы і «прышчапіў» ахвоту да малявання. Падчас вывучэння гісторыі мастацтва мела прыемнасць знаёмства з прафесарам Марыяй Ганнай Сасноўскай, цудоўнай апавядальніцай пра творы жывапісу. Дзякуючы заняткам з Олафам Квапісем, даследчыкам сярэднявечнага італьянскага мастацтва, зрабіла натхняльныя мастацкія вандроўкі ў Італію, значна пашырыўшы ўласныя ўяўленні. На факультэце жывапісу ва Універсітэце Марыі Кюры-Складоўскай вучылася пад наглядам прафесара Яцка Вайцяхоўскага, што абудзіў ува мне свядомасць мастачкі і прафесійную шчырасць. Дзякуючы Лешку Сакалоўскаму чатыры разы ўдзельнічала ў мастацкіх пленэрах, арганізаваных у «Вясёлкавым фальварку» ў Крымошыцах. Пазнаёмілася там з вельмі цікавымі людзьмі. Назіранне за іх стылем, штрыхамі, майстэрствам стала для мяне каштоўным досведам. Цяпер магу сцвярджаць, што сімпатызую людзям незвычайным, якія выклікаюць павагу сваімі ведамі і дасведчанасцю.

**— Калі маляваць для вас было так важна, навошта вы пераарыентаваліся на вывучэнне біялогіі? Не шкада было часу? Пазней жа яшчэ выбралі гісторыю мастацтва і навучанне графіцы…**

— Не лічу, што за вывучэннем біялогіі губляла час. У юнацтве не магла ведаць дакладна, чаго прагне душа і да чаго насамрэч імкнуся. Біялогію выбрала, бо люблю прыроду і была перакананая, што здолею сябе ў гэтым знайсці. Аднак малявала ўвесь час і ўжо падчас навучання дачакалася першай выставы «Дзея ў квадраце», арганізаванай у Галандыі. Усвядоміла тады, што варта ісці гэтым шляхам. З таго часу мая адукацыя працягвалася ў Callegium Civitas і Універсітэце Марыі Кюры-Складоўскай.

**— Якія майстры пэндзля абуджалі вашы ўяўленні ў юнацтве? Ці пакінулі іх работы трывалы след у вашых незалежных дасягненнях?**

— У юнацтве я прагна чытала біяграфіі мастакоў. Некаторыя з іх далі мне значна больш, чым проста ўрокі. Агонь і жарсць аценіла ў фантастычных выявах Фрыды Кала. Праз яе колеры Мексіка выглядала неўтаймоўна дзікай і таямнічай. Вялікае ўражанне зрабілі работы Пабла Пікаса… і не толькі тое, што названа кубізмам. Свае ўражанні Пікаса чэрпаў з жыцця, а гэта рабіла яго мастацтва сапраўдным. Вельмі мне даспадобы яскравая творчасць Густава Клімта, вельмі захапляюць работы Караваджы і Сальвадора Далі. Як бачыце, мела перад сабою шмат паказальных прыкладаў. Увогуле, адчуваю сябе толькі ў пачатку дарогі і ўвесь час шукаю нешта, што здолее мяне ўзбагаціць.

**— Вашы прыгоды з мастацтвам пачыналіся ад коней, якіх вы рысавалі тушшу і малявалі пастэллю. Ці адыграла тут нейкую ролю блізкасць яноўскай стайні?**

— У мяне такое адчуванне, што ўсё, чым мы ў юнацтве насычваемся, аддаецца пазней з працэнтамі. Маё маляванне як некалі было, так і цяпер ёсць вельмі блізкае да прыроды. Я вырасла сярод надбужанскіх палеткаў, дзе магла ўдосталь налюбавацца прыгажосцю арабскіх скакуноў. Малявала, як яны блукаюць у травах, ці ў руху — з развеянымі грывамі, са шпаркімі капытамі. Марылася злавіць гэта хараство вокам Сільвіі.

**— А вядомай вы сталі з-за сваіх незвычайных карцін. Што прымусіла ствараць іх на дошках, ды яшчэ з разабраных дамоў? Было гэта формай пратэсту ці жаданнем знайсці новыя сродкі самавыяўлення?**

— Гэта праўда — я шукала новыя сродкі самавыяўлення. Палатно мяне абмяжоўвала як плоская паверхня, затое жывапіс па дрэве даваў новы досвед. Адкрыла ў сабе любоў да малявання па драўніне, якая пацярпела ад часу і моцы прыроды. Няроўнасці ў фактуры дыктавалі мне наўпрост, як павінен выглядаць партрэт асобы. Малюючы на дошках «анёліц», давала гэтым дошкам другое жыццё. Стварала нават цэлыя тэматычныя цыклы, у якіх яны адно з адным перагукаліся. Цешуся, што вартасць маіх карцін на дрэве зразумеў і ацаніў Гжэгаж Міхалоўскі, галоўны рэдактар «ПКК».



**— Квартальнік вельмі дапамог вашаму руху наперад.**

— Так, вельмі. Мае карціны трапілі на вокладкі часопіса, а на яго старонках размясціліся добразычлівыя рэцэнзіі на мае выставы. Пры дапамозе Гжэгажа Міхалоўскага Публічная бібліятэка ў Бяла-Падлясцы і Таварыства Сяброў Падляшша выдалі прыгожы альбом пад назвай «Коні… анёліцы і надбужанскія палеткі». Прынялі яго вельмі прыязна, а некаторыя мае прыхільнікі змяшчалі рэпрадукцыі ў апраўы, каб павесіць у сваіх кватэрах. Гэта было вельмі міла.



**— Ваша творчасць адкрывае шмат узаемавыключнага — ад далікатнасці да драпежнасці. Як думаеце, такая перамена настрояў выклікае больш ахвоты да працы, пазбаўляе руціны, якой мастак павінен асцерагацца?**

— Мая творчасць эмацыйная: усё, што мяне датычыцца, адбіваецца ў маіх работах. Безумоўна, з гэтай прычыны некаторыя карціны літаральна кіпяць эмоцыямі. Гэта бачна ў прыадкрытых вуснах жанчын, доўгіх шыях, злёгку прыкрытых вачах. Карціны затуляюць прастору і прыадкрываюць кавалак свету, пакінуты самому сабе. Што можа быць больш захапляльным?

**— Гледзячы на вашы работы, задумваешся, чаму яны апанаваны тварамі і сілуэтамі прыгожых жанчын? Гледача павінна ўразіць хараство і пачуццёвасць?**

— Ахвотней за ўсё я малюю тое, што мне падабаецца. Мо калі-небудзь, калі торкне мяне стыло часу, зменяцца твары маіх гераінь. Часта мне даводзіцца ствараць партрэты. Паколькі не прызнаю звышрэалізму, мусяць яны быць узбагачанымі дадатковымі элементамі кшталту мяккасці або недаказанасці.

**— Затрымаемся крыху на вашых знакамітых «анёліцах», вытанчаных і напоўненых пачуццёвай сілай. Ці імпануюць вам асобы, упэўненыя ў сабе, гатовыя змагацца з нягодамі?**

— Натуральна, што мне імпануюць кабеты адважныя і рашучыя. Трэба аднак памятаць, што моцная жанчына ахвотна адказвае на новыя выклікі часу, шукае невядомыя дагэтуль магчымасці, яна ўся адкрыта невядомаму, неўсвядомленаму. І гэта, відаць, соль майго жыцця. Ствараючы пачуццёвыя карціны, я выяўляю сябе, сваю сутнасць.

**— Ці здолелі вы адкрыць таямніцу жаночай прыроды?**

— Пагадзіцеся, што гэта досыць працяглы і складаны працэс, улічваючы хаця б такі факт, што жанчына па сваёй прыродзе пераменлівая. У юнацкія гады яна не такая, як у час мацярынства ці ў веку сталым. Думаю, што на гэтую тэму магла б расказаць больш, калі б была сівавалосай бабулькай.

**— Вашы інтрыгуючыя работы пульсуюць жыццём надбужанскай прыроды. Дзе вы знаходзіце новыя натхненні, як сілкуеце свае батарэйкі?**

— Як ужо згадвала, я натхнялася колерам, смакам і пахам надбужанскага краявіду. Творчыя батарэйкі падзараджаю падчас далёкіх ванд-

ровак. Сцвердзілася ў думцы, што кожная вандроўка можа быць адкрыццём, нагодай для спасціжэння сябе, набірання дыстанцыі да жыцця, якое сплывае. Таму так цудоўна выязджаць і потым вяртацца ў свой куток.

**— Калі ўжо размаўляем пра вандроўкі, дзе б вы знайшлі для сябе ідэальнае месца?**

— Яно не мае пастаянных каардынат. Знаходзіла б яго там, дзе лінія гарызонту сутыкаецца з чыстым пяском і цёплай вадой. Такое месца асацыіруецца ў маім уяўленні з вельмі зычлівымі людзьмі, якія знаходзяцца ў пошуку жыццёвай гармоніі.

**— А з чым у вас асацыіруецца поспех?**

— Тут няма ў мяне ніякіх суменняў. Поспех — гэта магчымасць злучыць творчы запал з працай, якая абуджае ў людзях пазітыўныя эмоцыі. Мерай поспеху, калі разумець яго так, з'яўляецца жыццё на ўласных умовах.

**— Ці здолелі вы да яго наблізіцца?**

— Маім асабістым поспехам з'яўляецца набыццё месца для творчасці, якая не мае перашкод, і рэалізацыі ўсіх памкненняў. Дзякуючы мастацтву, якому служу, я не губляю радасці жыцця. Рэалізуюся ў тым, што раблю.

**— Што дае вам штодзённыя радасці, а што раздражняе?**

— Прыемнасць мне ствараюць цікавыя падарожжы, эстэтычныя ўражанні, сяброўскія размовы з зычлівымі людзьмі, радасць майго дзіцяці і жоравы ў небе. Раздражняе мяне нахабная ўсмешка на твары чалавека, які свядома чыніць зло.

**— Ці можа жывапіс, якому вы сябе прысвяцілі, быць спосабам пражыць жыццё цікава?**

— Я перакананая, што так, хоць мастак мусіць моцна старацца, каб не загразнуць



у руціне і пазбегнуць псіхічных праблем. Уласна кажучы, дзеля гэтага варта не атачаць сябе таксічнымі людзьмі. Быць рэалізаваным — цудоўны спосаб цікава жыць.

**— Вы маладая, прыгожая, поўная энтузіязму жанчына. Як уяўляеце сябе гадоў праз дваццаць?**

— Яшчэ пра гэта не думала. Мабыць, не ўяўляю сабе іншага жыцця акрамя таго, якім цяпер жыву. Але думаю пра наступныя творчыя ўзлёты. Я — за актыўнае жыццё. Лічу, што буду яго мець, хоць шчасцю трэба крочыць насустрач.

*Пераклад з польскай Святланы Воцінавай*

**Ірына Шаўлякова**

# Літаратурны вінтаж як крыніца бязлітаснага аптымізму

**Бычкоўскі, А.**
У пошуку шчасця : правінцыйныя казкі / Алесь Бычкоўскі. — Гомель : Барк, 2017. — 156 с.




Выбар паміж паняццямі «старамоднасць» і «вінтаж» нярэдка можа быць абумоўлены не столькі якаснымі характарыстыкамі з'явы ці моўным густам, колькі сфакусаванасцю зроку «выбаршчыка». Вось кніга «правінцыйных казак» Алеся Бычкоўскага «У пошуку шчасця» можа пры першым гартанні падацца старамоднай — і такой застацца, напрыклад, для чытача-«канькабежца», які віртуозна слізгае па паверхні тэкстаў. З ціхім дакорам старамоднасць можа згадаць і вечна юны аматар выключна контррэалістычнай прозы гэтага аўтара. І зусім іншая справа — чытач старой школы, не сённяшняга, так бы мовіць, «тыражу», а олдскульнага «выдання». Той ніколі не атэстуе похапкам кнігу з такой інтрыгуюча-старасвецкай назвай як старамодную. Той цэлае следства ўчыніць (без карыслівых, дарэчы, рэзонаў, кшталту ганарару за рэцэнзію ці каб гумор пісьменніку сапсаваць): а з якое такое прыхамаці аўтар фантастычнай «Анамаліі» перакваліфікаваўся ў казачнікі?

З першых жа крокаў падобнага чытання-як-следства становіцца зразумелым, што ўдакладненне, «прышчэпленае» аўтарам да назвы кнігі «У пошуку шчасця» (нават шрыфты на вокладцы якой недвухсэнсоўна ўказваюць, адкуль, з якога dream time пошукі стартавалі), — гэта (сама)іранічная атрыбуцыя, да якой наіўна было б падыходзіць з крытэрыямі жанравай дакладнасці. У зборнік увайшлі дваццаць чатыры творы, насамрэч даволі розныя паводле жанрава-стылявых адзнак. Ёсць тут карацелькі-«маралітэ» («Сведка веры», «Рысы мужнасці»), былічкі («Бабуля», «Пра навуку і невукаў», «Пачатак нябёсаў», «У пошуку шчасця», «Паэт»), кароткія аповеды навелістычнага кшталту («Адзінота»); маецца таксама мадыфікацыя абразковага жанру («Кроплі»), мадэрновая версія аповеду «іроікамічнага» тыпу («Герой дня»), аповед-«трыкамерон» («Нястрымны баль кахання») і нават… звышмадэрновая «ленініяна» («Вычварэнцы»).

А. Бычкоўскі-«казачнік» наогул знаходзіцца ў стане своеасаблівага жанравага неспакою, што жывіцца вельмі рознымі ў гісторыка-культурным плане з'явамі. Напрыклад, у творы «Майстра скрыпак (фэнтэзійная рэфлексія)», такой неагатычнай гісторыі кахання і здрады па-беларуску (анягож, «на Палессі спрадвеку ледзь не кожная баба — варажбітка»), лунаюць выявы ды згукі апавядальнай традыцыі Яна Баршчэўскага:

« — Тое, што выскачыла з Верчыных нетраў, немагчыма апісаць. <…> немаўляці не спяшаліся перавязаць пупавіну. Павівальная бабка стрымгалоў выбегла з хаты, кранулася розумам і праз

тры дні памерла. Верчыны суседзі хуценька зладзілі дзве труны і зладзілі хаўтуры. А на сарачыны хата, у якой прымала Фіму адзінокая Верка, згарэла ўшчэнт. Людзі расказвалі пра бліскавіцу, што ўдарыла з яснага неба. Хаця, мажліва, што радыяцыя ўсяму віной…».

Асабліва адчувальная ўнутраная повязь гэтай «фэнтэзійнай рэфлексіі» са знакавымі для беларускай славеснасці «фантастычнымі апавяданнямі» Яна Баршчэўскага ў фінале. Гэта перайманне (на ўзроўні генетычна-творчым) не «літары», але духу, атмасфернасці «Шляхціца Завальні»; яно чымсьці нагадвае пераклад архетыповых сюжэтаў на мастацкую мову свайго часу — і адначасова на мову ўласнага (даволі іранічнага) бачання свету:

«Калі айцец Аляксандр змоўк, ніхто працяглы час не абмовіўся слоўцам. Прысутныяператраўлялі вячэру, хтосьці сёрбаў брагу, хтосьці кімарыў, ды гучна патрэсквала вогнішча. Бацюшка памацваў вялікі срэбраны крыж на грудзях і выразна паглядаў на асінавы кол. Сённяшняй ноччу наспела пара Поўні…».

Аповед «Амелія», у сваю чаргу, у жанравастылявым сэнсе знаходзіцца ў полі прыцягнення еўрапейскай літаратурнай готыкі і пострамантызму У. Караткевіча. Тут, як у гісторыяцэнтрычнай прозе Л. Рублеўскай, займальнасць дыфузным чынам узаемадзейнічае з асветніцкімі інтэнцыямі. Але гэта яшчэ і надзвычай «кінематаграфічны тэкст» (падкрэсленая візуалізаванасць славеснай вобразнасці — таксама яркая адзнака прозы А. Бычкоўскага):

«Сумны наш чорна-белы свет нечакана напоўніўся фарбамі. І ў гэтых фарбах-пачуццях крыштальнае сонца ў сапфіравых нябёсах было вечным. Мы абодва крочылі па бліскучым паркеце. Цяжкія парцьеры захіналі вокны. Запаленыя свечкі на масіўных кандэлябрах асвятлялі шыкоўныя пакоі. Сцены былі завешаны партрэтамі, гравюрамі, карцінамі. Аднекуль, хутчэй за ўсё з кухні, запахла смажанай дзічынай. Патрэсквала вуголле ў каміне, быццам і не ліпень на двары. Знадворку данесліся гукі цокання капытоў і конскага ржання. Насценны гадзіннік прабіў дванаццаць разоў. Амелія цмокнула мяне ў шчаку вільготнымі вуснамі. Менш за ўсё яна зараз нагадвала прывід».

Кніга «правінцыйных казак» Алеся Бычкоўскага «У пошуку шчасця» можа пры першым гартанні падацца старамоднай — і такой застацца, напрыклад, для чытача-«канькабежца», які віртуозна слізгае па паверхні тэкстаў

Менш за ўсё, дарэчы, «Вычварэнцы», заяўленыя ў жанравым удакладненні як *«абстрактная камедыя ў сюррэалістычным горадзе D»*, маюць дачыненне да аўтэнтычнага сюррэалізму. Гэта, у пэўным сэнсе, найбольш паслядоўна рэалістычны аповед кнігі «У пошуках шчасця» — найноўшая версія «лэніняны», якую элементы сатырычнай фельетоннасці апавядальнай тэхнікі не толькі не псуюць, а надаюць нейкі старамодны (падманліва старамодны, зрэшты) шарм:

«Даўней Ільіч пазіраў на Усход, у накірунку сталіцы радзімы пралетарыяў. І Ільічовы вернікі бачылі ў тым сымбаль чакання светлай будучыні. Пасля Ільіча перавезлі ў парк, дзе па тайнай крамольнай задуме архітэктара, ці то выпадкова, правадыр аказаўся павернуты тварам на Захад, быццам уласна праглядаў новы шлях да шчасця працоўных і паказваў людцам новы арыенцір».

У пэўным сэнсе «Вычварэнцы» — узор літаратурнага вінтажа, калі не проста добра вядомая, але як бы маветонна-нямодная тэма ў выніку пэўных творчых намаганняў ператвараецца ў стыльную рэч.

У выпадку з А. Бычкоўскім даволі эфектыўным інструментам, што ўзмацняе эфект ад згаданых намаганняў, становіцца яго журналісцкі вопыт (засведчаны як біяграфічны факт на вокладцы кнігі). Гэта відаць на самых розных узроўнях мастацкага тэксту: ад сістэмы вобразаў (героі, у тым ліку я-героі шэрагу твораў зборніка «У пошуку шчасця», — журналісты; дзеянне нярэдка разгортваецца ў рэдакцыі ці вакол рэдакцыйнага жыцця і г. д.) да цяжка вербалізуемага, але вельмі адчувальнага «найноўшага журналізму» як стратэгіі пісьма. Беларуская версія, праўда, істотна адрозніваецца ад New Journalism, што стаў яркім феноменам

не толькі амерыканскай літаратуры 1960-х — 1970-х гадоў, але і сусветнага літаратурнага дыскурсу апошняй трэці XX стагоддзя наогул. Сацыяльна-сатырычная сфакусаванасць апавядальніцкай увагі ўступае ў «Вычварэнцах» у складанае ўзаемадзеянне з агульным іранічным светаадчуваннем аўтара. У выніку гісторыя ператварэння журналіста раённай газеты Пеці Калакольчыкава ў помнік Леніну прачытваецца як факт не тое што сюррэалістычны, але гіперрэалістычны (хоць і дэкарыруецца ўмяшаннем стыхій, сімвалічнымі супадзеннямі і дзівоснай логікай адміністрацыйнага быцця).

Затое ў «Каматозніках», я-герой якіх таксама журналіст з ідэнтычнага рэдакцыйнага хаосмасу, «найноўшы журналізм» па-беларуску паўстае ва ўсім бляску спалучэння дакумента і мастацкай рэфлексіі. Іх палкі саюз становіцца ўсё больш трывалым з кожным новым уварваннем у плынь аповеду ўласна публіцыстычных элементаў, воклічаў («За першую палову 2010 года ў краіне было прададзена спіртовых вырабаў на суму каля аднаго мільярда даляраў… Дык гэта ж толькі дзяржгандаль!») і пытанняў («Штодзень усё цвярозей назіраю за жыццём і адчуваю ўсё мацнейшы жах: Божа, а чым жа ўсё вакол мяне скончыцца?»). Нават спружынена-шчыльная іронія А. Бычкоўскага тут утрымлівае адмысловыя шаржава-фельетонныя канатацыі:

«Мікалай Ігнатавіч прапанаваў сагнаць усіх п’янтосаў Беларусі ў рэзервацыю. Выбраць пару адсталых раёнаў, абнесці калючым дротам, панатыкаць ахоўных вышак з аўтаматамі, пусціць сабак па перыметры. <…> Слухачы філіпік Ігнатавіча сумняваліся ў рэальнасці прапановы — двух раёнаў станецца мала, ці не абнесці дротам губернію цалкам. Асабліва аптымістычныя энтузіясты меркавалі абнесці дротам з той нагоды ўсю краіну…».

У гэтым ( і не толькі) аповедзе можна сустрэць усе пералівы камічнага, але асабліва ўдаецца аўтару сацыяльная сатыра і самаіронія (пастышавыя мадуляцыі): «Змрочная меланхолія змяняецца нястрымнай весялосцю, пасля няўхільна настае дэпрэсняк. Хемінгуэй называў дэпрэсняк «чорнай задніцай». Хоць нам да Хемінгуэя далёка, за каўнер таксама закладаем». Самаіронія тым дасканалей рэзаніруе з чытацкімі чаканнямі, чым больш «формульна» ўвасабляецца ў словах: «Філасофія абуджэння — рэч надзвычай далікатная. Стракатая. Асабліва ў панядзелак. А ў маім выпадку яшчэ і ў чацвер». Як сфармуляваў я-герой «Каматознікаў» Славамір (яшчэ адна інкарнацыя журналіста — супрацоўніка раённай газеты, які пад тым жа іменем з’яўляецца і ў «Прапаведніках»), «ад п’янства мяне засланяе Госпад, творчасць і ядзерная бомба пад дупай у выглядзе пагрозы звальнення».

Вельмі паказальна, што нястрымную іронію ад высока-трагедыйных, асобасна-экзістэнцыйных інтанацый часта аддзяляе зусім тонкая мяжа, колькі сказаў ці абзацаў. І гэта не ўспрымаецца як мітусня ці мастацкая эклектыка, неапраўданы мікс: «І зараз мы сабіраем аскепкі неба ў сваіх разбітых, але яшчэ жывых сэрцах».

Проза А. Бычкоўскага мае вельмі цікавы тэмпарытм, нібы спружынны і размераны адначасова:

«Вася рос у пэўным сэнсе ў аднаполай сям’і, выхаваннем займаліся выключна мама і бабуля. Быў мамчын пястун з дзяцінства, і адначасова нібыта шчанюк, прывучаны да камандаў. Мама была богам, заканадаўцам і прарокам ва ўсіх сферах Васінай жыццядзейнасці».

Унутраны змест правінцыйнага жыцця, дух хранатопа арэчаўляецца ў мастацкіх дэталях; цікавыя і паасобку, у апавядальнай плыні прозы А. Бычкоўскага яны складваюцца ў вобразы, амаль бездакорныя ў сваёй самотна-іранічнай цэльнасці:

«Апошні раз Славамір быў тут амаль паўгода таму. Ніякіх змен. Кнігарня па-ранейшаму актыўна супраціўлялася сучаснасці і, па-дзіўнай дамоўленасці з мясцовымі чыноўнікамі, здолела захаваць да нашага часу трывалыя прыкметы "савецкасці". Важкія дзверы на магутнай спружыне, з’едзенай месцамі ржою, трэба было добра пацягнуць на сябе, каб яны, незадаволена квакнуўшы, дазволілі ўвайсці ў скарбніцу мудрасці. Два вялікія пыльныя плафоны пад столлю маглі б расказаць пра веліч былой эпохі, ды замест гэтага ўжо колькі год сумавалі на сметніку. Шэрыя кніжныя паліцы і змучаная часам зеленаватая плітка на падлозе не спрыялі развіццю тонкага эстэтычнага густу».

Мастацкі вобраз часта набывае выразныя контуры, афармляецца праз лексічны кантраст, калі пасярод згаданай размеранасці выспай вынырвае (вытыркаецца) слова (паняцце), якое падкрэслена дысаніруе з моўным атачэннем: «Я стану дарослым, толькі калі ты здохнеш», — вырашыў Вася недзе ў дзявятым класе. Ён слухаў блэк-метал і чытаў пяць тамоў «Закона Божага».

Даволі часта ў апаведах, што ўвайшлі ў зборнік «У пошуках шчасця», высокая лексіка сустракаецца ўсутыч (часам у адным абзацы) не толькі з прастамоўнымі выразамі, але і з экспрэсіўнымі дыялектызмамі. Вынікам гэтага сумяшчэння рознастылявых маўленчых пластоў становіцца своеасаблівы эфект кіруемай дыфузіі стыляў, што дазваляе аўтару прадстаўляць свайго героя як бы ў 3D фармаце, паказваць з некалькіх кропак агляду адначасова:

«Вася адбрэхваўся. Ён усё збіраўся паставіць Валю перад фактам, або ён, або іншыя, але... анёл з бялюткімі валасамі быў першым, іх звязвала моцная эмацыянальная сувязь. Але і змірыцца з выключна платанічнымі адносінамі гэтаксама цяжка.

Сябры падлівалі мацней, у грудзях балела.

"Твая абранніца столькі хлопцаў пераняла, паравоз не пацягне!"

І ён, камякуіла, змоўчаў, не рэзнуў у рыла за абразу любай, бо ведаў: тое — праўда.

На Новы год усё вырашылася».

У прозе А. Бычкоўскага *натуральнае* ўсё — смех і горыч, факт і сюр. Прычым гэты эфект натуральнасці дзівосным чынам узрастае якраз на жанравай глебе казачнасці, толькі казачнасці адмысловай. Вось «Нястрымны баль кахання» ў сюжэтна-кампазіцыйных адносінах мог бы застацца нізкай самастойных сацыяльна-бытавых навел (тры гісторыі кахання, не іспанскія жарсці, вядома, але з нясумнымі жыццёвымі калізіямі-кульбітамі)… Калі б аўтар не звёў у фінале сваіх герояў на вяселлі адной з пар (Галінкі і Толіка), «дзе ўсіх ахутвала пракаветна чыстае каханне, забруджанае акалічнасцямі зямнога жыцця». Шыльда «правінцыйных казак» як бы загадзя здымае ўсё кпіны і недаверлівыя ўсмешкі кшталту «веру не веру», «надумана», «нерэалістычна»… Ды Лясун вам на грыбной паляне, скептыкі, што казачніку да той рэалістычнасці? Ад яго іншага чакаюць. Цікава, як нязмушана ў якасці будаўнічага матэрыялу для «правінцыйных казак» аўтар выкарыстоўвае *навелістычнасць* уласна *жыцця*, з нечаканымі развязкамі, здавалася б, прадказальных сітуацый:

Мастацкі вобраз часта набывае выразныя контуры, афармляецца праз лексічны кантраст, калі пасярод згаданай размеранасці выспай вынырвае (вытыркаецца) слова (паняцце), якое падкрэслена дысаніруе з моўным атачэннем

«Раўнівы Валодзька на дах болей не лазіў. Сабраў грошы і замовіў ДНК-аналіз. Неспаведныя шляхі Боскія! Аналіз выявіў: з трох дзетак Валодзьчын толькі адзін. Плюнуў Валодзька, з'ехаў ад абранніцы на кватэру. Мучыўся, бядак, мучыўся, марнаваў сябе цягам добрай паловы года, а пасля купіў ахапак кветак, з'явіўся да Надзейкі і вымольваў прабачэння. <…> Жывуць да сёй пары».

Разам з тым і ў ролі казачніка А. Бычкоўскі дбае пра пераканаўчасць, псіхалагічную матываванасць апаведу, чаго дасягае ў ліку іншага і праз своеасаблівую «гульню ў сведку», з'яўляючыся перад чытачом «асабіста» (у ролі апавядальніка ад першай асобы), каб з мяккай самаіроніяй засведчыць праўдзівасць правінцыйнага казачнага дэкамерону: «Дарэчы, я там удзельнічаў у конкурсе, хто лепш распавядзе на тэму, што ёсць каханне. Сказаў: "Каханне ёсць вялікі сусвет у маленькім сэрцы" і выйграў галоўны прыз — жменю цукерак…»

Каханне і дараванне — два тэматычныя цэнтры зборніка. Тэма даравання (Боскага і чалавечага) у некаторых творах і заяўляецца, і падсумоўваецца наўпрост, амаль у духу біблейскіх прарокаў: «Самае важнае, я зразумеў сутнасць маёй місіі — дараваць», — зазначае адзін з герояў апаведу «Помста». А ў фінале «Прапаведнікаў» Славамір думае пра адно: «Хуценька ў царкву. Паставіць свечку. Спавядацца. Памаліцца, як зможа». І вельмі цікавы эфект узнікае падчас чытання самай апошняй

Такія суровыя казкі мог напісаць толькі надзвычай рашучы, нават бязлітасны аптыміст. Праўда, у іншых выпадках суровыя абяцанні ўсеагульнага ратавання рэтушуюцца зноў жа ироніяй

фразы гэтага твора: «І даруй, літасцівы Божа, за ўсё тое, што ён паспеў напісаць на свеце…». Дзіўная аптычная ілюзія: словы прамоўлены ва ўнутраным маналогу героя, а чуюцца тут і галасы апавядальніка, і таго, хто гэтых герояў ды апавядальніка напісаў.

Незалежна ад таго, куды аўтара «У пошуку шчасця» заводзіць вышэй згаданы жанравы неспакой, адной з відавочных адзнак сюжэтна-кампазіцыйнага будавання ў «правінцыйных казках» А. Бычкоўскага застаецца навелістычнасць фіналу аповедаў. Праўда, «цюнінгуецца» яна з дапамогай розных інтанацый — ад рытарычна-меладраматычных («Адзінота», «Апошняе прызнанне») да павучальных. Апошнія — наогул надзвычай цікавы аб’ект для назірання.

А. Бычкоўскі ў сваім пакаленні ці не адзіны беларускі празаік, які актыўна выкарыстоўвае патэнцыял жанру маралітэ і паводле прамога прызначэння, і адначасова як інтэнцыю, што так ці інакш працінае ўсе творы кнігі «У пошуку шчасця». Дзе-нідзе гэтая інтэнцыя магутна вырываецца простым маўленнем:

«Слухаю па радыё "Песні мінулых гадоў". Які ўжо раз задаюся пытаннем, што будуць круціць у нашай праграме гадоў праз пяцьдзясят. Уявіце голас дыктара: "Песні мінулых гадоў" прапануюць слухачам запісы вакальна-інструментальнага ансамбля "Металіка", або "Крэдл оф філтс", або "Канібал корпс". І мы, да таго часу стаўшы пенсіянерамі, будзем слухаць, трусіць галовамі, "балдзець". Жах!..» («Кроплі»).

Ёсць у гэтай кнізе месцы (творы), куды наогул не сягае аўтарская іронія, дзе наўпроставы (інтэнцыянальны) сімвалізм ускладнены прыпавесцевасцю і рытарычным маўленнем літаральна пракрокавага кшталту:

« — Гэтае ссохлае дрэва ёсць сымбаль жыцця, — заўважыў Барыс і запэўніў: — Так, вясковага жыцця. Яно сведчыць, што ўсе вы даўно мёртвыя. <…> Мёртвыя, і кропка. Нават камяні ў полі больш жывыя. Часцяком чалавек памірае ў дваццаць пяць, толькі кладзецца ў труну ў семдзесят, але тут іншы выпадак. Вы ўсе мёртвыя ад нараджэння» («Насланнё»).

Высновы напрыканцы гэтага твора — квінтэсэнцыя сучаснай жанравай мадыфікацыі маралітэ ў айчынным прыгожым пісьменстве: «Безумоўна, усе беды з-за гарэлкі. Бог дае шанец уратавацца. Бог — не апошняя надзея, а адзіная».

Гэтаксама ў апошнім творы кнігі «Мары Ноя. *Прытча на біблейскія матывы*» ў канцэнтраваным (кандэнсатным) выглядзе спрэсаваны адметныя рысы творчай манеры А. Бычкоўскага як аднаго з беларускіх празаікаў-«неажурналістаў» (а можа, і адзінага, калі ўлічыць асаблівасці праблемна-тэматычнага і вобразна-стылявога мікса ў яго прозе):

«Краю мой родны, як выкляты Богам», — пэўна, думаў Ной перад Патопам і меў рацыю. Ной выходзіў з крызісу. Ноя вёў Бог.

А хто вядзе беларусаў, ды куды, і колькі яшчэ будзе весці?

Дзесяцігоддзі беларусы тупаюць з крызісу, а канца краю не відно <...>.

Дык вось калі мы адрынем чарку-шкварку, наш найноўшы негалосны нацыянальны сымбаль, ды абяром Хрыста па-беларуску, нас таксама мажліва ўкрыжуюць, мажліва свае ж, мажліва рукамі захопнікаў. Але варта памятаць, што Хрыстос уваскрос! А следам за Ім, нашым Госпадам, нават укрыжаваныя, уваскрэснем і мы.

Амінь».

Такія суровыя казкі мог напісаць толькі надзвычай рашучы, нават бязлітасны аптыміст.

Праўда, у іншых выпадках суровыя абяцанні ўсеагульнага ратавання (пры ўмове ўсеагульнага ж руху ў належным кірунку) рэтушуюцца зноў жа іроніяй, што пераліваецца рознымі адценнямі-колерамі. Адшукваюцца нават кароткія гісторыйкі з элементамі «народнага» («брутальнага») гумару, заснаванага на сітуацыі qui pro quo, дзе ў аснове камічнага эфекту могуць быць моўныя калізіі роднага лінгвістычнага хранатопа. Так, падчас праверкі вясковай школкі інспектарам з рай-

цэнтра настаўніца, якая дае адкрыты ўрок, раіць аднаму з хлапчукоў, што сядзіць у халодным памяшканні ў куртачцы:

« — Ты б здзеў.

Хлапчанё, зразумела, не дурное, адно толькі, не ведае асаблівасцей роднае мовы. Прынамсі, як і сама настаўніца, бо, каб ведала, ніколі падобнай памылкі не дапусціла б. Хлопчык з дзіцячай непасрэднасцю па-свойму ўзважыў пачутае і не прамарудзіў з адказам:

— Што? — імгненна абурыўся ён. — Я не бздзеў! Гэта вось той дзядзя бздзеў, напэўна.

І, павярнуўшыся, тыцнуў пальцам у бок М.

М. пачырванеў, усміхнуўся, падзякаваў за цудоўны ўрок, інтэлігентна папрасіў прабачэння і са шчырай чалавечай годнасцю пакінуў клас» («Праверка»).

Дарэчы, моўна-стылявыя недакладнасці ў самога аўтара кнігі «У пошуках шчасця» таксама вінтажныя. Ды і колькі іх там знайшлося, так, па дробязі: было раз, што князь у апаведзе-містыфікацыі «Помста» моўчкі «выдаліўся ў свае пакоі», ды неяк на Славаміра з «Прапаведнікаў» «нахлынуў стан адмоўнага імпэту», ды вось яшчэ там жа «кніжка, што прыцягнула ўвагу літаратара, не паходзіла на астатнія». Герою «Прапаведнікаў» наогул не дужа шанцуе, але чаму здзіўляцца: «пасля кантакту з пазабоччам» (іншасветам, трэба думаць) «Славаміру было не па сабе». А каму было б?.. Вось і мроіцца, што «заварнік ускіпеў», і ў раптоўнай госці — «глыбіня вачэй, самоцінка» міксуюцца са «злёгку вабячай тваністай гіпнатычнасцю».

Часам здараюцца ў кнізе А. Бычкоўскага слававобразы, якія з аднолькавай пэўнасцю могуць быць аднесеныя як да катэгорыі дзіўнаватых, так і да катэгорыі дзівосных: напрыклад, «папера манітора» як метафара найноўшай інфармацыйнай рэальнасці. Усё залежыць ад настроек чытацкага зроку, жадання разгледзець небанальнае выйсце з ардынарных сітуацый. Тут майстар-клас мог бы даць не адзін з герояў кнігі А. Быч-коўскага, хоць я пальму першынства аддала б Славаміру з апаведу «Прапаведнікі». Яму належыць не толькі цікавая трактоўка паняцця «актуальнае (трэндавае) мастацтва», але і «небанальны бізнес-план», як зарабіць на агульным «культурным блюзнерстве», у сітуацыі татальнай няпэўнасці, зместавай і каштоўнаснай разгубленасці:

« — Ты разумееш? Мужык кансерваваў у бляшанках друхл, як дбайная гаспадыня восенню гуркі, прадаваў з аўкцыёну і тое назваў мастацтвам. І слоічкі-бляшанкі куплялі! Чаму ж слоік лайна або чорны квадрат лічыцца мастацтвам, а стос чыстай паперы не можа лічыцца літаратурай? Няхай чытачы купляюць кнігу з чыстымі старонкамі ў бліскуча-каляровай вокладцы і самі выдумляюць уласных герояў, фабулу, сюжэт».

Па-сутнасці, Славамір мог бы стацца сапраўдным героем свайго часу, бо прапануе неблагое выйсце з сітуацыі бясконцага змагання, якое сталася сапраўднай вайной — ці то за Чытача, ці то з Чытачом. Прапанова геніяльная: няхай усе чытачы будуць самі сабе пісьменнікамі. Усе праблемы здымаюцца: татальны ўздым не толькі чытацкай культуры, але і агульнай крэатыўнасці насельніцтва.

Па вялікім рахунку, з гэткай жа выкшталцонасцю на самым пачатку можна было нейтралізаваць праблему выбару паміж паняццямі «старамоднасць» і «вінтаж» у дачыненні да кнігі Алеся Бычкоўскага «У пошуку шчасця». Можна было, але непрактычна. Бо пакуль шчасце шукаецца (табою ці іншым добрым чалавекам), колькі ўсяго, як высвятляецца, дадатковага можна знайсці: і каханне неардынарнае, і дараванне нечаканае, і нават (у вольным доступе!) бізнес-план, як зарабіць неблагія грошы за кошт літаратуры і заадно стаць героем свайго часу.

Пакуль шчасце шукаецца (табою ці іншым добрым чалавекам), колькі ўсяго, як высвятляецца, дадатковага можна знайсці: і каханне неардынарнае, і дараванне нечаканае, і нават (у вольным доступе!) бізнес-план, як зарабіць неблагія грошы за кошт літаратуры і заадно стаць героем свайго часу

**Анастасія Анцімонік**

# No sex — no problem?




Кажуць, сексу ў СССР не было. З такога меркавання вырастае стэрэатып пра неспалучальнасць інтымных адносін і (неда)сацыялізму, тым больш калі спрабуеш уявіць сабе пачатак мінулага стагоддзя. А было ж… Амаль ніхто не ведае, якая сапраўды радыкальная трансфармацыя міжполавых стасункаў адбылася ў вялізнай краіне пасля кастрычніка 1917 года. Гісторык Аляксандр Гужалоўскі зрабіў спробу першага спецыяльнага комплекснага даследавання радыкальных змен сямейна-шлюбнага жыцця беларускага грамадства з прыходам бальшавіцкай улады. Кніга «Сексуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі: 1917—1929 гг.» выйшла ў свет гэтым летам у выдавецтве А. М. Янушкевіча і пакрысе пачала заваёўваць усё большую ўвагу і сімпатыю да сябе.

Аўтар паставіў на мэце разабрацца перш за ўсё з сацыяльнымі аспектамі сексуальнасці. Само даследаванне прысвечана пошукам адказаў на разнастайныя пытанні, кшталту: «Як адрэагавала на ідэі савецкіх сексуальных рэвалюцыянераў поліэтнічнае і шматканфесійнае беларускае грамадства?», «Якія перашкоды і змены сустрэліся на шляху гэтых ідэй ад уласных ідэолагаў і законатворцаў да насельніцтва?», «Як увасабляліся тэарэтычныя пастулаты аб «новай жанчыне» ў паўсядзённым жыцці беларусаў?», «Якім чынам змяніліся сексуальныя паводзіны гарадской і вясковай моладзі?», «Чаму і калі савецкая дзяржава спыніла разбурэнне традыцыйнай сям'і і дэкларавала вяртанне да сямейных каштоўнасцей?» і г. д. Тут варта адзначыць добра прадуманую структуру (хоць яна і шаблонная) кнігі: уводзіны, пяць тэматычных раздзелаў з трыма падраздзеламі ў кожным, заключэнне.

Ход аўтарскіх думак развіваецца паволі: спачатку А. Гужалоўскі робіць лаканічны экскурс у гісторыю развіцця сексуальнасці ў межах культурнай нормы на тэрыторыі Беларусі, акцэнтуючы ўвагу на інстытуце сям'і і яе становішчы ў дзяржаве; разглядае паняцце «сексуальная рэвалюцыя»; тлумачыць абраны для даследавання хранатоп.

Першы раздзел «Спачатку было слова» закранае абстрактныя ідэі, што распрацоўваліся сексуальнымі рэвалюцыянерамі, іх тэарэтычныя пошукі, рэгуляванне сексуальных паводзін на заканадаўчым узроўні. Пытанне міжполавых стасункаў страчвае сваю табуяванасць пасля Кастрычніцкага перавароту, таму не дзіўна, што «дзякуючы публічнай дыскусіі сексуальныя адносіны паступова набывалі новае, палітычнае вымярэнне».

У наступным раздзеле — «Новы быт»: паміж ідэяй і ўвасабленнем» — аўтар цікавіцца спробамі рэалізацыі напрацаваных праграм, канструяваннем «новага быту» і стварэннем камун, а таксама сексуальнымі эксперыментамі ў такіх умовах. «Дзяржаўная палітыка сацыялізацыі быту прадугледжвала адмову ад індывідуальна-сямейнага жыцця, што прыводзіла да разбурэння традыцыйнай мадэлі сямейных паводзін».

Частка «Моладзь у авангардзе» ўяўляе сабой аналіз ролі маладых людзей, на якіх бальшавісцкае кіраўніцтва ўскладвала вялікія надзеі падчас увасаблення праграмы сацыялістычнай мадэрнізацыі краіны. А. Гужалоўскі спрабуе зразумець, як гэта «кахаць па-камсамольску»: «Большасць моладзі выступала за пошукі новых форм «кахання-таварыства», якое адкрывала перад камсамольцамі неабсяжнае поле для эксперыментаў». Таксама цікавіцца, якім чынам савецкая адукацыя асвятляла пытанні эраса як адбывалася палавое выхаванне юнакоў. Даследчык адзначае, што каханне і секс пачалі адлюстроўвацца і ў тагачаснай культуры, найперш — у літаратуры. «Дух часу патрабаваў пісаць, "як у жыцці", то бок, падкрэсліваць натуралістычнасць любоўнай гісторыі. Жаночыя любоўныя перажыванні <…> прыцягвалі

ўвагу беларускіх аўтараў 1920-х гадоў. Прычым большасць з іх дала апісанні драматычнага сексуальнага досведу, што адпавядала тагачасным беларускім рэаліям».

Лагічным працягам і развіццём такога тэзіса з'яўляецца раздзел «Жанчына ў віхуры сексуальнай рэвалюцыі». «Задача стварэння "новай жанчыны" разглядалася савецкай уладай як адно з вымярэнняў маштабнай сацыяльнай трансфармацыі». Пераварот 1917 года нібыта ўраўнаваў жанчын у правах з мужчынамі ва ўсіх сферах жыцця. Аўтар разважае, да якіх вынікаў прывялі такія змены і наколькі верагодным станавілася шчасце ў шалёным рытме новага грамадска-палітычнага ладу. Асобны падраздзел прадстаўляе асобу Соф'і Шамардзіной — «беларускай валькірыі рэвалюцыі».

Гісторык дабіраецца і да «сексуальных дэвіяцый», дзе звяртаецца да асэнсавання праблем прастытуцыі, гвалту, педафіліі, заафіліі і да т. п. Апошняя тэматычная частка пакідае пасля прачытання вельмі цяжкія ўражанні, а менавіта адчуванне, што патрапіў у натоўп людзей, кожны з якіх хоча прычыніць табе боль.

У заключэнні А. Гужалоўскі разбіраецца з вынікамі радыкальных змен і тлумачыць, чаму савецкая ўлада была вымушана скарэктаваць абраны курс. Узяць хаця б тое, што «сексуальная анархія ніяк не сумяшчалася з фарміраваннем культу Правадыра і ўсталяваннем таталітарнага кантролю над асобай». Становіцца зразумелым, чаму мы нічога не ведаем пра даволі «пікантныя» 1920-я гады ў Савецкім Саюзе і адкуль «растуць ногі» ў згаданага ў пачатку артыкула міфа.

У цэлым даследаванне чытаецца лёгка: кніга не абцяжарана навуковымі паняццямі, мова даступная і зразумелая, а таму выданне знойдзе прыхільнікаў сярод самага шырокага кола чытачоў. Актуальнасць «Сексуальнай рэвалюцыі…» заключаецца не толькі ў тым, што ў айчыннай гістарыяграфіі гэта першая спроба асвятлення карэнных змен інтымнага жыцця ў савецкай краіне, але і ў магчымасці параўнаць сямейна-шлюбныя адносіны стогадовай даўнасці з сучаснымі, зрабіць самастойныя высновы і, верагодна, паспрабаваць навучыцца на чужых памылках. Немалаважную ролю ва ўспрыманні інфармацыі адыгрывае вялікая колькасць ілюстрацый (рэдкія фотаздымкі, дакументы, вытрымкі з тагачасных СМІ), а таксама надзвычай багаты фактычны матэрыял, які выдатна суіснуе з сухой статыстыкай і не дазваляе апошняй ператварыць даследаванне ў нуднае чытво. Вельмі кранаюць асобныя моманты, датычныя асабістага лёсу людзей. Акрамя таго, здзіўляюць такія факты, як, напрыклад, тое, што СССР была фактычна першай дзяржавай свету, што дазволіла рабіць аборты без абмежаванняў, незалежна ад наяўнасці/адсутнасці пагрозы жыццю жанчыны. Здзіўляе наяўнасць у Віцебску таварыства «Далоў сорам!», сябры якога шпацыравалі агаленымі па гарадскіх вуліцах. Здзіўляе трансфармацыя традыцыйных вясельнай і хрэсьбіннай цырымоній, на змену якім прыйшлі «чырвонае вяселле» і «чырвоныя хрэсьбіны» («звяздзіны») са сваімі спецыфічнымі «рытуаламі». У кнізе наогул шмат яскравых прыкладаў, што даюць магчымасць паглядзець на 1920-я гады з разяўленым ротам. Крыніцамі для аўтарскага даследавання сталі шматлікія выданні: савецкія сродкі масавай інфармацыі абранага перыяду, матэрыялы беларускіх і расійскіх архіваў, літаратурныя творы, вузкаспецыяльныя даследаванні савецкіх і замежных аўтараў, заканадаўчыя акты і да т.п. Аўтар пастараўся максімальна аб'ектыўна і нейтральна падаць знойдзеныя звесткі і пазбегнуць эмацыйна-ацэначных меркаванняў.

Такім чынам, даследчык здолеў справіцца з задачамі, якія ён паставіў перад сабой ва ўводзінах, здолеў ахапіць шырокае кола пытанняў і раскрыць іх, ствараючы карціну ўсёабдымнасці па заяўленай праблематыцы, здолеў зрабіць даследаванне не толькі фактычным, але і цікавым. Важна тое, што аўтар узняў феномен сексуальнай рэвалюцыі ў БССР, паспрабаваў паглядзець на яго з розных ракурсаў. Здзейсніце і вы захапляльнае падарожжа ў мінулае разам з гэтай кнігай, пашырце свой кругагляд, атрымайце асалоду ад разбіцця стэрэатыпаў!

Кніга даволі кідкая нават знешне: у афармленні вокладкі выкарыстаны плакат 1926 года А. Страхава-Браслаўскага «Раскрепощённая женщина — строй социализм!», што дадае ўнутранаму зместу адпаведную дэкарацыйную атмасфернасць. Навуковая манаграфія «Сексуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі: 1917—1929 гг.» чытаецца як навукова-папулярнае выданне. А іх так не хапае ў нашай краіне!

# Пра вёску з пункту гледжання навукі

**Існуе стэрэатыпнае ўяўленне пра вёску — створанае дзіцячай памяццю і малюнкамі з кніжак, казкамі, песнямі, прымаўкамі, невядома чым яшчэ і ўсім разам, — вельмі рамантычнае, на ўспамін шчымлівае: з чыгунком на прыпечку, вязанкай цыбулі пад столлю і катом, які крадзецца да збанка па смятану. З крыкам пеўня перад світаннем, рыканнем статка перад захадам сонца, ударамі ланцуга аб калодзежнае вядро. З пахам зёлак і сырадою, каўбас, што вісяць на шасце духмянымі кольцамі, і дыму, што віецца з коміна ў самае неба. З ганкам, прыцярушаным снегам, а па ім — кашэчыя слядочкі бягуць… У гэты шаблон верыш, як у рэальнасць, а яна тым часам не вельмі да гэтага падобная. Бывае нават вельмі не падобная. І добра ці кепска мець такое разыходжанне ўяўлення і рэчаіснасці — размова адна, а што з гэтым разыходжаннем рабіць — ужо іншая…**

Доктар філалагічных навук Таццяна Валодзіна, фальклярыст, этналінгвіст, супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук гаворыць пра вёску (традыцыйную вёску!) як пра самадастатковую, вельмі складана і ў той жа час тонка арганізаваную структуру.

— Самадастатковасць яе не ў тым, што яна не мае патрэбы ў жалезе ці нечым яшчэ, што можна прывезці з горада, а ў тым, што ўсе ўзроўні быцця — ад вядзення гаспадаркі да сацыяльных стасункаў, усе ніці і повязі, якія толькі могуць існаваць у чалавека з наваколлем, усе праблемы і вырашэнні адбываюцца на ўзроўні аднаго калектыву. Нашы сучаснікі, асабліва гараджане, маючы праз інтэрнэт доступ да інфармацыі любога кшталту з любой кропкі зямнога шара, даведваючыся пра ўсё на свеце адным толькі націскам кнопкі, валодаючы магчымасцю хадзіць у бібліятэкі, тэатры і музеі, быць далучанымі да здабыткаў сусветнай культуры, здавалася б, настолькі развітыя ў сваіх уяўленнях, што на гэтым фоне ранейшы вясковец, які далей сваёй вёскі ці бліжэйшага лесу нідзе не быў і нічога не бачыў, можа выглядаць абмежаваным, абдзеленым, бедным. Нічога падобнага! Як бы сучасніку ні падавалася, што вёска — гэта вузка і нецікава, але калі ўзяць прадстаўніка ранейшай вясковай супольнасці і паглыбіцца ў яго свет, то стане зразумелым: практычна кожны вясковец насіў у сваёй свядомасці, а проста кажучы, у сваёй галаве цэлую сістэму ведаў, пачынаючы ад будзённа-гаспадарчых — калі трэба сеяць, калі касіць, калі капаць, калі карова ацеліцца (календароў жа не было), — і завяршаючы незлічонай колькасцю правіл, забарон, рэкамендацый, проста ведаў пра абсалютна кожны складнічак жыцця: пра зоркі, з'явы надвор'я, расліны, жывёл і ўсё-ўсё, што ўвогуле можа быць. Прычым гэта веды не адмысловыя, не веды асобных людзей — імі валодала практычна ўсё насельніцтва вёскі. Больш за тое, глыбіня гэтых ведаў дазваляла рабіць прадказанні: калі здарылася А, то абавязкова здарыцца В, а калі здарылася В, то здарыцца С. Вось характэрная рыса такой свядомасці — разуменне і практычнае выкарыстанне сувязі ўсяго з усім.



Таццяна Валодзіна.

У адрозненне ад філасофскіх сістэм сучаснасці чалавек у традыцыйнай культуры — гэта не вянец прыроды, а проста «адзін з»: тут чалавек, там сонца, там месяц, тут камень, тут крыніца, там звяры. І гэты традыцыйны чалавек мусіў не проста ведаць, але і выконваць пэўныя

правілы паводзін — з сямейнікамі, з жывёламі, у дачыненні да неба, у дачыненні да агромністага свету, які нельга ўбачыць, — гэта ж таксама частка светапогляду. Калі з такіх кропачак, запісаў, назіранняў за вясковым жыццём пачынаеш складваць агульную карціну, проста дзіву даешся, наколькі яна багатая і лагічная. Мне вельмі падабаецца параўнанне з папяровай мазаікай. Вось мы склалі яе — і нават швоў не відаць: карцінка ідэальная, бо кожны пазл займае строга сваё месца. Але вось мазаіка звалілася на падлогу, рассыпалася. Мы ўхапілі адзін кавалачак-пазл — а ён нічога не значыць. Тым не менш, без яго мазаіка будзе мець у сабе пустату, не будзе цэльнай ідэальнай карцінкай. І ён, кавалачак гэты, толькі на сваім месцы будзе абсалютна дарэчы. Тое самае ў вясковым жыцці. Чаму цяжарнай жанчыне нельга сядзець на парозе? Чаму ваду з калодзежа нельга выліваць назад? Чаму нож нельга на ноч пакідаць на стале? Пералічаныя правілы здаюцца нам выдумкай, бабчынай казкай. Але калі на кожны асобны крок вясковага жыхара глядзіш, як на пазл у агульнай мазаіцы, то вельмі лёгка разумееш, наколькі ўсё правільна, і нельга нешта вырваць, каб цэласнасць не парушылася.

**— Што стала для гэтай мазаікі той падлогай, аб якую яна разбурылася?**

— Як ні дзіўна прагучыць, калектывізацыя. Традыцыйная вёска існавала фактычна да 1930-х гадоў. Рэвалюцыя не так істотна падзейнічала на вёску, а вось пры калектывізацыі, калі ўсё раптам ператварылася ў агульнае і чалавек перастаў быць гаспадаром, гэтая прыгожая карцінка свету пачала разбурацца і разбурылася незваротна. Сённяшняя вёска — гэта ўжо не мазаіка, а слоены пірог. Першы яго слой складаюць людзі сталыя, але здаровыя, моцныя духоўна і эмацыйна. Яны і да гэтага часу добрыя гаспадары. Кароў цяпер трымаюць толькі яны. Сярэдні слой, як правіла, вельмі размыты. Гэта, прынамсі, ужо далёка не той гаспадар, які быў раней. У вялікай колькасці — выпівохі, гультаі без месца працы і ўвогуле без ніякіх заняткаў, людзі па-за сацыяльнымі рамкамі. І, на шчасце, трэці слой вясковага насельніцтва, пакуль яшчэ нешматлікі, але надзейны, — маладыя сямейныя пары, для якіх жыццё ў вёсцы з'яўляецца не вынікам кепскай вучобы ў школе, а цалкам свядомым выбарам: яны гатовы працаваць з зямлёй, змагацца за дабрабыт, экалогію, саміх сябе ў вёсцы, спрабаваць прыстасаваць гарадское светабачанне да рэалій сённяшняга вясковага жыцця.

**— А што можна сказаць пра сучасны фальклор — як ён стасуецца з рэаліямі?**

— Пра той фальклор, які сёння вельмі часта імкнуцца сілай выцягваць на сцэну? Традыцыйны фальклор ахоплівае абсалютна ўсе бакі жыцця вёскі. Адна з важных яго рыс — практычнасць. Жыве тое, што выкарыстоўваецца. Калі гаспадыня жала, то і жніўная песня жыла. Калі цяпер сярпом не жнуць, то і жніўныя песні ніхто не спявае. Гэта не азначае, што іх трэба выкінуць з рэпертуару, але трэба рэальна глядзець на рэчы. Вельмі прыгожа спяваюць аўтэнтычныя калектывы: заслухаешся, мурашкі па скуры. Але асобныя абрады, вынесеныя на гарадскую сцэну, выглядаюць зусім недарэчна. І ў той жа час мы назіраем, як новае жыццё атрымалі Каляды і Вялікдзень — святы, уключаныя ў побыт кожнага і сёння. Я не буду ацэньваць, добра гэта ці кепска, проста канстатую такі факт: сёння больш жывыя тыя абрады, якія маюць падтрымку царквы — праваслаўнай ці каталіцкай. Калісьці ў савецкіх падручніках пісалі: царква душыць усё народнае. Канечне, яна шмат што дэфармуе, і на першае месца выходзяць іншыя каштоўнасці і ідэі, але, тым не менш, на існаванне народных свят яна вельмі моцна ўплывае ў пазітыўным сэнсе. Узяць Вялікдзень: калі б не было царкоўнага складніка, то ці існаваў бы ён сёння?

**— Што рабіць з атрыманымі ведамі пра вёску? Як валодаць імі правільна, каб захаваць трапятанне ў душы?**

— Ведаць трэба ўсё, але, спрабуючы веды ўвасабляць у жыццё, трэба ўсё ж улічваць рэальныя асаблівасці мясцовасці. У савецкі час гэта не вельмі бралася пад увагу — і на Беларусі ладзілі провады рускай зімы або свята рускай бярозкі. Навошта, калі ў нас ёсць свая і зіма, і бярозка — не горшыя? Але сцэнарыі свят распаўсюджваліся цэнтралізавана, і кожны мусіў выконваць распараджэнні. Гэтая практыка і цяпер дзе-нідзе сустракаецца. Мы з боку навукі актыўна выступаем



супраць яе, каб такога нават і быць не магло. Бо толькі тады, калі народ адчувае, што гэта *яго* традыцыя, што так рабілі *яго* дзяды і прадзеды, ёсць шанцы на захаванне абрадаў і свят і нейкі працяг.

Сёння вельмі актыўныя працэсы скіраваны ў бок нацыянальнага самавызначэння. Усё больш беларусаў, асабліва маладых, добра адукаваных, якія пабылі за мяжой і вольна арыентуюцца ў сусветнай сітуацыі, хочуць ідэнтыфікаваць сябе як беларусаў. Вывучыць мову — трэба рэальна глядзець на рэчы — гэта доўга і цяжка. І таму так добра падхапілі яны моду на вышыванкі, рэчы з арнаментам — у якасці спосабу сцвердзіцца ў сваёй прыналежнасці да беларускага этнасу гэта нашмат больш даступна і лёгка. Трэба сказаць, што немалую ролю адыгрывае стаўленне да традыцыйнай культуры і вёскі ў цэлым. Шэраг гараджан, якія мо правялі ў вёсцы дзяцінства з бабуляй і дзядулем, а мо і не правялі, пачынаюць абсалютна свядома цікавіцца вёскай, яе культурай, традыцыямі і міфалогіяй, спяваць вясковыя песні, хадзіць на заняткі ў гурткі народных танцаў, гатаваць беларускія нацыянальныя стравы. Такое далучэнне становіцца значна больш магутным сродкам самаідэнтыфікацыі, чым нават, скажам, беларуская літаратура. Бо гэта прасцей, у гэтым усім больш рамантыкі, ды і вынік адразу заўважны.

Хаця трэба яшчэ сказаць, што калі да мяне звяртаюцца маладыя людзі, якія хочуць жыць, «як калісьці», каб я дала ім пэўныя парады — гэта часам выглядае наіўна. Ты хочаш жыць, «як калісьці»? Гэта азначае і гігіену, «як калісьці», і харчаванне — з усімі колішнімі асаблівасцямі. Ты гатовы да гэтага? Я вельмі скептычна стаўлюся да імкнення вярнуцца на 200 гадоў назад. Але я гавару пра тое, што пры ўсіх крытычных ацэнках — і стану традыцыйнай культуры, і сучаснага становішча ў вёсцы — усё ж ёсць упэўненасць: старыя вясковыя традыцыі не будуць цалкам згублены ці растаптаны. Бо ёсць такі свежы пагляд на іх і такая зацікаўленая моладзь.

**— А ці патрэбна навука пра вёску? І якая тады яна павінна быць?**

— Сапраўды, да вёскі па-добраму яшчэ не дабраліся ні сацыёлагі, ні псіхолагі, ні эканамісты, ні эколагі — каб вывучыць яе як грамадскі феномен, складана арганізаваную сутнасць са сваёй асабістай іерархіяй, якая развіваецца паводле нейкіх законаў, прызнае духоўнае лідарства, мае вопыт і прыклады паспяховага гаспадарання і рацыянальнага ўладкавання прасторы. Пра ўсё гэта не пішацца. Пра тое, што калектывізацыя адвучыла людзей працаваць, бо знішчыла матывацыю, — не пішацца; пра тое, што кампанія са свіным грыпам скасавала традыцыю трымаць парсючкоў, якая нікому не шкодзіла, — не пішацца; пра тое, што ў вёсцы ўжо амаль немагчыма купіць малако або яйкі, — не пішацца. Але апошняе мо і не страшна, бо купіць, як ужо падлічылі, выгодней, чым вырасціць.

Нельга тут абысці ўвагай страшны ўплыў сродкаў масавай інфармацыі. У вёску, гэтую замкнёную сістэму, з усіх бакоў пачало сыпацца, сыпацца, сыпацца. Культура вёскі на гэта актыўна адрэагавала. На пачатку XX стагоддзя, з пранікненнем у вёску гарадскіх стэрэатыпаў і разам з імі ўласцівых гораду трагічных сітуацый, на змену абрадавай песні пачаў прыходзіць жорсткі раманс, кшталту: «Куплю я каробачку спічак, у цёплай вадзе распушчу, атрава мая ўжо гатова, і жызні маей ужо канец». Мастацтва. Бліжэй да сярэдзіны XX стагоддзя наш касмічны геаметрычны арнамент бела-чырвонага колеру з чорным быў заменены паліхроміяй — васількамі і макамі, кветкамі гладдзю. Гэта ўсё рэакцыі на змены ў жыцці. Сказаць, што апошняе кепскае і непрыгожае — таксама няправільна: там свая прыгажосць і свой рай. Гэта ўсё гаворыць пра тое, што традыцыйная культура не стаіць на месцы, яна развіваецца разам з жыццём, і закансерваваць яе немагчыма — гэта будзе штучна і нежывуча.

**— Назавіце апошнія даследаванні, знаходкі, здабыткі ў вывучэнні вёскі і захаванні яе традыцый — вашы і вашых калег.**

— Доўгі час я займаюся вывучэннем народнай медыцыны. Не ў плане зёлак, а як феномена духоўнай культуры. І чым больш размаўляю з вясковымі шаптухамі і збіраю самыя розныя магічныя спосабы дапамогі, тым больш пераконваюся, што традыцыйная медыцына вёскі — асобны сусвет. Яна кіравалася да чалавека. Не хваробу лячылі ў вёсцы, а чалавека. Мэтай лячэння было ўзнаўленне страчанай раўнавагі: каб чалавек зноў стаў цэлым і цэльным, як і павінна быць. Гараджане кажуць: усе хваробы ад нерваў. У вясковай традыцыі ўсе хваробы — ад парушэння правіл і повязаў у гэтай вялікай сістэме. Каб быць здаровым, трэба, каб не было сварак і зайздрасці, і каб не толькі з людзьмі не было ніякіх пярэчанняў, а і з дамавікамі, і іншымі духамі. Такое скіроўванне да чалавека як да космасу мяне вельмі ўражвае. Канчаткова не раскрыты феномен знахара — чалавека, які сілай слова і ўласных дзеянняў можа дапамагчы пазбавіцца хваробы. Я цвёрда пераканана, што гэта дар, што гэта пакуль што ніякай навукай нявытлумачаная вышэйшая здольнасць — дапамагаць іншым знаходзіць лад з самім сабой, прыродай, Богам, наваколлем.

А гаворачы пра здабыткі і інтарэсы нашага калектыву, варта найперш адзначыць, што постсавецкая фалькларыстыка прыйшла да разумення наступнага: няма такога паняцця, як беларускі фальклор. Ён існуе як моўная канструкцыя — у навуковых працах, на паперы. Насамрэч ёсць фальклор кожнай канкрэтнай мясцовасці. Скажам, глыбоцкае Купалле зусім не тое, што кобрынскае, а лельчыцкія Каляды вельмі адрозніваюцца ад гарадоцкіх. Чаму ў паўночнай Беларусі валачобнікі ходзяць на Вялікдзень, а ў паўднёвай — на Каляды? Ёсць вёска як агульная сістэма, у ёй ёсць вызначальныя ідэі, напрыклад, падтрыманне дабрабыту, забеспячэнне ўраджаю, спрыянне ўтварэнню новай сям'і, але гэтыя пазіцыі ў кожнай мясцовасці вырашаюцца ў сваім парадку свят і прысвяткаў. Таму ад вывучэння агульнабеларускай культурнай традыцыі мы перайшлі да вывучэння традыцый абласцей і трымаем кірунак на раёны і вёскі. Шмат што яшчэ застаецца незразумелым. Чаму ў расіян ёсць быліны, а ў нас няма? Украінцы маюць думы, гістарычныя песні, а мы не маем. Затое мы маем праўдзівы эпас селяніна-земляроба ў валачобных песнях, чаго няма ў іншых народаў. Наша традыцыйная культура жыве, і вёска застаецца прыцягальнай, роднай і рамантычнай.

*Гутарыла Святлана Воцінава*

**Настасся Яльніцкая**

# Народны каляндар (запісы фальклору з вёскі Бабовічы Гомельскага раёна)

Гісторыя з'яўлення так званага народнага календара вёскі Бабовічы пачалася з таго, што летам мне, студэнтцы філалагічнага факультэта, трэба было прайсці фальклорную практыку.

Калі хто не ведае, фальклорная практыка — гэта хатняе заданне на лета, якое атрымліваюць студэнты філфака па заканчэнні першага курса. Сутнасць задання ў тым, што студэнту неабходна сабраць у інфармантаў неабходны мінімум фальклорных адзінак, а менавіта пяцьдзясят, аформіць іх у адпаведнасці з правіламі і падаць звесткі свайму навуковаму кіраўніку ў верасні.

Фальклорнымі адзінкамі лічацца апавяданні аб правядзенні свят (мне пашанцавала сабраць менавіта іх), незвычайныя гісторыі, звычаі, легенды, варажба, анекдоты, народныя песні, прыпеўкі, дзіцячы фальклор і шмат іншага.

Я родам з Гомеля, таму фальклор збірала ў гэтай частцы Беларусі. Паехала ў Бабовічы, дзе жывуць мае бабуля з дзядулем. Гэтая вёска знаходзіцца ў Гомельскім раёне. Па праўдзе кажучы, думаць не думала, што змагу атрымаць шмат інфармацыі пра святы, якія праводзяцца ў вёсцы. Больш скажу, да сустрэчы з маімі бабовіцкімі інфармантамі я і ўявіць не магла, што ў нашай вёсцы праводзіцца столькі мерапрыемстваў увогуле. Больш за ўсё даных пра абрады я атрымала ад Камісаравай Ганны Пятроўны (03.08.1962 г. н.).

Аднаго ранку мы з бабуляй сабраліся ў Дом культуры ў спадзяванні атрымаць любую інфармацыю ад яго супрацоўнікаў. Я добра запомніла, што раніца была спякотная, а ў сценах клуба мы знайшлі выратаванне ад пякучага сонца. Унутры было свежа — і пуста, паколькі мы прыйшлі раней за пачатак працоўнага дня. Вырашылі пасядзець і пачакаць.

Прайшло крыху часу, перш чым пачуўся гук дзвярэй, якія адчыняліся, і чыйсьці тупат. То была, як высветлілася, Ганна Пятроўна. Яна сустрэла нас ветлівай усмешкай і на просьбу аб дапамозе адгукнулася адразу ж. Я зразумела, што з інфармантам сёння мне вельмі пашанцавала, бо да гэтага



Настасся Яльніцкая.

мне было складана ўсталёўваць кантакт з бабоўцамі: я не была упэўнена, на якую тэму лепш задаваць пытанні, каб атрымаць на іх разгорнутыя адказы замест звыклага «ой, нічога не памятаю». Цяпер жа перада мной сядзеў чалавек, які не толькі памятаў народныя звычаі, але і з'яўляўся арганізатарам усіх мерапрыемстваў вёскі.

Каб вы мелі хаця б аддаленае ўяўленне пра гэтую жанчыну, скажу, што яна з тых людзей, з якімі лёгка знаходзіцца побач. У яе прыемны голас. Калі яна ўспамінае, як «раней у народзе было», то цёпла ўсміхаецца, і гэта цяпло перадаецца табе. Ганна Пятроўна з'яўляецца загадчыцай мясцовага сельскага Дома культуры, а яшчэ — удзельніцай ансамбля народнай песні «Дубравіца». Па адукацыі бухгалтар, і тым не менш яе прафесійная дзейнасць сёння больш творчая. Ганна Пятроўна пераехала ў нашу вёску 35 гадоў таму з вёскі Казацкія Балсуны Веткаўскага раёна і прыклала шмат




намаганняў, каб бабоўцы, як называюць сябе жыхары вёскі, не забывалі пра народныя традыцыі і каб гэтыя традыцыі жылі і далей у народзе. Вядома, расказанае ёю было карысным для мяне, і цяпер я хачу падзяліцца народным абрадавым календаром нашай вёскі з вамі.

Зразумела, зімовы цыкл распачынаюць Каляды (6 студзеня). Са слоў майго інфарманта: «*Калядкі мы ходзім, но то сейчас ужэ, раньше ходзілі колекцівом всем. Приходзім к дому і просімся: «Цётачка, дзядзечка, благаславіце песенку спець». Нас пускают, есцественно. В дом-то і нельзя заходзіць по старой традзіцыі. Мы поём двору, мы поём маленькой дзевочке, поём маленькому мальчіку, поём взрослой дзевушке, поём взрослому парню, і пчолам, і супругам*». *Напрыклад, пачатак песні «Двару» гучыць так:*

*«На вашым дварэ дрэва стаяла.*
*Раю раіўся, Хрыстос нарадзіўся*
*На вашым дварэ!»*
*Пасля гэтых песень звычайна кажуць:*
*«Куцка запала,*
*Дай, баба, сала (або «дай, дзед, сала»),*
*Наверх каўбасу —*
*Бацьку панясу.*
*Бацька будзе есць,*
*Барадою трэсць,*
*Зубамі пляваць*
*І дзяцей прывячаць».*

Ганна Пятроўна дадала, што ў нашай вёсцы шчэ й казу вадзілі: «*Она ходзя на втары дзень Рождзества (8 студзеня). Одзевалісь, ну, собіралісь пяць-шесць чалавек, адзявалі казу і захадзілі, тожа прасіліся: «Цётачка, дзядзечка, благаславі казу праспяваць. І пелі "Го-го-го, каза..."*»

Да 18 студзеня прымеркаваны абрад поснай куцці: «*Это ў нас такой обряд был ішчо с дзетства, мы самі с Ветковского района, мама там, так мы і здзесь у Бабовічах так, і вот васямнаццатага ў нас стала традзіцыяй.*

*Я варю кашу вкуснаю на водзе ў чугуне, у чыгуньке, пярловаю і с сахарам. Зазываю сюда дзяцей і взрослых. І з этага, з дзяжы, ну, это крышка, і я туда накладываю сено, раньше должно сено брацца с коровы. Ну, сейчас мы ўжо бяром более окультуренное сено ілі солому. Я обычно травы такіе вот сухія накладываю, засцілаю рушнік, у нас есць эці самотканые, становлю туда чугун, все ў меня седзят за столом, я выхожу с этой, с куццёй. Я становлю сюды чугун, станаўлю свечэчку, зажігаем эту, колядную свечэчку, рождзественьскаю, і крэсцік у мене есць. Станаўлю крэсцік у чыгунок, все встаём, і такія слова:*

*«Мароз, мароз! Хадзі гушчу есць!*
*Летам не бывай, цвятоў не збівай,*
*А то будзе табе ўюга, жалезная пуга!*
*А вы, куркі, чуйце ды яйцы гатуйце!*
*Мае сыпце, як мак, а чужыя будзьце так».*

*Потом я раздаю эту всем куццю. Абношаю вот так вот кругам, потом крестом так вот над столом, як крест: прямо і слева направо. І потом даю всем ужэ эту кашу і запіць, обычно я варю ілі компот с сухофруктов, ілі кісель*».

Вясновы цыкл свят распачынае Масленіца: «*Мы всегда Масленіцу, Гуканне вясны праводзім у Бабовічах. Масленіца — это последняя недзеля перад пастом. Мы всегда дзелаем на загавіны, загавіны — эта когда загаўляецца на Вялікі пост, это последняя нядзеля Масленіцы. І прэждзе чэм выйці сюда к людям, ходзя жэншчына, ну, ціпа я всегда выхожу і пяю:*

*«Вясна! Вясна! Вясняначка!*
*А дзе ж твая дочка Вуляначка?»*

Это жэншчына пяе, гукае вясну. Потом ходзя Масленіца, у нас тожэ жэншчына, тожэ песня:

*«Ой, Масленка, несчасленка, сера утка.*
*Ты казала, вясна скора, дай не хутка…»*
*Угошчаем всех блінамі: дзяцей і ўзрослых, хто ў нас тут сядзіць, чаем, ну обычна, вы ж знаеце, как Масленая нядзеля, там каждый дзень*

*распісан, ну мы этага не дзелаем. Едзінственна, што дзеці прыязжают к цёшчэ на бліны. То, что осталося ў нас. Ну, а потом ідзём, дзелаем чучэло Масленіцы і сжігаем. Када людзі ходзілі, это сейчас ужэ людзі не хоцят ходзіць, мы Масленіцу везлі по дзеревне ў тачке. А еслі снег, мы вязлі на санях. І усё трап'ё, которое не надо, всегда шмоткі лажылі Масленіце. Как говоріцца, ачышчаецца душа ад нячыстай сілы. Обычно на Масленіцу і сжыгалі старыя буркі, пратоптаные старыя валенкі, рязіны, зімнія хухвайкі — вот такое вот лажылі*».

«*Потом за Масленіцей Сbabakі (22 сакавіка), но мы Сbabakі — тока так. На Сorakі надо печь птушкі, птушкі такія з цеста лепім і тады тожа зазывалі дзяцей, раздавалі дзецям. На Сorakі ў нас качэлі мы дзелаем, все тогда, все в дзеревне на качэлях*».

А ці ведалі вы, што на Дабравешчанне (7 красавіка) кажуць: «*Птушка гнязда не ўе, дзяўчына касу не пляце*»? А чаму так кажуць? Я пачула цікавы адказ на гэта пытанне: «*Калі дзеўка запляце касу, дык не выйдзе замуж, а калі птушка будзе віць гняздо, значыць, не будзе ў яе эта, вывадку. Так казалі старыя людзі*».

Існуе абрад, які мае дзіўную назву, — «грэць Бога». Са слоў Ганны Пятроўны: «*Раньше мы грэлі Бога. Мы палілі касцёр. Усе снапы вот собіралі, тады ўжо спалівалі, рана ўтрам ужо Бога грэлі*».

Веснавы цыкл завяршае Вялікдзень: «*На Пасху мы нічэго не дзелаем, потому что кажды хоча дома пабыць, ну только дзелаем — красім яйца. Яйца мы дзелаем красівые, вот. Тады дзяцей поошчэряют, дзевочка ставя куліч, і вот такіе вот яйца*».



Масленіца.

«*Троіцу (4 чэрвеня) раньше проводзілі тожэ. Завіваніе зялёнага куста, но яно как-то не ішло, Дзевочкі завівалі вяночкі на эту самую, это ўжо было очэнь давно, завівалі вянкі, вешалі на бярозу, ну, счіталось, что берёза дае жізненную сілу. Сцэплівалі, чтобы ў пару была, дак две галючкі здзесь, как говоріцца, чтобы эта самае, была ў пару*».

Другі інфармант (Краўцова Аляксандра Іванаўна, 1953 г.н.) паведаміў пра такі звычай: «*Вот шчэ ў нас клён, эта самае, у якіх мясцінах, можа, другое дрэва, а ў нас клён перад Тройцай у эты ўтыкалі, і я ўсё ўрэмя ўтыкаю ў етыя самыя… у стаўні. Эта самае аберагае ад нячыстай сілы, лічыцца. Абярег. У каго бяроза — той бярозу ў эта ўтыкае*».

Упэўнена, што кожны што-небудзь ведае пра свята Купалле (з 6-га на 7-е ліпеня). Аднак жа некаторыя звесткі, якія я пачула, сталі для мяне не іначай як адкрыццём. Аповед, на маю думку, займальны: «*Раньше ездзілі на конях, кветку папараць ездзілі по уліце тожэ собіралі, шмоткі эці все, кому что не надо, отдавалі людзі, всех зазывалі на свята, раздавалі папараць-кветку. Все шлі с песнямі, зазывалі людзей. Гаварылі такія словы:*

*«Сёння ж Купала, а завтра Ян.*
*Да зайграй, сонейка, зайграй нам!*
*Каб зялёныя лугі шумелі!*

*Каб сырая зямля стагнала!*
*А дзявоцка спявай!*
*А дзявоцка гулянне*
*Да й жаночага спявання».*

*Ещё вяночкі завівалі, пускалі. Дзелалі такіе вот, туда свечэчку в веночэк, і когда ўжэ Купалінка ішла кідаць свой вяночэк, все дзевочкі неслі эці на подносах, і мы в Узу пускалі. Дажэ вот рыбакі ўсе любаваліся!*

*Па трыццаць, па сорак такіх венков со свечамі пускалі. Ну, а потом ужэ начіналі паліць ужэ купальскія кастры. Сейчас одзін палім, а раньше ж по двенаццаць, по чэтырнаццаць кастроў палілі. Ну, а потом ужо об'являлі, что, когда немножко косцёр ужэ был поменьше: «Хто хоча ачысціцца ад нячыстай сілы, прыгайце чэраз касцёр — і в речку… купаніе». А купальская роса — это самая лечэбная, вот. Обязацельно надо еслі не купацца, то пройцісь по росе, потому что ачышчае, как говоріцца, от нечістой сілы і лечэбная. І тады ўжэ все ідуць купаццца в речку».*

Праўду кажучы, пра Зажынкі я не ведала нічога, і Ганна Пятроўна вельмі падрабязна патлумачыла мне, што ж гэта за свята такое: «*Зажінкі (21 ліпеня) — это зажінаць первый сноп. Ну, там у нас гаворят слова, потом выхожу я, глаўная жняя, глаўная жнейка: старэйшая жанчынка, яна глаўная жняя. У народной одзеждзе, должэн быць платок обязацельно і здзесь серп і рушнік, тожэ саматканы. Выходзім, так? Я знімаю серп, жбан з вадою ў нас вон, углёк есць там з вадой, і*



Купалле.



Калядкі.



Куцця.

*станаўлю яго, перад полем трыжды хрышчуся і гавару: “Госпадзі, памажы ды здароўем надзялі”. Яна зжынае ахапку, эта самае, жнейка, і робіць з яе ляльку. А жнейкі тые ўсе вот шэсць... пяць — я счытаю — стаяць. І ахапак сжала, становлю і, дзе колоскі, завязываю, чтоб стаяла. Это называецца лялька. Сначала ляльку, станаўлю эту ляльку і кажу: “Як стаіць гэта лялька, каб так стаялі копы ў полі, каб град не пабіў, дождж не намачыў, каб злы чалавек порчы не нарабіў”. Зажынаю другую ахапку і роблю з яе крыж. І говорю: “Адгані, божа, нячыстаю сілу, каб не зурочвала нас, а хто першы пачаў, каб і нас пачакаў. А мы, як пачалі, каб яго абагналі. Благаславі, Божа, дай дар Божы”. Хрышчусь і всё, і жнейкі да я зажінаю з новага раблю перавясло, вот я сжінаю, скручіваю і лажу. Гавораць: “Каб у нас усё вілося, як каласкі ў вянку”.*

Потом ідуць, пяюць песню, пяём мы песню “Жыта ў полі”... Сноп усе жнейкі сжінаюць. патом нада ж гэты сноп упрыгожыць, тока цвятамі, у полі жэ дзе жыта, там і васількі, і рамашачкі, рамоначкі эці, мы ўкрашаем этот сноп і вручаем… руководзіцелю нашай гаспадаркі. А я гавару:

*“Зарадзі, Божа, жыта ды на новае лета.*
*Жыта, пшаніцу, усякую пашніцу.*
*Слава табе, Божа, за дождж‍ык і пагоду,*
*Надзялі здароўем да новага году,*
*Каб з поля ўсе прыбралі і дажынкі згулялі”».*

На гэтай ноце завяршаецца летні цыкл.

З восеньскага цыкла мне вядомыя два святы: свята вёскі і прастольнае свята «Свяча Міколы» (другое, дарэчы, мне спадабалася болей, бо яно здаецца мне больш спецыфічным). Вось некаторыя звесткі пра іх з першых вуснаў: «*Ідут у нас і празднікі дзеревень. Это осенью. На этом празднікe людзі выставляют свою продукцыю, не тока во там вынес гарбуз, вынес — оні такіе дзелают красівые подзелкі, оні там такіе фантазёры! Там і бліны, там і дранікі, там нічэго покупного, тока сваё ўсё, там і блінчыкі, там і разные оладушкі і ўсё... Ну, есцественно, там ужэ чэствуем председацеля — это тожэ ўжэ стало традзіцыей і не только в нашей дзеревне, это все по раёну по Гомельскому дзелают.*

*Есць у нас свой престольный праздник «Свяча Міколы», но мы его не дзелаем. Весной і осенью, ну как-то он ідзёт. Здзесь свяча есць. Это называецца свяча, это стоіт ікона святого Мікалая Чудатворца, свечка, і ўжо как прыкланенне должно быць. Но ў нас такога нету*».

Вось такія святы існуюць у нашай вёсцы. І тое, што абрады да гэтага часу бытуюць у народзе, сведчыць аб захаванасці беларускіх фальклорных традыцый і як вынік аб захаванасці беларускай культуры.

Кацярына Захарэвіч

# Вясковыя зацемкі (без прэтэнзій на ўсёабдымнасць і аб’ектыўнасць)

## Бабуля

Некалькі гадоў таму бабуля з дзедам пераехалі з хаты ў кватэру. Цудоўную, двухпавярховую, на чатыры пакоі, з усімі выгодамі цывілізацыі. У кожнага свой пакой, свой тэлевізар, і сваякоў-гасцей змесціцца нашмат больш, чым раней. Да горада пяць кіламетраў — маладзейшыя б і пешкі прайшлі, а цяпер навошта, калі машына ёсць? На кожным паверсе — па балкону, пад балконам — гародчык, якраз хопіць на цыбулю, моркву і іншыя агуркі. Як добра, як зручна! — дзівіцца бабуля і праз гады пасля пераезду.

Прачынаецца яна недзе а пятай — ні свіней, ні кароў, ні курэй даглядаць не трэба, але звычка засталася. Гатуе сняданак, праваджвае каго на працу, каго ў школу — калі гасцююць дзеці ці ўнукі. Снедае, сядае мераць ціск. 140 на 100 — у космас не возьмуць, але па зямлі пахадзіць, дай Божа, яшчэ дазволяць. Выпіла таблетку. Цяпер, лічы, вольная да самага абеду. Бабуля бярэ планшэт, пакінуты малодшай унучкай, заходзіць у дадатак з красвордамі і разгадвае іх хутка, спрытна.

Гатуючы абед, рухаецца павольна, грацыёзна і адначасова проста, па-свойску. Выглядае ўпэўненай, у сваёй стыхіі — робіць усё між іншым, аўтаматычна, але з душой — рукі самі ведаюць.

Не датушыўшы бульбу з мясам, ламаецца мультыварка. «Даўно трэба было яе выкінуць!» — кажа бабуля і лёгкім рухам ставіць рондаль з ежай на пліту. — «Можа, табе ёгурт зрабіць?» — дастае кефір, замарожаную садавіну і блэндар.

Ці не цягне назад, у тую вёску, пытаюся. «Ай, не! — яшчэ крыху — і замахала б рукамі, адбіваючыся ад слоў: — Што там рабіць?»

Мне няёмка сказаць, што мяне часам цягне — да яблынь, кустоў з парэчкамі і агрэстам, да воза, засланага сенам, дзе мы з братам гулялі. Напэўна, таму, што я ніколі не даглядала там курэй, свіней, карову і гароды.

## Дзядуля

Пакуль бабуля спраўляецца ў хаце, дзед працуе па-за ёй. Трэба схадзіць у краму, дагледзець гаспадарку малодшай дачкі, прывезці малодшую ўнучку пасля ўрокаў ці пасля гуртка, пагутарыць з суседкамі на лаўцы ля гаража.

Увесь дзень ён ходзіць туды-сюды, ненадоўга зазіраючы дадому і незаўважна даючы справаздачу: тое і тое зрабіў, пайду цяпер па гэта і гэта. А самая важная справа — апекаваць бабулю. Браць на сябе самую цяжкую працу і купляць для сваёй жонкі яблыкі. У гэтым няма пяшчоты, якая транслюецца ў кнігах, кіно і сацыяльных сетках. Таму можа здацца, што тут увогуле няма пяшчоты. Ну якое можа быць каханне, калі яна ў гародзе, ён у хляве? Я не памятаю, каб дзядуля дарыў бабулі кветкі ці мяккія цацкі. Самая яскравая адзнака іх стасункаў — перагырквацца ці жартаваць адно з аднаго. Бабуля найбольш кпіць са звычкі дзеда сядзець на лаўцы з суседкамі, а ён… ён проста можа пасмяяцца з чаго заўгодна. Але дзед купляе бабулі яблыкі, калі сваіх яшчэ няма, а яна гатуе яму асобныя дыетычныя стравы паводле медыцынскіх паказанняў.

Я хацела, каб часткі «Бабуля» і «Дзядуля» былі аднолькавыя па памеры, але тут больш няма чаго сказаць.

## Святочнае

Бабуля з дзедам прыехалі на могілкі. Абодва спакойныя. Я не раз бачыла, як бабулькі ў стракатых хустках і абавязкова чырвоных ці сініх кофтах на гузіках з вялікімі расцягнутымі кішэнямі кідаюцца на магілы, галосяць, хапаюць рукамі і ротам зямлю, і няма такой сілы, якая падняла б іх з кален тут і цяпер (прынамсі, у прысутных мужчын гэта ніколі не атрымлівалася).

Бабуля з дзедам прыходзяць на могілкі перад святамі і ў святы дзеля камунікацыі. Павольна і велічна ходзяць яны сярод надмагілляў. Перад святам — прыбіраюць, назіраюць, хто да каго хадзіў і як прыбраў, а хто яшчэ не паспеў, і думаюць, ці збіраецца ўвогуле. Гэта будзе тэмай для абмеркавання аж да самага свята і крыху пасля яго.

На свята ўсе прачнуцца рана, збяруць усё загадзя нарэзанае, прыедуць сюды. Пасцеляць на магілы белыя абрусы ці газеты, раскладуць пачастункі і будуць наліваць гарэлку або самаробнае

Я так і не ўлавіла, наколькі моцныя былі сяброўска-сваяцкія сувязі паміж памерлым і нашай сям'ёй. Таму выбрала спакойна-журботны выраз твару. У вёсцы ўсё павінна быць спакойна-журботным, толькі дзецям дазваляецца весці сябе інакш

віно — хто што захоча. Келіх на кожную кампанію будзе адзін.

віно — хто што захоча. Келіх на кожную кампанію будзе адзін. І ўсе, хто падыдзе ў святочную раніцу да магілы, будуць адпіваць (ці выпіваць) з аднаго і таго ж келіха. А прыйдзе шмат — «суседзяў» па могілках, суседзяў проста, сяброў, калег… Яны будуць назіраць, хто да каго прыйшоў, хто як частаваў, хто як паводзіў сябе пасля. Яны будуць распытваць, хто дзе жыве, чым займаецца, што змянілася ў жыцці з мінулага свята. Будуць згадваць агульных знаёмых, цікавіцца, хто што пра іх чуў. Усе немясцовыя дзівяцца, як можна накрываць сняданак на могілках. Усе мясцовыя дзівяцца, як можна гэтаму дзівіцца.

Але да свята яшчэ амаль тыдзень — акрамя нас на могілках нікога няма. Бабуля з дзядулем засяроджана прыбіраюць — быць не можа ў свеце больш важнай справы. Раптам з-за зарасніка выруліў тонкі і ссутулены мужчынскі сілуэт. За ім цягнулася невялікая тачка. Яна была цяжэйшай за мужчыну і вяла яго назад. Але замест таго, каб выпрастацца, мужчына толькі больш сутуліўся і ўпарта цягнуўся лбом наперад, нібы не тачка ў яго ззаду, а цагляны мур спераду, і трэба абавязкова прабіць яго галавой.

Бабуля і дзед яго, канешне, ведаюць — пазналі яшчэ здалёк. Я ж разгледзела, толькі калі падышоў павітацца. Яму, можа быць, гадоў пяцьдзясят — пры ўмове не вельмі добрага ладу жыцця. Ці гадоў трыццаць — пры ўмове зусім нядобрага. Яскравы сіняк пад правым вокам і набухлы, фіялетавы, у буйных порах, бліскучы нос на чырвоным твары не выклікалі ў мяне сімпатыі. Ён разглядаў мяне, незнаёмую, — стаяла з граблямі ў руках, быццам свая. Магчыма, думаў, з кім з маіх сваякоў мяне пераблытаць. Я зірнула на яго грозна з-пад ілба: «Не падыходзь. Не глядзі на мяне. Бачыш граблі ў мяне ў руках? Вось на іх і глядзі».

— Да сваіх?

— Ага. Пачышчу крыху, кветкі перабяру, пясок падсыплю. Траву з лісцем хацеў зграбці, ды на граблі забыўся.

— Дык вазьмі ў нас, калі трэба.

— Ну добра, вазьму.

Справакаваўшы прапанову ўзяць граблі, мужчына пайшоў «да сваіх». Ён доўга і старанна праціраў надмагілле, паліваючы незразумелага колеру анучку вадой з бутэлькі. Упарта вазіў пясок, пераадольваючы прыцягненне напоўненай тачкі. У яго была мэта, і ён, нягледзячы на фінгал пад вокам, фіялетавы, у вялікіх порах, нос і чырвоны твар, ішоў да яе.

## Спрычыненне

Пакуль былі на могілках, даведаліся: памёр хтосьці са знаёмых. Не сёння, даўней, некалькі дзён таму. Нягледзячы на ўсе магчымасці тэлефонаў, навіна дайшла толькі цяпер. Бабуля з дзедам доўга жывуць на зямлі, большасць іх знаёмых — таксама. Такія звесткі час ад часу прыходзяць. Тым не менш бянтэжаць. Тэлевізар, што ніколі не быў тут фонам і працаваў толькі тады, калі яго глядзелі, быў забыты і пакрыўджаны: побач адбывалася рэальнасць.

— Бачыліся тыдні тры таму, і нібыта нічога, жывы, здаровы, — кажа, віртуозна спалучаючы здзіўленне і спакой, дзед. Некалькі разоў паўтарае, каб дакладна ўсе пачулі і зразумелі: ён прыналежны да гэтай падзеі, вечнай, як свет, да чалавека, які стаў больш, чым проста чалавекам, — легендай, вобразам, лепшай версіяй сябе.

Я так і не ўлавіла, наколькі моцныя былі сяброўска-сваяцкія сувязі паміж памерлым і нашай сям'ёй, хоць мне і намагаліся патлумачыць, нагадаць, прывесці прыклады. Таму выбрала спакойна-журботны выраз твару. У вёсцы ўсё павінна быць спакойна-журботным, толькі дзецям дазваляецца весці сябе інакш.

На першым паверсе звякнуў тэлефон. Пасля кароткай размовы пра сваё, будзённае, перайшлі да важнага.

— Ты чула, што N. памёр? Тыдні са два таму. Во мне сёння М. сказаў. Тыдні тры таму мы бачыліся, усё было добра. Ды мы з ім… (тлумачэнні сваяцка-сяброўскіх сувязяў, што ўзмацніліся пасля смерці).

Да канца дня час ад часу пстрыкалі кнопкі хатняга тэлефона — хтосьці час ад часу набіраў нумар і...

— Ты чуў(ла), што N. памёр?

## Несупадзенне

У бабулі ў кухні стаіць радыёпрыёмнік. У адрозненне ад тэлевізара, грае ён заўсёды — ці то для фону, ці то зламалася кнопка «выкл». Даволі гучна — чутно нават на другім паверсе ў паўзах паміж рэплікамі ў тэлевізары.

У прыёмніку спяваюць пра каханне. Пра шчаслівае і няшчаснае, да мужчыны і да жанчыны, па-беларуску і па-руску, галасамі бляклымі і насычанымі, высокімі і нізкімі, мужчынскімі і жаночымі. Бабуля чысціць бульбу, варыць суп, мые посуд, плануе, што згатаваць на вячэру, гутарыць з дзедам і са мной пра агульных знаёмых (дзеду) і незнаёмых (мне). Яна сыпле імёнамі, дзеясловамі, прыпраўляе нелітаратурнымі словамі — рэдка і да месца — для смаку. Яна сыпле соль, перац, лаўровы ліст, дадае цыбулю.

Па радыё кожная трэцяя песня — пра разбітае сэрца, пра пачуцці, якія раняць, пра вочы, як зоркі, пра зоркі, што не свецяць, і пра агонь, што спальвае. Яшчэ траціна — пра вочы, як мора, пра шчасце як шчасце, пра жарсць пачуццяў і вечнае каханне. Соладка, аж прэсна. Самы смак — тут, у кухні. Смак супу, цыбулі і гутарак пра людзей — жывых ці не жывых, але сапраўдных.

Музыка перарываецца інфармацыйнай праграмай. Я не слухаю, бо навіны такія ж далёкія, як і песні. Раптам чую знаёмы голас. Гэта мой сябар, ён часта бывае на радыё. Усё змянілася за імгненне.

«Чуеце! — кажу. — Гэта мой сябар, распавядае пра сваю працу, — і ўслухоўваюся ў кожнае слова, што ён кажа.

«Ага», — адказалі мне і працягнулі гутарыць пра сваё — пра людзей.

«Гэта мой сябар, чуеце? Гэта мой сябар!» — паўтараю некалькі разоў, каб усе пачулі і ўсвядомілі маю прыналежнасць да таго, далёкага, што па радыё, важнага і ганаровага.

Але голас майго сябра па радыё такі ж далёкі і несапраўдны, як і песні пра каханне.

## Валерый Гапееў

# І тваё слова адгукнецца…

Што такое свая, мясцовая (у большасці выпадкаў, канечне, раённая) прэса для вяскоўцаў, я даведаўся за колькі гадоў да таго, як пачаў працаваць журналістам. І вопыт той, скажу адразу, быў зусім несалодкі. А было так.

Мы пераехалі з Мінска ў райцэнтр, на радзіму жонкі, я уладкаваўся на завод наладчыкам станкоў з лічбавым кіраваннем. У тыя гады — 90-я мінулага стагоддзя — у мяне і пачало нешта пісацца: пасылаў невялічкія нататкі ў рэспубліканскі перыядычны друк, публікаваўся ў «Крыніцы» і «Маладосці». Што датычыцца журналістыкі, дык быў вопыт парачкі артыкулаў у шматтыражцы «Інтэграла», дзе раней працаваў.

А тут перада мной пачала разварочвацца драма.

Вёска, з якой родам мая жонка, вялікая. У ёй і школа, і сельсавет, і калгас. Была царква. Але зачыненая, напаўразбураная. І вось бабуля жонкі, кажучы мовай пратакола, стала на чале вясковага аргкамітэта, які пачаў працу над узнаўленнем царквы. Адбудавалі царкву ў ранейшым выглядзе. Прыслала епархія маладога бацюшку з жонкай маладой і пекнай, з двума дзецьмі. Дык бабуля ім і хату сваю дала пажыць, сама да дачкі перабралася. Неяк прыехаў я, а бабуля мне голасам, на слязах настоеным, пачала расказваць: ніякі поп! Надта п'е, дык хай у святы, а то і на службе іншы раз моцна выпіўшы. З жонкай ходзяць па гасцях, там абое выпіваюць добра, гуляюць так, быццам сану на іх няма.

А далей — болей. Кінула жонка бацюшку, сабрала дзяцей ды і з'ехала. Афіцыйна, канечне, не разводзіліся. Тут калгас бацюшку і дамок даў. І там такое пачалося, што ніяк маладога святара не ўпрыгожвала. Дзецюкі ў хаце яго збіраліся, пілі, курылі, у карты гулялі, маладзіц з сабой прыводзілі. Поп з асалодай на радзіны-хрысціны

Сустрэча ў 2015 годзе.



да вяскоўцаў хадзіў, піў там без меры, да жанок чапляўся, пад сталом калені мацаў, калі і плескача атрымліваў. А пра апошні выпадак, які літаральна ўзарваў вёску, дык і ўвогуле расказаць каму сорам: з маладзіцай адной начаваў поп на сене ў хляве ды і згубіў свой крыж вялікі, нагрудны…

Пра гэта мне не толькі бабуля казала, ужо праклінаючы на чым свет стаіць лядашчага святара. «Соткі» пад бульбу вяскоўцам зазвычай давалі далёка ў палях, дык разам усе ехалі на тыя палі ў прычэпе трактарным. От там і наслухаешся! Але, чаго хаваць, былі і тыя, хто святара бараніў: малады, хай гуляе, каму шкодзіць? Такая спрэчка між жанкамі ўсходзіцца, такія падрабязнасці выкладуць пра жыццё чужое, што сорам чуць.

Але бабулю мне было вельмі шкада. Тая, як пра царкву размова, слёзы з вачэй змахвала. Балюча ёй было: гэтулькі сіл патрачана, колькі разоў сяло аббягала, бульбу збірала, бульбу здавалі ды матэрыялы куплялі, мужыкоў падахвочвала на будоўлю, есці ім варыла, несла гарачае ды смачнае на абед. А тут быццам насмяяліся над ёй. І поп гэты, і вяскоўцы, і само жыццё…

За адзін вечар я напісаў артыкул. Вялізны — ён заняў у раёнцы ўсю старонку. Не называў я вёску, канечне, і прозвішчы не называў. «Згублены крыж» — так назваў артыкул. (Забягаючы наперад, скажу, што імя маё на той час для рэдакцыі раённай газеты нічога не значыла, — не ведалі яны мяне).

У той дзень якраз зайшоў на пошту раённую, а там, чую, жанчыны наконт артыкула гамоняць — выйшла газета. Ды так эмацыйна… І адчуў у той момант: нешта будзе.

Што было?

Ды крычала бабуля тады крыкам: «Нашчо ён пісаў? Зняславіў! Усіх зняславіў! Каб і нагі яго тут не было! Хай не едзе больш сюды!».

Газета з тым артыкулам хіба што катамі ды сабакамі не чыталася. Купкамі збіраліся вяскоўцы: абмяркоўвалі горача. І гуло, гуло па сяле… Цешча казала мне пасля, каб з тых праклёнаў мне па рублю сыпалася, дык да канца жыцця б грошай хапіла. Але, былі тыя, хто казаў: правільна напісана! Ды большасць, як і бабуля, гаварыла: «Нашчо? Што толку, адно зняславіліся». Цешча мяне бараніла: «А то ж не хіба вы расказвалі, а ён чуў усё? А не вы казалі, што трэ гнаць папа такога? Дык як ён адзін уголас сказаў, дык самы

> Што ні дзень, то нейкі ліст. Там у магазіне звычайных макарон не хапае, там зборшчык малака заніжае тлустасць, там кіраўнік калгасны самадурствам займаецца, на людзей брыдкасловіць

вінаваты?» І з маці сваёй, бабуляй жонкі, цешча пасварылася: «Ты яму жалілася, ён табе дапамагчы схацеў, а цяпер ворагам стаў?»

Добра, што бульбу дакапалі, — не было пільнай патрэбы у вёску ехаць дапамагаць. Неяк тры месяцы і прайшло. Казала цешча, што пакрысе сцішылася вёска, бо і сам малады святар супакоіўся: не бачылі яго надта п'яным. Так, час — найлепшы лекар. Трохі забыліся вяскоўцы на артыкул, і бацюшка загуляў па-ранейшаму. Было каму яго бараніць: дзяцей хрысцілі многія, на хаўтуры клікалі, то ў святара грошай хапала. А да грошай прыліпалы знойдуцца…

Газету з маім артыкулам, ды не адну, крадком адно ад другога, накіравала ў епархію трое вяскоўцаў. Тое я пасля даведаўся. І, канечне, там прайсці міма такога вычварэнства, скажам прама, ніяк не маглі. Нейкі час назіралі…

Па вясне нечакана ў адну нядзелю прыехаў у царкву на службу благачынны цэркваў раёна. Папрасіў людзей сабрацца ў вызначаны дзень. І ў той дзень сказалі вяскоўцам, каб надта яны не крыўдавалі на маладога бацюшку, бо ж малады, ды і, відавочна, памыліўся чалавек з выбарам у жыцці, не змог утрымацца ад жыццёвых спакус. То пакуль пабудзе ён у іншым месцы, на іншай службе… А вяскоўцам у іх прыход — вось, вітайце новага святара!

Новы святар быў сапраўды бацюшкам. З людзьмі ветлівы ды паважлівы, разумны, гаворыць складна ды годна, паслухаеш — разумнейшым робішся… Службу Велікодную правёў з такой узнёсласцю, з такой урачыстасцю — да слёз жанок расчуліў. На сваёй старэнькай машыне ўсе вёскі бліжэйшыя, якія без цэркваў, аб'ехаў, загадзя папярэдзіўшы, Пасху хрысціў. Двое сутак на нагах, не спаўшы, не еўшы… Нарадавацца не маглі вяскоўцы сваім новым бацюшкам.

Не, мне бабуля не дзякавала ніяк, не выбачалася за свае словы, якія ў мой бок раней казала. Адно бачыў, што за сталом Велікодным сачыла, каб у мяне ў талерцы лепшы ды большы кавалак ляжаў, каб усё з'еў, ды ўсё перапытвала: ці ж смачна, ці хапае, ці ўсё паспрабаваў? І ля цешчы стаяла, падказвала, калі тая нам з жонкай у дарогу гасцінцы збірала…

Вось так я атрымаў ад жыцця ў падарунак галоўную ісціну для журналіста раённай газеты: ты пішаш для тых людзей, якія жывуць побач з табой. Твае чытачы — не нейкія абстрактныя людзі, а жывыя вяскоўцы. Тваё слова можа раніць, можа дапамагчы, можа суцешыць, можа памірыць, можа і пасварыць. З усведамленнем гэтым я і прыйшоў на працу ў раёнку праз нейкія тры гады.

З чаго пачынаюць чытаць раёнку яе падпісчыкі? З апошняй старонкі. І не з анекдотаў (якія мы там і не друкуем). Са спачуванняў. Хто памёр з вядомых людзей, хто выказаў спачуванне земляку, ці згадала добрым словам яго кіраўніцтва гаспадаркі, якой той аддаў усё сваё жыццё? Гэта — надзвычай важна. І важна пасля прачытаць вяскоўцам, як родныя ды блізкія шчырую ўдзячнасць выказваюць ім жа, землякам сваім ды кіраўніцтву гаспадаркі, калі дапамаглі хаўтуры добрыя зладзіць, маральна падтрымалі, па-чалавечы ў апошні шлях чалавека правялі… Для іншых — дробязь. А для вяскоўцаў — ніяк. Пяць радкоў быццам шаблонных слоў спачування родным з нагоды смерці — як прызнанне заслуг, як апошняя ўзнагарода чалавеку, як пячатка ў нейкім надзвычай важным дакуменце: чалавек заслужыў павагу сваім жыццём, і кіраўніцтва той гаспадаркі — чалавечнае і паважлівае. Бач, згадалі, парупіліся, выказалі добрыя словы…

У той час, калі яшчэ тэрмін «звароты грамадзян» не стаў часткай жыцця нашых чыноўнікаў, раёнка выконвала ролю ці не апошняй інстанцыі праўды. У якія толькі перыпетыі жыцця не даводзілася ўмешвацца! І ў спрэчкі з-за межаў, і ў сямейныя сваркі, і ў працоўныя адносіны. Што ні дзень, то нейкі ліст. Там у магазіне звычайных макарон не хапае, там зборшчык малака заніжае тлустасць, там кіраўнік калгасны самадурствам займаецца, на людзей брыдкасловіць.

Муж з жонкай завіталі, прыгнечаныя, разгубленыя. Дом валіцца. У прамым сэнсе гэтага слова. Адно ПМК будавала. І вось гэтак фундамент прасеў — пачалі сцены хіліцца. Прыехалі мы, пабачылі. Трэшчыны страшэнныя. Перагародка між пакоямі нахіленая і падпёртая. Жанчына кажа, пачула ноччу трэск, падхапілася — сцяна варушыцца, хіліцца, а там — сын на канапе спіць. Закрычала нема жанчына, уперлася ў перагародку цагляную рукамі, трымала, не дала ўпасці…

Зрабілі здымкі — і бухнулі матэрыял на першую старонку тэрмінова ў нумар. Ды яшчэ з загалоўкам такім, каб позірк спыніўся. Было пасля шуму, і рэдактара ўшчувала раённае кіраўніцтва, маўляў, навошта адразу пісаць, і так бы з часам вырашылі… Але галоўнае — у той жа дзень, як раёнка выйшла, былі будаўнікі ў тым доме, тэрмінова пачалі капітальны рамонт рабіць, умацоўваць фундамент. І тэлефонны званок гаспадароў дома праз тыдзень з падзякай успрымаўся з цяплом і прыемнасцю: усё добра. Значыць, можа нешта газета!

Начальнік раённага спажывецкага таварыства нас, раённую прэсу, паважаў. І не адзін раз прасіў: не пішыце адразу пра негатыў, не гэта галоўнае, праўда? Нам жа важней выправіцца, пабачыць з дапамогай вас ды жыхароў слабыя месцы, паправіць справу. Хітрасць яго мы бачылі, але, што хаваць, так і было: атрымаеш скаргу ад вяскоўцаў — тэлефануеш у райспа. Там рэагавалі насамрэч аператыўна, калі нейкая прыкрая дробязь. Вось аднаго разу тэлефануюць: круп грэцкіх тыдзень няма! Пагаварылі, запісаў адрас, звязваюся з кіраўніцтвам райспа, расказваю. Там дзівяцца: тыдзень таму заяўку атрымлівалі з крамы, ні слова пра крупы не было! Паабяцалі — выправяць памылку. А мне назаўтра званок. Той жа голас пачынае ўшчуваць. Што ж гэта я нарабіў такога, такую добрую прадаўшчыцу пакарала кіраўніцтва райспа! Вы ж пра грэчку пыталіся, дзіўлюся я. Дык прывезлі вам грэчку? Прывезлі і грэчку, і рыс, і сечку, і каўбасы свежыя, расказвае мне жанчына. Але ж прадаўшчыцу пакаралі… Дык, кажу, то ж яе недагляд, хапае ж круп розных на базе, чаму яна не парупілася? Што ж вы хацелі ўрэшце? А мне ў адказ: ды круп хацелі, але каб і прадаўшчыцу не крыўдзілі…

Вось такія яны, вяскоўцы, такой яны бачылі раёнку — як той самы апошні крок. Ведалі, што

як напішацца нешта нейкае нядобрае ў газеце, дык некаму мала не будзе. То й далёка не ўсё і расказвалі. Кожны хацеў, каб справы папраўляліся, але каб не быць вінаватым у чыейсці бядзе. Ужо хіба як так дапячэ, што далей трываць няма куды, тады — прамая скарга.

Раёнка для вяскоўца — не проста газета пра яго, а менавіта яго газета. Таму ведай, журналіст, што твая праўда, якую ты хочаш данесці ў тым ці іншым выпадку, павінна быць праўдай вяскоўца. А яна, гэтая праўда, мае свае асаблівасці. Бо і вясковец даўно розны. Ён бывае і хітры, бывае і зайздросны. А бывае справядлівы, толькі вось гэтая справядлівасць у асобных трымаецца на падмурку нашай неўміручай роўнасці: калі бедныя, дык каб усе. І іншым разам выступаюць вяскоўцы не супраць той беднасці ўсіх, а супраць багацця аднаго. Вось ведаюць, што на вачах усіх працуе сям'я фермераў ад ранку да ночы, не ездзяць самі на дарагіх аўтамабілях, не ходзяць у дарагіх апранахах іх дзеці, а ўсё адно: чаго ён гэтульки зямлі нахапаў, грашыма такімі варочае? І глядзі тады, журналіст: твой аповед пра паспяховага чалавека, які сваім шчыраваннем на зямлі змог узняцца над шэрай будзённасцю нішчымнасці, можа спарадзіць не толькі павагу да гэтага чалавека і жаданне іншых працаваць гэтак жа, а зайздрасць лютую ды гідкія праклёны…

Праўда заўжды тая, якая да цябе бліжэй, якая цябе грэе, якая суцяшае. Ды яшчэ ў бяду вялікую…

Было: дзікая трагедыя ў адной вёсцы. Як звычайна ўлетку, з аднае вёскі ў другую прыехалі хлопцы. Гэтыя прыехалі на сваім аўто, пасля арміі дзяцюкі. Усё было ціха-мірна, бойкі ніколі тут не ўсчынялі, гасцінна сустракалі чужых, дый калі на трэці раз прыехаў, то ўжо нібыта і свой. І вось хлопцы прыезджыя з мясцовымі дзяўчатамі зайшлі ў суседні двор вады папіць: там калонка стаяла, усе ёй карысталіся. Папілі, падурэлі трошкі: пырскаліся. І трэба было гаспадару двара, такому ж маладому хлопцу, зайсці ў той час на падворак. Ён і зрабіў заўвагу: навошта разліваць ваду, балота ж цэлае ў двары. Папілі-памыліся дый годзе. Тут прыезджыя сябе абражанымі палічылі — бач, ім мясцовы, відавочна маладзейшы, указвае, як сябе паводзіць, а дзяўчаты ж чуюць! І кінуліся з кулакамі

Раёнка для вяскоўца — не проста газета пра яго, а менавіта яго газета

на гаспадара. Збілі. Моцна збілі, да бяспамяцтва. Пайшлі. Ён ачомаўся і ў сенцы зайшоў. Там вялікі нож быў. З тым нажом вярнуўся да клуба. Яны яго пабачылі, загалёкалі: «Што, мала атрымаў? Хадзі, дададзім!» І самі, дурныя, да яго пайшлі…

Дваіх ён так пырнуць паспеў, што сканалі на месцы. Трэцяга раніў…

Следства вялося, быў суд. І карцінка той ночы высвецілася ў судзе паказаннямі сведкаў да яснасці белага дня.

Не мог я, пішучы тады артыкул, не сказаць пра тое, што калі б з трошачкі большай павагай аднесліся госці да гаспадара дома, не было б дзвюх смярцей. Калі б сказалі такое банальнае «Прабач». Не, я не заступаўся за забойцу. Ён атрымаў свае дваццаць чатыры гады турмы. Але ж… так відавочна было: не мелі хлопцы рацыі! Навошта было збіваць ні ў чым не вінаватага гаспадара надворка!

Той дзень быў, бадай, адным з самых цяжкіх у маім жыцці — калі за гадзіну да заканчэння працы прыйшлі дзве маці — тых, забітых сыноў. Што тут казаць — яны маці. Яны хацелі чуць і чытаць у сваёй раёнцы тую сваю праўду, у якой іх сыны бязгрэшныя. Бо яны — мёртвыя. Яны гаварылі і гаварылі, а я слухаў і маўчаў, бо разумеў: нічога яны не пачуюць у адказ, ніякай іншай праўды.

Ты пішаш свой артыкул. Якая б ні была яго тэма, ты помніш адно і галоўнае: герой твайго артыкула можа не проста пазваніць ці напісаць табе, ён можа прыехаць. Ужо заўтра, як выйдзе газета. І так неаднойчы было. Альбо іншае, што куды часцей здаралася. Прыязджаеш у нейкую вёску, кажаш чалавеку: вось, з раённай газеты, прозвішча маё такое. І чуеш у адказ: ага, ведаю! Дык гэта ты пісаў той артыкул?

Ведалі, што як напішацца нешта нейкае нядобрае ў газеце, дык некаму мала не будзе. То й далёка не ўсё і расказвалі. Кожны хацеў, каб справы папраўляліся, але каб не быць вінаватым у чыейсьці бядзе

За больш чым два дзясяткі гадоў працы ў раёнцы імя тваё стане вядомым у кожным сельсавеце. І, канечне, як гэта ні прыкра, ды запомняць цябе больш па артыкулах, якія мелі розгалас

За больш чым два дзясяткі гадоў працы ў раёнцы пабудзеш ва ўсіх вёсках раёна. І імя тваё стане вядомым у кожным сельсавеце. І, канечне, як гэта ні прыкра, ды запомняць цябе больш па артыкулах, якія мелі розгалас. А кажуць жа недарэмна: добрая навіна ляжыць, благая бяжыць.

То не адзін раз падумаеш, на чый бок станавіцца ў канфлікце, не адзін раз узважыш усе за і супраць. Але пакрысе зразумееш яшчэ адно непахіснае правіла раённага газетчыка: якой бы прывабнай на першы погляд ні падавалася праўда, якой бы дасканалай ні была, як бы ні прыцягваў той ці іншы бок, дзе б было табе зацішна і мякка, але мусіш шукаць сваю праўду. Мусіш папытацца пра тое ж у другога боку, а пасля — у нейтральнага, а пасля — яшчэ у чацвёртага, пятага, дзясятага. Каб абысці той выпадак з усіх чатырох бакоў, наверх залезці, знізу зірнуць і пабачыць сваю праўду, а пасля выкласці яе. Якой бы яна ні была, але — чыстая перад табой. Затое ніколі не будзеш потым адводзіць вочы, з кім бы ты не сустрэўся на вясковых дарогах.

А цяпер прыйшоў час пагаварыць сапраўды ці не пра галоўнае: што ёсць раённая газета для вяскоўцаў і карэспандэнтаў. Зноў жа, пачну з выпадку, які мне адкрыў гэтую ісціну, якая стала для нас, журналістаў майго пакалення, адным са стрыжняў нашай працы. Менавіта яе мы імкнёмся перадаць маладым.

Дык вось. Тады я толькі-толькі пачаў адлік свайго веку ў журналістыцы ў невялікай недзяржаўнай газеце мясцовага значэння. І адзін вясковец падзяліўся навіной: ёсць у адной вёсцы бабулька, якая, кажуць, бачыла ў свой час на свае вочы Леніна! Рэдактарка, некалі ваяўнічы член партыі, вельмі сумнявалася ў гэтым, але дазволіла камандзіроўку. І мы паехалі. Ну, гэта ж такі цікавы, такі незвычайны факт: бачыла самога Леніна!

…Бабулька была старэнькая. Каб неяк больш улагодзіць старую ды заманіць яе на гутарку, стаў я найперш пытацца пра яе жыццё: маўляў, вам амаль 95, вы столькі ўсяго пераржылі, рэвалюцыя, войны… Раскажыце. «Ай, мае дзеткі, што там успамінаць, хіба вам цікава…», — казала яна. Але слоўца за слоўцам… Я, памятаючы неўміручыя словы Карнегі пра тое, што трэба праяўляць максімум увагі да аповеду субяседніка, слухаў, перапытваў, каб падкрэсліць сваю цікавасць, калі бабулька пачала са свайго дзяцінства: «Нас усіх было адзінаццаць душ… Татка, мама, татава мама, і мы… я перадапошняя была…». Не падганяў старую, хоць хацелася, каб яна хутчэй пра галоўнае — пра сустрэчу з Леніным — пачала расказваць. Што ж, пацярплю, паслухаю…

А бабуля расказвала. Голас яе пакрысе загучаў раўней і спакойней, плаўна і нетаропка. І амаль безэмацыйна: «Есці ніяк няма чаго… сястрычка меншая ідзе дарогай, хапае ўсякую травіну, спрабуе на смак. Нешта не тое паспытала, хапіў яе жывот. Курчылася, крыкам сыходзіла, пасінела ўся за ноч. Раніцай сонейка ўзнялося, яна суцішылася, руку маю папрасіла — так яна маленькая засынала. Я руку дала, а яе пальчыкі халодныя-халодныя. Усміхнулася яна мне і памерла. Там ля дарогі яе і пахавалі… дзе тое было? А хто ж яго ведае… Тры тыдні мы ішлі, хіба помнілі — дзе ідзём?»

Бабуля быццам пакрысе апускалася ў сваё мінулае, і мяне… пачало зацягваць туды. Чытаў дзясяткі разоў і колькі кніг — пра бядоту, вайну, голад і холад. Але тут перада мной быў жывы чалавек. Гэта не аўтар з кнігі расказваў — вось гэтая самая бабулька, некалі маладой дзяўчынай па пояс у снезе валіла зімой лес, каб зарабіць 400 грамаў хлеба на сям'ю, цягала на сваіх плячах цяжэнныя камлі, а ногі.. ногі былі абуты ў самаробныя чуні з пакрышак аўтамабільных колаў. Тонкая ануча і нягнуткая гума — такі зімовы абутак… Я слухаў і глядзеў на яе — сухенькую, бачыў яе рукі на кіёчку — са скручанымі пальцамі… Гэтыя рукі цягалі доўгую пілу, ірвалі лён, капалі бульбу, жалі жыта, пяклі, мылі, гатавалі, трымалі дзетак і абдымалі каханага… Гэта не нейкі далёкі

літаратурны герой, а яна і яе сям'я харчаваліся ўсю зіму адной бручкай: «І пяклі, і боршч з яе варылі… Нічога больш не было…».

Перада мной адначасова раскрывалася трагедыя і прыгажосць чалавечага жыцця. Я адчуваў, што дакрануўся да самой сутнасці яго — да разумення свайго лёсу. Слухаў, таропка запісваючы ў нататнік (да гэтага часу не карыстаюся дыктафонам): пра першую імперыялістычную вайну, пра бежанства і вяртанне на родныя папялішчы, пра голад і холад, пра падзеі 1939 года, пра чысткі і другую — Вялікую Айчынную вайну. І пра радасць жыцця, пра каханне і прыгажосць: «У жніво ідзём з сярпамі ў поле — пяём, жнём — пяём… Ногі і рукі сколеш да крыві, усё цела баліць. А прыйдзеш дадому, памыешся і бяжыш на вечаркі — зноў спяваем… Была радасць… Там, на вечарках, я свайго чалавека сустрэла. Харошы быў, ніколі мяне не біў, на людзях дык прыкрыкне, а пасля цішком абдыме, пашкадуе…»

І ў гэтай канцэнтрацыі чалавечых выпрабаванняў эпізод, у якім бабулька маладой дзеўкай пабачыла Леніна, падаўся цяпер такой нязначнай драбязой… «У Маскву паехалі на заробкі, на фабрыцы працавалі. То мяне таварышкі гукнулі — пойдзем вечарам на сходку. Пайшла. Мужчын многа маладых, гавораць, спрачаюцца. А той Ленін… Гаворыць хутка, картавіць, рукі от так у жылетку закладзе, ходзіць-ходзіць… Гэткі яўрэйчык!»

…Артыкул у мяне атрымаўся вялікі. Аповед пра жыццё простай беларускай жанчыны. Маю ўзрушанасць рэдактар не падзяліла, маўляў, жанчына ж ніякі не герой, колькі іх, такіх вось бабулек. І артыкул доўга не выходзіў. Мо з месяца паўтара. Калі выйшаў, мы якраз выпадкам праязджалі міма той вёскі, я і прыхапіў газету. Заехалі, падышоў да хаты, а яна на замку. Выйшла суседка, пабачыла ў маіх руках газету.

«То вы той карэспандэнт? А цётачка ж кожны дзянёк выходзіла, паштарку сустракала, усё чакала, так чакала газеты. Казала, што і сфатаграфавалі яе, і расказвала яна многа, і ўсё вы напішаце… Памерла яна, на тым тыдні памерла. Так і не дачакалася вас…»

З тыдзень у рэдакцыі я не размаўляў ні з кім. Адно сказаў сябру пра гэтую навіну: бабуля памерла, не дачакалася артыкула…

Сёння мы не прапускаем практычна ніводны 90-гадовы юбілей жыхароў раёна, спяшаемся да кожнага, і няма нам розніцы: заслужаны то трактарыст, ветэран, ці простая вясковая бабулька, якая ўсё жыццё аддала зямлі, спачатку сваёй, пасля — калгаснай. Мы прыпадаем да іх расповедаў, як да самай чысцюткай крыніцы чалавечай мудрасці, мы запісваем іх аповеды, а яны — практычна кожны ўпершыню ў сваім жыцці — пакрысе засяроджваюцца на ўспамінах, і гаворка іх далей ліецца ціхім ручаём рэчаіснасці, дзе радасць і боль, дзе шчасце і бяда, дзе цярплівасць і адчай — усё, усё змяшалася ў самы тугі ком пад назвай «лёс». Яны расказваюць — і шчаслівыя да слёз ад таго, што іх слухаюць карэспандэнты, шчаслівыя ад нашага пераканання ў значнасці і цікавасці іх маленькага жыцця для жыцця ўсёй краіны.

І пасля чакаюць выхаду газеты, і тая старонка з іх фотакарткай і расповедам кладзецца сярод іншых, самых дарагіх прадметаў і папер…

А мы запісваем, занатоўваем, мы дзелімся адно з адным і сваімі чытачамі перлінкамі сапраўднай мудрасці і цвярозага разумення свайго лёсу, як доўгай дарогі, якую трэба прайсці годна. Мы разам хочам аднаго: каб кожны і ўсякі на нашай зямлі зразумеў, што няма нічога важнейшага за жыццё кожнага асобнага чалавека і што вялікае шчасце вялікай краіны можа складацца толькі з асобных шчасцяў кожнага асобнага чалавека.

Не адзін раз падумаеш, на чый бок станавіцца ў канфлікце, не адзін раз узважыш усе за і супраць. Але пакрысе зразумееш яшчэ адно непахіснае правіла раённага газетчыка: якой бы прывабнай на першы погляд ні падавалася праўда, якой бы дасканалай ні была, як бы ні прыцягваў той ці іншы бок, дзе б было табе зацішна і мякка, але мусіш шукаць сваю праўду

# Вакол цацкі

**Няхай чытач не вельмі задумваецца, як зразумець тут назву (прынамсі, першае яе слова) — як прыназоўнік у значэнні «кругом чаго-небудзь» ці як прыслоўе «навокал».
Бо як бы ні прачытаў ён яе — ён прачытаў яе правільна.**

## Па дарозе кажучы

— Рэчы тут усе выпадковыя — тое, што нам перадавалі, але ўсё гэта прыехала з вёскі. Каб паказаць, што яна не толькі такая, але і вось такая.

Навуковы супрацоўнік музея старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Аксана Варатнікова абяцала распавесці пра беларускую цацку розных часоў, але з прывязкай да вёскі. Запіс расповеду вырашана было зрабіць у прасторы музея, дзе наведвальніка сярод рознага іншага вітае цяпер новая экспазіцыя — два куткі з вясковымі інтэр'ерамі аднаго часу, але адно аднаму супрацьпастаўленымі: побач з карцінкай побыту «пана сахі і касы» — кампазіцыя з плеценай этажэркай, гнутымі крэсламі, круглым сталом пад абрусам у клетку, разгорнутым часопісам на ім, акулярамі, скрыпкай, кінутай на канапку... А пасярод і таго, і другога — два распісныя куфры.

— Гэтыя куфры — наша багацце, адзін з іх — агоўскі куфар, прывезены з экспедыцыі ў вёску Агова Іванаўскага раёна. Доктар мастацтвазнаўства Вольга Лабачэўская зафіксавала з дакументаў, што народнае мастацтва мае «выразную архаічнасць». Яе кнігай «Зберагаючы самабытнасць» мы карыстаемся падчас стварэння агульнай карціны ўпрыгожвання хаты. У дачыненні да тэмы цацкі яе работа таксама вельмі важная. Ну, а ў куфры, вы ж ведаеце, заўсёды захоўвалася самае дарагое. Паводле звычаю, куфар нявесты ў хату маладога мужа пераносіла чацвёра мужчын. Чым цяжэйшы быў куфар, тым большай была працоўная слава маладой жонкі. Ёсць, бачыце, звычаі, якія фарміруюць асобу... Прыгожыя маляваныя дываны і карціны самавукаў таксама з'яўляліся часткай вясковай культуры: яны ўпрыгожвалі хаты. Асабліва шмат такіх вось бэзаў і райскіх дрэў мелася на Палессі. Але гэта так, па дарозе кажучы.

Апісаная экспазіцыя — гэта толькі адзін эпізод вясковага побыту, але вельмі цікавы, што я не праміну адзначыць. Самае істотнае, што трэба зразумець, — гэта тое, што тут паказана не паслядоўнасць, не храналогія вясковага быту. Гэта тое, што існавала адначасова, толькі ў розных хатах.



Аксана Варатнікова.

— У нас, такім чынам, выкрышталізавалася канцэпцыя, — пацвярджае мая суразмоўца, — вёска — гэта не толькі цэп, льнамялка, маслабойка. Мы выставілі і тое, чым упрыгожвалі хаты мястэчак, бо ўсё ж мястэчковая культура вельмі ўзбагаціла вясковы быт.

## Скарбы XII стагоддзя

— У суседнім зале цяпер працуюць студэнты, — гаворыць Аксана Варатнікова, маючы на ўвазе, што размаўляць нам будзе нязручна. І дадае з хітрынкай: — Значыць, я буду здзіўляць вас. Да асноўнай нашай тэмы мы ўсё роўна ўжо падабраліся, бо ў мяне ў руках...

На маленькую скрыначку ў руках суразмоўцы мая ўвага была звернута амаль адразу. Аднак убачыць, што ў ёй хаваецца, да гэтага часу не атрымлівалася.

— Вось, бачыце? XII стагоддзе, — прамаўляе яна, дастаючы са скрыначкі сапраўдны скарб — дзве фігуркі, адна з якіх сімвалізуе чалавека, а другая....

— Мабыць, свінка, — чую тлумачэнне, з якім немагчыма не пагадзіцца: свінка, і толькі, і такая мілая! — Мы яе ўжо закансервавалі, але рэстаўратар неўзабаве павінен дарабіць страчаныя дэталі. Гэтыя прадметы нам перадала вядомы беларускі археолаг Людміла Дучыц з гарадзішча Маскавічы — дыямента нашай старажытнай культуры. Да гэтага часу шведскія даследчыкі не перастаюць сцвярджаць, што гарадзішча Маскавічы належыць да паселішч, названых імі малымі гарадамі вікінгаў. Тут, на поўначы, былі вікінгі — прафесійныя ваяры — яны наймаліся для аховы Полацкай зямлі і яе меж. Тэма гэтая, нягледзячы на даследаванні Людмілы Дучыц, Алега Дзярновіча і Георгія Штыхава, пакуль да канца не вывучана, хоць шматлікія іх знаходкі вельмі цікавыя. Але ў нас тэма «Цацка», ды ў дачыненні да вёскі. Мушу найперш сказаць, што да пэўнага часу цацка на сельскую і гарадскую не раздзялялася. Толькі ў XIX стагоддзі на кірмашах заўважаюцца традыцыі ў дачыненні да яе. Не ведаю, ці былі на гэтую тэму ў вас нейкія публікацыі, але ў нашай калекцыі вельмі добра бачна, што такое цацка: ад старажытных часоў гэта абавязкова выява жывёлы або чалавека. Абавязкова, бо чалавек асэнсоўваў сваё месца ў свеце жывога, і дзіцяці было вельмі важна ведаць, як яно выглядае і якім будзе.

Цацка абуджае фантазію. Археолагі кажуць: вось гэты прадмет для гэтага, а гэты — для таго. А цацка? У вызначэнні яе мэтавай прыналежнасці можна шукаць найперш літаратурныя, так скажам, магчымасці. Вось гэта і сілкуе больш за ўсё. Караткевіч пісаў: «Лялечны твар». Хоць Уладзімір Сямёнавіч тварыў вельмі аптымістычна, па-хэпіэндаўску, ляльку ён, прабачце, «задзвінуў»: сказаўшы «лялечная ўсмешка», ён надаў гэтай з'яве крыху іранічныя рысы.



Фрагмент экспазіцыі. Местачковая культура вельмі ўзбагаціла вясковы быт.

## Качка, певень, птушка шчасця

Цацкі-свісцелкі — карова, певень, козлік, коннік, авечка, свіння, шчаня — пералічваю іх так, як яны расстаўлены ў вітрыне.

— Гэта вырабы майстра Іосіфа Шопіка, — гаворыць Аксана Варатнікова. — Ён працаваў у сваім стылі — чорна-глянцаванай керамікі. І ўсё роўна ў яго цацка такая, якая была яна і ў археалагічныя часы. Гэта традыцыя, гэта вельмі старажытная традыцыя — цацка. Бачыце, ён дае тут сваю трактоўку пеўніка: быццам і падобны да пеўніка, але разам з тым і нейкая... птушка шчасця. А вось сабака, падобны і да свінні. Умоўнасць тут грунтуецца на практычнасці. Трэба было хутка зрабіць на кірмаш многа цацак, і прытым танных, — коштам з адно яйка, гэта вядомы з літаратуры факт.

Былі, як бачым, і паліваныя цацкі. Вось сярод іх качка — вельмі старажытны вобраз. Птушку знаходзяць у археалагічных раскопках з часоў неаліта. Гэта, мабыць, быў амулет, абярэг, але магла быць адначасова і цацка. У славян ёсць такое ўяўленне: чалавечы род вядзе свой пачатак ад птушкі. Качкі ці якой іншай — трэба літаратуру глядзець. Але птушка як сімвал сустракаецца досыць часта.

## Цацкай, увогуле, магло быць што заўгодна

— Ну, і цацка была самаробная. Тая, што да нас не дайшла па вядомых прычынах. На нейкую аснову насаджвалі кавалкі кудзелі, прамалёўвалі вугольчыкам рысы твару, са шматкоў тканіны рабілі тулава. Межы фантазіі былі тут у кожнага свае. Цацкай, увогуле, магло быць што заўгодна. Зараз пройдзем у археалагічны аддзел (каб толькі студэнтам не перашкодзіць) і пашукаем тое, што магло таксама працаваць на вобраз.

Ідзём на дыбачках: група студэнтаў знаёміцца з нечым сакральным.

— Якія эстэтычныя рэчы з археалагічных знаходак мы можам тут назіраць? Археолаг Мікалай Крывальцэвіч знайшоў на тарфяніку вось такі касцяны прадмет з выявай чалавека. Месца знаходкі — Азярное. З мезаліту ён ці з неаліту — цяжка сказаць дакладна. А гэта фрагмент статуэткі, якую археолагі трактуюць як ваціўную.

Ваціўная — гэта значыць, ахвярная. Калі чалавека трэба было вылечыць, то хваробу «пераносілі» з яго на статуэтку. Калі чалавека трэба было на нешта матываваць, надзяліць яго пэўнымі рысамі або якасцямі, таксама выкарыстоўвалася ахвярная фігурка.

Мы пераходзім да наступнага стэнда.

— А вось тут два зусім мала даследаваныя прадметы. Першы — лыжачка з Калінкавіцкага раёна — датуецца XII стагоддзем. Яе знайшоў гаспадар проста ў агародзе, капаючы бульбу. Спачатку лыжачка захоўвалася ў школе, а потым яе перадалі нам.



З. Жылінскі. Цацка (1978 г.): гліна, празрыстая паліва, лепка. Г.п. Ружаны, Пружанскі раён Брэсцкай вобл.

Лыжачка — як цацка, і вельмі прывабная: з ёй хочацца гуляць, бо на ручцы выразаны сімпатычны мядзведзік. Даволі дакладная работа. Другі прадмет звязаны з дзейнасцю археолага Штыхава, 90-годдзе якога адзначалася сёлета.

— На Мінскім замчышчы ён знайшоў вось гэты кубік. Нашы старажытныя гарады мелі вакол сябе вёскі, і кубік гэты невядома якога паходжання — мо і сельскага. На гранях сваіх ён мае евангельскія сюжэты. Прафесар Георгій Штыхаў вылучаўся тым, што выказваў розныя гіпотэзы, але ніколі не фантазіраваў — абапіраўся на факты і не пераступаў межы. Пра гэты кубік ён напісаў, што прызначэнне яго невядомае. Сапраўды, для чаго такі кубік — яшчэ і з евангельскімі сюжэтамі? Манахі з ім гуляць не маглі. Можа, нехта зрабіў яго для навучання сваіх дзетак? Літаратурны рэсурс дазваляе так думаць, а з пункту гледжання навукі прадмет застаецца невытлумачаным.

## Працяг будзе

— Археолаг Міхаіл Ткачоў пра гэтую кераміку сказаў: «Ай, якая мініяцюрная кераміка!» А мо гэта таксама цацкі?

Мы глядзім на маленькі посуд — быццам, і праўда, дзіцячы, лялечны, для гульні.

— Бачыце, якая жыватворная і спрыяльная навука археалогія: дазваляе неяк нешта інтэрпрэтаваць. І зноў жа мы здзіўляемся, наколькі маляўніча ўсё выглядае, з якой ахвотай людзі мінулага імкнуліся дэкарыраваць прадметы, якімі карысталіся, і гэта цягнецца з часоў курганоў, гарадзішчаў. Гэта ўсё культура, старажытная куль-

І. Данілевіч. Цацкі (1920-я гг.): гліна, празрыстая паліва, падпаліўны роспіс, лепка. Г.п. Ракаў, Валожынскі раён Мінскай вобл.





Цацкі з гарадзішча Маскавічы. XII стагоддзе.

тура. А ў нашым музеі знайшлося месца і археалогіі, і этнаграфіі, і рэлігіі… Нашай задачай якраз і з'яўляецца такая вось рэканструкцыя, і ролю тут адыгрываюць не толькі вынікі экспедыцый, а і кнігі, што мы выдаём, і метадычная праца, адукацыйная дзейнасць. Вось вы сталі сведкай студэнцкіх заняткаў: маладыя людзі робяць кальку з арнаментаў і працуюць над гэтым з вялікай цікавасцю. Значыць, працяг будзе.

## Лагічнае і генетычнае

— Батлейка — гэта матэрыял кірмашовай культуры, але ж таксама вясковай. З дапамогай батлеечных спектакляў людзі адукоўваліся і выхоўвалі сябе эмацыйна: ведалі, хто такі цар Ірад, і бачылі на свае вочы смерць, якая рубіць яму галаву, бо ўсе ж хваляваліся — а як жа? Трэба ж Хрыста маленькага ратаваць. Батлеечныя лялькі адраджаюць вечныя сюжэты. У розных вёсках на кірмашах батлейка, акрамя традыцыйных, мела свае сцэнкі. Але не будзем заглыбляцца ў фальклор. Славянская скрыня бяздонная: у ёй знойдуцца рэцэпты на кожны дзень жыцця і на кожны выпадак. Калі чалавеку цяжка, ён можа казкі паглядзець — пра жонку і мужа, напрыклад, і гэта яму вялікая дапамога.

Аксана Варатнікова паведамляе мноства неверагодна цікавых фактаў. Паведамляе іх, як сама кажа, «па дарозе», «між тым і гэтым». І словы яе трэба слухаць і чуць, і запісваць не толькі на дыктафон, а потым друкаваць у часопісе, але і ў памяць, прычым ва ўсе памяці адначасова — аператыўную і доўгатэрміновую, зрокавую і эмацыйную, лагічную і генетычную.

— А знакі на ручніках? Гэта ж таксама мае дачыненне да тэмы цацкі. Усё тое, што бачылі дзеці, можнаназваць «грамадскай лялькай». На жаль, у акадэмічных выданнях такая інфармацыя прысутнічае на ўзроўні фіксацыі. Такая ўжо акадэмічная навука. Але ж і літаратура выкарыстоўвае гэтыя набыткі. Ева Вежнавец, маладая літаратарка, цяпер жыхарка Варшавы і лаўрэат прэстыжных прэмій, апошнюю сваю аповесць назвала «Лялечка — балетніца — каралева — сплетніца» — лічылкай, якую мы ўсе з дзяцінства памятаем.

## Нешта падобнае адчуваў і нямецкі банкір

Пераходзім да стэнда з акарынамі, свістулькамі, бразготкамі. Таксама ж цацкі! Цацкі, якія абаранялі ад злых духаў.

— Выкарыстоўваліся для барацьбы з дэманічнымі сіламі, — тлумачыць Аксана Варатнікова: перакладае маё нязграбнае нешта на такое вось сімпатычнае і больш ёмкае штосьці.

У гэтай прасторы ўзнікаюць неверагодныя адчуванні. Колькі ўжо разоў даводзілася бываць у сценах гэтага музея — не пералічыць — і кожны раз агортвае нешта чароўнае; нейкае харство апуска-



Археолаг Мікалай Крывальцэвіч знайшоў на тарфяніку вось такі касцяны прадмет з выявай чалавека. Месца знаходкі — Азярное.

ецца на плечы і донца душы, і грэе яе, і прамяніцца, выплюхваецца хвалямі нечага невымоўнага. Спрабую перадаць свае адчуванні гаспадыні.

— Нешта падобнае адчуваў і нямецкі банкір, які вось тут, на вашым месцы, нядаўна стаяў і казаў: «Не пайду адсюль нікуды». Жонцы давялося выводзіць яго з музея сілком. Ведаеце, мы перажылі няпросты перыяд, калі прыходзілі да нас, у прыватнасці, святары і казалі, што ўсё, што мы маем, павінна знаходзіцца на сваіх месцах — служыць, а не хавацца ў музеі. А калі месца гэтым рэчам у новай рэальнасці не знайшлося? Што ж мы, выкінем тое, што збіралі, ратуючы, па гарышчах і падвалах людзі розных прафесій — і фізікі, і хімікі, і матэматыкі? Сёлета спаўняецца сорак гадоў з таго дня, як акадэмічнае кіраўніцтва на чале з акадэмікам Мікалаем Барысевічам дало згоду на збор гэтых калекцый. Тыя, хто іх збіраў, усе гэтыя прадметы вы-ра-тоў-ва-лі. І гэта была неверагодная праца. Не рабаванне, а праца па абароне каштоўнасцей для нашчадкаў. Гэта месца канцэнтрацыі таго духоўнага, што нават цяжка акрэсліць — якое яно? Каталіцкае? Праваслаўнае? Уніяцкае? Мы не вывучаем яго з гэтых бакоў; мы вывучаем тое, што мае культурны аспект, — менавіта ён дапаможа скласці агульную карціну. У той жа час яно дае нам канкрэтныя тэмы. Асобна археалогія, асобна народнае мастацтва, якое мы ведаем у звязку «карыснасць і прыгажосць», дзе галоўнае, канечне, карыснасць. Чалавек павінен быў выжываць, таму ён і стаў тым, кім стаў.

## Гаварыць пра ўсё

— Мы знаходзімся ў прасторы, дзе ёсць магчымасць гаварыць пра ўсё. Я хацела сказаць пра ролю



Чым цяжэйшы быў куфар, тым большай была працоўная слава маладой жонкі.

рэстаўратараў у захаванні такіх старажытных помнікаў. Тут яны даглядаюцца, а не ляжаць зваленымі ў адну кучу, як на «Полі цудаў» у Ждановічах, гінучы. Зберагаць — гэта яшчэ і рэстаўрыраваць, кансерваваць.

Калі ўжо зайшла гаворка пра «Поле цудаў», то ці не задаць яшчэ адно пытанне? Колькі часу вагаюся (ці тактоўнае гэта пытанне?), пасля асмельваюся:

— А ці можа «Поле цудаў» быць у нечым крыніцай для вашай музейнай прасторы? Ці магло б, хаця б тэарэтычна, нешта адтуль сюды трапіць?

Я ведаю адказ. А пытанне сваё задаю для тых, хто яго не ведае: каб адказ прагучаў. І не памыляюся: ён гучыць ёміста.

— Не, — гаворыць Аксана Варатнікова. — Што для музея як храма навукі самае важнае? Крыніцы, прывязкі. А там прадметы без каранёў, без прапіскі. Адарваліся і адарваліся. Гэта вельмі хворае пытанне. Людзі ездзяць па вёсках, збіраюць старыя рэчы, кідаюць усё ў адну кучу, не пытаючы, што адкуль з'явілася, каму і калі належала. Чорная бязглуздая праца. Для навукі гэта страчаныя рэчы. Назаўсёды страчаныя. І гэта не калекцыяніраванне, калі нехта так думае. Кожны самавар, кожная вязка лапцяў патрабуе адказу на пытанне: адкуль? Сямейнай рэліквіяй гэта мае права быць, але музейным экспанатам — не. Ну, гэта пытанне культуры людзей. На жаль, дэкларацыяй гэта не зробіш.

*Размаўляла Святлана Воцінава*

**Віктар Вабішчэвіч**

# У глыбі Палесся



## Ад рэдакцыі

Аўтар гэтых успамінаў жыве ў Давыд-Гарадку Столінскага раёна, працуе настаўнікам гісторыі і грамадазнаўства ў сярэдняй школе №1. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка Брэсцкага аблвыканкама. Выдатнік адукацыі.

Яго згадкі пра палескую вёску і савецкую школу адначасова з'явіліся (і прытым выпадкова — ішоў чалавек «паўз рэдакцыю», што называецца) гэткім злучальнікам усіх тэм лістапада (асабліва сёлетняга — з яго юбілейнымі датамі) — і тлустай кропкай у тэме нумара.

Значыцца, Савецкі Саюз і Палессе — амаль як у Коласа, вёска Рубель, а ў ёй школа.

## Школа як школа

У гады маёй вучобы Рубельская школа мела па чатыры, а то і па пяць класаў у адной паралелі — гэта прыкладна па сто пяцьдзясят вучняў. Прынамсі, у маім класе вучыліся сорак вучняў, а спачатку нават сорак два. Школа як школа, я і тады гэта разумеў, і цяпер, мабыць, так разумею. Назаўсёды ў памяці застаўся настаўнік матэматыкі Галавач Міхаіл Васільевіч, настаўнік хіміі Разановіч Васіль Аляксеевіч, настаўніца біялогіі Ляшкевіч Клаўдзія Дзмітрыеўна, настаўнік французскай мовы Бразоўскі Міхаіл Іванавіч. Але асабліва хочацца вылучыць тых, хто найбольш на мяне паўплываў, а таксама згадаць некаторыя эпізоды.

## Першая настаўніца

У нашай школе яна працавала толькі тры гады, толькі нас адвучыла — і з'ехала. Яе прыслалі сюды пасля Пінскага педвучылішча. Лідзія Уладзіміраўна Кудзеліч была самай звычайнай маладой настаўніцай, якой далі наш клас, як я потым зразумеў, не з лепшымі спадзяваннямі.

Першых класаў было чатыры. Так, вёска дзялілася на чатыры часткі: пачатак, да пэўнай вуліцы, насялялі вучні класа «А», далей, да нейкай мяжы, ішоў клас «Б», за ім «В», а процілеглы канец вёскі ўтвараў клас «Г». Чакалася, што ў нашым класе «А» ўсе вучні будуць слабыя, бо ў нашай частцы вёскі жылі самыя простыя людзі. Адзін толькі мой бацька быў штатным супрацоўнікам у калгасе, працаваў на трактары, а бацькі ўсіх астатніх ездзілі на заробкі ў Сібір, адсутнічалі па паўгода. Прытым існавала звычка меркаваць пра малодшых дзяцей у сям'і па вучобе старэйшых: калі тыя паказалі сябе як двоечнікі, то і з малых нічога добрага не выйдзе. Адно па мне ніяк нічога нельга было меркаваць: я ў сям'і старэйшы. І вось ёй, нашай настаўніцы, далі такі «безнадзейны» клас. Але яна малайчына — узялася за нас і выхоўвала як трэба.

Калі мяне прывялі ў школу, я ўмеў чытаць і лічыць. Не ведаў пра множанне і дзяленне, але мне і не трэба было. Пісаць я не любіў і не хацеў. А чытаў нават па-французску. Праўда, няправільна, але навучыўся сам. І ў школу мне не хацелася. Аднакласнікі пыталі: «Ты з кім будзеш сядзець, за якой партай?» А я: «Ды ні з кім я не хачу сядзець, якая парта? Я зусім не хачу ў школу». Узрадаваўся толькі, калі паказалі настаўніцу. «О, добра, маладая, не будзе страшна», — падумаў. А хутка стала зразумела, што наш клас лепшы: 22 выдатнікі налічваліся ўжо ў першым класе. Тады не было, як цяпер: мы цябе, маўляў, шкадуем, веды твае не ацэньваем. У выніку вучні цяпер прывыкаюць, што ў школу можна хадзіць, як на прагулку. А мы разумелі адразу: трэба вучыцца.

Мне бацька купіў сшыткі. Іх тады складана было купіць. У нас у вёсцы, прынамсі, не прадавалі. І паколькі мне страшна не хацелася

Калі мяне прывялі
ў школу, я ўмеў
чытаць і лічыць. Не ведаў
пра множанне і дзяленне,
але мне і не трэба было.
Пісаць я не любіў і не хацеў.
А чытаў нават па-французску.
Праўда, няправільна,
але навучыўся сам

пісаць, я ўсе сшыткі хуценька растранжырыў: нешта панамалёўваў, павырываў лісты, усё распусціў, думаў: калі сшыткаў няма, дык і заданні не трэба выконваць. Не, бацька паехаў у Столін па новыя сшыткі. У Століне не было, паехаў далей — у Пінск, там купіў ажно трыццаць сшыткаў. Тады я зразумеў: «нумар» не пройдзе.

Я стаў выдатнікам з другога класа. Як гэта ні абсурдна, але пачалося з завышэння адзнакі па беларускім чытанні. Сказала мне настаўніца: «Табе хоць "тройку" стаў. Вывучы на памяць верш і празаічны ўрывак, тады будзе "пяцёрка"». А мне было неяк усё роўна, «тройка» ў мяне ці «пяцёрка». Я не асабліва добра вывучыў, але настаўніца ўсё роўна паставіла мне за чвэрць «пяцёрку». Я тады падумаў: «Нейкі я нягеглы чалавек. Калі яна мне паставіла выдатную адзнаку, мне павінна быць сорамна. Трэба вучыць». І, пачынаючы з другой чвэрці другога класа ажно да дзясятага ўключна, у мяне па беларускай літаратуры былі толькі пяцёркі.

## Грузінскі чай

Я з любоўю ўспамінаю не толькі нашу настаўніцу, але і яе сяброўку Алену Якімаўну. Мо ў яе і прозвішча было Якімовіч, але тут я не гарантую. Вельмі цёплыя былі іх адносіны да мяне. Вёска вялікая, ад школы да дома далёка, і гэтыя маладыя настаўніцы мне аднаго разу кажуць: «Віця, хадзем з намі». Цяпер бы я ні за што не пайшоў. Але ж я дзіця паслухмянае. Настаўніцы клічуць, і хоць мне не хочацца, але я іду з імі. Яны кватаравалі недалёка.

Чаю як гарбаты я да гэтага ніколі не піў. Чаем у нас называўся кампот з сушанай садавіны. Грузінскі чай, што ў нас тады прадаваўся, мы не любілі. Але яны прапанавалі мне такі чай з пячэннем. Я, канечне, не хацеў, але як гэта — адмовіцца? Настаўніцы ж прапануюць. Я быў вымушаны. Сядзеў, піў з імі. Пакуль не сказалі: «Ну, цяпер можаш ісці дахаты». Некаторыя педагогі, бачыце, з вучнямі кантактавалі больш. Ну і правільна, нешта ж яны ўва мне запалілі — і любоў да школы, і любоў да кнігі. Калі яны ўжо з'язджалі, падарылі мне «Казкі народаў СССР» і «Мы з Санькам у тыле ворага» Івана Сяркова. Гэтыя падарункі ў мяне і цяпер захоўваюцца.

## Як мы хадзілі ў школу

Працуючы ў школе, я бачу стаўленне сённяшніх вучняў і іх бацькоў да школы і настаўнікаў і параўноўваю з нашым стаўленнем. Бацькі ў наш час паважалі настаўніка настолькі, што выконвалі ўсе яго просьбы безагаворачна. У нас не было такога, каб нешта настаўнік зрабіў няправільна. Я нават не бяру сябе, бо мой бацька асабліва сачыў за гэтым. Я бяру сваіх аднакласнікаў. Скажам, прыйдзе вучань дахаты і скажа, што настаўніца была нечым не задаволена ці нешта кепскае пра яго сказала. Дык таго вучня, я вам скажу, чакала лупцоўка: як гэта ты здолеў, каб настаўніца такое сказала? Як ты сябе паставіў? Цяпер жа бацькі могуць прыбегчы ў школу і сказаць: «Знайдзіце да майго дзіцяці падыход».

Мы хадзілі ў школу пастаянна; пропускаў, якія сёння сабе вучні дазваляюць, не рабілі. Чаму я гэта асабліва адзначаю? У нас бурныя, паўнаводныя рэкі. Палескія рэкі такія, як у Коласа Прыпяць апісваецца. Наша рака, якой ні на адной карце няма і якую мы называем адным з рукавоў Гарыні, калі вясною разлівалася і ўсё затапляла, стварала нам праблему: як трапіць у школу. Ад маёй хаты трэба было кіламетр ехаць лодкай па разлітай вадзе, а потым яшчэ больш за кіламетр ісці пехатою. Цяперашні вучань разважае так: «Ясна ж усім, што нас затапіла, ясна, што ад школы адрэзала, дык куды мне ісці?» А мы ж ішлі. Я згадваю толькі адзін раз за ўсё школьнае жыццё, калі я з-за вады не паспеў у школу, — трапіў толькі на трэці ўрок. А чаму? Таму што крыгаход быў няправільны. Звычайны час для крыгаходу — вечар або ноч. Я часта вечарамі хадзіў назіраць, як льдзіны лезуць адна на адну, як вада прыбы-

вае. Гэта не проста прыгожа — гэта велічна. Але плыць тады нельга. А тут крыгаход быў раніцай. Бацька пачакаў, пакуль ён прайшоў, пакуль сталі рэдкімі льдзіны, і не па рацэ паехаў, а затопленай сушай, дзе нізкія месцы. Так featнымі раўчукамі, далінкамі ён мяне па вадзе і прывёз, але трапіў я ў школу толькі на трэці ўрок. Ішла беларуская мова. Зайшоў я ў клас, памятаю, яшчэ з адным хлопцам. Настаўніца не пытала, чаго мы спазніліся. Яна сказала толькі адну фразу, якую я добра запомніў: «Усё праслухалі». Гэта было адзінае маё спазненне за ўсю вучобу ў школе.

У такіх умовах — калі бацька раніцай прывязе, а пасля заняткаў трэба толькі спадзявацца, што мо нехта сустрэне, — дабіраўся да школы і вяртаўся дадому не толькі я. Згадваюцца ўжо старэйшыя класы, калі мы з Федзем Вабішчэвічам, з якім жылі не так далёка адно ад аднаго (а тое, што ў нас аднолькавыя прозвішчы, для нашай мясцовасці абсалютна нармальна), пасля сямі ўрокаў, не зайшоўшы ў сталоўку (ай, мы ніколі ў яе не хадзілі), прайшлі, колькі было можна прайсці, а далей ніяк — вада не дае. І як на тое ніхто не едзе. А есці хочацца. Мы хвілін сорак стаялі — нікога няма і няма, і невядома калі хто будзе. Тады Федзя сказаў: «Давай пройдзем далей, там ёсць мелкаводдзе, мо як-небудзь перабрыдзём». Ну, мы ў гумавых ботах амаль да калена, але ж трэба метраў чатырыста прайсці па вадзе — перайсці луг, які ў нашым разуменні быў балотам. Так, недзе ёсць сапраўднае балота, а ў нас луг як балота. Чатырыста метраў. Калі вы крышачку знаёмыя з паводкай, вы разумееце, што іх ні за што не перабрысці так, каб не набраць вады нават у боты вышынёй да калена. Маленечкая лагчынка — і боты поўныя. Прынамсі, мы тады свае боты адразу набралі. А гэта пачатак красавіка, страшэнная халадэча. Вада ў бот трапіла ледзяная — і цябе апякло. І потым нічога не адчувалася, быццам ног няма. Далей мы ўжо брылі «як трэба».

Федзя бліжэй жыў, зайшлі ў яго хату, маці яго кажа: «Лезьце, хлопцы, на печ». Цяпер я мо і палез бы. А тады… Я ўвогуле чалавек па натуры такі, што з чужымі кантактаваць не буду. Пяцьсот метраў ад мяне жывуць, а я да іх на печ палезу! Не, не палезу. Федзя пераабуўся, завёз мяне дахаты.

Настаўніца прынесла кніжку, сказала: «Вось адна кніжка на чатыры класы. Даю яе вам, класу «А», на два дні. Потым яе забіраю і аддаю класу «Б». Што цяперашнія вучні? Ніхто ж не прачытаў бы, ці не так? Ну як за два дні ўвесь клас сёння прачытае адну кніжку?

Вось так мы хадзілі ў школу. Таму мне і крыўдна за цяперашнія пропускі вучняў. Маленькая зачэпка — і: «Я ў школу не пайду». А мы ішлі.

## Пра важатых і турпаходы

У школе нам было цікава з-за розных мерапрыемстваў, а не толькі з-за тых афіцыйных свят, калі мы хадзілі на дэманстрацыі, неслі партрэты і лозунгі. І спартыўныя спаборніцтвы, і працоўныя мерапрыемствы, і класныя гадзіны ў нас былі цікавыя. Хаця я ж тады настаўнікам не працаваў, я бяру як дзіця: мне гэта было цікава. Цяпер не кожны паверыць, але на піянерскія зборы мы ішлі з задавальненнем. Што яшчэ згадваю: калі былі малыя, да нас прыходзілі вучні-важатыя. Цяперашніх вучняў нельга прымусіць некуды пайсці і некаму нешта расказваць. А да нас прыходзілі важатыя і расказвалі нам пра Кастрычніцкую рэвалюцыю. Цяпер я як настаўнік разумею, што яны і самі мала што ведалі, але нам сёе-тое спрабавалі давесці, і я супраць такога шэфства і сёння нічога не маю.

Часам мы арганізоўвалі паходы. Цяпер гэта далёкія платныя паездкі, а тады цікавая вандроўка нават капейкі не каштавала. Скажам толькі маці, што ідзём заўтра ў Бережное, а гэта недзе за пятнаццаць кіламетраў ад нас. Там стары панскі парк, былы маёнтак і вінакурня. Мо апошняе для школьнікаў не вельмі, але нам было досыць цікава. Мы глядзелі, помню, у калодзеж, у якім не бачылі дна, — такі ён быў глыбокі. Іншым разам і ў лес хадзілі. Для нас паход у лес быў таксама падзеяй, бо ад Рубля да лесу кіламетраў восем. І прытым бездарожжа — не вельмі трапіш. Я і цяпер такія паходы практыкую, бо ведаю, што вучням падабаецца.

## Літаратура праз геаграфію

Заўсёды з удзячнасцю ўспамінаю настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Марыю Восіпаўну Вяшчыцкую. Тады не гаварылі ні пра якія методыкі, а яна заўсёды прыносіла на ўрок многа кніг беларускіх пісьменнікаў. Я параўноўваю ранейшыя ўрокі — у нашай савецкай школе — з цяперашнімі. Мы разбіралі апавяданне ці аповесць з усімі дэталямі, а калі тэмай урока была біяграфія пісьменніка, настаўніца прыносіла некалькі яго кніжак, з якіх, расказваючы пра жыццё, зачытвала ўрыўкі, і абавязкова паказвала партрэт. Сродкі для выкладання рознымі нестандартнымі спосабамі ў школе былі — і кіно маглі паказаць, але, я вам скажу, не асабліва імі карысталіся, бо, мабыць, падыходзілі да навучання практычна, рацыянальна. Не гэта ж вучыць. У першую чаргу не гэта. А хаця б тое, што настаўніца на кожны ўрок нясе вучням кніжкі і расказвае пра пісьменніка нешта такое, праз што ён паўстае перад вучнямі жывым і сапраўдным. Дзякуючы маёй настаўніцы мяне тады асабліва зацікавіла беларуская літаратура, хаця і не збіраўся я ісці на філфак. І не пайшоў. Я хацеў стаць географам. Прытым вучоным-географам, бо яшчэ ў школе, класа з шостага-сёмага чытаў навуковыя кнігі па геаграфіі, — хадзіў на кватэру да настаўніцы па яе запрашэнні і браў чытаць, а калі вяртаў, яна заўсёды казала: «Я ўпэўнена, што ты будзеш славутым географам». Я, канечне, яе надзеі не апраўдаў. Але ў выніку мая геаграфічнасць яшчэ больш звязала мяне з літаратурай.

А як гэта было? Зноў згадаю цікавы момант.

На ўроку пазакласнага чытання праходзілі аповесць Янкі Маўра «Сын вады». Настаўніца прынесла кніжку, сказала: «Вось адна кніжка на чатыры класы. Даю яе вам, класу «А», на два дні. Потым яе забіраю і аддаю класу «Б». Што цяперашнія вучні? Ніхто ж не прачытаў бы, ці не так? Ну як за два дні ўвесь клас сёння прачытае адну кніжку? А наш клас яе прачытаў. Якім чынам?

Мы дамовіліся так: каб нікому не было крыўдна, усе збіраюцца ў хаце таго, хто жыве пасярэдзіне (гэта была хата Ніны Машлякевіч), і ўголас два вечары чытаем. Аповесць не такая малая, хоць яе і вялікай не назавеш. І вельмі цікавая. Чыталі чамусьці толькі дзяўчаты. Першы вечар, помню, маці Ніны была ў хаце. А прыйшло нас больш за трыццаць чалавек, у адным пакоі не змясціліся. Хто раней прыйшоў, сеў на канапу, на ўслончык, на табурэтку, а хто пазней, той на падлозе сядзеў. У двух пакоях сядзелі, ціхенька слухалі. На другі вечар маці ўжо не было, яна, відаць, зразумела, што зноў чытаць будзем, а ёй, цётцы, было нецікава.

Аказваецца, так захапляльна расказваецца ў гэтай аповесці пра Вогненную Зямлю, а гэта ж з геаграфіяй звязана! І пачалося ў мяне паляванне на кнігі Янкі Маўра. Гэта цяпер лёгка, а тады маці ездзіла ў Столін у раённую бібліятэку, кніжкі адтуль прывозіла. І «Сын вады», і «У краіне райскай птушкі», і «Палескія рабінзоны», і «Амок». Усё мяне так натхніла і ўразіла, што я пачаў пісаць вершы. Было і раней, што пісаў іх, але цяпер зразумеў: на першае месца выходзіць у мяне не геаграфія, а літаратура. І захапіўся ўрокамі беларускай літаратуры яшчэ больш.

Але на філфак я не пайшоў. Бо лічыў, што літаратура — гэта нешта святое, чаго я не варты, што людзі рыхтуюць сябе да такога з дзяцінства. А я не рыхтаваўся з дзяцінства, значыць, пайду... на гісторыка. За чатыры дні да падачы дакументаў з'явілася гэта новае — гісторыя. Чаму? Бо яна бліжэй да літаратуры. Адным з маіх настаўнікаў ва ўніверсітэце быў Алег Антонавіч Лойка. Ён выкладаў у нас гісторыю беларускай літаратуры — маленькі, чыста касметычны, як я кажу, курс. Але для мяне было гэта важным.

## Што яшчэ цікава

Пісалі мы напачатку звычайнай ручкай з пяром. І можаце з мяне пасмяяцца, але я і цяпер вярнуў бы тую ручку — у першы клас, каб да Новага года ёю пісалі. Почырк выпрацоўваецца! Я цяпер пішу двума спосабамі: так, што ніхто не прачытае (гэта звычайна), і так, як прывык з дзяцінства — вельмі акуратна. Бо ў школе як вучылі? Бярэш чарніла, атрамант, і пішаш — выводзіш кожную літарку, пасля зноў у чарніла макаеш, зноў пішаш, а напрыканцы ўзяў чарніла трошкі больш і — ай, неасцярожна! — клякса ўпала. Што робіш? Перапісваеш. Бярэш чарніла, выводзіш кожную літарку, пасля зноў макаеш, зноў пішаш. Пісанне — гэта вялікая практыка. А цяпер што? Заданне: устаўце прапушчаныя літары. Па надрукаваным. Хутка ўжо ніхто пісаць не будзе...

**Уладзімір Цвірка**

## Нататнік падарожніка па месцах Якуба Коласа

**Я праехаў усю Беларусь. Ёсць на яе карце такія мясцінкі, на якія хочацца зірнуць яшчэ, і мо нават крыху іначай, чым першы раз. Быццам нічога асаблівага ў іх няма: прырода, лес, дрэвы, хаты... Хоць пра месцы, якія памятаюць Якуба Коласа, так сказаць не атрымліваецца. Яны асаблівыя нават тым, што, трапіўшы ў любое з іх, чуеш унутры паэтычнае слова.**
**Я з радасцю зрабіў бы яшчэ раз такую вандроўку.**



Акінчыцы.

### Акінчыцкі лес

Вялізная тэрыторыя каля Стоўбцаў. Запаведная, цікавая. Аказваецца, тут нямала раслін, занесеных у Чырвоную кнігу. І некаторыя зоны ў гэтым масіве таксама запаведныя — з Акадэміі навук прыязджаюць іх вывучаць. Дзякуй Богу, гэты лес захаваўся да сёння. Хоць трэба разумець, што раней ён быў значна большы. Але паглядзім на карту: тэрыторыя яго і сёння прыстойная. Знаходзячыся побач з горадам, яна для яго — як фабрыка па вытворчасці чыстага паветра і розных смачных пахаў. У свой час адзін з Радзівілаў падарыў гэтыя мясціны шляхцічу Акінчыцу. Напэўна, той быў леснікам. Прынамсі, валодаючы фальваркам — сядзібай Акінчыцы, ён, мяркую, займаўся якраз гэтым лесам.

Назву Акінчыцы атрымаў невялікі засценак, а ў выніку такі вялікі лес стаў называцца таксама Акінчыцкім.



Стоўбцы.

Бацька Якуба Коласа ўсё жыццё працаваў леснікам, але ў розных месцах. Калі паглядзець на карце размяшчэнне засценкаў і леснічовак, куды ён прыходзіў на працу, то можна зрабіць выснову: яны ўтвараюць паўкруг, які гэты лес агінае. То бок, працаваў ён толькі ў Акінчыцкім лесе. Іншая справа, што перамяшчаўся з месца на месца па розных прычынах: то дом згарэў, то быў больш патрэбны дзе-небудзь у Альбуці, чым у Ластку. У Акінчыцах, самым першым месцы службы Міхала Міцкевіча, яго маладая сям'я жыла з красавіка 1881-га да красавіка 1883-га. 3 лістапада 1882 года ў Акінчыцкім доме Міцкевічаў і нарадзіўся сынок Кастусь.

Пабудовы тут, на мой погляд, кампактныя, утульныя, але чалавеку, які разумее, што гэта ўсё ж леснічоўка, хочацца бачыць болей зялёнай прасторы. Дрэў мо і хапае, але калі дадаць трошкі лесу ў перспектыве, дом не будзе такім сіратлівым.

Як ехаць? Знайшоўшы ускраіну Стоўбцаў, у вызначаным накірунку. Яшчэ ў 1977 годзе вёска Акінчыцы ператварылася ў частку горада. Але і сёння яна мае налёт вясковасці. Чаму вандроўку па месцах Коласа я раю пачаць не з уласна Стоўбцаў, а з Акінчыц? Бо хочацца храналогіі — спачатку месца нараджэння зірнуць, а ўжо потым — магчымае месца хрышчэння. Гэта важна.

## Пра тое, дзе хрысцілі Кастуся

Спрэчнае месца. Аднойчы я задаў такое пытанне і стварыў няёмкую сітуацыю: мне не змаглі на яго адказаць. Паводле адной інфармацыі, гэта адбывалася ў Стоўбцах, у царкве Святой Ганны, якая была касцёлам, але яе перабудавалі ў царкву, і на той час яна існавала якраз як царква. Прыгожа, калі так, бо і маму Кастуся звалі Ганнай. Хросным бацькам быў дзядзька Антось. А вось хросную маці — жонку



Ласток.

лесніка Канстанціна Сянкевіча — звалі Крысцінай. Імя можа навесці на думку, што яна была каталічкай. Мо Кастуся хрысцілі ў Петра-Паўлаўскім касцёле ў Новым Свержні? Яшчэ адно магчымае месца хрышчэння — Свята-Успенскі храм, таксама ў Новым Свержні: з 1833 года ён быў царквой. Трэба шукаць…

## Ласток

Сям'я пераехала сюды ў 1885 годзе. Прыехала на гатовую гаспадарку: вялікі дом, вялікае гумно, і што яшчэ больш цікава — год пабудовы таксама 1885-ы. Магчыма, спецыяльна для лесніка збудавалі — каб прыехаў ён і працаваў. Ляснік быў вельмі важнай птушкай, бо лес — стратэгічны матэрыял. Для сям'і лесніка, гэта трэба ўявіць, будаваўся цэлы маленькі засценак — асобная сядзіба з гумном і калодзежам, полем, агародам і садам. Ці ж гэта ўсё для таго, каб прыехаў сюды прыгнечаны і заняволены, як у савецкіх кніжках пісалася? Бацька малога Кастуся меў, канечне, пэўны статус.

Чым унікальны Ласток: з усіх месцаў Коласа толькі тут усё захавалася «ў арыгінале» — і дом, і гаспадарчыя пабудовы. А ім жа 132 гады. І планіроўка, што цікава, не мянялася, і нават месца агарода, і поля, і сцежкі да рэчкі, каб паласкаць бялізну. Гэта вельмі важна для разумення, як што дзе размяшчалася і адбывалася. Ластку было б варта надаць асаблівы статус. З іншага боку, з усіх мемарыяльных леснічовак Ласток аддалены найбольш. А пад'езд да яго цудоўны, і дарогі добрыя. Я, праўда, блукаў, бо ўказальнік не там пастаўлены, але гэта хвароба шмат якіх указальнікаў.

Ласток знакавы яшчэ і тым, што дзіцятка — Кастусь Міцкевіч — расло тут і выхоўвалася з трох да васьмі гадоў. У тры гады чалавек ужо



Альбуць.

кеміць. А ў хату прыходзілі розныя людзі, дарослыя, з Мікалаеўшчыны ці аднекуль яшчэ. На кіламетры тады ніхто не зважаў: калі трэба было — ішлі пешкі. І вось гэтыя візіты маленькі Кастусь, хлопчык дапытлівы, натуральна, у сябе ўбіраў. Стаўленне людзей да прыроды і адно да аднаго, мясцовая гаворка, ды і гісторыі ж, мабыць, розныя распавядалі — перасыпаныя байкамі і фальклорам, жахосцікамі living рознымі... І гэты вось асяродак — прырода і людзі — стаў жыватворным.

## Альбуць

З Ластка Міцкевічы пераехалі ў Альбуць — у 1890 годзе. Жылі тут да 1904 года — чатырнаццаць гадоў, працяглы адрэзак часу. У 1891-м дом згарэў, але ў тым жа годзе быў адбудаваны нанова. Зноў хочацца выказацца наконт прыгнечаных і пакрыўджаных. Дом адбудаваць — гэта ж не палатку паставіць. Значыць, мелі сродкі, з торбаю па свеце не пайшлі.

Тут Кастусь вучыўся ў так званых «дарэктараў». А іх жа таксама трэба было карміць.

У Альбуці будучы Колас знаёміцца з рукапіснымі тэкстамі вершаў Янкі Лучыны. Як і Янка Купала, Якуб Колас пачынаў пісаць вершы па-руску. І такое ўражанне стварылі ў яго тыя рукапісныя вершы, што ён пачаў пісаць па-беларуску. Першы верш — «Вясна» — ён прачытаў перад сям'ёю ўголас. Зноў жа трэба разумець, што бацька быў мала што адукаваны, дык яшчэ і педагог вялікі. Сёння ў нас дзіця нешта не зробіць — і «ну, дык што». А тады была іншая справа: усё, што дзіця рабіла, заахвочвалася і цанілася. Хлапец верш напісаў! Гэта справа! За гэты верш сын атрымаў ад бацькі сярэбраны рубель. Значыць, верш бацьку моцна ўразіў, гэта па-першае, а па-

другое, — зноў тут адсылка да як быццам бедных — значыць, гэты рубель не быў у яго апошні.

Падчас вучобы ў Нясвіжы Кастусь ужо актыўна пісаў вершы. На канікулы, вядома ж, прыязджаў у Альбуць. Напэўна, ахвотна запісваў фальклорныя замалёўкі для будучых твораў. Па заканчэнні Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі паехаў на Палессе настаўнікам, але вяртаўся ў Альбуць — зноў на канікулы. У «Новай зямлі» Альбуць названа Парэччам, на старых картах пазначана як Альбута.

## Цёмныя Ляды

Я іх ледзь знайшоў: такія цёмныя. Папросту пад'езды перакрыты садовымі ўчасткамі. А чаму Цёмныя Ляды — таму што збудавана там была смалакурня, адсюль і другая назва — Смалярня. Гэта як ні круці, вытворчасць. Гэта вытворчасць драўнянага вугалю з пнёў, здабыча дзёгцю, шкіпінару і смалы. Гэта абсталяванне, работнікі, дадатковыя пабудовы і іншае. Тут, у Цёмных Лядах, старэйшы брат Кастуся Уладзя працаваў вартаўніком. У 1906-м, калі Кастусь прыняў удзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, яму тут, у Цёмных Лядах, далі прытулак. Цэлы год ён вучыў сялянскіх дзяцей — пазбаўлены права працаваць настаўнікам, ён, тым не менш, настаўнічаў — нелегальна. Такая вось схованка — Цёмныя Ляды. У тым жа 1906-м у яго друкуецца першы верш. Значыць, адрас першай публікацыі — таксама Цёмныя Ляды. І менавіта тут нараджаецца псеўданім Якуб Колас.



Цёмныя Ляды.



Смольня.



Мінск.

## Мікалаеўшчына

1906 год, нелегальны з'езд настаўнікаў. Спачатку сабраліся ва ўрочышчы Дубы. А пасля, к вечару, перабраліся ў школу ў Мікалаеўшчыне. Тут іх і заспела паліцыя. Два гады ішло следства, у 1908 годзе Якуба Коласа прыгаварылі да трох гадоў зняволення ў Мінскім астрозе. Сям'я тым часам пераязджае ў Мікалаеўшчыну і пасяляецца там у карчме. Бацька памірае, застаецца маці, дзяцька Антось і малодшыя.

## Смольня

У Смольні сям'я Міцкевічаў пасялілася пасля таго, як карчма ў Мікалаеўшчыне згарэла, — у 1910-м. Новы дом быў даволі прыстойны. Хаця сцвярджаюць, што сённяшні на тры вянцы дакладна ніжэйшы, чым той, што быў. Калі Колас вярнуўся з турмы, ён пасадзіў каля хаты дрэвы. У цэнтры двара і сёння стаіць ліпа. Калі верыць аповедам, гэта пад ёй сустракаліся Купала і Колас.

У Смольні пісаліся «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Апошні раз Якуб Колас наведаў Смольню ў 1956 годзе.

## Мінск

Якуб Колас пражыў у сталіцы трыццаць шэсць гадоў. Пасля турмы з'явіўся тут у 1921-м. Выкладаў у педагагічным тэхнікуме з 1923-га па 1926-ы. Дацэнт кафедры беларускай мовы БДУ з 1921-га па 1927-ы. У 1929-м выбіраецца віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук.

Да 1927-га сям'я жыве на здымных кватэрах, пасля пераязджае ў дом, які знішчаецца ў першыя дні вайны. У 1945-м, у маі, вяртаецца ў Мінск, пасяляецца ў доме, дзе сёння знаходзіцца музей. У 1952-м гэты дом перабудоўваецца.

У двары — чатыры дубы, пасаджаныя Якубам Коласам у гонар сыноў і сябе самога. Расла тут яшчэ і бяроза — у гонар жонкі і маці. Не захавалася.

Музей Якуба Коласа ў Мінску — прыгожы астравок прыроды, зацішак у шумным горадзе. З акна кабінета відаць сосны. Кабінет вельмі сціплы, утульны. Што галоўнае ў кабінеце? Стол, на ім прылады для пісьма: ручка, чарнілы, папера... Простае пісьменніцкае шчасце.

**Пятро Васючэнка**

# Кнігі вяртаюцца

*Эсэ*

Кожную ўступную лекцыю па беларускай літаратуры для студэнтаў заўжды пачынаю мантрай першай ад Пятра Васючэнкі: «Што такое літаратура? Літаратура — гэта тэксты. А з тэкстамі што трэба рабіць? Тэксты трэба чытаць, а пасля аналізаваць». Мантра другая ад Пятра Васючэнкі: «Што такое тэксты? Тэксты — гэта кнігі».

Я далёкі ад апакаліптычных разваг пра тое, што чытаць хутка перастануць, што літаратура будзе пераможана інтэрнэтам, таму што моладзь чытае ўсё менш і не вылазіць з віртуальнай рэчаіснасці. Бо ўсё пачынаецца ад тэксту — і радыё, і тэлебачанне, дзе няма як без сцэнару, і сеціва. Толькі кніжныя тэксты ствараюцца з трыццаці дзвюх літар, а віртуальныя — з дзвюх (0—1, або «ёсць ток» — «няма току»). Што сведчыць пра беднасць віртуальнай рэчаіснасці і пра багацце літаратуры, у тым ліку беларускай, якой больш за тысячу гадоў, а гэта добры сярэднееўрапейскі ўзрост. Не маладая і не старая.

Напачатку было Слова… Мы ведаем пра існаванне суперкніг, якія перавярнулі жыццё цывілізацый: Біблія, Авеста, Рыгведа, Каран. Лёс беларускай цывілізацыі быў счытаны з прадмоў Францыска Скарыны, які ў прадмове да Кнігі Юдзіф-удавіцы абвясціў, што Радзіма — гэта родны дом як для жывёл, так і для людзей. Лёс будучай Беларусі счытваецца і з прадмовы да «Дудкі беларускай Мацея Бурачка» Францішка Багушэвіча, дзе аўтар вызначаў хранатоп гістарычнай і сучаснай яму Беларусі і заклікаў: «Дык не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Сучасная незалежная Беларусь створана па матрыцах газеты «Наша ніва», якая ў новым сваім жыцці ператварылася ў фаліянты і павінна быць у доме кожнага беларуса і перачытвацца ім, як Біблія або Каран.

Кнігі валодаюць магутнай сілай, яны здатныя і ствараць, і разбураць, і іх магія спарадзіла такую з'яву, як кнігафобія. Шляхціч Завальня з аднайменнай кнігі Яна Баршчэўскага на ўсялякі выпадак трымаў у сваім доме толькі дзве кнігі — Біблію і каляндар. За часамі Сярэднявечча кнігі часта спальвалі, і гэта называлася аўтадафэ. У Беларусі прыхільнікі уніі спрабавалі спаліць кнігу Мялета Сматрыцкага «Трэнас», скіраваную ў абарону праваслаўнай царквы і надзеленую каласальнай сугестыўнай энергіяй.

Паляванне на кнігі працягнулася і ў грэшным, шчодрым на войны і рэвалюцыі XX стагоддзі. Па загадзе Гебельса ў Германіі спальваліся творы Гейнэ, Гофмана, Маркса, Энгельса, Томаса і Генрыха Манаў, Фейхтвангера і шмат каго яшчэ. Як быццам у цывілізаваную Заходнюю Еўропу вярнулася раўнівае да кніг Сярэднявечча.

Беларуская літаратура ў 1930-я гады перацярпела сваю эпідэмію кнігафобіі. Перажываючы пажары масавых рэпрэсій, літаратура губляла таленавітых майстроў, якія траплялі пад меч рэпрэсій. Разам з аўтарамі пакутавалі і кнігі.

Творы рэпрэсаваных аўтараў выкідалі з бібліятэк, выкрэслівалі са школьных праграм, імёны аўтараў замазваліся тушшу ў хрэстаматыях, з кніг выдзіраліся старонкі. Школьнікі, студэнты, чытачы павінны былі забыць асобныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Міхася Зарэцкага, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы ды іншых. З гістарычнай і літаратурнай памяці павінны былі быць сцёрты імёны і творы Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага, Андрэя Мрыя, Лукаша Калюгі, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Дубоўкі, Тодара Кляшторнага, Язэпа Пушчы і яшчэ шмат каго з прад-




МАКСІМ ГАРЭЦКІ

ТВОРЫ

ДЗВЕ ДУШЫ
АПОВЕСЦЬ

АПАВЯДАННІ

ЖАРТАЎЛІВЫ ПІСАРЭВІЧ
П'ЕСА

ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА І ПУБЛІЦЫСТЫКА

ЛІСТЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

стаўнікоў нашаніўства і 1920-х гадоў беларускай літаратуры.

Мне давялося жыць у эпоху, калі літаратурная спадчына Беларусі складалася з аскепкаў, адраджалася балюча і марудна, як косткі параненага складаюцца дасведчаным хірургам, але сістэма набывала рух, рэанімавалася.

Не так даўно калегі-літаратуразнаўцы з замежжа скептычна пыталіся ў мяне: «Хм… Беларуская літаратура? А што такое беларуская літаратура? А колькі ў ёй нобелеўскіх лаўрэатаў?»

Сёння, калі мы ўжо маем Святлану Алексіевіч, я ўсё адно буду адказваць на такога кшталту пытанні наступным чынам: нашы патэнцыяльныя нобелеўскія лаўрэаты былі фізічна або маральна знішчаны ў праклятыя 1930-я, але іх кнігі вярнуліся. Шкада, што Нобелеўская прэмія не прысуджаецца пасмяротна.

Я памятаю часы, калі да масавага чытача вярнуліся раней забароненыя творы: аповесць «Лабірынты» Вацлава Ластоўскага, антысавецкія вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, вострыя байкі Кандрата Крапівы, у якіх ён чыхвосціў савецкае абывацельства, нонканфармісцкія паэмы Уладзіміра Дубоўкі «Кругі», «І пурпуровых ветразяў узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты», Тодара Кляшторнага «Калі асядае муць», Язэпа Пу-шчы «Цень Консула» з зашыфраванай у ёй антыкамуністычнай абрэвіятурай, Уладзіміра Жылкі «Тастамент» з яго незнішчальным адраджэнскім пафасам.

Адзін грамадскі і культурны дзеяч Беларусі канца XX стагоддзя надта перажываў з нагоды таго, што літаратуразнаўца Уладзімір Казбярук з надзвычайным імпэтам абараняў імя Алеся Гаруна, які, спалучаючы амплуа палітыка і паэта, змагаўся за незалежную Беларусь і пісаў палымяныя вершы ў абарону беларускай ідэі, філасофскую і пейзажную лірыку. Дзеяч гучна абвяшчаў, што «толькі праз мой труп Гарун вернецца ў літаратуру». Насталі іншыя часы — і зборнік вершаў Гаруна «Матчын дар» быў перавыдадзены ў факсімільнай версіі, а пазней асобнай кнігай была выдадзена ўся спадчына паэта. І ніхто ад гэтага не памёр.

Кнігі, творы, мастацкія тэксты немагчыма знішчыць, бо пасля сваёй анігіляцыі яны вяртаюцца, надзеленыя падвойнай энергіяй уздзеяння. Яны выклікаюць дыскусіі, увагу літаратурнай крытыкі, хаця ім даўно трэба было заняць пачэснае месца ў аналах жывой літаратурнай класікі і быць прадметам увагі перадусім літаратуразнаўцаў.

Павучальнай з'яўлялася гісторыя вяртання некалькіх твораў, якія годна, хаця і запозна, занялі сваё месца ў прасторы беларускай літаратурнай класікі. Гэта трагікамедыя «Тутэйшыя» Янкі Купалы, аповесць «Дзве душы» Максіма Гарэцкага і «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя.

«Тутэйшыя» (1922) былі створаны Янкам Купалам у вёсцы Акопы, куды ён сыходзіў з Менска ў часы расчараванняў, дэпрэсіі і ў спадзяванні адшукаць новыя шляхі для набыцця Беларуссю яе пачэснага пасада паміж народамі. Настрой Купалы заўжды залежаў ад стану беларускай справы, ён быў «беларусазалежны». «Тутэйшыя» вырваліся на сцэну тады, калі «тутэйшасць» — самавызначэнне беларускай адметнасці ў былым стагоддзі — перарасла сябе. Героі Купалы — былы калежскі рэгістратар Мікіта Зносак, настаўнік Янка Здольнік, старая Ганулля, селянін Гарошка, абранніца Здольніка Аленка Гарошка, гер Спічыні, Усходні і Заходні вучоныя, Наста Пабягунская ды іншыя — упарта застаюцца тутэйшымі…

Трагікамедыя цалкам выпадала з ліку твораў, якія ўсхвалялі рэвалюцыйныя падзеі 1917 года. Дзіва што, літаратурная і тэатральная гісторыя п'есы напоўнена трагікамізмам. Аўтары савецкіх падручнікаў па літаратуры сцвярджалі, што Купала не адразу зразумеў рэвалюцыю. Дакладней будзе сказаць: проста не прыняў яе, бо Кастрычніцкі пераварот 1917 года аддаляў, а не набліжаў трыумф ідэі беларускай незалежнасці. Гэтым настро-

ем і напоўнены змест п'есы. Прэм'ера спектакля «Тутэйшыя», створанага рэжысёрам М. Паповым, якая магла адбыцца ў 1926—1927 гадах, была спынена.

П'еса паспела апублікавацца ў часопісе «Полымя» ў 1924 годзе (№ 2—3), пазней — у трэцім томе першага Збору твораў Янкі Купалы (Мн., 1927), але ў наступны Збор (1928—1940) яна ужо не трапіла.

Я памятаю з аспіранцкіх часоў, як замаўляў запаветны том Збору твораў Янкі Купалы з напаўзабароненым творам, учытваўся, удумваўся ў кожны радок, дзівіўся поўнаму разыходжанню яго зместу з тагачаснымі ідэалагемамі і не падазраваў, што калісьці стану і даследчыкам гэтай п'есы.

У 1953 годзе п'еса «Тутэйшыя» выйшла асобнай кнігай у Мюнхене ў эміграцкім выдавецтве «Бацькаўшчына». А ў Беларусі яе зрэдчас згадвалі літаратуразнаўцы: адны называлі твор слабым і недасканалым; іншыя, знайшоўшы ў ім бясспрэчныя эстэтычныя каштоўнасці, спрабавалі неяк абараніць Купалу ідэалагічна, маўляў, выкрываў ворагаў рэвалюцыі, нацыяналістаў, паказваў абывацеляў, якія таксама не зразумелі як след рэвалюцыю…

У 1982 годзе адбылася дзіўна-парадаксальная пастаноўка п'есы рэжысёрам В. Маслюком на сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. Да Мінска сенсацыйны спектакль не даехаў, перад гастролямі ён быў зняты.

Перабудова вярнула да жыцця п'есу і спектакль. Зноў часопіс «Полымя» апублікаваў гэты твор, на гэты раз у № 9 за 1988 год. У 1989 годзе п'еса была ўключана ў выданне «Янка Купала. Паэмы. Драматычныя творы» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). П'еса, натуральна, увайшла у Поўны збор твораў Янкі Купалы, том 7 (Мн., 2001). А ў 2004 годзе выйшла асобным выданнем у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У 1990 годзе рэжысёр М. Пінігін паставіў «Тутэйшых» на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра Янкі Купалы, і гэты спектакль, першую ролю ў якой выконваў народны артыст В. Манаеў, стаў узорам беларускай тэатральнай класікі. Галоўная знаходка рэжысёра, як мне бачыцца, была ў трансфармацыі п'есы з трагікамедыі ў трагіфарс, што дало магчымасць пазбегнуць спрашчэнняў, ідэалагічнай зададзенасці.

Як і раман Б. Пастарнака «Доктар Жывага», некаторыя творы беларускай літаратуры былі пакараны астракізмам дзеля самабытнага, ідэалагічна нявыверанага разумення рэвалюцыі і ваенных сутыкненняў, выкліканых ім. У ліку такіх твораў — аповесць «Дзве душы» Максіма Гарэцкага.

Аповесць стваралася за часамі віленскага гаротнага жыцця класіка, і ў ёй адлюстраваўся новы тып беларускага інтэлігента, які змяніў Лявона Задуму — героя ранейшых твораў Максіма Гарэцкага. Задума, інтэлігент у першым пакаленні, выхадзец з сялянства, як і сам аўтар, пакутаваў над пытаннем: «Што яно і адкуль яно?» і спрабаваў аддаць сялянству тое, што пазычыў у яго, як Лявон думаў, за сваю адукацыю. Ён імкнўуся, як вучыў нашанівец Вацлаў Ластоўскі, вярнуць даўгі працоўнаму сялянству, але ў яго гэта не атрымалася, і ён упаў у вялікую крыўду на самога сябе. У аповесці «Меланхолія» герой спрабуе знайсці суцяшэнне ў працы — і вяртаецца да прафесіі каморніка. Але з каморніка ёнператвараецца ў салдата — героя запісак «На імперыялістычнай вайне», твора таксама забароненага і вернутага.

Новы герой-інтэлігент М. Гарэцкага Ігнат Абдзіраловіч з аповесці «Дзве душы» мае сялянскае паходжанне, але панскае выхаванне. Як у класічнай меладраме, яго ў маленстве падмянілі. Карміцелька зрабіла панічом свайго роднага сынка, жадаючы яму лепшай долі, а панскага сынка забрала да сябе. Вось і раздваілася душа ў Ігната, бо выхаванне ён атрымаў шляхецкае, схіляўся да талстоўства, а сялянскія гены клікалі да глебы. Што важней для фарміравання чалавечай асобы — гены ці адукацыя? Гэта пытанне, якое азадачыла б і псіхолага Зыгмунда Фрэйда, развязвае Першая сусветная вайна і рэвалюцыя.

Што не спадабалася цэнзарам савецкага часу ў рамане М. Гарэцкага? Чаму аповесць, як і іншыя творы класіка, была забаронена і дазволена да друку пазней за іншыя творы пісьменніка? Не толькі біяграфія рэпрэсаванага аўтара. Прычына — пазіцыя галоўнага героя, які не знаходзіць у сабе сілы далучыцца ў час вялікай сацыяльнай мітрэнгі ні да бальшавікоў, ні да іх апанентаў. Душою, генамі ён за тых, хто адбірае панскую зямлю, гнэмбіць эксплуататараў, а розумам, інтэлектам — супраць гвалту. За яго рэфлектыўнасць, «мяккацеласць» яму трапляе як справа, так і злева. Яго жаданне

Нашы патэнцыяльныя нобелеўскія лаўрэаты былі фізічна або маральна знішчаны ў праклятыя 1930-я, але іх кнігі вярнуліся. Шкада, што Нобелеўская прэмія не прысуджаецца пасмяротна

далучыцца да беларускай справы не ацэнена і нацыянальнымі радыкаламі. Аўтар мусіць спыніць гісторыю свайго героя на паўслове.

Спадчына Максіма Гарэцкага вяртаецца ў 1960-я дзякуючы высілкам пераважна яго даследчыка Алеся Адамовіча, а аповесць «Дзве душы» вярнулася ў дадатковым томе Збору твораў Максіма Гарэцкага толькі ў 1990 годзе. Твор увайшоў у школьную праграму і быў выдадзены ў «Школьнай бібліятэцы» разам з раманам Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» ў 1997 годзе.

Гэтая сустрэча двух забароненых твораў пад адной вокладкай выглядае невыпадковай.

Андрэй Мрый быў забаронены ўжо з прычыны аднаго свайго творчага амплуа — сатырычнага. Сатырыкаў у палітычных колах ніколі асабліва не любілі. Калі ў часы Кляонта, афінскага стратэга часоў дэмакратыі, квітнеў талент Арыстафана, лютага апанента ўлады, і яго ніхто не чапаў, дык у 1930-я гады сатырыкаў проста чавілі. Іосіф Сталін некалі правакацыйна выказаўся пра тое, што, маўляў, нам патрэбны свае Гогалі і Салтыковы, а як толькі яны пачалі ўзыходзіць на ніве літаратуры, іх пачалі актыўна даймаць. Недалікатна абышліся з М. Зошчанкам. А. Платонавым, Дзям'янам Бедным, цудам ацалелі Ільф і Пятроў. А ў Беларусі былі фізічна знішчаны Л. Родзевіч і А. Дзяркач. Неверагодна як ацалеў Кандрат Крапіва. Не пашанцавала Андрэю Мрыю, які стварыў унікальны паводле жанру, аўтарскай пазіцыі і ўніверсальнага смеху аповесць «Запіскі Самсона Самасуя».

Унікальнасць твора ў тым, што тут сатырычны герой выкрывае сам сябе. Дагэтуль даследчыкі не прыйшлі да высновы: хто ён? Прайдзісвет, авантурнік, якому лёс падарыў кар'еру савецкага чыноўніка? Ці паталагічны дурань, якім выстаўляе яго таварыш Сом? Або іншае якое стварэнне, мутант новага часу, які ўражвае сваёй фенаменальнай жывучасцю і непатапляльнасцю?

Відавочнай з'яўляецца неверагодная смеласць аўтара, што высмейвае савецкую наменклатуру, яе тыповых і нетыповых прадстаўнікоў, яе псіхалогію і фізіялогію. Натуральна, пісьменніка абвінавацілі ў паклёпе на савецкае грамадства, выслалі ў Кандалакшу, пасля далі новы тэрмін. Можна сказаць, злавесны Самсон Самасуй выйшаў з твора і забіў свайго аўтара. А аўтар меў яшчэ нейкія ілюзіі, калі пісаў ліст бацьку ўсіх працоўных Іосіфу Сталіну, прасіў, каб ён прачытаў яго твор і пераканаўся, што ён не антысавецкі. Што было б з аўтарам, калі б бацьку ўсіх народаў пераклалі твор беларускага сатырыка на рускую мову і ён бы прачытаў яго, страшна ўявіць! Дый так яму было несалодка. Пасля вызвалення ў 1942 годзе ён памёр, вяртаючыся з высылкі.

Кніга «Запіскі Самсона Самасуя», зразумела, не выйшла пры яго жыцці, але вынырнула з небыцця ў выдавецтве «Бацькаўшчына» ў Мюнхене, дзе была надрукавана ў 1953 годзе. Пасля адбылася рэабілітацыя рэпрэсаваных творцаў і іх кніг, і імя Андрэя Мрыя вярнулася ў літаратурны працэс. У 1988 годзе «Запіскі…» былі надрукаваны ў часопісе «Полымя», а ў 1993 былі апублікаваны «Творы» А. Мрыя асобнай кнігай у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Страчаныя кнігі вяртаюцца. Дзякаваць Богу, у беларускай літаратуры назапашана дастатковая сума тэкстаў, каб беларуская мова выжыла пры любых умовах. У свеце пяць тысяч моў, з іх трыста маюць статус літаратурнай. Беларусы ў ліку шчаслівых трохсот — нам пашанцавала. Мяркую, што вяртанне страчаных кніг, рукапісаў, тэкстаў працягнецца і ў XXI стагоддзі. Сенсацыю апошніх гадоў склалі літаратуразнаўчыя раскопкі, якія робіць Мікола Хаўстовіч, вяртае ў літаратурны працэс новыя і новыя творы XIX стагоддзя. Можа, знойдзецца і славуты куфэрак з рукапісамі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, якія так і не сталі кнігамі, «Скрыпка беларуская» і «Беларускія апавяданні Мацея Бурачка», якія былі падрыхтаваны Ф. Багушэвічам да друку, але не прайшлі цэнзуру і згубіліся. Чакаюць свайго вяртання і шмат якія творы рэпрэсаваных аўтараў XX стагоддзя, у тым ліку і раман «Жывы дом», напісаны А. Мрыем у высылцы. Бо кнігі, рукапісы не гараць.

Кнігі, як і рукапісы, таксама не гараць.

**Айцец Аляксандр Богдан**

# Антыхрыст. Знаёмцеся



Увогуле, мне спачатку не хацелася пісаць гэты артыкул. Паводле маіх сціплых назіранняў, тэме антыхрыста і без таго надаецца зашмат увагі ў царкоўным асяродку. Часам чытаеш мастацкі твор праваслаўнага аўтара, а там амаль заўсёды адзін з герояў — антыхрыст. Няўжо праваслаўным пісьменнікам няма больш пра што расказаць? Навошта так піярыць антыхрыста? Чаму б не напісаць пра Хрыста, пра таго, хто для нас галоўны ў жыцці? Ну, калі не пра Самога Хрыста, дык хаця б пра хрысціянскую любоў ці іншую хрысціянскую дабрадзейнасць.

Быццам абурэнню майму няма межаў, а тут сам вырашаю пісаць артыкул пра антыхрыста. Толькі раблю гэта не для папулярызацыі яго, а таму, што хачу развеяць розныя жахі і страхі, якія лунаюць вакол гэтай тэмы.

У наш час самае распаўсюджанае ўяўленне пра антыхрыста — гэта ўяўленне пра яго як пра канкрэтнага чалавека, што ў канцы часоў стане правіцелем свету. Але так было не заўсёды. У іудзейскім паданні пад антыхрыстам разумеўся любы ілжэмесія (слова «Месія» — сінонім слова «Хрыстос»). У ранніх хрысціян гэтае слова асацыіравалася з канкрэтнымі асобамі, напрыклад, з рымскім імператарамі Калігулам і Неронам. Панавала і ўяўленне пра антыхрыста як пра абагульненае зло, і яно не было звязана ні з якой канкрэтнай асобай.

Слова «антыхрыст» складаецца са слоў «анты» і «Хрыстос». «Анты» мае два значэнні: «супраць» і «замест». Такім чынам, і слова «антыхрыст» мае два значэнні: 1) нехта або нешта, што супрацiўляецца Хрысту і хрысціянскаму веравучэнню; 2) нехта або нешта, што імкнецца замяніць сабой Хрыста і хрысціянскае веравучэнне.

Першае пачуццё, выклiканае антыхрыстам у большасці, — страх. Шмат хто баіцца ліку 666 і атрымання так званай «пячаткі антыхрыста» на правую руку і лоб. Гэтыя тэмы ўзяты з апошняй кнігі Біблii «Откровение Иоанна Богослова», ці «Апакаліпсіс». Памятаю, як сам баяўся ўсякіх чыпаў і лазерных пячатак. Нават не хацеў, каб стыпендыю мне выдавалі з дапамогай банкаўскай карткі. Мяне палохалі ўсе новыя тэхналогіі. Потым я неяк задумаўся, што будзе, калі чалавек страціць правую руку. Куды яму тады «пячатку антыхрыста» ставіць будуць? Нехта мне сказаў, застанецца левая. Аднак гэта ўжо не паводле Біблii, акрамя таго, чалавек можа страціць абедзве рукі (і так бывае). Справа ў тым, што Апакаліпсіс напісаны складанай сімвалічнай мовай. Няправільнае яго прачытанне часта прыводзіць да розных непаразуменняў. Пад пячаткай на лоб і правую руку ў кнізе гэтай трэба разумець, што ўсе нашы думкі (лоб) будуць заняты не самым галоўным, Хрыстом, а нечым іншым. Прыняц-

це ж пячаткі на правую руку азначае, што наша дзейнасць будзе не богаўгоднай. У Апакаліпсісе сказана: тыя, хто не прыме пячатку, не змогуць ні прадаваць, ні купляць. Такая спакуса пераследуе кожнага, каму хочацца забыцца на сваё званне хрысціяніна, заглушыць голас сумлення і зрабіць гэта дзеля матэрыяльнай ці нейкай іншай выгоды.

Я перастаў баяцца ўсіх тэхналогій пасля прачытання ў нашым студэнцкім часопісе «Ступени» артыкула пра антыхрыста «Не способный ни на что». Аўтар — протаіерэй Уладзімір Башкіраў, прафесар Мінскай духоўнай акадэміі. Вось цытата: «К сожалению (и позору нашему), не антихрист своей магической властью лишит людей свободы и тем самым навяжет нам свою власть, но сами люди примут такой образ жизни и такую систему ценностей, что изгонят из своей жизни Христа. И когда в их мыслях не будет места для стремления к Спасителю, тогда и появится на их челе "печать зверя"».

Что ж датычыцца ліку 666, то гэта шыфроўка імя імператара Нерона. Вядомы біблеіст, прафесар Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі архімандрыт Іануарый (Іўліеў) у адным са сваіх артыкулаў дае вельмі разгорнутае тлумачэнне, цытату з якога я тут прывяду: «“Числом имени” во времена апостола Иоанна называлась некая шарада — “гематрия”. Это — излюбленная игра Античности: буквы того или иного имени переводили в числа, а числа складывали, полученная сумма и давала “число имени”, или “число человека”. Обратная задача — угадать по сумме соответствующее слово — требовала особого искусства. Число 666 — это имя императора Нерона, который воспринимался как “зверь”, как одно из олицетворений Римской империи с ее культом языческого государства. Если написать “кесарь Нерон” по-еврейски (Nrwn qsr), то сумма числовых значений этих букв и будет 666». Значыць, няма чаго вышукваць гэтыя лічбы дзе б там ні было.

Не забывайма, што антыхрыстам можа быць не толькі канкрэтны чалавек, але і нейкая з’ява. Да прыкладу, апостал Іаан Багаслоў у сваім пасланні піша: *«А всякий дух, который не исповедует. Иисуса Христа, пришедшего во плоти, не есть от Бога, но это дух антихриста, о котором вы слышали, что он придет и теперь есть уже в мире»* (1 Ин. 4, 3). Іаан Багаслоў называе антыхрыстам з’яву, якую ён у сваім жыцці назіраў, — з’яўленне шматлікіх ілжэпрарокаў, ілжэапосталаў, ерэтыкоў і іншых. Атрымліваецца, што антыхрыст як з’ява ўзнік яшчэ пры жыцці аднаго з апосталаў Хрыста. У наш час таксама можна заўважыць дух антыхрыста. Кожнаму з нас варта падумаць: а ці не павёўся я з антыхрыстам, заменнікам Хрыста? Ці не гонімся мы з фанатызмам за цудамі ў разнастайныя паломніцтвы, забыўшы, што галоўны цуд здзяйсняецца ў кожным храме, калі Сам Хрыстос з’яўляецца ў Таінстве Прычашчэння? Ці Хрыстос у нашым жыцці на першым месцы? Ці не замянілі Яго культам прагі грошай, імкненнем да ўлады і славы? Ці ўсведамляем мы, што ў праваслаўі галоўнае — гэта Сам Хрыстос, а не абрады і традыцыі?

Неяк адзначыў для сябе цікавую аналогію. Яўрэі чакалі і чакаюць да сёння Месію, які, на іх думку, павінен быць зямным царом. Сапраўдны Месія прыйшоў, а яўрэі яго не прызналі і нават распялі. Цяпер многія хрысціяне чакаюць усеагульнага цара (антыхрыста). Толькі мала хто заўважыў, што сусветны правіцель даўно ўжо ўладарыць. Светам кіруе долар. Менавіта ён дыктуе свае ўмовы: каму і з кім распачаць вайну, каму здрадзіць, каго падмануць, каго ўзарваць...

Першыя хрысціяне чакалі Другога Прышэсця Хрыста, бо ведалі, што прыйдзе Сам Бог — Ісус Хрыстос. Цяпер жа сярод праваслаўных можна назіраць, як усім хочацца, каб гэты час не наблізіўся. Так, ім ужо не хочацца сустрэцца са сваім Спасіцелем, бо чакаюць не Хрыста, а антыхрыста.

Выснова з усяго вышэйсказанага такая: не варта баяцца антыхрыста, лепш практыкавацца ў любові да Бога. ***«В любви нет страха, но совершенная любовь изгоняет страх, потому что в страхе есть мучение. Боящийся несовершен в любви»*** (1 Ин. 4, 18). Нагадаю, што мы верым у Хрыста, які зноў прыйдзе, а не ў антыхрыста. Давайце пакінем наш павышаны інтарэс да апошняга і пастараемся паўсюль шукаць усё добрае, а ў кожным чалавеку бачыць вобраз Хрыста.

Мілая сяброўка, вітаю!

Увесь дзень цябе згадвала, мая дарагая. Відаць, моцна сумую. А мо сёння дзень такі асаблівы — Дзмітраўская субота.

Я ішла з царквы пасля памінальнай службы і з замілаваннем назірала развітальнае хараство восені. Клёны ўжо палыселі — разгубілі пад ветрам сваю рудую шавялюру. Ніцыя вербы стаяць з серабрыста-сівымі косамі — пакорлівыя пераменам. А бярозкі скінулі пад ногі золата шоўку і ў белых кашульках чакаюць зімовага сну...

Ішла я няспешна, слухала цішыню, перабіраючы, як пацеркі, успаміны і ўражанні. Восеньскія дзяды. Малітва аб памерлых. Царква ўспамінае воінаў, якія загінулі яшчэ ў Кулікоўскую бітву. Калі гэта было? У 1830-м? Жывуць цяпер на зямлі патомкі тых воінаў, і шэсць з паловай стагоддзяў імёны загінуўшых беражэ памяць. А я далей за дзеда з бабкай нікога не ведаю. Здагадваюся, што калі дзеда звалі Васілём Нікіфаравічам, а бабку Ганнай Якаўлеўнай, то прадзедаў адпаведна Нікіфарам і Якавам звалі. Так і пішу ў памінальнай запісцы. Як звалі іх бацькоў, не ведаю. І спытаць ужо няма ў каго. Цікавасць да сваіх каранёў узнікла не цяпер, а калі мне было гадоў дваццаць. Распытвала родных, але адказы гучалі аднолькава: «Бабка нам амаль нічога не расказвала. Якое генеалагічнае дрэва? Не з князёў жа паходзім».

А і ты ж, другіня мая, не з дваран, а ў тваёй кніжцы для памінання ўся радня да дванаццатага калена запісана. Памятаю, як ты расказвала, што кніжка табе ў спадчыну ад бабулі дадзена, а тая была набожнай. Напішы, ці так гэта?

Я ішла, выбірала сярод кляновых лістоў апошнія непацямнелыя, любавалася на іх. Яны такія розныя: памерамі, колерамі, узорам — лісты аднаго дрэва. І галіны на ствале розныя: карацейшыя і даўжэйшыя, ёсць і ссохлыя. На адных яшчэ трапечуцца ад ветру апошнія лісцікі, іншыя ўжо зусім голыя. Але да зімы ўсе лісты абляцяць, а ўвесну прачнуцца пупышкі, і з'явяцца новыя галінкі, свежыя лісцікі. У прыродзе ўсё прасякнута мудрасцю. І сярод людзей няма нікога вечнага, кожны ў свой час сыходзіць.

Генеалагічнае дрэва. Памятаю, неяк сыну ў школе далі заданне скласці радавод. Ты разумееш, мая дарагая, якое ў нас з ім кволае дрэўца атрымалася. Пышную крону яно мець не магло.

І тады дрэва роду ўявілася мне іначай, не кронай з галінамі, а каранямі, што ідуць глыбока ў зямлю. Уяві такое дрэва свайго роду: аж да дванаццатага калена пайшлі карані. Моцна трымаюць яны твой род. Ты молішся на зямлі за тых, хто з зямлі пайшоў, а яны моляцца за цябе на нябёсах, усе дванаццаць кален моляцца — і за цябе, і за дзяцей тваіх, і за ўнукаў. І род стаіць! І гэта не проста прыгожы вобраз, гэта генетычная памяць, сіла, стойкасць, дабраслаўленне для жывых, рэальная дапамога ад тых, хто пайшоў ад нас...

А кароткі спіс маёй радні лёгка памясціўся на вузкай паперчыне «За спачын». Ужо пра трэцяе пакаленне, прадзедаў, я нічога толкам не ведаю. Чаму так? Ад чаго такое бяспамяцтва, няведанне каранёў? Мо ад бесклапотнага юнацтва, абыякавай маладосці і дарослага невуцтва? І гэта ж не толькі ў мяне.

Чаму ў многіх сем'ях не прынята гаварыць пра продкаў? Чаму лягчэй і бяспечней было б не ведаць пра свае карані, забыць іх? Колькі людзей адракалася ад свайго роду, хавала паходжанне і нацыянальнасць, каб не трапіць пад колы крывавай калясніцы! Ворагі рэвалюцыі, класавыя ворагі, ворагі народа і дзеці ворагаў народа, дысідэнты, вязні веры — мільёны ахвяр таталітарнага рэжыму, знішчаных, каб тыя, хто застаўся жыць, баяліся.

Колькі архіваў згарэла ў пажарах войн і рэвалюцый, колькі дакументаў страчана падчас эвакуацый, колькі знішчана падчас экспрапрыяцыі, раскулачвання, эміграцыі? А колькі было партыйнымі гісторыкамі перапісана ці надзейна схавана пад грыф «Абсалютна сакрэтна»? Колькі дроў насеклі, колькі свайго народу згубілі, але ці адбылося ў грамадстве ўсведамленне зробленага і пакаянне? Не думаю. Хоць створаны кнігі памяці і надрукаваны спісы нявінна рэпрэсіраваных, але пакуль роля «вялікіх правадыроў» з'ўляецца прадметам спрэчак, будуць развалы ў галовах і правалы ў памяці.

Памінальная бацькоўская субота — дзень памяці аб памерлых сябрах. Ты пачынаеш заўважаць, як любімыя імёны з запісак «за здароўе» пераносяцца ў «спачын», і адчуваеш, як сыходзіць час, — быццам залаты струменьчык ў пясочным гадзінніку жыцця з няўмольнай непазбежнасцю перацякае ўніз.

У такія дні асабліва востра адчуваеш супадзенне восені прыроды і восені жыцця — і сэрца поўніцца асаблівай Божай ласкай.

Ведаеш, неяк у адпачынку ў Балгарыі мы паехалі ў Несебр. Я пайшла ў храм на нядзельную службу, а муж, чакаючы мяне, прагульваўся па старэнькіх вулках. Праз дзве гадзіны ён ужо ведаў, што мне паказаць.

Сцяна ля ўвахода была абклеена аркушамі з фотаздымкамі нябожчыкаў. Якія праніклівыя словы ўдзячнасці, якія цудоўныя вершы там напісаны! Я была ўзрушана і спытала мінака, калі вывешваюцца гэтыя лісты на дзвярах дамоў і на брамках: на трэці, дзявяты, саракавы дзень ці гадавіну і колькі будуць вісець? На мяне паглядзелі здзіўлена: «Заўсёды». Разумееш, калі аркушы выгараць пад сонцам ці паліняюць ад дажджу, удзячныя патомкі надрукуюць новыя, і знойдуць яшчэ лепшыя вершы і яшчэ цяплейшыя словы.

Муж падвёў мяне да дома насупраць і наказаў пажоўклы дісток, на якім было напісана: «Възпоминание. На 31 декември 2016г. се навършват 100 години от смъртта на Димитър Енчев Димитров.

От с. Александрово, окръг Търговишки. Загинал на 31.12.1916 година при защита на Добруджа. Служил в 31-ви пехотен Варненски полк, 13 рота. С много обич и признателност — дълбок поклон! От потомците».

Я падумала, як гэта добра, што праз сто гадоў пасля смерці нехта родны памятае таго салдата. І зрабілася сумна: а ці ўспомняць нас патомкі словамі ўдзячнасці, калі мы не памятаем сваіх продкаў? І вельмі захацелася, каб успомнілі.

Нехта скажа, што ў нас словы смутку і ўдзячнасці назаўсёды выбіты на граніце помнікаў. У нас не прынята не толькі смецце з хаты выносіць, але і радасць. А я і не параўноўваю, як лепш, як правільней ці прыгажэй. У кожнага народа свае традыцыі. І стрыманасць паўночных людзей не можа спрачацца з адкрытасцю паўднёвых.

Пытанне ў іншым. Чалавек, які верыць у Бога, думае: «Я пасля смерці паўстану перад Богам. Як я перад Ім апраўдаюся?» Чалавек разумны, няхай і атэіст, хоць раз ды задумаецца: «А што я пасля сябе пакіну? Як я пражыў жыццё? Хто пра мяне ўспомніць?» Чалавек цёмны махне рукой: «Пасля нас хоць патоп».

Бачыш, другіня мая, усё ад веры. Дай нам Бог зберагчы яе і памножыць.

А пра сябе так скажу: «Няма чаго на люстэрка скардзіцца, калі твар крывы». Калі да архіваў ніяк не даехаць, дык навесці парадак у старым фотаальбоме — цалкам рэальная задача. Там здымкі нашых бабуль і дзядуль. Пачатак XX стагоддзя. І яны там маладзейшыя, чым мы сёння…

Дасылаю табе колькі здымкаў з Несебра.







**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Магілёўская вобласць, Касцюковіцкі раён,
вёска Саматэвічы. Царква Траецкая, 1835 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

Новы сезон!

# Літаратурны конкурс для студэнтаў «БрамаМар»

## 6 намінацый

**Проза**
адзін або некалькі твораў агульным аб’ёмам да 15 тыс. сімвалаў
**Паэзія**
адзін або некалькі твораў агульным аб’ёмам да 3,5 тыс. сімвалаў
**Твор для дзяцей**
адзін або некалькі твораў агульным аб’ёмам да 15 тыс. сімвалаў
**Крытыка**
адзін твор аб’ёмам да 7 тыс. сімвалаў
**Пераклад**
адзін або некалькі твораў агульным аб’ёмам да 15 тыс. сімвалаў
**Драматургія**
адзін твор (аднаактовая п’еса) аб’ёмам да 15 тыс. сімвалаў

**Прымаюцца творы, якія нідзе не публікаваліся і не ўдзельнічалі ў іншых конкурсах.**

Творы адной намінацыі, калі іх некалькі, падаюцца на конкурс у адным файле ў рэдактары Microsoft Word у фармаце doc, гарнітура Times New Roman, кегль 14 пт, інтэрвал адзінарны, усе палі 2 см. На першай старонцы файла павінна быць размешчана наступная інфармацыя пра ўдзельніка: імя і прозвішча, псеўданім (калі ёсць), дата нараджэння, поўная назва навучальнай установы, факультэт і курс, візітоўка-самапрэзентацыя аб’ёмам да 500 знакаў у вольнай форме.
Файл павінен быць названы кірыліцай па форме: імя_прозвішча.doc.
Асобна прыкладаецца фотаздымак у фармаце jpg (jpeg) з такой самай назвай.

**Творы прымаюцца на адрас электроннай пошты: bramamar2017@gmail.com з 1 снежня да 28 лютага.**

**Лепшае друкуецца ў «Маладосці»!**




Інструкцыя «Аб парадку арганізацыі і правядзення Рэспубліканскага конкурсу літаратурнай творчасці студэнтаў і школьнікаў «БрамаМар» размешчана на http://zviazda.by/be/edition/maladosc